ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 9-10 ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК № 9-10

МЕНСК ■ ■ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ■ ■ 1932

## Аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах

### Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР

Рашэньнямі ліпеньскага 1928 году і лістападаўскага 1929 году пленумаў ЦК УсеКП(б) і адпаведнымі пастановамі ўраду Саюзу ССР ад 11 верасьня 1929 г. і 13 студзеня 1930 г. падрыхтоўка кадраў спэцыялістаў узьнята на ўзровень патрабаваньняў узрастаючай сацыялістычнай гаспадаркі Саюзу ССР. Значна ўзрасла сетка ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў, арганізаваны навучальныя ўстановы новага тыпу, шырока разгорнута навучаньне без адрыву ад вытворчасьці, і пашыраны кантынгенты студэнтаў. Так, па Народных камісарыятах цяжкай, лёгкай і лясной прамысловасьці, Народным камісарыяце земляробства і Народным- камісарыяце шляхоў зносін колькасьць ВТНУ ў параўнаньні з 1928 годам узрасла ў пяць разоў і дайшла да 400, а колькасьць тэхнікумаў да 1600.

Лік студэнтаў у ВТНУ і ВНУ у параўнаньні з 1928 г. узрос больш чым у тры разы, у тэхнікумах—у 4 з лішкам разы. Агульны лік студэнтаў у ВТНУ і ВНУ і тэхнікумах складае ў 1932 г. больш 1.500 тыс.

Павялічылася колькасьць спэцыялістаў у народнай гаспадарцы Саюзу ССР: у 1929 г. у Саюзе было 57 тыс. спэцыялістаў з закончанай вышэйшай адукацыяй і 55 тыс. з закончанай сярэдняй адукацыяй, у 1932 г.—216 тыс. спэцыялістаў з закончанай вышэйшай адукацыяй і 288 тыс. з закончанай сярэдняй адукацыяй.

Карэнным чынам зьмяніўся сацыяльны склад студэнтаў у вышэйшых школах і тэхнікумах: па індустрыяльных ВТНУ рабочае ядро складае каля 70%, дасягае па радзе ВТНУ 80—90 проц.

Перадача ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў гаспадарчым народным камісарыятам садзейнічала ўстанаўленьню канкрэтнага кіраўніцтва падрыхтоўкай кадраў, набліжэньню вучэбнай работы да вытворчасьці і ўстанаўленьню яе простай сувязі з практычнымі задачамі розных галін народнае гаспадаркі.

Гэтыя посьпехі сьведчаць аб тым, што ў Саюзе ССР створана моцная база для разьвіцьця ў далейшым падрыхтоўкі пралетарскіх спэцыялістаў у адпаведнасьці з задачамі тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі ў другую пяцігодку.

Але поруч з гэтымі посьпехамі па падрыхтоўцы новых пралетарскіх кадраў спэцыялістаў—у практыцы правядзеньня ў жыцьцё рашэньняў партыі і ўраду народнымі камісарыятамі і самымі ВТНУ, ВНУ і тэхнікумамі былі дапушчаны скажэньні, якія выразіліся, галоўным чынам, у аднабокай увазе да колькаснага росту сеткі і студэнтаў пры недастатковай увазе да пытаньняў якасьці вучэбнай падрыхтоўкі, а таксама ў надмерным драбненьні спэцыяльнасьцяй, у рэзультаце чаго некаторыя ВТНУ і ВНУ часта выпускалі спэцыялістаў, якія стаяць на ўзроўні кваліфікацыі тэхніка, а не інжынэра.

У падрыхтоўцы сярэдняга тэхнічнага пэрсаналу ў тэхнікумах, ня гледзячы на іх выключна вялікі рост і рад сур'ёзьнейшых дасягненьняў, ёсьць буйныя недахопы. Наркаматы і гаспадарчыя арганізацыі ўдзялялі тэхнікумам недастаткова ўвагі, пакідаючы фактычна некаторыя з іх без кіраўніцтва. У рэзультаце гэтага тэхнікумы не заўсёды

даюць дастаткова кваліфікаваных тэхнікаў для народнае гаспадаркі і сацыяльна-культурнага будаўніцтва.

Між тым укараненьне новай вышэйшай тэхнікі ў савецкую прамысловасьць, транспарт, сельскую гаспадарку і рост народна-гаспадарчых задач прад'яўляюць павышаныя патрабаваньні да тэарытычнага ўзроўню савецкіх спэцыялістаў, як інжынэраў і тэхнікаў вузкай спэцыяльнасьці з больш кароткімі тэрмінам навучаньня, так і асабліва асноўнай часткі спэцыялістаў, ад якіх патрабуецца ўсё больш высокая кваліфкацыя, аўладаньне глыбокімі ведамі навуковых асноў сучаснай тэхнікі, веды сыстэмы савецкай гаспадаркі і яе плянаваньня і практычнае азнаямленьне з пастаноўкай спэцыялізаваных вытворчасьцяй ва ўмовах перадавой тэхнікі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР лічыць, што ў масавай падрыхтоўцы кадраў спэцыялістаў у сучасны момант асноўнай задачай зьяўляецца замацаваньне дасягнутых посьпехаў і далейшая барацьба за павышэньне тэарытычный адукацыі ў ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах пры ўсямерным далейшым замацаваньні іх сувязі з вытворчасьцю, узьняцьці якасьці вучобы і сапраўдным заахвочваньні ініцыятывы і энэргіі кожнага студэнта ў яго вучэбнай рабоце.

Выходзячы з гэтага, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

## 1. Аб праграмах і вучэбных плянах

Вучэбныя праграмы ВНУ і ВТНУ і тэхнікумаў за апошні год сталі значна больш сыстэматычнымі і вышэйшымі па якасьці. У прыватнасьці значна павысілася якасьць праграм сацыяльна-эканамічных дысцыплін пасьля пераапрацоўкі гэтых праграм на аснове марксызму-ленінізму. Аднак і цяпер вучэбныя пляны і праграмы ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў маюць цэлы рад сур'ёзных недахопаў, галоўнымі з якіх зьяўляюцца наступныя:

значная неадпаведнасьць праграм асноўным спэцыяльнасьцям выпускаемых і яшчэ большая неадпаведнасьць паміж аб'ёмам праграм і часам, які адводзіцца на праходжаньне некаторых прадметаў;

няма цьвёрдых вучэбных плянаў: большасьць ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў працуюць па так званых пераходных плянах, прычым вучэбныя пляны і праграмы часта пераглядаюцца, і ў рэзультаце амаль усюды адсутнічае стабільнасьць вучэбнага працэсу;

праграмы не ахапляюць усяго вучэбнага працэсу цалкам і, у асаблівасьці, бесьперапыннай вытворчай практыкі і лябараторных заняткаў студэнтаў; у многіх праграмах не адлюстраваны навейшыя дасягненьні тэхнікі і часта мала скарыстоўваецца вопыт буйнейшых перадавых заводаў, новабудоў, саўгасаў і г. д.;

пры разьмеркаваньні гадзін у вучэбных плянах недастаткова час адводзіцца для агульна-тэарытычных, агульна тэхнічных і спэцыяльных прадметаў (у сярэднім 60-70 проц.), у рэзультаце чаго ў радзе ВНУ і ВТНУ з вучэбных плянаў зусім выключаны такія важнейшыя прадметы, як фізыка і хімія;

у вучэбных плянах часта ня вытрымліваецца правільная пасьлядоўнасьць прадметаў;

праграма ў тэхнікумах часта складаецца шляхам механічнага скарачэньня праграм ВНУ, і ВТНУ, або проста шляхам іх капіраваньня;

вучэбныя пляны і праграмы навучаньня ў ВТНУ, ВНУ і тэхнікумах без адрыву ад вытворчасьці у пераважнай большасьці капіруюцца з вучэбных плянаў і праграм звычайных ВНУ і ВТНУ;

у вучэбных плянах мае перавагу шматпрадметнасьць, прычым частка навуковых дысцыплін празьмерна і штучна падрабняецца на паасобныя вучэбныя прадметы;

У мэтах падвышэньня агульна-тэарытычнай і спэцыяльнай падрыхтокі ў

вышэйшай школе і тэхнікумах правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Перагледзець да 1 студзеня 1933 г. вучэбныя пляны і праграмы з тым, каб на ўсе агульнанавуковыя (матэматыка, фізыка, хімія, біалёгія), агульнатэхнічныя і спэцыяльныя прадметы па ВНУ і ВТНУ было адведзена ня менш 80-85 проц. і па тэхнікумах ня менш 70 проц. вучэбнага часу бяз вытворчай практыкі.

2. Пры пераглядзе праграм і вучэбных плянаў кіравацца наступным:

а) для забесьпячэньня цеснай сувязі паміж праходжаньнем тэарытычных курсаў, экспэрымэнтальнымі работамі і вытворчай практыкай перабудаваць праграмы і вучэбныя пляны ў кірунку ахопу імі ўсяго вучэбнага працэсу ў цэлым, у тым ліку бесьперапыннай вытворчай практыкі як на вытворчасьці, так і ў майстэрнях, а таксама лябараторных работ студэнтаў;

б) для падрыхтоўкі тэарытычна-адукаванага інжынэра-спэцыяліста і культурнага тэхніка дамагчыся поўнай адпаведнасьці праграм патрабуемым спэцыяльнасьцям, для чаго выдзеліць у праграмах вядучыя дысцыпліны, якія вызначаюць студэнта, як будучага спэцыяліста. Для вядучых дысцыплін устанавіць дакладна неабходную для іх праходжаньня колькасьць гадзін і працяглась сыстэматычных заняткаў імі;

в) пры складаньні праграм ухіляцца іх надмернай дэталізацыі, каб прафэсарска-выкладніцкі склад меў магчымасьць правільна скарыстаць вызначаны для дысцыпліны час у мэтах згрупаваньня ўвагі студэнтаў на рашаючых вучастках дысцыпліны.

Найбольшая гібкасьць павінна быць забясьпечана ў праграмах спэцыяльных прадметаў, якія павінны праходзіцца з другога-трэцяга курсаў з тым, каб кіраўнік катэдры меў магчымасьць папаўняць праграмы навейшымі матар'яламі з галін апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі;

г) ліквідаваць шматпрадметнасьць шляхам аб'яднаньня ў вучэбных плянах штучна раздробленых дысцыплін (па тэарытычнай фізыцы, па тэарытычнай мэханіцы і г. д.).

д) не дапускаць ломкі праграм і вучэбных плянаў на працягу вучэбнага году і зжыць практыку работы вучэбных устаноў па пераходных вучэбных плянах.

3. Увесьці на старшых курсах вышэйшых вучэбных устаноў, апрача агульна-абавязковых па вучэбным пляне дысцыплін, дысцыпліны факультацыйныя (неабавязковыя), якія маюць адносіны да данай спэцыяльнасьці з тым, каб забясьпечыць найбольш пасьпяваючым студэнтам магчымасьць паглыбляць свае веды.

4. Скасаваць існуючую практыку складаньня вучэбных плянаў, калі праходжаньне паасобных дысцыплін вядзецца ў кароткі прамежак часу, бесьперапынна і без чаргаваньня з іншымі дысцыплінамі (канвэерная сыстэма), што пазбаўляе студэнта магчымасьці глыбока асвоіць прадмет.

5. Дыфэрэнцыяваць тэрміны навучаньня ў вышэйшых навучальных установах у залежнасьці ад спэцыяльнасьці і задач ВТНУ і ВНУ (вузкая спэцыялізацыя—з меншым тэрмінам навучаньня або больш фундамэнтальная падрыхтоўка спэцыяліста), павялічыўшы тэрміны навучаньня для асноўнай часткі ВНУ і ВТНУ Саюзу ССР.

Даручыць Камітэту па вышэйшай тэхнічнай школе пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР устанавіць па прадстаўленьні народных камісарыятаў тэрміны навучаньня для кожнай групы ВНУ і ВТНУ і па асноўных спэцыяльнасьцях.

Тэрміны навучаньня ў тэхнікумах устанавіць у межах ад 3 да 4 год у залежнасьці ад спэцыяльнасьці тэхнікуму, на погляд адпаведнага гаспадарчага наркамату.

Тэрміны навучаньня без адрыву ад вытворчасьці ўстанаўліваюцца ў тым-жа

парадку, прычым дапушчаецца іх павялічэньне да аднаго году ў параўнаньні з адпаведнымі спэцыяльнасьцямі нармальных ВНУ і ВТНУ.

6. Лічыць, што сыстэма навучаньня без адрыву ад вытворчасьці павінна падрыхтаваць пераважна спэцыялістаў з рэзка выражанай спэцыялізацыяй. Спэцыялісты з больш фундамантальнай падрыхтоўкай могуць рыхтавацца без адрыву ад вытворчасьці толькі на буйнейшых прадпрыемствах - камбінатах, якія аўладаюць магутнай тэхнічнай узброенасьцю і адпаведнымі інжынэрна-тэхнічнымі і навуковымі кадрамі.

7. Прапанаваць усім народным камісарыятам у 2-месячны тэрмін пераглядзець сьпіс спэцыяльнасьцяй, якія падрыхтоўваюцца ВНУ, ВТНУ і тэхнікумамі пад пунктам гледжаньня максымальнага скарачэньня намэнклятуры спэцыяльнасьцяй і ўстанаўленьня спэцыяльнасьцяй у вучэбных установах з улікам пэрспэктыў разьвіцьця данай галіны народнай гаспадаркі і дасягненьня навукі і тэхнікі, а таксама неабходнасьці даць спэцыялісту шырокую агульна-навуковую і агульна-тэхнічную базу для поўнага аўладаньня данай спэцыяльнасьцю.

Для правядзеньня гэтай работы стварыць у народных камісарыятах аўтарытэтныя камісіі з удзелам высока-кваліфікаваных вучоных, спэцыялістаў у вытворчасьці і буйных работнікаў вышэйшай школы.

8. Трымаючы курс на разьвіцьцё ВТНУ і ВНУ у адпаведнасьці з нарастаючымі запатрабаваньнямі народнае гаспадаркі, прыняць меры да ўпарадкаваньня сеткі ў інтарэсах сапраўднага забесьпячэньня ВТНУ і ВНУ выкладніцкімі кадрамі, абсталяваньнем і г. д.

Пры далейшым разгортваньні ВНУ і ВТНУ асаблівую ўвагу зьвярнуць на недапушчальнасьць лішняга паралелізму і стварэньня карлікавых ВТНУ і ВНУ і на разгортваньне ВТНУ і ВНУ у раёнах буйнага будаўніцтва і ў нацыянальных рэспубліках. Пацьвердзіць, што арганізацыя новых вышэйшых навучальных установ дапускаецца толькі з дазволу Ураду Саюзу ССР.

## 2. Аб бесьперапыннай вытворчай практыцы

На працягу апошніх год бесьперапынная вытворчая практыка студэнтаў, якая стала абавязковым элемэнтам вучэбнай работы ўсіх ВНУ і ВТНУ і тэхнікумаў, што зьяўляецца гістарычна-важным дасягненьнем вышэйшай школы Саюзу ССР, праводзіцца значна больш арганізавана і ў большай сувязі з тэарытычным навучаньнем. Аднак, у пастаноўцы бесьперапыннай вытворчай практыкі ўсё яшчэ наглядаецца цэлы рад буйнейшых недахопаў, як, напрыклад, недастатковая сувязь вытворчай практыкі са спэцыяльнымі дысцыплінамі, скарыстаньне студэнтаў у час практыкі не на кваліфікаванай рабоце, часты пераход практыкантаў з аднаго варштату на другі ды інш.

У інтарэсах павышэньня якасьці бесьперапыннай вытворчай практыкі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР устанаўляе наступныя прынцыпы яе правядзеньня:

1. Вытворчая практыка зьяўляецца састаўной часткай вучобы студэнта. Таму пры складаньні вучэбных плянаў і праграм неабходна зьвязваць у адзіны вучэбны працэс тэорыю і практыку з такім разьлікам, каб кожная ступень вытворчай практыкі была падпарадкавана праходжаньню адпаведнай часткі тэарытычнага курсу. Бесьперапынную вытворчую практыку студэнты праходзяць па праграмах ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў, пад непасрэдным кіраўніцтвам выкладчыкаў. За вучэбна-мэтадычную частку вытворчай практыкі адказвае выкладчык, а за вытворча-тэхнічную частку—дырэктар прадпрыемства і вылучаны для кіраўніцтва гэтай справай адказны спэцыяліст.

2. Практыка на вытворчасьці ажыцьцяўляецца па агульным правіле, пачынаючы з 3 курсу для ВНУ і ВТНУ, з 4- і 5-гадовым тэрмінам навучаньня і

з 2-га курсу—для ўсіх астатніх ВНУ і ВТНУ з тым, каб аб'ём гэтай практыкі вызначыўся ў межах 30-40 проц. вучэбнага часу адпаведных курсаў.

Студэнты малодшых курсаў усю агульную (тэхналёгічную) практыку праходзяць у майстэрнях, лябараторыях, клініках і г. д. з тым, каб, накіроўваючыся на вытворчую практыку ў прадпрыемствы, студэнты мелі адпаведную папярэднюю тэарытычную падрыхтоўку.

У тэхнікумах практыка на вытворчасьці ўстнаўляецца ў норме 30-35 проц. вучэбнага часу адпаведных курсаў, дыфэрэнцыруецца па тэхнікумах, у залежнасьці ад спэцыяльнасьці кожнага тэхнікуму, і пачынаецца з 2-га курсу.

3. Парадак і тэрміны вытворчай практыкі вызначаюцца кожным народным камісарыятам асобна ў залежнасьці ад спэцыялізацыі ВТНУ, ВНУ і тэхнікуму з улікам сэзоннасьці відаў практыкі (сельская гаспадарка, будаўніцтва, транспарт). Час бесьперапыннай вытворчай практыкі ў такіх галінах народнай гаспадаркі ўваходзіць у плян.

4. Бесьперапынная вытворчая практыка праходзіцца па магчымасьці на пэўных прадпрыемствах, да якіх прымацоўваюцца асобныя навучальныя ўстановы. Для правядзеньня вытворчай практыкі ў такіх галінах народнай гаспадаркі, як сельская гаспадарка, пры радзе ВТНУ і тэхнікумаў ствараюцца свае ўласныя навучальныя гаспадаркі.

5. Устанавіць, што адказнасьць за правядзеньне бесьперапыннай вытворчай практыкі і яе якасьці ляжыць на загадчыках катэдры і выкладчыках адпаведных дысцыплін. Выкладчыкі абавязаны выяжджаць разам з групай на месца практыкі, саправаджаючы апошнюю кансультацыяй, лекцыямі і да т. п.

Устанавіць, што са студзеня 1933 г. усім студэнтам ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў выплата стыпэндыі вытвараецца і ў час бесьперапыннай вытворчай практыкі.

### 3. Аб мэтадах выкладаньня

Пабудаваць вучэбную работу ў вышэйшай школе і тэхнікумах такім чынам, каб мэтады навучаньня ва ўсёй іх сутнасьці спрыялі далейшаму павышэньню ведаў студэнтаў і тым самым забясьпечвалі падрыхтоўку кадраў, узброеных глыбокімі ведамі сваёй спэцыяльнасьці і маючых шырокі грамадзка-палітычны сьветапогляд. Мэтады навучаньня павінны забясьпечыць індывідуальную і самастойную работу студэнтаў, а таксама павысіць ролю прафэсарска-выкладніцкага складу, зрабіць выкладчыкаў адказнымі за пастаноўку вучэбнай справы і за работу кожнага студэнта ў паасобку.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР канстатуе, што ў рэзультаце няправільнага ўжываньня так званага «брыгадна-лябараторнага мэтаду», як усеагульнага і абавязковага пры прапрацоўцы ўсіх вучэбных дысцыплін, у практыцы работы навучальных устаноў выявіўся цэлы рад буйнейшых недахопаў, напрыклад, зьніжэньне індывідуальнай адказнасьці студэнтаў за сваю работу, абязьлічка ў вучэбнай рабоце, раўнаньне на слабых і адстаючых і ўстанаўленьне ў радзе выпадкаў парадку, пры якім непасрэдныя адносіны студэнта з прафэсурай замяніліся вучэбнымі заняткамі студэнцтва з малакваліфікаваным кіраўніком або брыгадзірам.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР прызнае немэтазгодным ужываньне «брыгадна-лябараторнага мэтаду» у яго сучаснай фактычна склаўшайся форме і абавязвае ўсе навучальныя ўстановы пры вызначэньні мэтадаў навучаньня падыходзіць канкрэтна з улікам асаблівасьцяй вучэбнага матар'ялу і кожнай дысцыпліны, з улікам кваліфікацыі выкладчыка, узроўню падрыхтоўкі студэнтаў, наяўнасьці вучэбнага абсталяваньня, лябараторый ды інш. Разьвіваючы самастойную індывідуальную работу студэнтаў, неабходна адначасова ўсямерна заахвочваць калектыўную вучэбную рабо у студэнтаў.

У адпаведнасьці з гэтым:

1. Пабудаваць увесь вучэбны працэс у вышэйшай школе і тэхнікумах на наступных асновах:

а) усямерна ўзмацніць лябараторную работу (самастойная работа студэнтаў па індывідуальных заданьнях у спэцыяльна абсталяваных для гэтага памяшканьнях-лябараторыях, майстэрнях, габінэтах, музэях і г. д.), пад абавязковым кіраўніцтвам выкладчыкаў, шырока практыкуючы розныя практыкаваньні па прадмеце, графічныя заняткі, праектаваньне і да т. п.;

б) ужыць лекцыі як мэтад выкладаньня, які дапамагае зьбліжэньню прафэсара са студэнтамі з тым, каб сьледам за лекцый ішла грунтоўная прапрацоўка матар'ялу пад кіраўніцтвам асыстэнтаў і пры абавязковым кантролі прафэсара;

в) улічыць спэцыфічныя асаблівасьці навучаньня без адрыву ад вытворчасьці; такія формы заняткаў, як самастойная работа па-за навучальнай установай, выкананьне хатніх графічных работ і г. д. для студэнтаў без адрыву павінны заняць меншае месца, чым у нармальных ВНУ і ВТНУ і тэхнікумах і адначасова вялікае месца павінны заняць такія мэтады выкладаньня і такія формы вучэбнай работы, якія вяліся-б непасрэдна пад кіраўніцтвам выкладчыка з тым, каб у рамках гэтых мэтадаў усяляк разьвіваць навыкі да самастойнай работы.

2. У мэтах забясьпечаньня сапраўднага кантролю за якасьцю вучобы кожнага студэнта ў паасобку правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) забараніць усякія калектыўныя залікі студэнтаў;

б) ускласьці адказнасьць за ацэнку ведаў студэнтаў на прафэсарска-выкладніцкі склад і павесьці рашучую барацьбу з фіктыўнымі залікамі;

в) увесьці дыфэрэнцыяваную форму ацэнкі пасьпяховасьці студэнтаў у залежнасьці ад характару дысцыпліны і мэтаду выкладаньня;

г) увесьці, як правіла, заліковыя сэсіі два разы ў год, у канцы асеньняга і веснавога сэмэстра, для прадметаў, па якіх патрабуюцца асобныя залікі. Сьпіс такіх прадметаў устанаўляецца ва вучэбным пляне;

д) устанавіць на апошнім курсе навучаньня для кожнага студэнта дыплёмную работу, а ў ВТНУ дыплёмны праект (з абавязковай абаронай яго), для чаго павінен быць прадугледжаны спэцыяльны час ва ўчэбным пляне;

е) увесьці спэцыяльныя атэстаты з характарыстыкай пасьпяховасьці студэнтаў, якія заканчваюць ВТНУ, ВНУ і тэхнікумы, а таксама сыстэму прэмій і заахвочваньняў (навуковыя камандыроўкі, літаратура і г. д.) за лепшую пасьпяховасьць як у час навучаньня,так і пасьля яго скончэньня.

## 4. Аб камплектаваньні вышэйшай школы і тэхнікумаў

У мэтах забясьпечаньня камплектаваньня вышэйшай школы і тэхнікумаў зусім падрыхтаванымі кантынгентамі ажыцьцёвіць наступныя мерапрыемствы:

1. Увесьці ўступныя іспыты незалежна ад скончэньня рабфаку, тэхнікуму і г. д. для ўсіх паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы па матэматыцы, хіміі, фізыцы, роднай мове і грамадазнаўстве.

Устанавіць такі парадак камплектаваньня ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў, які-б даваў паступаючаму шырокую магчымасьць выбару спэцыяльнасьці па сваёй схільнасьці і здольнасьцях (шырокая прапаганда кожнага ВТНУ, ВНУ і тэхнікуму, выданьне друкаваных, папулярных апісаньняў кожнай спэцыяльнасьці і г. д.). Адначасова з гэтым распрацаваць рад мер, якія абмяжоўваюць пераход студэнтаў з аднэй навучальнай установы ў другую.

2. Пры прыёме ў тэхнікумы рабіць старанную праверку ведаў у аб'ёме курсу сямігодкі і прымаць толькі добра вы-

трымаўшых іспыты па асноўных прадметах (роднай мове, матэматыцы, хіміі, фізыцы і грамадазнаўстве).

## 5, Аб падрыхтоўцы навуковых кадраў і высока кваліфікаваных спэцыялістаў

Надаючы выключнае значэньне падрыхтоўцы кваліфакаваных навуковых кадраў, ажыцьцёвіць наступныя мерапрыемствы:

1. Далейшае камплектаваньне асьпірантуры праводзіць толькі з ліку пасьпяхова скончыўшых вышэйшыя навучальныя ўстановы па прадстаўленьні катэдраў і саветаў ВНУ і ВТНУ.

2. Усю падрыхтоўку асьпірантуры згрупаваць у найбольш магутных ВТНУ і ВНУ, прымацаваўшы кожнага асьпіранта да катэдры, устанавіўшы для асьпірантаў сыстэматычныя навуковыя заданьні і забясьпечваючы ўжо ў 1933 г. для кожнага асьпіранта індывідуальны вучэбна-вытворчы плян работы, ўвёўшы абавязковасьць здачы залікаў, а перад сканчэньнем—абарону навуковай дысэртацыі.

Забараніць зьняцьце асьпірантаў з навуковай работы і мабілізацыю іх на розныя кампаніі.

3. Павялічыць да 500 руб. у год асыгнаваньне на тэарытычнае навучаньне кожнага асьпіранта.

4. Устанавіць тэрмін вучобы асьпірантаў у межах ад 2 да 3 год у залежнасьці ад спэцыяльнасьці.

5. Прызнаць неабходным устанаўленьне вучэбных стыпэндый.

6. Для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спэцыялістаў, якія могуць спалучаць вопыт вялікіх пабудоў, заводаў і галін прамысловасьці ў цэлым і распрацоўваць праекты буйнейшых збудаваньняў і вытворчасьцяй з выкарыстаньнем пры гэтым дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі, стварыць спэцыяльную інжынэрную акадэмію з 2-3-гадовым тэрмінам навучаньня.

Работа акадэміі будуецца па галінах прамысловасьці (мэталюргія, машынабудаўніцтва і г. д.), а яе камплектаваньне праводзіцца з ліку інжынэраў з скончанай вышэйшай адукацыяй, на працягу 3-4 год пасьпяхова прапрацаваўшых на вытворчасьці.

7. Умацаваць існуючыя ўнівэрсытэты, як навуковыя ўстановы, якія падрыхтоўваюць высока кваліфікаваных спэцыялістаў па агульнаадукацыйных дысцыплінах, а такама пэдагогаў, і разгарнуць унівэрсытэты ў тых рэспубліках (Украіна ды інш.), у якіх іх няма.

1. Ня гледзячы на рашэньні партыі і ўраду аб адзінаначальлі ў ВТНУ, ВНУ і тэхнікумах і рад наступных указаньняў партыі і ўраду, адзінаначальле ў навучальных установах праводзіцца нездавальняюча і да сучаснага моманту наглядаецца ўмешваньне студэнцкіх арганізацый (партыйных і прафэсіянальных) у адміністрацыйна-навучальныя распараджэньні дырэкцый ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР зазначае, што за ўсю вучэбную і адміністрацыйна-гаспадарчую дзейнасьць ВНТУ, ВНУ і тэхнікумаў аднаасобна адказвае дырэктар. Загадчык катэдрай аднаасобна адказвае за пастаноўку работы падведамай яму катэдры, за якасьць і сваечасовасьць падрыхтоўкі праграмы заняткаў, за мэтады вучэбнай работы, за падбор выкладчыкаў, іх работу і г. д.

Студэнцкія арганізацыі (партыйныя і прафэсіянальныя), выконваючы свае асноўныя палітычныя задачы, садзейнічаюць дырэкцыі ў барацьбе за выкананьне вучэбных плянаў і праграм, за якасьць вучобы і высокую вучэбную дысцыпліну, ніякім чынам ня ўмешваючыся ў адміністрацыйна-вучэбныя распараджэньні дырэкцыі, дэканатаў і катэдраў.

2. У мэтах павышэньня ролі і адказнасьці прафэсарска-выкладніцкага складу устанавіць, што загадчык катэдрай назначаецца наркаматам паводле кон-

курсу, які арганізуюць ВТНУ (ВНУ) з ліку асоб, якія маюць прафэсарскае званьне.

Выкладніцкі склад (дацэнты, асыстэнты ды інш.) назначаецца і зьмяшчаецца дырэктарам ВТНУ (ВНУ) па прадстаўленьні кіраўніка адпаведнай катэдры. Забясьпечыць жорсткае захаваньне ўстаноўленага парадку наданьня навуковых назваў (асыстэнт, дацэнт, прафэсар) не па пасадзе, а па сапраўднай кваліфікацыі, якая азначаецца навуковымі працамі. Абавязаць народныя камісарыяты правесьці да 1 студзеня 1933 г. замацаваньне прафэсарска-выкладніцкага складу за вучэбнымі ўстановамі.

У сувязі са зьменай мэтадаў навучаньня і рэжыму вучэбных устаноў перагледзець усю сыстэму аплаты прафэсарска-выкладніцкага складу ў напрамку яе дыфэрэнцыяцыі ня толькі па вучэбных ступенях, але і па характары заняткаў (лекцыі, сэмінары і г. д.) і ўстанавіць надбаўкі за стаж пэдагагічнай работы.

3. Абавязаць дырэктароў вучэбных устаноў забясьпечыць поўную загрузку рабочага часу вучобай, устанавіць строгі кантроль за наведваньнем заняткаў студэнтамі і выкладчыкамі і павесьці самую рашучую барацьбу з прагуламі, спазьненьнямі, расхлябанасьцю. Даць права дырэктаром вучэбных устаноў па прадстаўленьні прафэсарска-выкладніцкага складу права накладаць адміністрацыйныя спагнаньні (папярэджаньні, вусная вымова, вымова ў загадзе) аж да выключэньня з ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў у выпадку сыстэматычнага парушэньня вучэбнай дысцыпліны і ўнутранага распарадку вучэбнай установы бяз права паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Саюзу ССР ад аднаго да 5 год.

4. Лічыць неабходным выдаць у заканадаўчым парадку тыповы статут ВТНУ, ВНУ і тэхнікуму.

5. Пакласьці ў аснову ўсяго рэжыму ВТНУ, ВНУ і тэхнікуму дакладны вучэбны плян і цьвёрды расклад заняткаў з выкладчыкамі пры абавязковым захаваньні самай строгай дысцыпліны як сярод студэнтаў, так і сярод прафэсарска-выкладніцкага складу вучэбнай установы.

Перавесьці ўсе ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы на 6-дзённы тыдзень з устанаўленьнем 50 навучальных тыдняў у годзе.

Даўжыня рабочага дню ў ВТНУ, ВНУ і тэхнікуме на малодшых курсах не павінна перавышаць 6 гадзін работы з выкладчыкамі, дапускаючы зьніжэньне гэтага тэрміну на старэйшых курсах з тым, каб адпаведна павялічыць самастойную работу студэнтаў і вучняў.

Увесьці, як правіла, перапынны вучэбны год ва ўсіх вучэбных установах, устанавіўшы зімовыя вакацыі для студэнтаў і прафэсарска-выкладніцкага складу ў 2 шасьцідзёнкі і летнія вакацыі ў 8 шасьцідзёнак пры забясьпечаньні прафэсарска-выкладніцкага складу бесьперапынна двухмесячнага адпачынку ўлетку. Забясьпечыць усім студэнтам абавязковы адпачынак у выходныя дні.

Прапанаваць народным камісарыятам асьветы саюзных і аўтаномных рэспублік распрацаваць уніфікаваную схему вучэбнага году з тым, каб заняткі ў вучэбных установах пачыналіся і канчаліся ў адзін і той-жа час.

6. Спыніць практыку частай і на доўгі час мабілізацыі студэнтаў і ў асаблівасьці прафэсарска - выкладніцкага складу на ўсякага роду гаспадарча-палітычныя кампаніі. Спыніць датэрміновыя выпускі студэнтаў.

7. Цэнтральны выканаўчы камітэт Саюзу ССР, адзначаючы вялізарную ролю разгорнутага ў вучэбных установах сацыялістычнага спаборніцтва, якое садзейнічала падняцьцю якасьці вучобы, умацаваньню вучэбнай дысцыпліны і разгортваньню самадзейнасьці студэнтаў, адначасова зазначае на неабходнасьць рашучага выкараненьня скажэньняў, якія маюць месца ў правядзеньні сацспаборніцтва і выяўляюцца ў тым, што сацспаборніцтва калектыў-

нае выключае і падмяняе сабой спаборніцтва індывідуальнае. Неабходна спалучаць спаборніцтва калектыўнае (ВНУ з ВНУ, факультэта з факультэтам, група з групай і г. д.) з усямерным разьвіцьцём сацспаборніцтва індывідуальнага (студэнт са студэнтам) з тым, каб зьнішчыць факт прыкрыцьця недахопаў паасобнай асобы дасягненьнямі групы.

## 6. Аб кіраўніцтве вышэйшай тэхнічнай асьветаю ў Саюзе ССР

Утварыць пры Цэнтральным выканаўчым камітэце Саюзу ССР камітэт па вышэйшай тэхнічнай школе, на які ўскласьці зацьверджаньне вучэбных пляпаў, праграм і мэтадаў выкладаньня ў вышэйшых спэцыяльных установах, зацьверджаньне сеткі гэтых вучэбных установаў і кантроль за ходам вучэбнай работы ў іх.

Старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэту Саюзу ССР

М. КАЛІНІН.

Сэкратар Цэнтральнага выканаўчага камітэту Саюзу ССР

А. ЕНУКІДЗЕ.

Ул. Хомо

# За бальшавіцкую рэалізацыю пастановы ЦВК СССР у ПэдВНУ і тэхнікумах

Гіганцкі рост нашага сацыялістычнага будаўніцтва выклікае ўсё большую і большую неабходнасьць ў высока-кваліфікаваных спэцыялістах,—патрабуе неадкладнага вырашэньня яго важнейшай праблемы—праблемы кадраў. Пытаньне падрыхтоўкі новых пралетарскіх спэцыялістых для сацыялістычнай прамысловасьці,сельскай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва заўсёды было ў цэнтры ўвагі нашай партыі і ўраду. У выніку рэалізацыі дырэктыў ліпеньскага (1928 г.) і лістападаўскага (1929 г.) пленумаў ЦК УсеКП(б), а таксама выкананьня адпаведных пастаноў ЦВК і СНК Савецкага Саюзу (ад 11/IX—1929 г. і 13/I—1930 г.), мы дабіліся бясспрэчных посьпехаў ў гэтай справе, ня толькі па лініі колькаснага росту рыхтуемых кадраў, але нават і па лініі іх якасьці, кваліфікацыі. Гэтыя нашы посьпехі, запісаныя ў гістарычнай пастанове ЦВК СССР ад 19 верасьня 1932 г. аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах, сьведчаць аб тым, што пралетарская дзяржава ў галіне падрыхтоўкі кадраў далёка пакінула за сабой капіталістычныя краіны. Колькасьць навучаючыхся ў ВНУ і тэхнікумах СССР у сучасны момант складае 1,5 мільлёнаў чалавек (у параўнаньні з 1928 г. па ВНУ вырасла больш чым у 3, а па тэхнікумах — у 4-ры з лішнім разы). У той час, калі ў капіталістычных дзярж[авах] (Германія, ПАЗШ, Польшча) буржуазія, ў сувязі з эканамічным крызісам штогодна зачыняе вышэйшыя навучальныя ўстановы, пралетарыят у нас, у Савецкім Саюзе, усямерна пашырае сетку ВНУ, тэхнікумаў і рабфакаў. Факт нашага эканамічнага росту і культурнага ўздыму відавочны— яго не адмаўляюць і заядлыя ворагі пралетарскай дыктатуры. У нашы ВНУ і тэхнікумы шырока адчынены дзьверы для працоўнае моладзі—рабочых і сялян. Маюцца ўжо сотні тысяч маладых пралетарскіх спэцыялістых, якія з вялікім энтузыязмам і энэргіяй ўключыліся ў магутны паток культурнай рэвалюцыі,— зьяўляюцца камандзірамі тэхнічнага пераўзбраеньня нашай народнай гаспадаркі.

Аднак, было-б вялікай памылкай, калі-б мы адначасна з дасягнутымі посьпехамі не гаварылі аб недахопах, не паказалі тых дэфэктаў і прарываў у справе падрыхтоўкі кадраў, якія ў сучасны момант маюцца. ЦВК СССР з усёй яскравасьцю і завостранасьцю ўскрывае гэтыя недахопы ў працы па падрыхтоўцы пралетарскіх спэцыялстых у нашай вышэйшай і сярэдняй (спэцыяльнай) школе. Асноўным недахопам зьяўляецца той факт, што многія ВНУ і тэхнікумы не заўсёды даюць належную якасную прадукцыю, што нашы тэхнікумы і ВНУ выпускаюць спэцыялістаў з нізкай кваліфікацыяй. А тымчасам унядрэньне новай вышэйшай тэхнікі ў савецкую прамысловасьць, транспарт, сельскую гаспадарку і рост народна-гаспадарчых задач прад'яўляюць падвышаныя запатрабаваньні для тэарытычнага ўзроўню савецкіх спэцыялістых. „Ад гэтых спэцыялістых патрабуецца больш высокая кваліфікацыя, аўладаньне глыбокімі ведамі навуковых асноў сучаснай сусьветнай тэхнікі, веданьне сыстэмы савецкай гаспадаркі і яе плянаваньне і практычнае знаёмства з пастаноўкай спэцыяльных прадпрыемстваў ва ўмовах перадавой тэхнікі.“

Вынікам чаго-ж зьяўляецца гэты асноўны недахоп у падрыхтоўцы савецкіх спэцыялістых? дзе-ж хаваюцца прычыны, карэньні гэтага недахопу?

ЦВК СССР лічыць, што карэнная прычына такога зьявішча ёсьць вынік:

а) шэрагу сур'ёзных недахопаў праграмнага характару, б) адсутнасьці стабільных і правільна пабудованых навучальных плянаў, в) недахопаў у пастаноўцы бесьперапыннай вытворчай практыкі, г) няправільнага прымяненьня мэта-

даў выкладаньня, д) наяўнасьці ў прафэсарска-выкладчыцкім складзе асоб не адпавядаючых свайму прызначэньню і е) недахопаў у агульным вучэбным рэжыме тэхнікумаў і ВНУ.

І сапраўды, нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы яшчэ хварэюць тымі-ж самымі хваробамі, што і наша палітэхнічная школа (сярэдняя і пачатковая). Слабасьць кіраўніцтва НКА і іншых наркаматаў тэхнікумамі і адсутнасьць кіраўніцтва ВНУ, з аднаго боку, няўменьне арганізаваць работу (вучэбны працэс) у самых ВНУ і тэхнікумах, з другога,—асноўная прычына нізкай прадукцыі вышэйшых навучальных установаў і тэхнікумаў.

Некаторыя ВНУ і тэхнікумы яшчэ да гэтага часу не наладзілі больш-менш правільнага вучэбнага працэсу, працуюць па так званых „пераходных" навучальных плянах, карыстаюцца насьпех складзенымі праграмамі. Гэтая неналаджанасьць у значнай меры адсутнічае па тэй прычыне, што гэтыя ВНУ і тэхнікумы добра не ўяўляюць свайго профіля, ня ведаюць, якіх канкрэтна спэцыялістых яны павінны рыхтаваць. Прыклады для такога рода фактаў мы можам наглядаць ня толькі на індустрыяльна-тэхнічных навучальных установах, але і ў установах сыстэмы НКА. Пэд. інстытуты пасылаюць скончыўшых настаўнікамі ў тэхнікумы, школы II канцэнтру, а ёсьць выпадкі што і I.

Гэтыя інстытуты (Гомельскі, Магілеўскі, Віцебскі) рыхтуюць спэцыялістых не па асобных дысцыплінах (прадметах), а так званых цыклявікоў (грамадаведаў, фізматаўцаў, і г. д.). Калі прыняць пад увагу 2 гадовы тэрмін навучаньня ў інстытуце і ступень падрыхтаванасьці студэнтаў пры залічэньні,—становіцца ясным, наколькі выходзяць яны падрыхтаванымі для работы ў школе. Мы можам сказаць адно: цыклявая структура пабудовы ВНУ ні ў якім разе ня можа забясьпечыць грунтоўнай падрыхтоўкі выкладчыкаў, асабліва зараз, калі мы прыступілі да арганізацыі 10-гадовай палітэхнічнай школы.

Ня зусім яскравым зьяўляецца таксама і становішча з тэхнікумамі.

Дашкольныя тэхнікумы ўзялі курс на падрыхтоўку інструктароў раённага маштабу, тады як самі дашкольныя установы (дзетсады, ачагі, пляцоўкі) застаюцца без кваліфікаванных кадраў. Бадай што тое самае можна сказаць і адносна пэдтэхнікумаў, дзе рыхтуюцца настаўнікі для школ I канцэнтру, а прызначаюцца ў II—ФЗС і ШКМ.

Дакладна акрэсьленага (распрацаванага) профіля, мэтавай устаноўкі ў рабоце, пэд. установы, такім чынам, ня маюць, а паколькі гэта так, то нельга гаварыць аб пэўнай акрэсьленасьці навучальных плянаў, праграм і ўсяго вучэбнага працэсу ў цэлым. Вось чаму, першачарговай задачай ў справе рэалізацыі пастановы ЦВК аб ВНУ і тэхнікумах зьяўляецца дэтальная распрацоўка профіля і структуры пэдагагічных навучальных установаў, у першую чаргу—пэд. інстытутаў. Без сталага акрэсьленага профілю, мэтавай устаноўкі—немажліва складаць навучальныя пляны, праграмы і г. д. Профіль—адпраўны пункт у рабоце па складаньні навучальнага пляну, у арганізацыі пэдпрацэсу. Для кожнага не сакрэт, што пэд. тэхнікумы і пэд. ВНУ, пасьля пераходу з чатырохгадовага курсу навучаньня на трохгадовы, надзвычайна часта мянялі свае навучальныя пляны (па некалькі раз у год); прычым нярэдка гэта рабілася дзякуючы няўвязцы між складзенымі НКА навучальнымі плянамі і каштарысам; атрымалася ў выніку тое, што яшчэ і зараз кожны тэхнікум, не кажучы аб пэдінстытутах, мае свой уласны навучальны плян. Да таго-ж, асаблівасьцю гэтых навучальных плянаў была іх шматпрадметнасьць, перагружанасьць дысцыплінамі. У самым апошнім варыянце навучальны плян пэдтэхнікумаў гэтага году налічвае 31 дысцыпліну,—вядучыя прадметы ў ім не паказаны. А ў гэты-ж час з яго выпала такая дысцыпліна, як асновы ленінізму (яна была ў навучальных плянах аж да гэтага году). Зараз выкінута быццам таму, што яе можна ўвязаць з гісторыяй УсеКП(б). Я лічу такі погляд няверным, бо, папершае, у навучальных плянах гісторыя УсеКП(б) увязана (злучана) з гісторыяй клясавай барацьбы, па-другое—у ленінізьме іначшае разьмеркаваньне вучэбнага

матар'ялу, чым у гісторыі УсеКП(б): кожны з гэтых прадметаў мае сваё асаблівасьці. Зразумела, што праходжаньне ленінізму не мажліва без папярэдняга азнаямленьня з гісторыяй УсеКП(б), але гэта не значыць, што гісторыя УсеКП(б) і ленінізм, як дысцыпліны, адно і тое,—так ставіць пытаньне нельга.

Мы выказваемся за зьнішчэньне шматпрадметнасьці ў навучальных плянах, вызначэньне дысцыплін пэдагагічнага цыклю з прыватнымі мэтодыкамі, і прадмэта будучай спэцыяльнасьці як вядучых, за абавязковае ўключэньне ў навучальныя пляны асноў ленінізму. Нам патрэбны настаўнікі, моцна ўзброеныя марксыцка-ленінскай тэорыяй і стала ўладаючыя пэдагагічнай тэхнікай, а гэта гаворыць за тое, што ленінізм, пэдагогіка і мэтодыкі (мовы, матэматыкі) павінны быць прадметам грунтоўнага вывучэньня ў пэдтэхнікумах, — зьяўляюцца стрыжнявымі дысцыплінамі ў навучальных плянах.

Адначасна з правільна-пабудаванымі навучальнымі плянамі, вельмі важным момантам у рабоце тэхнікумаў і ВНУ зьяўляецца наяўнасьць добраякасных праграм па асобных дысцыплінах. Праграма—той мінімум, што павінны засвоіць, вынесьці з ВНУ студэнты. Выкананьне гэтага мінімума зьяўялецца абавязковым. Тымчасам, на гэтым вучастку работы НКА ня ўсё ў парадку. Нярэдка былі выпадкі, што праграмы па агульна-адукацыйных прадметах у навуч. установах зусім адсутнічалі—іх ня было. У такім разе прыходзілася даручаць складаньне праграм выкладчыкам на месцы. Зразумела, калі выкладчык-асоба больш менш кваліфікаваная, пісьменны, ён з гэтай задачай спраўляецца і сам, без дапамогі. Але шмат дзе працуюць яшчэ выкладчыкі без вышэйшай асьветы, не кваліфікаваныя. А пры такім становішчы, апрача недарэчнасьцяй, саматужніцтва, нічога іншага ня выходзіць. Што-ж датычыцца праграм, якія дасылае НКА—ДВС, то некаторыя з іх, на жаль, яўна непрыгодны для карыстаньня ў тэхнікумах. Я не гавару ўжо аб тым, што гэтыя праграмы—вынік скарачэньня праграм для ВНУ, што яны перагружаны падчас вучэбным матар'ялам, што ў гэтых праграмах не адводзіцца належнага месца для практыкі, што праграмы, урэшце, не адпавядаюць асноўным спэцыяльнасьцям—усе гэтыя моманты ў той ці іншай меры ў праграмах маюцца; але, галоўнае, што трэба побач з гэтым падкрэсьліць,—гэта тое, што праграмы па некаторых прадметах наогул складаюцца няўдала, няпісьменна. Характэрным прыкладам можа быць праграма гісторыі класавай барацьбы ў пэд. тэхнікумах: складзена яна так, што з курсу выпала амаль уся гісторыя УсеКП(б), выкінутай аказалася такая важная тэма, як 1905—1907 г. г. і інш. На гэтай праграме нельга належным чынам выхаваць будучага культармейца, нельга паказаць яму той шлях барацьбы, які прайшла рабочая кляса пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі ад пачатку свайго зараджэньня да сучаснай нам эпохі—дыктатуры пралетарыяту і сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта—не праграма, а дакумант, узор таго, як ня трэба складаць праграмы.

Складаньне праграм—справа адказная і тэрміновая. Тэхнікумы фактычна праграм ня маюць (не па ўсіх дысцыплінах маюцца праграмы і ў пэд.ВНУ—іх патрэбна даць не пазьней 1 студзеня). Пэдсэкцыя ДВС павінна зараз-жа заняцца гэтым пытаньнем, прыцягнуць лепшыя навуковыя сілы і практыкаў у рабоце з месц да складаньня праграм. Прычым патрэбна будзе ўлічыць тую акалічнасьць, што за апошнія гады тэхнікумы камплектаваліся вучнямі з вельмі нізкай падрыхтоўкай. У праграме на сёлетні год неабходна гэта прадугледзець, бо інакш можа стацца, што мы выпусьцім без самых элемэнтарных ведаў людзей, якіх нельга будзе выкарыстаць на працы настаўніка.

Пытаньню набыцьця сыстэматычных ведаў, грунтоўнага вывучэньня тэорыі, ЦК УсеКП(б) і ЦВК СССР, як мы ведаем, прыдаюць выключнае значэньне. Да гэтага часу мы мелі ненармальнае палажэньне, на тэорыю адводзілася ня больш 50 проц. усяго вучэбнага часу па навучальным пляне, а астатнія 50 проц. прыпадалі на практыку. Гэта прыводзіла да таго, што асобным прадметам адводзілася ня больш 1—$1^1/_2$ гадзіны ў дэкаду на працягу году (літаратура, пры-

родазнаўства, расійская мова, мэтодыкі). Адсутнічала ўсякая мажлівасьць даць хаця-б мінімум тэарытычных ведаў, на якіх потым магла-б грунтавацца практыка (работа ў школе). Студэнты накіроўваліся ў школы на практыку тэорытычна не падрыхтаванымі, без аўладаньня мэтодыкамі, без азнаямленьня з пэдпрацэсам з пастаноўкай пэдагагічнай тэхнікі. Зараз малюнак мяняецца. Згодна пастановы ЦВК СССР, на вытворчы практыкум ў пэд.ВНУ павінна быць вызначана ня звыш 30—40 проц., а пэд. тэхнікумах 30—35 проц. вучэбнага часу адпаведных курсаў. Ад гэтай устаноўкі ЦВК СССР—ні кроку.

Наяўнасьць навучальных плянаў, вучэбных праграм сама па сабе яшчэ не забясьпечвае посьпеху ў рабоце, не зьяўляецца гарантыяй таго, што работа будзе наладжана. Гэта—ня што іншае, як вядомыя прадпасылкі, умовы для яе (работы) разгортваньня.

Адным асноўных момантаў ў арганізацыі пэдпрацэсу, працы тэхнікумаў і ВНУ, як і ўсякай інш. школы, зьяўляюцца мэтады выкладаньня, пастаноўка непасрэднай работы прафэсара (выкладчыка) са студэнтамі. Ад мэтадаў работы залежыць тая ці інш. распрацоўка праграмнага матар'ялу, паўната і глыбіня яго засваеньня студэнтамі. Тут, у гэтай частцы работы нашых ВНУ і тэхнікумаў, мы мелі нямала памылак, скажэньняў. Яшчэ год таму назад ЦК УсеКП(б) у верасьнеўскай пастанове паказаў на недапушчальную практыку ўжываньня неправераных на вопыце мэтадаў выкладаньня, у прыватнасьці—так званага „мэтаду-праектаў". Ня гледзячы на гэта, нашы ВНУ, і асабліва тэхнікумы, сталі на шлях „мэтадычнага пражэкцёрства". Праўда, на „мэтад праектаў" пэдтэхнікумы БССР у сваёй рабоце перайсьці не пасьпелі, бо своечасова аказаліся папярэджанымі пастановаю ЦК УсеКП(б); але затое, ня толькі тэхнікумы, а і ВНУ „вызначыліся" ў прымяненьні другога „лявацкага" мэтаду—брыгадна-лябараторнага. Здарылася гэта таму, што работнікі НКА, а таксама самі ВНУ, няправільна зразумелі дырэктыву ЦК УсеКП(б) аб мэтадах выкладаньня.—У выніку атрымалася тое, што брыгадна-лябараторны мэтад аказаўся адзіным, вядучым—унівэрсальным мэтадам работы. А гэта, бязумоўна, няверна, бо ЦК ніколі не даваў устаноўкі аб унівэрсалізацыі якога - небудзь мэтаду. К таму-ж, сам брыгадна-лябараторны мэтад зьяўляецца мэтадам „лявацкага" парадку. Брыгадны прынцып арганізацыі работы прывёў да падмены ролі выкладчыка, прафэсара—брыгадзірам, да зьнішчэньня ролі апошніх (прафэсара-выкладчыка), да абязьлічкі, расхлябанасьці, да раўнаньня на слабейшых, адстаючых (не забясьпечвае сыстэматычнага набыцьця ведаў студэнтамі). Гэты мэтад не дае стымулу для падвышэньня індывідуальнай работы студэнта. Вось чаму, ЦВК СССР, канстатуючы „лявацкую" ўстаноўку НКА асобных рэспублік, катэгарычна забараняе прымяняць лябараторны мэтад у выглядзе брыгаднага.

„Мэтады работы,—падкрэсьліваецца ў пастанове ЦВК,—павінны забясьпечыць падрыхтоўку кадраў узброеных глыбокімі ведамі, маючых глыбокі грамадзка-палітычны кругагляд". Яны павінны забясьпечыць" індывідуальную і самастойную работу студэнта, павысіць ролю прафэсарска - выкладчыцкага пэрсаналу, яго адказнасьць за пастаноўку вучэбнай справы і работы кожнага студэнта ў асобку". Тут, пры ўжываньні мэтадаў, трэба ўлічваць шэраг момантаў: падрыхтаванасьць студэнта, кваліфікацыю выкладчыкаў, наліччa абсталяваньня лябараторый, характар (мэтадалёгію) дысцыпліны і г. д. Вучэбны працэс павінен будавацца на аснове: а) усямернага ўзмацненьня лябараторнай работы студэнта пад абавязковым кіраўніцтвам выкладчыка, б) прымяненьня лекцыі, як мэтаду, „які дапамагае зьбліжэньню прафэсара са студэнтамі", забясьпечвае сыстэматычнае выкладаньне дысцыплін.

Аднак, з гэтых асноўных мэтадычных палажэньняў зусім ня вынікае, нельга рабіць вываду, што наша вышэйшая і сярэдняя школа вяртаецца да старых дарэвалюцыйных мэтадаў. Частка навуковых працаўнікоў і зарубежная контррэвалюцыя імкнуцца вытлумачыць пастанову ў сваіх інтарэсах—як рэакцыйны паварот назад, да старой дарэвалюцыйнай школы. Неабходна даць рашучы адпор такім спробам і тэндэн-

цыям. Патрэбна правільна арыентаваць выкладчыкаў і студэнтаў у разуменьні пастановы ЦВК. Пабудова пэдагагічнага (вучэбнага) працэсу ў нашай вышэйшай школе карэнным чынам адрозьніваецца ад пабудовы яго ў старых ВНУ. За добра выкладзенай лекцыяй сьледуе абавязкова самастойная работа студэнта, групавыя і сэмінарскія заняткі, далейшая лябараторная распрацоўка вучэбнага матар'ялу пад кіраўніцтвам асыстэнта і абавязковым кантролем прафэсара (што зусім было не абавязковым для студэнта старой школы—ён мог нават не наведваць і лекцый). Нам здаецца гэтае палажэньне зусім ясным і зразумелым. Набыцьцё глыбокіх тэарытычных ведаў, сыстэматычная распрацоўка асобных дысцыплін, менавіта, і мажлівы толькі пры такой, а ня іншай арганізацыі вучэбнага працэсу. Побач з гэтым неабходна заўважыць, што ня выключаецца мажлівасьць ўжываньня і іншых мэтадаў.

Выбар мэтадаў, як у адносіне цэлага курсу, так і яго паасобных частак (тэм)—справа самаго выкладчыка, які зьяўляецца цэнтральнай фігурай ў рабоце ВНУ і нясе адказнасьць за прапрацоўку вучэбнага матар'ялу. Зразумела, што сыстэматычнае выкладаньне прадмета з прымяненьнем лекцый ня мысьліма бяз сур'ёзнай і грунтоўнай падрыхтоўкі выкладчыка да іх правядзеньня, не мажліва без належнай яго эрудыцыі ў галіне выкладаемай ім дысцыпліны. Тут не абыйдзешся куцай пяціхвілiннай гутаркай пры дачы заданьня, а патрэбна прадуманая, стройная, закончаная і цэльная лекцыя, якая ахапляе сабой пэўную тэму, або разьдзел таго ці іншага курсу, прадмету (звычайна—асноўнае пытаньне, цэнтральную праблему заданьня)—лекцыя красачная, жывая, захапляючая студэнтаў. Трэба сказаць, што нядбайныя выкладчыкі ўжо забыліся пра лекцыі—зьвялі сваю работу к горшаму віду дарэвалюцыйнага прыёму „адселева да селева" па падручніку (Кальвін і інш.—Менскі п/т). Аднак, пры ўсёй важнасьці лекцыі ў сыстэматычным выкладаньні дысцыпліны нельга грунтаваць ўсю работу ВНУ і тэхнікума на адных выключна лекцыях, як гэта назіралася і зараз назіраецца ў ВПІ. Такое разуменьне пастановы ЦВК па пытаньню мэтадаў работы зьяўляецца цалкам няверным: унівэрсалізацыі лекцыйнага мэтаду быць ня можа. Гэта супярэчыць духу пастановы. Пытаньне ставіцца інакш. Побач з ужываньнем лекцый, забясьпечваючых сыстэматычнасьць выкладаньня („изложения") дысцыплін, ЦВК СССР абавязвае ўсе навучальныя ўстановы „ўсямерна ўзмацніць лябараторную работу (самастойная работа студэнтаў па індывідуальных заданьнях у спэцыяльна абсталяваных для гэтага памяшканьнях-лябараторыях, майстэрнях, габінэтах, музэях і г. д.) пад абавязковым кіраўніцтвам выкладчыкаў, шырока практыкуючы розныя практыкаваньні па прадмеце графічныя заняткі, праектаваньне і інш.".

Як бачыце, лябараторна-самастойная работа студэнтаў пад кіраўніцтвам выкладчыка зьяўляецца адным з абавязковых элемэнтаў вучэбнага працэсу („разьвіваючы самастойную і індывідуальную работу студэнтаў, неабходна разам з тым усямерна заахвочваць калектыўную вучэбную работу студэнтаў"). А таму зводзіць гэты працэс ў вышэйшай школе да аднаго толькі чытаньня лекцый—тэндэнцыя павярнуць яе назад да старой схалястычна-славеснай школы. Па гэтай тэндэнцыі неабходна рашуча ўдарыць, як шкоднай і дэзарыентуючай.

ЦВК СССР у сваёй пастанове ад 19 верасьня г. г. дае ня толькі чоткую дырэктыву ў адносіне выкладаньня, але—і праверкі работы, падліку працы, пасьпяховасьці студэнтаў. Гэты падлік працы і пасьпяховасьці павінен быць перш за ўсё—бягучым і праводзіцца ў часе групавых заняткаў, канфэрэнцый, праверкі пісьмовых прац, лябараторных заняткаў. Яго мэтай з'яўляецца—высьветліць ступень засваеньня студэнтамі ведаў, аб'ём і глыбіню прапрацоўкі матар'ялу, уменьне афармляць пісьмова засвоеныя веды і прымяняць іх ў практычнай дзейнасьці,—а формаю—пэўныя аб гэтым адзнакі. Калектыўны прыём заданьняў, які прыводзіць да абязьлічкі, здымае адказнасьць з студэнта за сваю работу, забараняецца. Выкладчык увесь час сыстэматычна назірае за працай і вывучае кожнага студэнта і на аснове гэтага назіраньня і вывучэньня робіць дыфэрэцыраваную ацэнку яго пасьпяховасьці („нездавальняюча",

„здавальняюча", „добра", „вельмі добра"), адкідаючы ўсякія складаныя схемы падліку.

Надзвычайна важным мерапрыемствам для зьнішчэньня абязьлічкі ў рабоце студэнтаў, стымулам для сур'ёзнай і грунтоўнай прапрацоўкі вучэбнага матар'ялу зьўляецца дырэктыва ЦВК СССР аб увядзеньні заліковых сэсій, прыймовых і выпускных экзаменах, дыплёмных работах. Гэтае мерапрыемства (заключны або падагульняючы падлік працы) прымусіць як след працаваць усіх студэнтаў, „не взирая" на асобы, таму што спадзявацца на „скідку", „прыняцьце пад увагу" ня прыдзецца. Навучальныя пляны і праграмы зьяўляюцца дзяржаўным мінімумам. Кожны студэнт ВНУ або тэхнікуму абавязан іх выканаць. Толькі так можна ставіць зараз пытаньне, калі мы хочам атрымаць добра кваліфікаваныя кадры. Выпускаць няпісьменных у сучасны момант з вышэйшай і сярэдняй (спэцыяльнай) школы дзяржава ня будзе. Трэба раз назаўсёды пакласьці канец той няпісьменнасьці, якая пануе сярод некаторай часткі навучаючыхся ў ВНУ і тэхнікумах.

У гэтых адносінах (апрача экзаменаў) ня малае значэньне, нам думаецца, набывае пры пераводах з курсу на курс, і асабліва выпуску—складаньне пэдагагічных характарыстык на таго ці іншага студэнта. Гэтыя характарыстыкі павінны быць вынікам назіраньня і вывучэньня студэнта не адным якім-небудзь выкладчыкам, а ўсяго пэрсаналу ў цэлым. Да іх складаньня трэба аднесьціся вельмі уважліва.

Адным з адмоўных момантаў у арганізацыі вучэбнага працэсу ў вышэйшай школе і тэхнікумах зьяўляецца нездавальняючая пастаноўка вытворчай пэдагагічнай практыкі. Апошняя праводзіцца стыхійна, бесплянава, без належнай ўвязкі з тэорыяй. Яскравым прыкладам неарганізаванага правядзеньня практыкі ў ВНУ і тэхнікумах могуць служыць зноў такі пэд. тэхнікумы і пэд. інстытуты. Штогодна студэнты пасылаюцца ў раёны на папаўненьне недаўкамплектаваных школ настаўнікамі. Зусім ясна, што такі від, такая сыстэма практыкі сябе не апраўдвае, бо належнай кансультацыяй выкладчыка - мэтадыста яна не забясьпечана. Студэнты працуюць самастойна (у якасьці настаўнікаў) без кіраўніцтва, дапамогі і нагляду. Эфэкт у такім разе ад праходжаньня практыкі зусім нязначны—пэўных мэтадычных навыкаў яны не атрымліваюць. Навучыцца пэдагагічнаму майстэрству студэнтам няма ў каго. Атрымліваецца вядомая падпарадкаваньне тэорыі неарганізаванаму стыхійнаму практыкуму. У выніку некаторыя студэнты канчаюць пэдустановы неўзброенымі ні тэарытычна, ні практычна.

Пастановай ЦВК СССР вызначаюцца пэўныя прынцыпы правядзеньня практыкі ў ВНУ і тэхнікумах. Перш за ўсё—бесьперапынная вытворчая практыка зьяўляецца арганічнай часткай адзінага (цэльнага) вучэбнага працэсу. Яна павінна ўвязвацца з тэорыяй і займаць адпаведнае месца ў навучальных плянах і праграмах (складаць ня больш 20 проц. усяго вучэбнага часу па ВНУ і 22 проц. па тэхнікумах). Ва ўмовах пэдінстытутаў і пэдтэхнікумаў гэта азначае тое, што практыка павінна быць арганізавана такім чынам, каб кожная ступень пэдагагічнай практыкі была падпарадкавана праходжаньню адпаведнай часткі тэарытычнага курсу па ўсіх дысцыплінах спэцыяльнага цыклю, што не заўсёды мае месца ў спошніх. Як правіла, практыка адбываецца паднепасрэдным кіраўніцтвам і наглядам спэцыяліста - выкладчыка. А паколькі гэта так, становіцца зразумелым, што ў справе арганізацыі практыкі не малаважную ролю павінны адыгрываць вопытна-практыкавальныя школы, якім, з пераводам на мясцовы бюджэт, на жаль, не ўдзяляецца з боку. РайАНА патрэбнай ўвагі. Яны, калі яшчэ не ліквідаваны, то працягваюць жаласьлівае існаваньне (дрэнны падбор настаўнікаў,адсутнасьць сродкаў на абсталяваньне, недахоп падручнікаў і г. д., аб чым ня раз падкрэсьлівалася на нарадах пэдустаноў дырэктарамі асобных пэдтэхнікумаў). НКАсьветы патрэбна ліквідаваць гэтую недарэчнасьць, гэтае ненармальнае зьявішча. Пастановай ЦВК ўскладаецца адказнасьць за правядзеньне практыкі на выкладчыкаў і „дырэктара прадпрыемства" (ва ўмовах пэдустаноў—выклад-

чыкаў-мэтадыстых і загадчыка з опытнапрактыкавальнай школы).

Зусім відавочна, што пры такой пастаноўцы пытаньня адносна практыкі работа ў вопытна-практыкавальных школах мае вялікае значаньне, і іх роля ў падрыхтоўцы настаўнікаў павялічваецца. Неабходна вопытна-практыкавальныя школы цалкам падпарадкаваць пэд. тэхнікумам і пэд. інстытутам, як свайго рода лябараторыі для пэдагагічнага экспэрымэнта рыхтуемых кадраў настаўніцтва. Бо толькі ў такім разе практыка (разгорнутая), прадметна пробныя урокі могуць сапраўждацца кансультацыйнымі лекцыямі выкладчыка, могуць ў поўнай меры працякаць пад іх непасрэдным наглядам і кіраўніцтвам. Аднак, адгэтуль зрабіць вывада, што мы адмаўляем пэдагагічную практыку ў масавай школе, нельга. Апошняя можа мець месца ў агульным пляне правядзеньня практыкі, але прынцыпы і ўмовы адбыцьця яго студэнтамі павінны быць інакшыя. (ДВС НКА трэба дакладна распрацаваць пытаньне практыуму). Мы ня супроць такой практыкі, але пры тэй ўмове, калі будзе забясьпечана непасрэднае кіраўніцтва выкладчыка-мэтадыста, або ў крайнім выпадку — вопытнага настаўніка тэй школы, дзе адбываюцца практыкум.

Нам думаецца, што ў адносінах практыкі немалаважную ролю можа адыграць наведваньне студэнтамі пэд. тэхнікумаў і пэд. інстытутаў узорных школ. Паказальныя ўрокі лепшых настаўнікаў гэтых школ, а таксама лекцыі выкладчыкаў-мэтадыстых (тэхнікумаў і інстытутаў) да гэтага часу ня дэманстраваліся, ня былі аб'ектам назіраньня студэнтаў. А трэба сказаць, што такія лекцыі і заняткі ва ўзорных і вопытна-практыкавальных школах маюць вялікае значэньне для практыкантаў; менавіта, у такім разе яны могуць навучыцца сапраўднаму пэдагагічнаму майстэрству, могуць бачыць прыклады добра наладжанага пэдагагічнага працэсу.

Апрача таго, патрэбна сказаць пару слоў і адносна пастаноўкі практыкума індустрыйнага, на прадпрыемствах. Тое, што робіцца зараз пэдустановамі ў гэтых адносінах, нас задаволіць, бязумоўна, ня можа. Індустрыйны практыкум праводзіцца без належнай увязкі з тэарытычнымі дысцыплінамі,—па-першае, па-другое—не заўсёды мае пад сабою адпаведную матар'яльную базу (за адсутнасьцю на мясцох належнага прадпрыемства). У пэд.інстытутах справа з індустрыйным практыкумам абстаіць некалькі лепш, бо там даюцца больш грунтоўныя веды па тэхніцы (асновах індустрыі, тэхнолёгіі). Што тычыцца пэд. тэхнікумаў, то ў апошніх курс „асновы індустрыі", які быў у навучальных плянах, ніколі ня чытаўся. Прыходзіцца даручаць у мэтах фармальнага выкананьня навучальнага пляну правядзеньне індустрыйнага практыкуму фізыкам, сярод якіх ня кожны спраўляецца з гэтай важнейшай задачай. Вынікі атрымліваюцца не эфэктыўныя. Студэнты пэдтэхнікумаў выразна не задаволены такой арганізацыяй работы ў частцы практыкуму. І гэта да вядомай ступені верна. Дзяржаўнаму Вучонаму Савету НКА неабходна безадкладна, зараз-жа, заняцца распрацоўкай інструкцыйна—мэтадычнага ліста па правядзеньні палітэхнічнага практыкуму. Ва ўсякім разе патрэбна высьветліць галоўнае пытаньне, — гэта тое, што павінна быць пакладзена ў аснову практыкуму, што можна выкарыстаць у якасьці яго аб'екту на тым ці іншым прадпрыемстве або калгасе канкрэтна. Тут, у правядзеньні індустрыйнага практыкуму, няма сталых мэтадычных прынцыпаў і адзінства (адны маюць пэўнае рабочае месца на прадпрыемстве, другія абмяжоўваюцца толькі экскурсіяй). Кожны тэхнікум робіць пасвойму—часамі вельмі прымітыўна. Увесь зьмест практыкуму заключаецпа, напрыклад, у тым, што студэнты качаюць бэлькі на лесапільным заводзе. Падобнае правядзеньне практыкуму, зразумела, ніякай палітэхнічнай каштоўнасьці ня мае, і студэнтаў ня цікавіць. К таму-ж ёсьць недагаворанасьць нават і па такому пытаньню, як абсталяваньне і характар работы ў майстэрнях пры пэдтэхнікумах, пэдінстытутах.

Адным словам, справу палітэхнічнага практыкуму трэба канчаткова вырашыць, каб ня было нияснасьці і хістаньня. Для яе вырашэньня, на маю думку, зьяўляецца ня лішнім скліканьне спэцыяль-

най нарады пэдагагічных установ, з папярэднім даручэньнем распрацоўкі асобных момантаў практыкуму некаторым пэдтэхнікумам і пэдінстытутам. У плян работы гэтай канфэрэнцыі патрэбна ўключыць таксама і пытаньне адносна сыстэмы пэдагагічнай практыкі, паколькі там, таксама маюцца моманты ня зусім яскравыя, патрабуючыя ўсебаковага абмяркаваньня.

Значыцца, зусім відавочна, што складаньне добраякасных навучальных плянаў, правільнае ўжываньне мэтадаў выкладаньня, належная арганізацыя і пастаноўка практыкі—важнейшыя звеньні і моманты арганізацыі вучэбнага працэсу. На іх неабходна сканцэнтраваць увагу пры плянаваньні і разгортваньні акадэмічнай работы ў ВНУ і тэхнікумах. Гэта, так сказаць, асноўныя прэдпасылкі правільнага пабудаваньня вучэбнага працэсу. Аналізуючы іх, ЦВК СССР-разам з тым падкрэсьлівае, што цэнтральнай фігурай гэтага працэсу зьяўляецца выкладчык, прафэсар. Ён—кіраўнік і арганізатар акадэмічнай работы студэнта—адказвае за становішча сваёй катэдры (дысцыпліны) у ВНУ і тэхнікуме. А таму зусім ясна, што выкладчык (прафэсар) павінен быць тэарэтычна ўзброеным, кваліфікаваным—адпавядаць свайму прызначэньню, бо інакш ён ня зможа справіцца з тымі адказнымі задачамі і абавязкамі, якія на яго ўскладаюцца, — ня здолее быць сапраўдным кіраўніком і арганізатарам вучэбнага працэсу. У сувязі з гэтым, ЦВК СССР надзвычайна чотка і цьвёрда ставіцца пытаньне адносна падрыхтоўкі кадраў для вышэйшай школы, у прыватнасьці—работы інстытутаў асьпірантуры. Наданьне навуковай годнасьці (вучоных ступеняй), павінна прадастаўляцца толькі пры наяўнасьці адпаведнай кваліфікацыі, (друкаваных прац), а не па займаемай пасадзе. НКА Саюзных рэспублік абавязаны разглядзець маючыйся склад прафэсарска-выкладчыцкага пэрсаналу ВНУ і тэхнікумаў у напрамку высьвятленьня навуковай годнасьці тых працаўнікоў, прызначэньне якіх на працу адбылося ў апошні час, прынамсі, пачынаючы з 1930 г. ДВС НКА БССР павінен з асаблівай увагай аднесьціся да выкананьня гэтай дырэктывы Саюзнага ўраду. Наша вышэйшая школа і тэхнікумы павінны абслугоўвацца высока-кваліфікаванымі спэцыялістамі—выкладчыкамі (інакш разумець пастанову ЦВК СССР нельга). Як правіла, толькі той асьпірант (выкладчык) дапушчаецца да працы ў ВНУ, які здолее абараніць напісаную ім навуковую дысэртацыю, папярэдня выканаўшы ўвесь навучальны плян асьпірантуры.

Адзначаючы вялізарнейшае значэньне ў арганізацыі акадэмічнай работы ў ВНУ і тэхнікумах профэсарска-выкладчыцкага пэрсаналу, ЦВК СССР, аднак, нікольні ня здымае адказнасьці за яе пастаноўку з адмініерацыі навучальных установ. Наадварот, роля адміністрацыі (дырэктароў) павінна быць кіруючая ва ўсёй іх працы. Дырэктар ВНУ або тэхнікума, як адзінаначальнік, нясе поўную адказнасьць за становішча адміністрацыйнай і вучэбнай-выхаваўчай работы. Яму ў сваю чаргу падпарадкуюцца і перад ім адказваюць загадчыкі катэдр, асобныя выкладчыкі, навуковыя працаўнікі. Дырэктар навучальнай установы, згодна пастановы ЦВК, абавязан „устанавіць строгі кантроль за наведваньнем заняткаў студэнтамі і выкладчыкамі, павесьці рашучую барацьбу з прагуламі, пропускамі заняткаў, расхлябанасьцю“. У адносіне студэнтаў, дэзарганізуючых работу ВНУ і тэхнікумаў, раскладаюча дзейнічаючых сваімі паводзінамі на астатнюю масу—дырэктару надаецца мажлівасьць выключаць такіх без права паступленьня ў іншыя навучальныя ўстановы, тэрмінам да 5-ці год.

Заняткі, акадэм. работа ў вышэйшай школе і тэхнікумах, павінны быць пабудаваны на аснове цьвёрдага раскладу і стабільна распрацаваных навучальных плянаў (уключаючы, зразумела, і дасьледча-самастойную працу). Наведваньне гэтых заняткаў зьяўляецца для кожнага студэнта, калі ён хоча быць ў сьценах ВНУ або тэхнікума, абавязковым. Устаноўка надзвычайна яскравая, яе выкананьне—прамы і непасрэдны абавязак дырэкцыі навучальных установ і асобных выкладчыкаў.

Акадэмічны год, як правіла, пачынаецца аднačасова ва ўсіх навучальных установах, прычым павінен быць перапынным з

прадастаўленьнем 2-месячнага адпачынку для студэнтаў і выкладчыкаў. На працягу заняткаў катэгарычна забараняецца адрыў студэнтаў ад вучобы, частая практыка іх мабілізацыі на розныя палітычна-гаспадарчыя кампаніі, а таксама—датэрміновыя бесплянавага характару выпускі з ВНУ і тэхнікумаў. Пастанова ЦВК у гэтых адносінах мае выключнае значэньне, бо за апошні час былі выпадкі сыстэматычнага парушэньня навучальнага рэжыму ў вышэйшай і сярэдняй (прафэсыянальнай) школе. Адрыў студэнцтва ад заняткаў—звычайнае зьявішча, асабліва ў пэд.ВНУ і тэхнікумах. Зараз палажэньне зусім зьмянілася, у зьвязку з абавязковай для ўсіх дырэктывай Саюзнага ўраду.

Перад студэнцкімі арганізацыямі, стаіць важнейшая задача—гэта сталая і пасьлядоўная барацьба за ўзьняцьце вучобы, наладжваньне сьвядомай працоўнай дысцыпліны сярод студэнтаў. Іх роля ў справе ўмацаваньня дысцыпліны і дапамогі ў рэалізацыі пастановы ЦВК СССР дырэкцыям ВНУ і тэхнікумаў—аграмадная. Адна дырэкцыя, без актыўнай дапамогі з боку прафкома, камсамольскіх арганізацый, з ускладзенымі на яе абавязкімі справіцца ня здолее. Голае адміністраваньне (загады, вымовы, выключэньні) без адпаведнай растлумачальнай работы, сябе не апраўдае, не дасягне сваей мэты. Без прымяненьня мер адміністрацыйнага парадку, зразумела, нельга абыйсьціся, але частая практыка іх ужываньня можа праводзіць да вынікаў не аздараўляючага характару, а адамоўнага, раскладаючага. Вось чаму, алначасна з правільна арганізаванай акадэм. работай у нашых ВНУ і тэхнікумах, павінна быць разгорнута і выхаваўчая праца. У адпаведнасьці з гэтым неабходна перабудаваць работу партыйных і прафсаюзных арганізацый ў вышэйшай школе і тэхнікумах.

Непасрэдная задача прафкома, і камсамолу—барацьба за якасьць вучобы, за разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва сярод студэнтаў (умелае спалучэньне „спаборніцтва калектыўнага (БНУ з ВНУ, факультэта з факультэтам, групы з групай і г. д.) з усямерным і разьвіцьцём спаборніцтва індывідуальнага (студэнта за студэнтам)" за стварэньне нармальнай сьвядомай дысцыпліны ў ВНУ і тэхнікумах.

Усяго кіраўніцтва і партыйнае арганізацыі ў асаблівасьці—выхаваўчая работа ідэалёгічнага характару, кантроль за правільным правядзеньнем лініі партыі ў рабоце навучальных устаноў, бязьлітасная і рашучая барацьба з праявамі антыпралетарскай ідэалёгіі, што маюць месца ў ВНУ і тэхнікумах у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму, пры ўзмацненьні акадэмічнай працы ў вышэйшай школе нікольк і не адмаўляецца і праца грамадзкіх арганізацый. Было-б грубейшай палітычнай памылкай станавіцца на такі пункт гледжаньня. Ня можа быць партыйца без партыйных, а камсамольца без камсамольскіх абавязкаў. Але, гэтая работа ва ўмовах ВНУ і тэхнікумах павінна быць грунтоўна прадумана, добра арганізавана, насіць строга пляналы характар, быць увязанай з акадэмічнай работай.

Інакш кажучы, у кожным ВНУ і тэхнікуме трэба дабіцца таго, каб быў сваячасова складзены гадавы вытворчы плян работы, а на яго аснове—расклад заняткаў (дзённых і вячэрніх). Без такога пляну (пляны працы катэдр і дэканатаў, само сабою разумеюцца,) наладзіць чотка работу ў цэлым у вышэйшай і сярэдняй (спэцыяльнай) школе ня ўдасца, і тым больш, што ў нашых ВНУ і тэхнікумах навучаюцца сотні і тысячы студэнтаў, а ў кожнай з устаноў маюцца дзесяткі груп, курсаў, аддзяленьняў і факультэтаў. Тут, па часьці складаньня гадавога вытворчага пляну, можа значна дапамагчы ДВС НКА, а таксама тыя навучальныя ўстановы, якія ўжо маюць вопыт у складаньні гадавых вытворчых плянаў. Прычым, мы падкрэсьліваем, што складаньне гадавога вытворчага пляну—рэч далёка ня лёгкая: пэўнай мэтодыкі ў гэтым пытаньні яшчэ няма, яна не распрацавана.

***

Такім чынам, калі коратка сфармуляваць ўсё тое, што мы гаварылі раней адносна вышэйшай школы і тэхнікумаў

(сыст. пэдасьветы), ў сувязі з пастановай ЦВК СССР, то прыходзіцца выразіць гэта прыблізна ў такім выглядзе:

Першая задача, якая ставіцца ў сучасны момант, на дадзеным этапе, перад пэд. ВНУ і тэхнікумамі, гэта—далейшая ўпартая барацьба за правільнае, узорнае пабудаваньне пэдагагічнага працэсу, стварэньне сьвядомай працоўнай дысцыпліны, нармальнага вучэбнага рэжыму,—за грунтоўную высока-якасную прапрацоўку праграмнага матар'ялу, поўнае, 100 проц. выкананьне студэнтамі акадэмічна-вытворчых плянаў.

Другая задача—узмацненьне (паглыбленьне) ідэалёгічна - клясавага выхаваньня студэнцтва, павышэньне партыйнай пільнасьці і ваяўнічасьці ў акадэмічнай рабоце (выкладаньні), барацьба супроць контр-рэвалюцыйнай кантрабанды і антыпралетарскай ідэалёгіі на аснове ліста тав. Сталіна, барацьба за аўладаньне марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй ў навуцы.

Трэцяя задача—правільная пастаноўка і арганізацыя бесьперапыннай вытворчай практыкі студэнтаў пэд. ВНУ і тэхнікумаў, як арганічнай і неадымнай часткі ўсяго вучэбнага працэсу, злучэньне тэарэтычнай працы (мэтадычнай тэорыі) з вытворчай практыкай, ў дадзеным выпадку—пэдагагічнай у вопытна практыкавальнай і ўзорнай школах.

Чацьвертая задача — разгортваньне ўсей работы на аснове сацыялістычнага спаборніцтва, якое садзейнічае „падняцьцю якасьці вучобы, узмацненьню вучэбнай дысцыпліны", садзейнічае выхаваньню і падрыхтоўцы ініцыятыўных і дзейных пралетарскіх спэцыялістых.

І пятая задача — гэта ўзмацненьне канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва (на аснове ажыцьцяўленьня прынцыпаў адзінаначальля) ўсей работай ВНУ і тэхнікумаў з боку дырэкцый — шляхам сыстэматычнага наведваньня заняткаў, устанаўленьня цьвёрдых правіл унутранага распарадку і рашучай барацьбы з усякімі спробамі парушэньня вучэбнай дысцыпліны.

Для ажыцьцяўленьня гэтых важнейшых задач у пэд.ВНУ і тэхнікумах неабходна:

а) стварэньне поўнай матар'яльнай базы—наяўнасьць і прыстасаваньне да вучэбных заняткаў лябараторый і габінэтаў;

б) забесьпячэньне тэхнікумаў і ВНУ вучэбна-пэдагагічнай і мэтадычнай літаратурай, падручнікамі, навуковымі і на вучальнымі прыладамі;

в) стварэньне адпаведных матар'яльна-бытавых умоў як для студэнцтва, так і для выкладчыкаў.

Але наяўнасьць матар'яльнай базы (клясы, лябараторыі, апаратура, падручнікі, інтэрнаты, сталоўка) гэта ня ўсё. Асноўнай прадпасылкай пасьпяховай акадэмічнай работы ў ВНУ і тэхнікумах, якасьці працы, як мы бачылі, зьяўляецца:

а) наяўнасьць высока-кваліфікаваных пэдагагічных кадраў (выкладчыкаў, дацэнтаў, прафэсароў);

б) добрасумленная работа саміх выкладчыкаў (прафэсуры), падрыхтоўка іх да лекцый практычных і заняткаў;

в) усямерная дапамога і мэтадычнае кіраўніцтва ВНУ і тэхнікумамі з боку ДВС НКА.

У парадку рэалізацыі пастановы ЦВК СССР, на апошнія (НКА-ДВС) ускладаецца баявая практычная задача—сваячасова распрацаваць профіль і структуру ВНУ і тэхнікумаў, падрыхтаваць навучальныя пляны, праграмы; паклапаціцца аб хутчэйшым выданьні падручнікаў, напісаць шэраг мэтадычных лістоў. Але разам з тым, не павінны быць у баку, заставацца па-за гэтай работай, навуковыя і пэдагагічныя калектывы саміх навучальных устаноў. Асаблівую ролю у перабудаваньні працы ВНУ павінны адыграць катэдры асобных дысцыплін (ініцыятыва прафэсарска-выкладчыцкага пэрсаналу).

Аднак, трэба мець на увазе, што адна прафэсура (выкладчыкі) з ускладзенымі на яе абавязкамі справіцца ня здолее. Неабходна дапамога. Падрыхтоўка новых пралетарскіх кадраў, работа ў ВНУ і тэхнікумах—справа ня толькі выкладчыкаў, ня толькі самой вышэйшае і сярэдняе школы, але—і ўсяе пралетарскае грамадзкасьці, у першую чаргу—партыйных, савецкіх і прафсаюзных арганізацый.

Толькі пад ідэйным кіраўніцтвам партыі, пры актыўнай і сумленай рабоце прафэсарска-выкладчыцкага пэрсаналу, максымальнай дапамозе ў гэтым пралетараскай грамадзкасьці —

а) мы зможам пабудаваць сапраўдную вышэйшую і сярэднюю (прафэсыянальную) школу;

б) мы здолеем атрымаць з гэтай школы тэарытычна узброеных і марксыцка-ленінскі выхаваных спэцыялістаў.

За высокую арганізацыю вучэбнага працэсу, за 100 проц. акадэмічную пасьпяховасьць студэнтаў у нашых ВНУ і тэхнікумах.

На актыўную дапамогу кіраўніку і арганізатару пэдагагічнага працэсу, яго цэнтральнай фігуры—выкладчыку.

За хутчэйшую рэалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б) аб школе і ЦВК СССР аб ВНУ і тэхнікумах,—школе, як адным з важнейшых прыладзьдзяў пабудаваньня бясклясавага сацыялістычна грамадзтва.

Мік. Аляхновіч

# Максім Горкі.

(*40 год літаратурна-грамадзкай дзейнасьці*)

Буйнейшы сучасны пісьменьнік СССР—М. Горкі па праву зьяўляецца адным з выдатнейшых сусьветных пісьменьнікаў.

Пісьменьнік-рэвалюцыянэр, вялікі майстар мастацкага слова, чалавек вялікай волі і ўпартай працы, барацьбіт за сапраўдную культуру—культуру пралетарыяту—Максім Горкі прайшоў цяжкі і цярністы жыцьцёвы шлях.

Ва ўмовах азіяцкай загніваючай манархіі, у адтуленьні застойнага чыноўнага ладу, згубіўшай свае фэўдальныя інтарэсы буржуазіі, нэўрастэнічна бязвольнай інтэлігэнцыі, шматмільённых мас сялянства—толькі пачынала абуджацца, толькі пачынала усьведамляць крыніцы сваіх пакут і вялікія задачы свайго вызваленьня рабочая кляса.

У гэтай краіне 14 сакавіка (ст. стылю) 1868 г. ў Ніжнім-Ноўгарадзе ў сям'і рамесьніка нарадзіўся Аляксей Максімавіч Пяшкоў.

Бацька пісьменьніка быў па рамяству драпіроўшчыкам і абойшчыкам. Аб сваіх дзіцячых гадох А. М. так расказвае ў аўтабіяграфіі:

„Маці мая на маё жыцьцё ніякага ўплыву ня мела, бо, лічачы мяне прычынай сьмерці бацькі (на 4-м годзе жыцьця ў Астрахані А. М. захварэў на халеру, ад яго заразіўся яго бацька і памёр—М. А.) ня любіла мяне і ў хуткім часе, выйшаўшы замуж другі раз, ўжо зусім аддала мяне на рукі дзеду, які і пачаў маё выхаваньне з псалтыра ды часаслова. Потым сямі год мяне аддалі ў школу, дзе я вучыўся пяць месяцаў... У гэты час маці мая памерла ад сухотаў, дзед-жа разарыўся“.

І вось „пачалося і пацякло з страшнай быстрынёй густое, пярэстае, нявыразнадзіўнае жыцьцё. Яно ўспамінаецца мне як суровая казка, добра расказаная добрым, але балюча-праўдзівым гэніем. Цяпер, ажыўляючы мінулае, я сам часам з цяжкасьцю веру, што ўсё было менавіта так, як было, і шмат аб чым хочацца спрачацца, адкінуць — надзвычай збытна жорсткасьцю цёмнае жыцьцё „неразумнага племя“. Так кажа ў адным з сваіх мастацкіх твораў („Дзяцінства“) аб раньні свайго жыцьця Максім Горкі.

Ужо адна вонкавая канва жыцьця, якая дадзена ў кароткай аўтабіяграфічнай нататцы, досыць выразна паказвае, якi складаны шлях прайшоў пісьменьнік.

„Васьмі год мяне аддалі „у хлопчыкі“ у магазын абутку, але месяцы праз два я ашпарыў сабе рукі гарачай капустай і быў адасланы зноў да дзеда. Па выздараўленьні мяне аддалі ў вучні да рысаўніка, дальняга родзіча, але праз год з-за надзвычайна цяжкіх умоў жыцьця я ўцёк ад яго і паступіў на параход у вучні да кухара. Гэта быў гвардыі адстаўны унтэр-афіцэр Міхал Іванавіч Смуры, чалавек казачнай фізычнай сілы, грубы, надзвычайна начытаны, ён абудзіў ў мяне цікавасьць да чытаньня кніжак“...

У сваёй аўтабіяграфіі Горкі дае толькі асноўныя тычкі свайго жыцьця. Па насычанасьці зьместам сьціслага і сухога паказу адчуваецца, якую суровую школу прайшоў пісьменьнік, які запас фактаў і нагляданьняў дала яму гэта жыцьцёвая школа.

Уражаньні дзяцінства і юнацтва, з вялікімі мастацкімі здольнасьцямі, паказаныя Горкім ў яго аўтабіяграфічных творах „Дзяцінства“ і „У людзях“, і даюць нам ў зародку тое, чым, галоўным чынам, жыла, да чаго была прыкавана яго творчая ўвага.

12 верасьня (ст стылю) 1892 г. у №242 тыфліскай газэты „Кавказ“ зьяўляецца першае апавяданьне М. Горкага „Макар Чудра“.

Усьлед за першым мастацкім творам пісьменьнік, поруч з працай у правінцыяльным друку, працягвае друкаваць свае новыя мастацкія творы. З 1889 г.

ён становіцца бліжэйшым супрацоўнікам марксыцкае часопісі „Жизнь".

За актыўны удзел ў рэвалюцыйным руху ён быў арыштаваны і высланы у Ніжні-Ноўгарад бяз права жыць у сталіцах.

У 1902 годзе М. Горкі абіраецца ганаровым акадэмікам па разраду „изящной словесности"; па загаду Мікалая II выбары былі ануляваны з прычыны палітычнай неблаганадзейнасьці. У 1905 годзе М. Горкі пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасьць, што выклікала пратэст шэрагу буйных заходня-эўрапейскіх пісьменьнікаў. Выпушчаны на волю ў 1906 годзе, эмігруе за межы. Пасьля вандраваньня па Эўропе і Амэрыцы ён пасяляецца ў Італіі на выспе Капры. Горкі субсыдуе нелегальную сацыял-дэмакратычную часопісь „Искра", удзельнічае ў заснаваньні легальнай бальшавіцкай газэты „Новая жизнь". У час Лёнданскага зьезду РСДРП (1907 г.) удзельнічае на ім з правам дарадчага голасу, блізка зыходзіцца, а потым перапісваецца з Леніным.

У перыяд рэакцыі (1907-1912 г.) Горкі ўдзельнічае ў стварэньні прапагандыскай школы на Капры, супрацоўнічае у газэце групы Багданава „Вперед", але потым (бліжэй да 1912 г.), падначальваючыся ўплыву Леніна, удзельнічае у бальшавіцкай „Звезде", дзе былі надрукаваны некаторыя з яго „казак", рэдагуе белетрыстычны аддзел бальшавіцкага органу „Просвещение".

У гады імпэрыялістычнай вайны Горкі становіцца на чале антымілітарыскага часопісу „Летопись", першы нумар якога вышаў у 1915 годзе.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі Горкі прымае актыўны ўдзел у культурна-грамадзкай рабоце. Па яго ініцыятыве ствараецца камісія па палепшаньні быту вучоных. Стоячы на чале выдавецтва „Всемирная Литература", Горкі шмат дапамог узьняцьцю культурнага ўзроўню працоўных мас шляхам выданьня шэрагу выдатнейшых твораў сусьветнай літаратуры.

Хвароба лёгкіх прымушае Горкага ў 1921 годзе выехаць за межы ў Італію.

Калі ў 1928 годзе Горкі прыехаў у СССР, яму савецкай пралетарскай грамадзкасьцю было зроблена ўрачыстае спатканьне. Яго юбілей быў ушанаваны спэцыяльнай граматай Савнаркому, яго імем назвалі літаратурнае аддзяленьне першага Маскоўскага унівэрсытэту, абралі ў члены Камуністычнай акадэміі і інш.

Канчаткова, зьвярнуўшыся ў СССР у 1929 годзе, Горкі прымае актыўны удзел у літаратурным і грамадзкім жыцьці Савецкага Саюзу. Апрача рэдагаваньня шэрагу часопісаў („Наши достижения", „Литературная учеба", „За рубежом" ды інш.), Горкі сваімі публіцыстычнымі творамі шмат дапамог правільнаму азнаямленьню працоўных капіталістычных краін з сапраўдным станам жыцьця ў СССР.

Горкі пільна сочыць за напружаным будаўніцтвам сацыялізму ў нашай краіне. Справа літаратуры для яго зьяўляецца справай клясавай барацьбы. І не выпадкова, што антысавецкая кампанія заходня-эўрапейскага друку з такой азьвярэлай дзікасьцю навалілася на яго, упартага змагара за Савецкі Саюз.

Выдатнейшаму сусьветнаму пісьменьніку Эўрапейская рэакцыя праз старонкі Лёнданскага „Таймсу" ды іншых рэптылій буржуазіі рассылае тыя самыя пагрозы, якія калісьці кідалі пачынаючаму Горкаму расійскае самаўладзтва і чорная сотня.

Яго наймацнейшыя выступленьні ў савецкім і міжнародным друку супроць задумаў інтэрвенцыі, супроць дапамагаючай ей змовамі і шкодніцтвам замежнай і ўнутраннай эміграцыі, супроць усяго і ўсіх, хто раскрадае цэглу з фундаманту сацыялізму, які будуецца ў нашай краіне, вызвалі ашалелую злосьць у паноў і капіталістаў.

Людзі, якія прыкрыліся голаснай назвай „Лігі абароны правоў чалавека", выступілі ў абарону шкоднікаў і інтэрвэнтаў, якіх справядліва пакараў пралетарскі суд.

Горкі сарваў гэтыя маскі з іх і голасна заявіў: „Я цалкам упэўнены, што ў ліку правоў чалавека няма права на злачынства, асабліва на злачынства супроць працоўнага народу... Я лічу гэтую кару сьмерцю цалкам законнай. Гэта—суд

народу, які, жывучы і працуючы ў цяжкіх умовах, адмаўляючы сабе ва ўсім і не шкадуючы сваіх сіл, мужна і пасьпяхова імкнецца стварыць працоўную дзяржаву, вольную ад драпежнікаў і паразытаў, а таксама і ад людзей, гуманізм якіх у існасьці служыць прыкрыцьцем драпежніцтву і паразытызму".

Зразумела, што гэтых выступленьняў, выступленьняў супроць паклёпаў на Савецкі Саюз у яго абарону, ня могуць прабачыць заходня-эўрапейскія „культурныя" мяшчане, якія, прыкрываючыся шыльдамі навукі, літаратуры, мастацтва, чалавекалюбства—гуманізму, вядуць шалёную падрыхтоўку да ўзброенага нападу на Савецкі Саюз.

Але поруч з гэтым Захадам ёсьць і іншы, які з надзеяй і верай глядзіць на чырвоны сьцяг, які сам рыхтуецца да таго, каб пад гэтым сьцягам ісьці да перамог. У яго вачох „Горкі абараняе расійскую рэвалюцыю таму, што яна ўладае над жыцьцём, будуе яго і ўзвышае". („Die Einheit").

Жыцьцёвы шлях Максіма Горкага шчыльна і непарыўна зьвязаны з агульным шляхам барацьбы рабочае клясы. Разам з пралетарыятам Максім Горкі праходзіць усе этапы вызваленчага руху, пачынаючы з першых рабочых гурткоў і канчаючы нашымі днямі разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва. Горкі пачынае пісаць у эпоху бурнага разьвіцьця капіталізму ў сялянскай краіне ў той час, калі прамысловы капіталізм, руйнуючы дробную вытворчасьць і адсталыя грамадзкія адносіны, хутка зрушыў расійскую прамысловасьць далёка ўперад.

У сваім першым апавяданьні „Макар Чудра" (1892 г.) Горкі пяе славу моцным храбрым гэроям, якія цьвёрда ведаюць, што жыцьцё свае яны аддаюць за справу рэвалюцыі, справу свабоды.

Фармуючыся, як пісьменьнік, пад уплывам пралетарыяту, які набліжаўся да рэвалюцыі 1905 году, Горкі выяўляў яго ідэалёгію. Пралетарыят, супроцьстаўляючы сябе капіталізму, пратэставаў і змагаўся супроць існуючых грамадзкіх парадкаў і няўхільна ішоў да рэвалюцыі 1905 году. Горкі адчуваў нарастаньне грамадзкага пульсу, нарастаньне барацьбы, і адлюстроўваў гэта ў мастацкіх вобразах. Гэта выявілася ў форме рамантычнага паказу моцных асоб, якія парвалі з традыцыямі сацыяльнай і грамадзкай коснасьці высунуўшай іх сацыяльнай групы.

Паказваючы сваіх гэрояў ранейшага пэрыяду—басякоў, Горкі імкнуўся замацаваць у чытача веру ў самую магчымасьць адыйсьці ад улады рэчаў, ад мяшчанскіх путаў, якія зьвязваюць волю чалавека.

Калі Чалкаш кідае грошы мужыку Гаўрылу, грошы, якія дабыты з такімі цяжкасьцямі, і калі ён потым глядзіць на яго твар, то адчувае, што ён—злодзей, гуляка, адарваны ад усяго роднага—ніколі ня будзе такім сквапным, нізкім, непамятаючым сябе... І гэтая думка і пачуцьцё поўнілі яго сьвядомасьцю сваёй свабоды.

Так паказваючы сваіх гэрояў: Канавалава, Мальву, Арцёма, старую Ізэргіль, Максім Горкі праз іх імкнуўся выявіць свае думкі. Няўжо ня сам Максім Горкі вуснамі старое Ізэргіль кажа людзям, якія, каб апраўдаць сваю разгубленасьць, спасылаліся на атуляючыя іх умовы жыцьця: „Калі чалавек любіць вялікія ўчынкі, ён заўжды зломее іх зрабіць і знойдзе, дзе гэта можна. У жыцьці, ці ведаеш ты, заўжды ёсьць месца вялікім учынкам. І тыя, якія не знаходзяць іх для сябе,—тыя проста гультаі, ці проста палахлівыя, ці-ж не разумеюць жыцьця, таму што, калі-б людзі разумелі жыцьцё, кожны захацеў-бы заставіць пасьля сябе цень у ім. І тады жыцьцё ня жэрла-б людзей бясьсьледна".

Гэтым заклікам да дзейнасьці, да актыўнага перайначваньня існуючага ладу насычаны амаль усе творы гэтага часу.

Старая марксыцкая крытыка, у асобе В. Вароўскага, дала ўжо досыць даўно акрэсьленае разуменьне творчасьці Горкага на гэтым кругабезе:

„Публіка ўбачыла ў апавяданьнях Горкага ідэалізацыю не самой гэтай гордай свабодалюбівай сілы, а носьбітаў яе—басякоў. Чытачу не па плячы былі

гэтыя магутныя перажываньні самі па сабе, ён мог успрыняць іх толькі як чужыя перажываньні, якія аслаблены адлегласьцю, інакш кажучы, браць іх разам з мяркуемымі носьбітамі іх. У выніку нястрымны культ басякоў. Паміж тым, такая ацэнка М. Горкага, як ідэалізатара басяцкага пралетарыяту, глыбока памылкова... Асноўны настрой яго быў яркім сьцягам насьпяваўшай рэвалюцыі"...

Горкі, зразумела, браў не бытавых басякоў. Ён іх браў толькі як найбольш здатную форму для выяўленьня тых ідэй, якімі была прасякнута яго творчасьць.

Цэнтральным момантам другога пэрыяду творчасьці Горкага зьяўлялася выкрыцьцё „акураўшчыны", мяшчанскай коснасьці і супроцьстаўленьне ёй моцных асоб, якія вылучаюцца з агульнага ўзроўню. Не як паэта прыгожых выдумаў, а як суровы рэалісты, глядзіць ён бяз боязнасьці проста ў вочы жорсткаму твару жыцьця. „Гарадок Акураў" зьяўляецца ў гэтых адносінах адным з выдатных твораў Максіма Горкага. „Акураўская Расія" Горкага зьяўляецца як-бы працягам „Расьцераеўскай Расіі" Глеба Усьпенскага з тэй істотнай розьніцай, што акураўцы Горкага ўжо ня могуць выйсьці з таго стану разумовага бушаваньня, у якім знаходзіцца ўся краіна ў гады нарастаючага рэвалюцыйнага перавароту.

Гэтых шукаючых сэнсу жыцьця людзей, якія выходзяць з нетраў акураўшчыны, якія імкнуцца перамагчы і перамагаюць яе, пісьменьнік адбівае ў шэрагу твораў.

Такім зьяўляецца пекар Шатуноў у аповесьці „Гаспадар," зьвязаны з вёскай рабочы Леўшын у п'есе „Ворагі", Сіма Дзевушкін у аповесьці „Гарадок Акураў", Мардоўка ў апавяданьні пад гэткай-жа назвай, ды і цэлая галерэя, якая праходзіць перад чытачом пры чытаньні яго аўтабіяграфічных твораў „Дзяцінства", „У людзях", „Мае ўнівэрсытэты" і інш.

І вялікая заслуга Максіма Горкага, як пісьменьніка, ў тым, што ў сваіх творах ён паказаў нам гэты павольны працэс перараджэньня акураўскай краіны ў эпоху напярэдадні рашучых бояк з царскім самаўладзтвам і ўсімі прыгнятальнікамі.

Горкі выступаў на першым кругабезе сваёй творчасьці ў імя свабоднай, моцнай і сьмелай індывідуальнасьці, якая выступае на бой супроць цемры і мяшчанства, супроць косных сіл існуючага дзяржаўнага ладу.

Гэты рэвалюцыйны настрой у Горкага, яго мэтанакіраванасьць з цягам часу пераходзіць на больш шырокі сацыяльны шлях, які намячаецца яшчэ ў п'есе „На дне" (1902 г.) і дасягае свайго вышэйшага разьвіцьця ў аповесьці „Маці" (1907 г..) У аповесьці маецца пэўная ўзьнятасьць, маці рабочага ідэалізавана, але вартасьць твору ў тым, што Горкі даў у ім шырока разгорнутае рэвалюцыйнае палатно, зрабіў пралетарыят сваім гэроем.

Зьявіўшыся ў момант прыліву палітычнай і грамадзкай рэакцыі, калі ў літаратуры непадзельна панавалі ўпадніцкія настроі,—аповесьць Горкага, накіраваная да вытокаў сацыяльнага быцьця, прасякнутая верай у калектыў, набыла буйнае грамадзкае значэньне, як сапраўднае сьвядотцтва і знак нявычарпальнасьці сілы пралетарыяту, якая ўжо здавалася пахаванай магільшчыкамі рэвалюцыі.

Першыя гады пасьля Кастрычнікаўскай творчасьці Горкага запоўнены аўтабіяграфічнымі ўспамінамі. Але яго ўспаміны, не падобны на тыя ўспаміны, клясычным узорам якіх зьяўляюцца „Споведзь" Руссо і „Поэзія і праўда" Гётэ". Калі іх і яднае імкненьне акрэсьліць увесь шлях унутранага разьвіцьця мастака, то і ў Гётэ і ў Руссо, пры ўсёй рознасьці іх падыходу, у асяродку сам аўтар, яго асоба, яго жыцьцё. У Горкага ня так. Асоба пісьменьніка адыходзіць на другі плян, а галоўнае месца займаюць характэрныя фігуры тых шматлікіх, рознастайных, сваяасаблівых людзей, з якімі пісьменьніку прыходзілася сутыкацца.

За апошнія гады Горкі даў дзьве буйных рэчы „Справа Артамонавых" (1925 г.) і „Жыцьцё Кліма Самгіна" (1927 г.).

У іх намячаецца лінія далейшага творчага разьвіцьця пісьменьніка, яшчэ больш глыбокага і шырокага ўскрыцьця конфліктаў і сутычак жыцьця, якія зьяўляюцца вынікам нясупыннага руху і якія ёсьць толькі форма адзінства розных частак сусьвету, руху, які ўзьнікае ў сілу дыялектычнага разьвіцьця кожнай дадзенасьці. Гэтыя рэчы, праўда, дадзены не на матар'яле сучаснасьці. У „Справе Артамонавых" ён даводзіць сваіх герояў да рэвалюцыі, а ў „Кліме Самгіне" ідзе яшчэ далей у глыбіню эпохі, у 80-ыя гады.

Тое адмаўленьне акураўшчыны, якое мы мелі ў ранейшых творах Горкага, якое ішло яшчэ ад „Фамы Гардзеева" (1899 г.) і „Мяшчан" (1900 г.), знайшло сваё завяршэньне ў апошніх кнігах.

„Справа Артамонавых" асноўнай сваей ідэяй мае сьцьвярджэньне нязьбежнасьці гібелі старых гаспадароў і як-бы сьведчыць аб нямінучасьці надыходу рэвалюцыі, якая зруйнуе стары лад.

Значэньне „Кліма Самгіна" ў тым, што тут Горкі, як-бы пераацэньвае гістарычную ролю і грамадзкае значэньне інтэлігенцыі, з аднаго боку, і выдатнейшых індывідуумоў дзівакоў, анархічнаму бунту якіх была прысьвячана значная частка творчасьці яго першага пэрыяду, з другога.

Гэтыя дзьве сілы ім у гэтым творы пэраацэньваюцца.

Характэрны для Горкага вобраз чалавека, які адмаўляе цемру жыцьця і спрабуе знайсьці выхад, знаходзіць месца і ў Кліма Самгіна. Ён не задаволены жыцьцём, але ўдзельнічае ў ім, плывучы па плыні. Ён скэптык, які разрываецца супярэчнасьцямі паміж сваім асуджэньнем жыцьця і поўнай няўпэўненасьцю ў сабе, сваіх мэтах, сваёй волі.

Цікава тое, што Клім, прадстаўнік інтэлігэнцыі, зрывае шаты з „дзівакоў", паказваючы іх без рамантычнага орэолю, а адзін з найбольш яркіх дзівакоў— Лютаў дапамагае выкрыць нікчэмнасьць самога Самгіна.

Гэта дыскрэдытацыя двух асноўных груп герояў Горкага, бязумоўна, высоўвае, у якасьці нязьбежнага выніку, у цэнтр увагі новыя грамадзкія групы і раней за ўсё пралетарыят.

Максім Горкі прынёс вялікую карысьць пралетарскай літаратуры, выхоўваючы кадры новых паэтаў і пісьменьнікаў, якія вышлі з шэрагаў пралетарыяту.

У артыкуле „Аб пісьменьніках-самавучках" ён успамінае, што за час 1906-1910 г. ім прачытана больш чатырохсот рукапісаў пачынаючых аўтараў. І ня толькі прачытана. Ён ім дапамог сваімі парадамі, сваім словам кваліфікаванага майстра-таварыша.

Ня толькі парады ці прадмовы да зборнікаў новых аўтараў, як гэта мела месца з кніжкай Марозава „Разрыв-трава" (1913 г), але і любоўнае зьбіраньне лепшых твораў новых пралетарскіх пісьменікаў, характэрызуе Горкага.

У 1914 годзе, пад яго рэдакцыяй выходзіць першы зборнік пралетарскіх пісьменікаў. Прадмова да гэтага зборніка яшчэ раз падкрэсьлівае блізасьць, непарыўную сувязь Максіма Горкага з рабочай клясай.

„Напісаная вашымі таварышамі гэтая кніжка—новая, назвычайна значная зьява вашага цяжкога жыцьця: яна красамоўна кажа аб росьце інтэлектуальных сіл пралетарыяту... вы разумееце таксама, што, апрача недахопу вольнага часу пісьменьніку рабочаму перашкаджае выкласьці свае ўражаньні ярка і дакладна, інакш кажучы мастацкі, яго малая здольнасьць карыстацца пяром, інструмантам пісьменьніка, перашкаджае незнаёмства з тэхнікай справы, а самай буйнай перашкодай зьяўляецца недахоп слоў, немагчымасьць выбраць з дзесятку іх самае простае, моцнае, прыгожае. Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, вы, мне думаецца, усё-ж такі можаце сказаць, ня крывячы душой, што гэты ваш зборнік цікавы; вам ёсьць чаму парадавацца і, хто ведае будучае, магчыма аб гэтай маленькай кніжцы з часам успомняць, як аб адным з першых крокаў расійскага пралетарыяту да ўтварэньня сваей мастацкай літаратуры".

Нішто з сьцьвярджэньняў Горкага ня згубіла вартасьці для сёнешняга дню.

Думка Горкага аб магчымасьці стварэньня пралетарскай літаратуры, вы-

сунутая яшчэ у той час, асабліва цікава зараз, калі мы ўспамінаем тую дыскусію адносна магчымасьці існаваньня пралетарскай літаратуры, якая мела месца яшчэ зусім нядаўна.

Мы бачым, што вера Горкага ў магчымасьць і неабходнасьць стварэньня пралетарскай літаратуры на сёнешні дзень ператварылася ў жыцьцё.

Шпаркі ўзрост пралетарскай літаратуры, замацаваньне яе пазыцый, ператварэньне яе ў асноўны атрад нашае савецкае літаратуры, вось што мы маем сёньня.

Горкі працуе рэдактарам часопісу „Литературная учеба", часопісу, які мае на мэце „навучыць пачынаючых пісьменьнікаў літаратурнай пісьменнасьці, рамяству пісьменьніка, тэхніцы справы, працы словам і над словам".

Горкі папераджае, што „справа нашых маладых літаратараў — цяжкая, складаная справа. Яна ня зводзіцца толькі да крытыкі старой рэчаіснасьці, да выяўленьня заразіцельнасьці яе заган. Іх задача—вывучаць, афармляць, адбіваць і, тым самым станавіць новую рэчаіснасьць... Яны павінны шукаць натхненьня і матар'ялаў у шырокім і бурным струменьні працы, які стварае новыя формы жыцьця, ім трэба жыць, як мага бліжэй да творчай волі нашае эпохі; воля гэта ажыцьцёўлена ў рабочай клясе".

Цьвёрдай і глыбокай верай у тое, што воля нашай эпохі зьдзейсьнена ў пралетарыяце, прасякнуты ўсе мастацкія і публіцыстычныя выступленьні пісьменьніка.

Імя Горкага шчыльна пераплецена з імем Леніна, а яго жыцьцё з жыцьцём нашай партыі.

Вось чаму з такой напружанай увагай уся савецкая пралетарская грамадзкасьць сочыць за яго выступленьнямі ў друку ў абарону нашае краіны.

Прыехаўшы ў СССР, Горкі датыкнуўся да савецкай зямлі, спаткаўшыся з савецкімі людзьмі, ён атрымаў наймацнейшую энэргетычную зарадку, ён адчуў сябе яшчэ больш маладым, чым ён быў, ня гледзячы на свае звыш шэсьцьдзесят год.

Вялікі запас энэргіі, які ён атрымоўвае ад нашага будаўніцтва і сацыялістычнага росту, Горкі зварачае ў энтузыязм нябачнай сілы, якім поўняцца яго артыкулы.

Ён умее цаніць нашы дасягненьні, цаніць работу мільённых мас працоўных, якія з нябачным энтузыязмам будуюць сацыялізм.

„Маладыя сілы Саюзу Саветаў умеюць цаніць работу, умеюць захапляцца ёю. А гэта значыць, што яны ўжо зразумелі, адчуваюць глыбейшае інтэрнацыянальнае значэньне тэй работы, да якой яны рыхтуюцца, і якую робяць". (Горкі).

Ленін высака цаніў Горкага. Ён ня толькі цаніў у ім вялікага рэвалюцыйнага пралетарскага пісьменьніка, крэўнага сына прыгнечаных сацыяльных нізоў, які дасягнуў вяршынь творчасьці. Ён любіў яго, як чалавека, як прыяцеля.

Вазьмеце лісты Леніна да Горкага, якія пісаліся ў 1913 годзе, калі абодва былі ў эміграцыі, а Горкі хварэў („Ленинский зборник", № 1). Колькі ў іх сяброўскай клапатлівасьці!

Але, ня гледзячы на гэтую сяброўскую клапатлівасьць, Ленін у тых-жа лістох па-сяброўску, але вельмі жорстка па сутнасьці, навальваецца на ідэалёгічныя ўхілы Горкага.

Суровы адпор з яго боку вызвала і блізасьць Горкага да „впередовцев", ліквідатараў зьлева ў палітыцы і супраціўнікаў матар'ялізму ў філёзофіі.

Але ўсё гэтыя палітычныя памылкі і ідэалёгічныя хістаньні Горкага не зачынялі перад Леніным самога Горкага вялікага мастака, „бязумоўна буйнейшага прадстаўніка пралетарскага мастацтва" (Ленін том. XI. „Нататкі публіцыста")

У Горкім, як мастаку, Ленін бачыў магутнага барацьбіта таварыша, які зброяй мастацкага слова змагаецца супроць тых-жа ворагаў, што і бальшавізм.

„Таварыш Горкі,—пісаў Ленін у адказ на паклёпы буржуазнага друку аб выключэньні Горкага з сацыял-дэмакратычнай партыі—моцна зьвязаў сябе сваімі мастацкімі творамі з рабочым рухам у Расіі і ўсім сьвеце".

Ленін, які не аддзяляў асабовых адносін ад палітычных, і рэзка парываў

з тымі таварышамі, з якімі ён разыходзіўся палітычна і ідэёва, крыху інакш адносіўся да Горкага.

Вось чаму ў самы разгар боек з „вперёдовцами" ў лісьце Леніна да Горкага вырываюцца такія радкі:

„Я бачу, дарагі Аляксей Максімавіч, што вам надзвычайна цяжка. Рабочы рух прышлося вам убачыць з такога боку, у такіх формах, якія ня раз ўжо прыводзілі інтэлігентных малавераў да адчаю ў рабочым руху. Я ўпэўнены, што з вамі гэтага ня здарыцца, і мне хочацца, моцна пацiснуць вашу руку".

І мы бачым, што гэтыя словы Леніна прарочаскі зьдзейсьніліся. Горкі пасьля ўсіх хістаньняў мужна і безагаворачна стаў пад сьцягі Кастрычніка.

Горкі наш. Цалкам наш.

У галасох рабочае клясы, якая захапляецца і вітае з 40-годзьдзем творчае работы свайго вялікага пісьменьніка, няма таноў і адценьняў палітычных разнагалосьсяў з ім.

„Сваім талентам мастака Вы прынесьлі рабочаму руху Расіі, ды не аднэй толькі Расіі, вялізную карысьць. І вы яшчэ прынясеце столькі-ж карысьці". (Ленін).

Гэтаму мы цьвёрда верым!

Левенчук

# Становішча антырэлігійнага фронту ў Дзяржынскім раёне і яго далейшыя задачы

Праведзены падкіраўніцтвам УсеКП(б) паварот на тэарытычным фронце ў бок набліжэньня тэорыі да сучасных задач сацыялістычнага будаўніцтва, прынёс вялікія зрухі і на антырэлігійным фронце. Перад антырэлігійным фронтам былі пастаўлены задачы поўнага ажыцьцяўленьня маркса-ленінскіх прынцыпаў барацьбы з рэлігіяй і рэлігійнасьцю, поўнагазасваеньня ленінскага этапу ваяўнічага атэізму. Ленін ў сваіх шматлікіх творах і выступленьнях неаднаразова падкрэсьліваў, што атэістычная прапаганда павінна быць цесна ўвязана і падначалена асноўнай мэце пралетарыяту—гэта зьнішчэньню эксплёататараў і ўмоў, якія параджаюць эксплёатацыю чалавека чалавекам. У артыкуле „Аб адносінах рабочае партыі да рэлігіі", Ленін пісаў: „Атэістычная прапаганда сацыялдэмакратыі павінна быць падначалена яе асноўнай задачы разьвіцьцю клясавай барацьбы эксплёатуемых супроць эксплёататара". І далей у тым-жа артыкуле Ленін пісаў: „Марксыст павінен быць матэрыялістам, г. зн. ворагам рэлігіі, але матэрыялістам дыялектыкам, г. з. ставячы справу барацьбы з рэлігіяй не абстрактна, не на глебу адцягненай чыста тэарытычнай заўсёды сабе роўнай пропаведзі, а канкрэтна, на глебу клясавай барацьбы, ідучай на справе і ўзгадоўваючай масы больш за ўсё і лепш за ўсё". Такім чынам Ленін вучыў, што барацьба з рэлігіяй павінна быць увязана і падначалена клясавай барацьбе пралетарыяту з тымі грамадзкімі адносінамі, якія параджаюць рэлігію; павінна быць увязана з барацьбой пралетарыяту, накіраванай на знішчэньне тых умоў, якія параджаюць эксплёататацыю чалавека чалавекам.

Аднак гэта ня значыць, што ленінізм адмаўляе культурна-асьветную дзейнасьць, адмаўляе значэньне правядзеньня антырэлігійнай агітацыі і прапаганды сярод працоўных мас. Культурна-асьветная дзейнасьць павінна адыграць вялікую ролю ў справе вызваленьня працоўных мас ад рэлігійнага дурману. Ленін ніколі ня быў супроць прыроднанавуковых, гістарычных і інш. асьветных тэм у атэістычнай прапагандзе. Ленін неаднаразова падкрэсьліваў неабходнасьць вывучэньня прац Дрэўса, які навукова даказваў, што ніякага хрыста ня было; падкрэсьліваў неабходнасьць вывучаць атэістычнае вучэньне французскіх матэрыялістаў XVIII стаг. і іншыя атэістычныя творы. Таму бязбожнік-

ленінец ня супроць культурна-асьветнай рэлігійнай прапаганды, але ён і ня зводзіць гэтай барацьбы з рэлігіяй выключна да гэтай прапаганды. Асьветніцкая атэістычная прапаганда тады будзе мець посьпех, калі яна будзе падначалена агульнай задачы пралетарыяту ў яго клясавай барацьбе супроць эксплёататараў, за зьнішчэньне сацыяльных умоў, параджаючых рэлігію. Барацьба з рэлігіяй будзе мець тады посьпех, калі яна цесна ўвязана з канкрэтнай практыкай клясавай барацьбы пралетарыяту.

Да гэтага ленінскага разуменьня ваяўнічага атэізму не ўзьняліся ні прааапартуністыя цьвёрдалобыя, якія ставяць стаўку на самацёк зьнікненьня рэлігіі альбо ў лепшым выпадку барацьбу з рэлігіяй зводзіць да голага прапаведваньня атэістычных ідэй, ні „лявацкія" галавацяпы, загібшчыкі, якія мысьляць пакончыць з рэлігіяй і рэлігійнасьцю адным голым адміністраваньнем—адміністрацыйным закрыцьцём рэлігійных ачагоў, прымусовым адміністраваньнем над веруючымі і. г. д. Як правы, так і „левы" ўхілы ў атэістычнай прапагандзе граюць на руку толькі клясаваму ворагу і дапамагаюць яму ўмацоўваць рэлігію і рэлігійнасьць сярод насельніцтва. Таму барацьба з гэтымі ўхіламі, якія мелі месца ў прыватнасьці і ў Дзяржынскім раёне, ёсьць першачарговая і неабходная ўмова ажыцьцяўленьня ленінскіх прынцыпаў барацьбы з рэлігіяй, ёсьць першачарговая ўмова барацьбы за ленініскі этап ваяўнічага атэізму.

Мінулае раённае кіраўніцтва Дзяржынскага раёну ў сваёй працы не ўзьнялося да ленінскага разуменьня ваяўнічага атэізму. У сваёй антырэлігійнай працы праводзіла права-апартуністычную стаўку на самацёк зьнікненьня рэлігіі, праводзіла моманты і голага „лявацкага" адміністраваньня. Таму ленінская атэістычная прапаганда і агітацыя ў раёне амаль зусім не праводзілася, і працы антырэлігійных арганізацый не адчувалася. Больш таго, тыя значныя зрухі, якія зьвязаны з шырокім разгортваньнем сацыялістычнага будаўніцтва ў раёне ў бок атэізаваньня шырокіх працоўных мас, антырэлігійнымі арганізацыямі гэтыя дасягненьні не замацаваны і рэлігійныя арганізацыі працягваюць сваю шкодную, падрыўную працу, працягваюць барацьбу за рэлігійны ўплыў на працоўныя масы.

Гэтая ўзмоцненая праца рэлігійных арганізацый у раёне праводзіцца ў той час, калі Дзяржынскі раён зусім зьмяніў сацыяльна-эканамічны твар. Сапраўды, праведзеная ў Дзяржынскім раёне, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, суцэльная калектывізацыя і праводзімая зараз культурная рэвалюцыя зусім зьмянілі сацыяльна-эканамічны твар раёну. Дзяржынскі раён, у мінулым пасялкова-хутарскага тыпу, дзякуючы праведзенай Сталыпінскай, а затым Прышчэпаўскай палітыцы, меў буйны рост кулацка-заможных „гаспадарак. Зараз раён ператварыўся ў раён буйных калгасаў, саўгасаў і камун. Дзяржыншчына, меўшая 80 проц. няпісьменнасьці, меўшая нават яшчэ ў 1926 г. 46 проц. няпісьменных, зараз ў 1932 г., у асноўным стала раёнам суцэльнай пісьменнасьці. Да гэтага яшчэ неабходна дадаць і той момант, што Дзяржынскі раён пры царызьме ня меў аніводнай сярэдняй школы, аніводнай хаты чытальні, аніводнага кіно, бібліятэкі, зараз мае 83 чатырохгадовыя школы, 7 сямігодак, 2 вячэрнія школы павышанага тыпу і рабочы факультэт, 109 лікпунктаў, 8 бібліятэк, 17 дамоў сацыялістычнай культуры, 3 нардамы, 5 кінопірасовак, 1 гукавое кіно, 34 ленінскія чырвоныя куткі, 54 дзіцясьляў і г. д.

У выніку тых сацыяльна-эканамічных зрухаў,якія адбыліся ў раёне, маецца значнае зьніжэньне рэлігійнасьці сярод калгасных, бядняцкіх і серадняцкіх мас, у параўнаньні з гадамі да калектывізацыі, асабліва ў параўнаньні з гадамі да рэвалюцыі. Мы на гэтым пытаньні ня будзем затрымлівацца ва ўсёй яго паўнаце, гэта зусім іншая галіна дасьледваньня. Тут толькі зараз укажам, што сярод нават наведваючых маліцьвеныя дамы ёсьць група, якая хістаецца між рэлігіяй і бязбожжам, а ходзіць у царкву ці касьцёл па традыцыях, таму што не знаходзіць іншага адпачынку ў выхадныя дні.

У выніку гэтай акалічнасьці паўстае пытаньне, чаму-ж пры вялікім культурным росьце раёну, пры значным упадку рэлігійнасьці сярод насельніцтва рэлігійныя арганізацыі і рэлігійнікі вельмі

разгарнулі сваю працу. Рэлігійная арганізацыйная сетка да апошняга часу ў некаторай ступені нават ішла на павялічэньне. Чаму, іменна, на сёньняшні дзень у раёне маецца 8 дзейнічаючых праваслаўных ачагоў, 2 каталіцкія ачагі з цэлай сеткай першапачатковых рэлігійных аб'яднаньняў, 2 актыўныя баптысцкія сэкты і сінагогальнае аб'яднаньне. Чаму, іменна, уся гэта грамоздзкая рэлігійная махіна ў пэрыяд суцэльнай калектывізацыі раёну, у пэрыяд суцэльнай пісьменнасьці ўзмацняе сваю дзейнасьць і працягвае праводзіць сваю шкодную працу. Асноўнай і галоўнай прычынай, якая выклікала ажыўленьне на рэлігійным фронце, зьявілася шырокае разгорнутае наступленьне сацыялізму на капіталістычныя элемэнты на ўсім фронце. Як вынік гэтага сацыялістычнага наступленьня, маецца жорсткае супраціўленьне клясавага ворага, які на барацьбу супроць наступаючага сацыялізму падняў усё, у прыватнасьці і рэлігію. Вось чаму, мы маем ажыўленьне рэлігійных арганізацый раёну, вось чаму мы назіраем нават некаторы рост гэтых арганізацый.

Далей, другі момант, які, дапамагаў росту рэлігійных арганізацый, які неабходна тут адзначыць,—гэта тое, што ў раёне да 1931 г. ўключна, з боку адказных працаўнікоў была простая недаацэнка барацьбы з рэлігіяй, была недаацэнка шкоднасьці рэлігійных арганізацый. Раённыя арганізацыі ня ведалі, якая колькасьць рэлігійных арганізацый знаходзіліся на тэрыторыі раёну і якую працу гэтыя арганізацыі праводзяць. Што яшчэ горшае—гэта ўстанавіўся быў погляд у раёне, што рэлігійнае пытаньне ўжо ўстарэла, а рэлігія з яе арганізацыямі, ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі, ня страшна. Як вынік гэтай недаацэнкі мелася тое становішча, што раённы саюз ваяўнічых бязбожнікаў зусім не працаваў, і працай гэтага саюзу ў раёне ніхто ня цікавіўся.

Зараз з боку раённых арганізацый прыняты крокі да арганізацыі працы РайСВБ, але яшчэ і да сёньняшняга дню далей арганізацыі СВБ і вылучаныя для гэтай працы адпаведнага таварыша, справа наперад не пасунулася.

Затым важным момантам, які садзейнічаў актывізацыі працы рэлігійных арганізацый і рэлігійнікаў, трэба лічыць слабую пастаноўку нашай культурнамасавай працы ў раёне.

Ня гледзячы на тое, што па колькасьці мы маем ўсё-ж такі значную культурна-асьветную сетку ў раёне, аднак па сваёй працы гэтая сетка ў раёне зусім недастаткова. Так з 17 маючыхся дамоў сацыялістычнай культуры ўкамплектавана толькі (у гэту лічбу не ўваходзяць 3 нардамы), але і гэтыя, укамплектаваныя, здавальняючай працы яшчэ не разгарнулі. Астатнія дамы сацыялістычнай культуры за адсутнасьцю адпаведных кадраў зусім зачынены.

У выніку ўсяго гэтага, мы маем такое становішча, што рэлігійныя арганізацыі разгарнулі сваю шкодную працу, дзе ў значнай ступені ім удаецца атрымаць становічыя у сваю карысьць вынікі і ўтрымліваць пад уплывам рэлігійнага дурману яшчэ значную частку насельніцтва. Таму, барацьба з рэлігіяй і рэлігійнымі арганізацыямі ў нацыянальным раёне набывае асабліва важнае значэньне. Барацьба з рэлігіяй павінна заняць важнейшае месца ў працы ўсіх раённых арганізацый. Барацьба з рэлігіяй павінна быць увязана з барацьбой партыі за пабудову сацыялізму. Асабліва пачэсную ролю ў гэтай барацьбе павінен займаць раённы саюз ваяўнічых бязбожнікаў, які на вялікі жаль, як ужо было адзначана, да сёньняшняга дня яшчэ бязьдзейнічае. Таму неабходна зараз-жа адпаведным раёнам і цэнтральным арганізацыям дабіцца таго, каб РайСВБ урэшце пачаў працаваць. Неабходна працу РайСВБ і ўсю атэістычную прапаганду ў раёне паставіць на вышыню сучасных задач сацыялістычнага будаўніцтва і культурнай рэвалюцыі. Трэба дабіцца таго, каб РайСВБ сапраўды стаў актыўным дапаможнікам партыі ў барацьбе з пашыраючымся рэлігійным дурманам, у барацьбе за сацыялізм.

Барацьба з рэлігіяй павінна весьціся па двух цесна увязаных паміж сабой напрамках. Першы і галоўнейшы напрамак—гэта барацьба за пасьпяховае зьнішчэньне сацыяльных карэньняў рэ-

лігіі, барацьба за зьнішчэньне рэштак капіталістычных клясаў у раёне і пабудову бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Тут неабходна нашым антырэлігійным арганізацыям дабіцца таго, каб бязбожнік быў у першых шэрагах будаўнікоў сацыялізму, быў першым застрэльшчыкам і арганізатарам ажыцьцяўленьня усіх правадзімых партыяй палітычных кампаній і мерапрыемстваў у раёне. Неабходна дабіцца таго, каб правадзімыя палітычныя кампаніі, мерапрыёмствы партыі ў раёне, не праходзілі міма ўвагі антырэлігійных арганізацый. Антырэлігійныя арганізацыі раёну сваю працу павінны цесна ўвязваць і падначальваць правадзімай генэральнай лініі партыі, мобілізуючы вакол усіх палітычных кампаній партыі шырокія працоўныя масы.

Другім, выцякаючым адсюль напрамкам барацьбы зьяўляецца барацьба за вызваленьне працоўных мас ад перажыткаў і спадчыны капіталізму, у прыватнасьці, за вызваленьне працоўных мас ад рэакцыйнага адурманьваньня рэлігіі. Тут неабходна падыйсьці да працоўных мас з самых рознастайных галін жыцьця, самымі рознастайнымі спосабамі. Паказаць працоўным масам на гістарычных фактах, чые інтарэсы ажыцьцяўляла рэлігія, паказаць усю контррэвалюцыйную барацьбу, якую вяла рэлігія і рэлігійныя арганізацыі супроць інтарэсаў прыгнечаных клясаў, у інтарэсах клясаў эксплёататарскіх; паказаць, якую барацьбу вяла рэлігія з дыктатурай пралетарыяту за інтарэсы буржуазіі. Неабходна знаёміць працоўныя масы на сучасных канкрэтных фактах сувязі рэлігіі з контррэвалюцыйнымі элемэнтамі і арганізацыямі, знаёміць з фактамі контррэвалюцыйнай барацьбы, якую вядуць рэлігійнікі і рэлігійныя арганізацыі супроць правадзімых партыяй палітычных кампаній і мерапрыемстваў у раёне, супроць наступаючага сацыялізму.

Урэшце, нашым антырэлігійным арганізацыям раёну, неабходна дабіцца таго, каб шырокім разгортваньнем клюбнай працы, працы сельскіх дамоў сацыялістычнай культуры, працы кіно-перасовак, школ і г. д. падцягнуць працоўныя масы ад шкоднага ўплыву рэлігійнага дурману, ад „елейнай“ фразеолёгіі контррэвалюцыйных кулацкіх падпявалаў. Сучасная пастаноўка палітыка-масавай выхаваўчай працы ў раёне мала адпавядае задачам сацыялістычнага будаўніцтва. Палітыка-масавая праца не пастаўлена на тую вышыню, на якую яе патрэбна ўзьняць у момант пераробкі вёскі на сацыялістычны лад; яна павінна быць тым важнейшым вагаром партыі, пры дапамозе якога, партыя змагла-б пасьпяхова выхоўваць масы ў новым сацыялістычным напрамку.

Праведзеная суцэльная калектывізацыя раёну і правадзімая культурная рэвалюцыя значна падарвалі ўстоі рэлігіі ў раёне. На базе суцэльнай калектывізацыі раёну праводзіцца ліквідацыя апошняй, моцнай апоры рэлігіі кулацтва, якое выкарыстоўвае яе як прыладу ў барацьбе супроць пралетарыяту. Таму праводзячы надалей, з усей рашучасьцю ліквідацыю кулацтва, як класы на базе суцэльнай калектывізацыі, праводзячы яшчэ больш рашуча культурную рэвалюцыю ў раёне, мабілізуючы вакол гэтага шырокія працоўныя масы, мабілізуючы іх на выкананьне ўсіх правадзімых мерапрыемстваў партыі, на выкананьне ўсіх тых задач, якія стаяць перад партыяй, гэтым самым дапаможам працоўным аслабаніцца ад таго рэлігійнага хламу, які яшчэ вісьне над працоўнымі масамі раёну.

# КУЛЬТУРНАЕ БУДАЎНІЦТВА БССР ДА 15 ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

**В. Рудніцкі**

## Культурнае будаўніцтва у БССР да 15-й гадавіны Кастрычніка

Пятнаццатую гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі рабочая кляса Савецкай Беларусі сустракае буйнейшымі перамогамі на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва.

Няўхільнае і цьвёрдае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі, рашучая і бязьлітасная барацьба, пад кіраўніцтвам партыі, з правым і „левым“ апартунізмам забясьпечылі ператварэньне нашай краіны ў індустрыйна-аграрную.

Пабудаваны Асінбуд, Гомсельмаш, Магвалакно і інш. гіганты прамысловасьці.

Шпаркім тэмпам рэканструіруецца на сацыялістычны лад сельская гаспадарка. Асноўная частка бядняцкасераднядкіх мас сялянства стала на шлях калектывізацыі.

Але, асабліва вялікіх посьпехаў дабілася рабочая кляса Савецкай Беларусі на культурным фронце.

Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

| Гады | Школьных кампляект. І-га канц. | Вучняў | Школ ІІ-га канц. | Вучняў | Дзіц. сады і пляцоўкі | Абслугоўваньне дзяцей |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1914/15 . | 4190 | 225750 | 122 | 25130 | — | — |
| 1932/33 . | 15803 | 695890 | 1600 | 189500 | 9127 | 294620 |

Ахоп дзяцей школьнага ўзросту ў 1914/15 г. г. складаў 43,9 проц., а зараз усе дзеці ахоплены навучаньнем. У дарэвалюцыйнай школе выкладаньне вялося выключна на расійскай мове. Зараз мы маем 232 яўрэйскія школы, 258 польскіх, 24 латыскія, 11 літоўскіх, 23 украінскія, 9 нямецкіх, 85 рускіх, эстонскія, чэскія і татарскія.

Выкладаньне вядзецца на роднай мове.

Беларусь да рэвалюцыі ня мела ніводнай ВНУ. У сучасны момант налічваецца 32 дзённых і 11 вячэрніх ВНУ і ВТНУ, з лікам студэнтаў у 15.132 чалавекі. ВНУ маюць нацыянальныя аддзяленьні; адчыняюцца самастойныя пэдагагічныя інстытуты—яўрэйскі і польскі. БССР мае 6 беларускіх ПэдВНУ. Шырока разгорнута сетка завочнага сярэдняга і вышэйшага навучаньня.

17.760 асоб рабочай і калгаснай моладзі навучаюцца ў 61 рабфаку. Мы маем, на сёньняшні дзень 37 пэдагагічных тэхнікумаў, якія рыхтуюць кадры настаўнікаў для школ 1-й ступені (у гэты лік уваходзяць 3 яўрэйскіх і 2 польскіх); налічваецца 6 дашкольных пэдтэхнікумаў. Гэтыя пэдагагічныя ўстановы рыхтуюць 9.500 пэдагогаў, у тэй, час, як да рэвалюцыі ў Беларусі была толькі адна настаўніцкая сэмінарыя. Індустрыяльных, сельска-гаспадарчых тэхнікумаў і тэхнікумаў розных спэцыяльнасьцяй у БССР-69 дзённых і 8 вячэрніх, у якіх навучаецца 10.937студэнтаў. У ФЗВ, саўгасвучах і калгасвучах навучаецца зараз 46.000 вучняў.

Шырока разгарнулася сетка палітыка-асьветных устаноў. Мы маем 1411 сельскіх і 81 раённых дамоў сацкультуры і 158 клюбаў. Вырасла сетка кіно і тэатраў: з 31 кіно і 4 тэатраў да рэвалюцыі, зараз у БССР налічваецца 404 стацыянарныя і 714 кіно-перасоўкі 16 тэатраў. У тым ліку яўрэйскі і польскі.

Значна пашырылася колькасьць выпускаемай беларускай літаратуры і падручнікаў. У гэтым годзе Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі выпускае 2738 на-

зваў розных кніг з тыражом у 18612 т. экз. Існуе яшчэ цэлы шэраг выдавецтваў пры ўстановах, а таксама выдавецтвы навукова - дасьледчых інстытутаў. Па сваёй прадукцыі гэтыя выдавецтвы займаюць амаль палову ўсёй выдаваемай літаратуры.

У той час, калі да рэвалюцыі ў межах БССР было толькі 30 проц. пісьменнага насельніцтва, зараз мы, у выніку работы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, маем 98 проц. пісьменнага насельніцтва ад 8 да 45 год, а на 1 студзеня—1933 г. пісьменнымі будуць усе 100 проц. гэтага ўзросту. Вячэрнія школы для дарослых ахапляюць 570000 асоб.

Бюджэт па народнай асьвеце да рэвалюцыі складаў 6,5 мільёнаў рублёў. Цяпер—124,7 мільёнаў рублёў толькі па каштарысе Наркамасьветы. (Сюды не ўваходзяць сродкі, якія трацяцца гаспадарчымі і грамадзкімі арганізацыямі).

Дзіцячая бяспрытульнасьць па БССР ліквідавана. Мы маем 72 дзіцячых дамы з ахопам 5600 дзяцей.

Пачатковая школа ў Беларусі да Кастрычніцкай рэвалюцыі была выключна тыпу царкоўна-прыходзкай школы, яна па сутнасьці зьяўлялася школай граматы, а не пачатковай 4 гадовай школай і служыла, галоўным чынам, „для укоранения истинно-руского начала“.

Нязначная сетка школ ў Беларусі да рэвалюцыі і, да таго яшчэ, кароткі тэрмін навучаньня (1—1$^1/_2$ гады), навучаньне у іх выключна на расійскай мове, ня зусім зразумелай для большасьці карэннага насельніцтва, асабліва для сялян—прыводзіла да хуткага рэцыдыву няпісьменнасьці і тых, якія навучаліся ў школе. У выніку мы атрымалі ад царскай улады вельмі цяжкую спадчыну, а менавіта: 60—70 проц. няпісьменных ва ўзросьце да 45 год і 80 проц. усяго няпісьменнага насельніцтва.

Пасьля Кастрычніка, аж да 1920 г. мы мелі ў Беларусі спачатку нямецкую потым польскую, акупацыі. Беларусь была арэнаю спачатку імпэрыялістычнай вайны, потым барацьбы з белапалякамі.

Усё гэта, разам узятае, прывяло да поўнага эканамічнага і культурнага разбурэньня і заняпаду. Вялікая напружанасьць сіл патрабавалася з боку працоўных БССР, каб пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, на аснове правільнага правядзеньня Ленінскай нацыянальнай палітыкі, пры вялікай дапамозе братэрскіх саюзных рэспублік, атрымаць тыя вялізарныя дасягненьні ў галіне гаспадарчага і культурна-сацыялістычнага будаўніцтва, што мы маем у Савецкай Беларусі зараз.

Гэтыя дасягненьні, як у якасных, так і ў колькасных адносінах настолькі аграмадны, што вельмі цяжка параўнаць сучаснае становішча Беларусі з тым, што характарызавала яе ў царскія часы.

У галіне аўладаньня вучнямі нашай савецкай палітэхнічнай школы ведамі па гісторыі разьвіцьця грамады, аўладаньня асновамі навук, зроблена столькі, што ні ў якое параўненьнеса старой схалястычнай школай нашу школу ставіць нельга.

Калі ў мінулым, школа была моцнай зброяй уціску працоўных ў руках буржуазіі і памешчыкаў, то наша савецкая школа выхоўвае дысцыплінаваных сьвядомых барацьбітоў за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю.

Будаўніцтва палітэхнічнай школы праходзіла ў абставінах жорсткай клясавай барацьбы, як з правым апартунізмам у пытаньнях школьнага будаўніцтва, што цягнуў школу назад да старой схалястычнай школы і „левым“ апартунізмам з яго ўстаноўкай на адмаўленьне ролі настаўніка, на так званы „мэтад праектаў“ і на фактычнае разбурэньне—„адміраньне школы“.

Ва ўмовах БССР, пры наяўнасьці вельмі складанага нацыянальнага пераплёту, партыя і савецкая ўлада вяла і вядзе ў галіне будаўніцтва палітэхнічнай школы жорсткую барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і выкрытым, але яшчэ да канца не дабітым беларускім контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам і шавінізмамі розных колераў і масьцей, якія яшчэ і зараз ў асобных выпадках імкнуцца правесьці свой уплыў на школу.

Некалькі слоў аб 2-й культурнай пяцігодцы.

У адпаведнасьці з асноўнымі задачамі поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народ-

нае гаспадаркі, ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей і пертварэньня ўсіх працоўных у сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавае сацыялістычнае грамады, а таксама ў мэтах далейшага, яшчэ больш паскоранага зьнішчэньня розьніцы ў культурным узроўні паміж горадам і вёскай, у 2-й пяцігодцы прадугледжваюцца такія тэмпы і такое атрыманьне якасьці і ўзроўню культурнай работы, якія забяспечваюць вырашэньне найважнейшых задач культурнай рэвалюцыі.

Асноўнай задачай другой пяцігодкі ў галіне школьнага будаўніцтва зьяўляецца завяршэньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня ў аб'ёме сямігодкі і ажыцьцяўленьне 10 гадовага навучаньня. Другая пяцігодка прадугледжвае вялікае разьвіцьцё паскораных форм навучаньня для падлеткаў і перарасткаў, якія не прайшлі курсу сямігодкі.

Галоўнай задачай ў справе палепшаньня якасьці школьнай работы зьяўляецца ажыцьцяўленьне асноўных задач палітэхнізацыі ў адпаведнасьці з рашэньнямі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе. Праектуецца вялікае пашырэньне фондаў палітэхнічнага абсталяваньня школьных лябараторый, майстэрняў, рабочых пакояў. Асаблівая ўвага звярачваецца на абсталяваньне ўзорных школ. Пяцігодкай намечана разьвіцьцё сеткі ўзорных школ у сярэднім па 2-3 на раён. Прадугледжваецца вялізарнае будаўніцтва новых школьных будынкаў.

Задача далейшага сацыяльна-бытавога вызваленьня жанчыны, разьвіцьцё грамадзкага выхаваньня дзяцей выклікае неабходнасьць шырокага росту сеткі дашкольных устаноў. Другі пяцігадовы плян прадугледжвае забесьпячэньне шырокага ахопу дзяцей дашкольнага ўзросту ўсімі відамі дашкольных устаноў з тым, каб да канца другой пяцігодкі ажыцьцёвіць дашкольнае ўсеагульнае навучаньне.

Другая пяцігодка прадугледжвае значнае разьвіцьцё сеткі дзіцячых бібліятэк—дзіцячых чытальняў, кіно, тэатраў, тэхнічных сельскагаспадар. станцый, баз для спорту, фізкультуры і экскурсій, мастацкага выхаваньня, арганізавага вывазу ў летнія лягеры асноўнай масы школьнікаў важнейшых рабочых раёнаў.

Пры будаўніцтве клюбу для дарослых, а таксама раённых дамоў культуры прадугледжваецца спэцыяльнае памяшканьне для патрэб дзіцячага сэктару.

Ліквідацыя няпісьменнасьці ў асноўным закончана ў першай пяцігодцы. Другая пяцігодка высоўвае задачы поўнай ліквідацыі малапісьменнасьці дарослага насельніцтва, якое не прайшло курсу пачатковай школы ў вёсцы і сямігодкі—ў горадзе. Пашыраецца завочнае навучаньне. Прадугледжваецца шырокі рост клюбнага будаўніцтва ў калгасным сэктары з разьліку наяўнасьці да канца пяцігодкі ня менш аднаго дому культуры ў кожным раёне, нізавой клюбнай ячэйкі ў кожнай вёсцы за кошт стварэньня новых клюбных устаноў і рэарганізацыі хат-чытальнь. Прадугледжваецца будаўніцтва нацмен-клюбаў і чырвоных куткоў.

Пяцігодка прадугледжвае значнае пашырэньне бібліятэчнай сеткі, стварэньне буйных кнігасховаў, шырокае разьвіцьцё сеткі краязнаўчых музэяў.

У пляне другой пяцігодкі, акрамя арганізацыі тэатраў у новых буйна-прамысловых гарадох, прадугледжваецца стварэньне тэатральнай арганізацыі ў раёне з перасоўнымі формамі работы для абслугоўваньня нізавой сцэны клюбаў, дамоў сац. культуры і г. д. Ужо зараз у Менску пачынаецца аграмаднае будаўніцтва вялікага будынку дзяржаўнага тэатру на 2500 глядачоў.

Праэктуецца разгортваньне сеткі цыркавых і эстрадных прадпрыемстваў, асабліва па лініі перасовачных форм з устаноўкай на абслугоўваньне калгаснага сэктару, а для буйнейшых індустрыяльных цэнтраў на аснове будаўніцтва стацыянарных прадпрыемстваў. Прадугледжваецца ў пляне пяцігодкі мерапрыемствы па масавым музыкальным выхаваньні, шырокім разгортваньні работы і сеткі сымфанічных аркестраў для абслугоўваньня прамысловых гарадоў, а таксама па прасоўваньні канцэртаў у буйныя раёны, прадпрыемствы і калгасы.

Другая пяцігодка прадугледжвае завяршэньне ў асноўным суцэльнай кінофі-

кацыі БССР. Кіно-сетка будзе шырока скарыстана для арганізацыі тэхнічнай прапаганды, засваеньня тэхнікі і палітэхнічнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

У галіне радыёвяшчаньня мяркуецца катэгарычнае павышэньне тэмпаў масавай радыёфікацыі і радыёвяшчаньня, узмацненьне мясцовага і нізавога радыё-вяшчаньня, паляпшэньне якасьці ўсёй радыё-справы, узмацненьне яго палітычнага напрамку, усямернае скарыстаньне радыё ў мэтах аўладаньня тэхнікай, падрыхтоўкі кадраў, масавай культурна-палітычнай работы.

Падрыхтоўка кадраў зьяўляецца адным з асноўных зьвеньняў працэсу ператварэньня ўсіх працоўных у актыўных і сьвядомых будаўнікоў бясклясавае грамады. Цэнтральнае месца ў пляне кадраў на другую пяцігодку займае праблема тэхнічных кадраў. Важнейшай задачай зьяўляецца падрыхтоўка навукова-дасьледчых і навукова-пэдагагічных працаўнікоў.

Сыстэма падрыхтоўкі кадраў у другой пяцігодцы павінна разьвівацца ў напрамку:

а) ажыцьцяўленьня да канца пяцігодкі ўсеагульнага тэхнічнага навучаньня на аснове ахопу ўсімі формамі тэхнічнай вучобы і тэхнічнай прапаганды ўсёй масы працоўных.

б) Далейшага росту і рэканструкцыі асноўнай формы падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых з падлеткаў і школ тыпу ФЗВ, як прафэсыйнай палітэхнічнай школы, якая разьвіваецца адначасова з 3-м канцэнтрам агульнаадукацыйнай палітэхнічнай школы, як правіла на базе сямігодкі ў адпаведнасьці з патрэбамі асобных галін. У калгасным сэктары пашыраецца сетка школ калгасвучу (па тыпу ФЗВ і саўгасвучу) для падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў машыннай тэхнікі сацыялістычнага земляробства.

в) Разьвіцьця падрыхтоўкі кадраў спэцыялістаў праз значнае пашырэньне сеткі тэхнікумаў, ВНУ і ВТНУ.

Вось, каротка, тыя мерапрыемствы, якія намечаны па БССР у галіне далейшага культурнага разьвіцьця ў другой пяцігодцы.

Мы ўпэўнены, што на падставе вялізарнага росту творчай актыўнасьці і ініцыятывы шырокіх мас працоўных, на аснове ўсё больш разгортваючагася сацспаборніцтва і ўдарніцтва, далейшага разгортваньня пралетарскай крытыкі і самакрытыкі, на аснове правільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, цьвёрдага і няўхільнага ажыцьцяўленьня 6 умоў т. Сталіна, пры няўхільным выкананьні пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе—рабочая кляса, калгасна, і бядняцка-серадняцкае сялянства і ўсе працоўныя БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і з дапамогаю пралетарыяту брацкіх саюзных рэспублік ня толькі выканаюць, але і перавыканаюць заданьне другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бясклясавае сацыялістычнае грамады.

Хв. Сьцепанюк

# Масавая палітасьветная работа ў БССР за 15 год

## I. Палітасьветная работа за першыя гады Кастрычнікавай рэвалюцыі

Кастрычнікавая рэвалюцыя 1917 г. адчыніла вялізарныя магчымасьці для працоўных мас гораду і вёскі ў галіне масавай палітычнай асьветы, арганізацыі культурнай работы.

Зусім бясспрэчнымі зьяўляецца той факт, што да Кастрычнікавай рэвалюцыі працоўныя масы ня мелі, не маглі мець і больш таго, не маглі нават марыць пра палітычную асьвету, пра масавую культурную работу.

Царская ўлада, як улада капіталістых і памешчыкаў сваёй наёмнай арміяй,

паліцыяй, жандармэрыяй, цэнзурай і г.д. жорстка распраўлялася з усялякімі праявамі, спробамі передавых рабочых, асьветнікаў, студэнтаў, вучняў арганізаваць палітычную прапаганду, праводзіць культурную работу.

Палітычная асьвета: прапаганда, культурная работа, гурткі, сходы, масоўкі, лекцыі, агітацыя, брашуры і г. д. для рабочых і працоўных мас, да Кастрычнікавай рэвалюцыі была загнана ў глыбокае падпольле, якая арганізоўвалася і праводзілася палітычнымі партыямі, у першую чаргу і галоўным чынам Камуністычнай Партыяй бальшавікоў.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі на Беларусі ня было рабочых клюбаў, бібліятэк, музэяў, хат-чыталень — сучасных дамоў культуры і тэхнікі г. д.

Толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя, вызваліўшы працоўныя масы ад эканамічнага, палітычнага і нацыянальнага ўціску, адчыніла вялізарныя магчымасьці для матар'яльнага палітычнага і культурнага ўздыму працоўных мас, выяўленьня нясьсякаемага рэвалюцыйнага энтузыязму, вытворчай ініцыятывы і талентаў, якія закладзены ў самой рабочай клясе і ў шырокіх колах працоўных мас.

Пралетарская дзяржава ўзяла на сябе, пры непасрэднай і актыўнай дапамозе шырокай пралетарскай грамадзкасьці, прафсаюзаў, камсамолу, шэрагу таварыстваў,—арганізацыю і правядзеньне агульна - адукацыйнага, палітычнага і культурнага выхаваньня ўсіх працоўных мас, якія насяляюць Савецкі саюз.

У першыя гады Кастрычнікавай рэвалюцыі, ня гледзячы на вялізарныя цяжкасьці, якія стварыліся для нашай краіны (у сувязі з інтэрвэнцыяй міжнароднага капіталізму, паходам царскіх генэралаў Урангэля, Дзянікіна, Юдзеніча і інш.), савецкая ўлада разам з адчыненьнем школ праводзіць вялізарную палітычную, культасьветную работу.

Арганізуюцца для рабочых клюбы, для працоўнага сялянства хаты-чытальні, ствараюцца бібліятэкі, музэі і г. д. Пад культасьветныя ўстановы перадаюцца лепшыя будынкі.

У клюбах, чытальнях, бібліятэках разгортваецца шырокая масавая палітычная культасьветная работа. Арганізуюцца розныя гурткі, праводзяцца чыткі, гутаркі (галоўным чынам па газэтах і брашурах).

Для кіраўніцтва масавай культпалітасьветнай работай утвараюцца „галоўпалітасьветкомы“.

У 1918—20 гадох праводзіцца шэраг усерасійскіх зьездаў, канфэрэнцый палітасьветных працаўнікоў.

У БССР палітасьветная работа пачынае разгортвацца і прымаць шырокія рамкі ў 1919 годзе. У гэты пэрыяд разгарнулася шырокая сетка клюбаў, нардамоў і хат-чыталень. Па шэрагу паветаў (Мазырскім, Слуцкім, Бабруйскім) праводзяцца курсы палітасьветных працаўнікоў. Кіраўніцтва палітасьветнай работай у той час ажыцьцяўлялася Наркамасьветы Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Аднак праводзіць работу прышлося нядоўга. У жніўні м-цы 1919 г. белапалякі займаюць Менск і рад другіх гарадоў.

З наступленьнем Чырвонай арміі і вызваленьнем БССР ад белапалякаў (ліпень 1920 году) аднаўляецца палітасьветная работа.

У 1920 годзе па пастанове ЦК камуністычнай партыі і СНК РСФСР утвараюцца пры Наркамасьветы і ўсіх аддзелах народнае асьветы спэцыяльныя органы, галоўпалітасьветкомы і „чрэзвычайныя“ камісіі па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Неабходна адзначыць, што галоўпалітасьветкомы і „чрэзвычайныя“ камісіі па ліквідацыі няпісьменнасьці адыгралі вялізарную ролю ў галіне мабілізацыі і прыцягненьня да вырашэньня задач культурнай рэвалюцыі шырокіх колаў працоўных мас.

Ужо ў 1920-21 годзе сіламі і сродкамі пралетарскай грамадзкасьці арганізуецца нясеткавыя, г. зн. на сродкі самаго насельніцтва, каля 200 хат-чыталень, каля 1000 чырвоных куткоў, праводзіцца гуртковая работа, чыткі, гутаркі, даклады, лекцыі і інш. Асабліва шырока была разгорнута работа па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Па БССР, у далёкіх кутках вёсак арганізоўваліся лікпункты, лікпунктамі ў той час ахаплялася найбольш актыўная, передавая частка працоўнага насель-

ніцтва, якая ў спадчыну ад царскага ладу атрымала цемру, някультурнасьць і няпісьменнасьць.

Працоўныя масы з першых дзён Кастрычнікавай рэвалюцыі з вялікім жаданьнем імкнуліся да ведаў, да асьветы. І гэта зусім зразумела.

„Працоўныя імкнуцца да ведаў, таму што яны неабходны і для перамогі"—казаў У. І. Ленін у 1918 годзе на зьезьдзе асьветнікаў.

Адначасова з ростам народнае гаспадаркі з кожным годам узрастала сетка культ-палітасьветных устаноў.

Па маючыхся зьвестках, пачынаючы з 1924-25 годзе гэты рост выяўляецца ў наступных лічбах.

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|
| Нардамы | 82 | 95 | 97 | 97 |
| Хаты-чытальні | 256 | 273 | 307 | 307 |

Праз культасьветныя ўстановы праводзілася вялізарная палітвыхаваўчая, адукацыйная работа. У 1926-27 годзе было арганізавана каля 200 розных гурткоў, якімі ахоплена звыш 30.000 чал. Найбольш масавымі гурткамі зьяўляліся: сельска-гаспадарчыя, якіх налічвалася 477 з ахопам 8235 чал., палітычныя — 336 гурткоў з ахопам 6157 чал., антырэлігійныя—297 гурткоў з ахопам—2307 чал., драматычных—379 і іншых—470 гурткоў.

## II. Рост палітасьветных устаноў за першую пяцігодку

Пры вялізарным імкненьні працоўных мас да культуры ведаў паказаная сетка культасьветных устаноў была далёка недастатковай.

Такім чынам культпалітасьветнай работай ў той час ахаплялася далёка нязначная частка насельніцтва. Так, на адну культасьветную ўстанову ў сярэднім прыпадала 9-10 тысяч чал. працоўнага насельніцтва ў той час, калі хата-чытальня пры нармальнай працы ахапляла ў сярэднім 30—40 чал. у дзень.

Такое становішча патрабавала далейшага разгортваньня масавых паліт-іасьветных устаноў як у горадзе, так і на вёсцы. І мы бачым, як на працягу першай пяцігодкі тэмпы адчыненьня новых палітасьветных устаноў з году ў год узрастаюць. Аб гэтым яскрава сьведчаць наступныя лічбы росту дамоў культуры, хат-чытален:

| 1928/29 г. | 1929/30 г. | 1930/31 г. | 1931/32 г. | 1932/33 г. |
|---|---|---|---|---|
| 480 | 540 | 663 | 915 | 1415 |

Разам з ростам дзяржаўных, шырока разгарнулася сетка грамадзкіх культ-палітасьветных устаноў. Па прадпрыемствах, саўгасах, МТС і калгасах арганізуюцца клюбы, па цэхах, вытворчых вучастках, брыгадах арганізуюцца чырвоныя куткі, якіх налічваецца каля 10.000.

За апошнія гады ў БССР створана моцная навучальная база для падрыхтоўкі палітасьветных кадраў. На сёньняшні дзень мы маем вышэйшую навучальную ўстанову — Палітасьветны інстытут, тры палітасьветныя тэхнікумы.

У бліжэйшыя два-тры гады мы поўнасьцю ліквідуем той вялікі недахоп у кваліфікаваных палітасьветных кадрах, які адчуваем яшчэ сёньня.

Аднак, пры ўсіх непамерна-вялізарных нашых дасягненьнях на фронце масавай культпалітасьветнай работы, у гістарычны дзень — XV-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі мы павінны з усей бальшавіцкай уласьцівасьцю ўдарыць па ўсіх недахопах, асобных прарывах.

## III. Новыя ўмовы, новыя задачы

Новыя сацыяльна-эканамічныя зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне, прад'яўляюць вялізарныя запатрабаваньні да масавай, палітычнай, выхаваўчай і асьветнай работы.

Культпалітасьветныя ўстановы: клюбы, дамы-культуры, бібліятэкі, зьяўляюцца органамі дзяржаўнай прапаганды камунізму.

Праз культпалітасьветныя ўстановы партыя і савецкая ўлада арганізуюць культурную і палітычную актыўнасьць рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас, навакол правядзеньня гаспадарчых мерапрыемстваў.

Перад культпалітасьветнымі ўстановамі на вёсцы стаіць асноўная задача—мабі-

лізаваць палітычную і вытворчую актыўнасьць рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас на барацьбу за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас. Дамы культуры, клюбы, бібліятэкі, чырвоныя куткі павінны стаць масавымі, баявымі клясавымі органамі ўсяго грамадзка-палітычнага жыцьця на вёсцы, вядучых рашучую барацьбу з супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў, з выступленьнем кулака і яго агентуры.

Упартае змаганьне за „перадаленьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей,ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“. (з рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі), такава задача культпалітасьветных устаноў.

„Наша задача,—кажа У. І. Ленін,—зламаць усё супраціўленьне капіталістых, ня толькі вайсковае і палітычнае, але і ідэйнае, самае глыбокае і самае магутнае„. „Для працаўнікоў асьветы і для камуністычнай партыі, як авангарду ў барацьбе, павінна быць асноўнай задачай дапамагчы выхаваньню і адукацыі працоўных мас, каб перадалець старыя прывычкі, старыя навыкі, што засталіся нам у спадчыну ад старога ладу, навыкі і прывычкі прыватніцкія, якія наскрозь прасякаюць тоўшчу мас. Гэта асноўная задача ўсяго сацыялістычнага „пераварота“. (З прамовы У. І. Леніна на Ўсерасійскай нарадзе палітасьветаў у 1920 г.).

Задача палітычнага выхаваньня рабочых і калгасных мас непарыўна зьвязана з задачай тэхнічнага, вытворчага іх выхаваньня на аснове новых сацыялістычных форм арганізацыі вытворчасьці і працы, унядрэньня машыннай тэхнікі, шырокага ўжываньня хэмічных сродкаў, угнаеньня глебы і г. д.

Пералічаныя асноўныя задачы, пастаўленыя перад культпалітасьветнымі ўстановамі, патрабуюць асаблівай увагі, вялізарнай напружанай работы ня толькі органаў народнае асьветы, але абсалютна ўсіх партыйных, савецкіх, прафэсыйных, і камсамольскіх арганізацый. Неабходна правесьці рашучую барацьбу з палітычнай недаацэнкай масавай культпалітасьветнай работай, з ігнараваньнем яе (работы) асабліва ў час ударных кампаній: пасеўнай, уборачнай, падрыхтоўчай і г. д. Шэраг нізавых савецкіх і партыйных арганізацый, у так званую „гарачую пару“, адмахваюцца ад гэтай работы, „бачыце ім некалі займацца масавай культпалітасьветнай работай“.

У выніку палітычнай недаацэнкі, ігнараваньня масавай культпалітасьветнай работы,—зьўляецца тое, што ў самы ўдарны пэрыяд правядзеньня кампаній культпалітасьветныя ўстановы, як арганізаваныя адзінкі, ня ўдзельнічаюць ў рабоце, вельмі часта бываюць на замку.

Трэба разглядаць і ацэньваць такія адносіны да масавай культпалітасьветнай работы, як грубейшае скажэньне дырэктыў партыі і Савецкай ўлады.

## IV. Перабудуем масавую палітасьветную работу

Неабходна правесьці карэнную перабудову масавай культпалітасьветнай работы ва ўсіх зьвеньнях, установах і ўсіх арганізацыях. Зрабіць рашучы паварот яе (работы) тварам да вытворчасьці, падпарадкаваньне непасрэдным задачам барацьбы за прамфінплян, барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за высокі ўраджай, за сьвядомую працдысцыпліну, за аўладаньне агразаатэхнікай, разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Неадкладна ажыцьцёвіць пастановы аб'яднанага (сакавіцкага) пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб масавай кульпалітасьветнай рабоце дзе гаворыцца:

„Выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва і асабліва задач, высунутых другой пяцігодкай, патрабуе ўзьняцьця масава-культурнай і палітыка-асьветнай работы на значна вышэйшую ступень

карэннай перабудовы гэтай работы, перанясеньня яе ў цэх, прадпрыемствы, МТС, саўгас, калгас, чыгуначнае дэпо і большага палпарадкаваньня непасрэдным задачам сацыялістычнага будаўніцтва.“

Новыя абставіны, новыя сацыяльна-эканамічныя зрухі, якія заключаюцца ў тым, што мы маем на вёсцы аб'яднаньне звыш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, будаўніцтва саўгасаў і МТС,—ствараюць вялізарнейшыя магчымасьці і прад'яўляюць агромністыя запатрабаваньні ў разгортваньні масавай культпалітасьветнай работы.

Новыя вытворчыя адзінкі МТС, саўгас, калгас, вытворчы вучастак, трактарная калёна, брыгады патрабуюць спэцыяльнай арганізацыі шырокай сеткі культпалітасьветных устаноў.

Абавязак усіх арганізацый МТС, саўгасу, калгасу стварыць клюбы, чырвоныя куткі, арганізаваць масавы культактыў на кожным вытворчым вучастку, у брыгадзе.

Пры разгортваньні масавай культпалітасьветнай работы, неабходна ўлічыць і поўнасцю выходзіць з тых новых грамадзкіх адносін, дысцыпліны, якая створана ўнутры калгасу. Патрэбна скарыстаць вялізарную палітычную і вытворчую актыўнасьць калгасных мас, узрастаючуюіх цягу да культуры, да масавай паліт асьветай работы. Трэба поўнасцю выкарыстаць новыя матар'яльныя прадпасылкі, якія ствараюцца ў саўгасах, МТС і калгасах—у выглядзе культфондаў і другіх крыніц гаспадарчай і грамадзкай ініцыятывы.

Разгортваньне суцэльнай калектывізацыі шэрагу раёнаў, асабліва сельскіх саветаў, узмацненьне калгасаў, рост саўгасаў і МТС высунулі новы тып палітасьветустановы. Разам в сельскім „Домам культуры“ зьявіўся саўгасны і калгасны клюб, які арганізаваны на вытворчай базе. Апошні зьяўляецца найбольш жыцьцёвым, маючым вялікія перавагі ў параўнаньні з СДК, які аказаўся на справе адарваным ад вытворчасьці і які апынуўся па-за калгасам.

Такім чынам, само жыцьцё патрабуе перабудовы сыстэмы і структуры палітасьветных устаноў.

Асноўным тыпам новай сыстэмы палітасьветных устаноў на вёсцы павінен зьявіцца калгасны і саўгасны клюб, які павінен поўнасцю ўтрымлівацца на сродкі калгасаў і саўгасаў і знаходзіцца пад ведамам і кіраўніцтвам апошніх.

Нам неабходна ўжо зараз правесьці адпаведную работу па рэарганізацыі сельскіх дамоў культуры ў сельсаветах суцэльнай калектывізацыі (пры ня менш 70 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак) - у калгасныя клюбы. Адначасова паставіць практычную задачу арганізацыі ва ўсіх калгасах (ад 200 і больш двароў)—калгасных клюбаў і ва ўсіх астатніх меншых калгасах—чырвоных куткоў.

Масавая арганізацыя калгасных, саўгасных клюбаў і шмат тысяч чырвоных куткоў, высоўвае пытаньне аб неабходнасьці арганізацыі моцных кіруючых цэнтраў, якія павінны арганізоўваць работу, мэтадычна кіраваць і дапамагаць нізавым зьвеньням.

Такім арганізацыйна-мэтадычным цэнтрам культпалітасьветнай работы ў раёне павінен стаць раённы дом культуры і тэхнікі, з шырокай пры ім культ-базай перасовачных мерапрыемстваў (радыё, кіно, бібліятэка, выстаўка, музэй і інш.), а таксама з моцным апаратам інструктароў-мэтадыстых (арганізатар масавік—1, інструктары-мэтадысты—2, аграном, бібліятэкары—3 ч., кіно-радыё-тэхнік, арганізатар газэтнай работы і сакратар).

Раённы цэнтр павінен мець моцную матар'яльную базу, якая ствараецца за лік перадаваемых калгасам сельскіх дамоў культуры.

Зусім новым тыпам культпалі-тасьветнай ўстановы вырастае клюб пры машына-трактарнай станцыі. За невялікі адрэзак часу існаваньня клюбу пры МТС мы ўпэўніліся, што гэты клюб павінен зьявіцца, ня вузкім прафсаюзным клюбам, маючым мэты абслугоўваньня рабочых, МТС, а раённым домам культуры раёну дзейнасьці МТС. Дом культуры пры МТС павінен быць дзяржаўнай установай, якая ўтрымліваецца на бюджэтныя сродкі падпарадкаваныя райАНА

і культсасавету МТС у межах адміністрацыйнага раёну. Дом культуры пры МТС адначасова зьяўляецца падраённай базавай культпалітасьветнай установай, якая пад кіраўніцтвам і пры дапамозе раённага цэнтру арганізацыйна і мэтадычна кіруе ўсімі калгаснымі, саўгаснымі клюбамі і чырвонымі куткам і раёну дзейнасьці сваёй МТС і разам з тым праводзіць работу сярод рабочых МТС.

Такава аснова сыстэмы культпалітасьветных устаноў на 2-ую пяцігодку.

Ажыцьцяўленьне пералічаных задач магчыма будзе пры тэй умове, калі сёньня ўсе савецкія, партыйныя, калгасныя арганізацыі і органы нарасьветы па-баявому возьмуцца за перабудову ўсёй масавай, культпалітасьветнай работы.

Неабходна ўжо зараз перанесьці масавую культпалітасьветную работу ў калгас, саўгас, на вытворчы вучастак, у брыгаду і калёну. Арганізаваць ва ўсіх калгасах і ў аддзяленьнях буйных калгасаў і саўгасаў клюбы і чырвоныя куткі, зрабіць належнае абсталяваньне, набыць неабходны культ-інвэнтар (радыё, бібліятэку, сьветавы ліхтар, газэты і інш.).

Асноўным зьвяном у гэтай рабоце зьяўляецца культактыў, які неабходна арганізаваць з ліку камсамольцаў, калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, беднякоў і серадн якоў. Трэба ўтварыць інстытут культарганізатараў у кожнай вытворчай брыгадзе і ў 15—20 дварох на вёсцы, вылучыць культармейцаў па ўсіх вучастках і галінах работы, зрабіць правільную расстаноўку культактыву і арганізацыю яго працы.

Культпалітасьветным установам, разам з культ-бытавымі камісіямі калгасаў, ячэйкамі ЛКСМБ неабходна забясьпечыць вылучэньне ў кожнай брыгадзе культ-арганізатара, а ў буйных брыгадах (20—40 чал.)культармейцаў.

У кожным калгасе, у кожнай брыгадзе арганізаваць выданьне палявых газэт,— штодзёнак, забясьпечыць культарганізатараў макетамі, вылучыць рэдкалегію, прымацаваць ля гэтай работы настаўнікаў, студэнтаў, скарыстаць вучняў і г. д. Дабіцца таго, каб у кожнай брыгадзе былі цэнтральныя газэты, часопісы, інструкцыі па асноўных пытаньнях працы.

## V. Рэалізуем паказаньняў т. Сталіна

Неадкладна і поўнасьцю ажыцьцёвіць 6 паказаньняў т. Сталіна ў культпалітасьветнай рабоце:

а) Арганізавана рабіць набор і высоўваньне культактыву, завесьці сталы вучот, арганізаваць пэрсанальны набор культактыву па ўсіх вучастках культпалітасьветнай работы з ліку камсамольцаў, калгасьнікаў, рабочых, праф-арганізацый, сельскіх і добраахвотных арганізацый, а таксама аграномаў, настаўнікаў. Вылучыць сац. намесьнікаў, загадчыкаў дамоў культуры, клюбаў, бібліятэк, чырвоных куткоў.

б) Ліквідаваць цякучасьць палітпрацаўнікоў і культактыву. Спыніць частыя перакідкі і замацаваць палітасьветных працаўнікоў, згодна пастановы ЦК КП(б)Б і СНК, на сталай працы, арганізаваць высоўваньне культактыву на большыя і адказныя вучасткі работы і г. д.

в) Зьнішчыць абязьлічку, безадказнасьць у культасьветнай працы. Распрацаваць і ўвесьці ва ўсіх палітасьветных установах правілы ўнутранага распарадку і інструкцыі аб абавязках працаўнікоў і культаргачізатараў. Прымацаваць культпалітасьветных працаўнікоў, культактыў да канкрэтных аб'ектаў і галін работы, устанавіць пэрсанальную адказнасьць за культінвэнтар і даручаную працу.

г) Устанавіць сталую сыстэму кіраўніцтва масавай культпалітасьветнай работай; дыфэрэнцыяваць сыстэму кіраўніцтва па групах культасьветных устаноў (СДК, чырвоных кутках, саўгасах, МТС, клюбах і інш), узмацніць жывое інструктаваньне, даваньне канкрэтных заданьняў і ўстананавіць сталы кантроль і праверку іх выкананьня. РайАНА завесьці сталы картачны вучот культпалітасьветных устаноў і іх якаснай работы. Раённым дамам культуры арганізаваць прапрацоўку паасобных пытаньнях культпалітасьветнай работы, прыступіць да падагульненьня і перадачы лепшага вопыту работы. Арганізаваць сыстэматычнае падвышэньне кваліфікацыі ўсяго культактыву. Прапусьціць увесь актыў праз каротка-тэрміновыя курсы.

д) Узмацніць матар'яльную базу культпалітасьветных устаноў: устанавіць мінімум культабсталяваньня, інвэнтару для ўсіх тыпаў устаноў, зрабіць абсталяваньне, прыцягнуць сродкі гаспадарчых, калгасных і грамадзкіх арганізацый на аснове заключэньня дагавароў. Скласьці адзіныя пляны фінансаваньня. Увесьці суровую бюджэтную дысцыпліну ў галіне правільнага скарыстаньня сродкаў. Арганізаваць пры ўсіх культасьветных установах перасовачныя бібліятэкі, радыё, газэты, дошкі сац. спаборніцтва і інш.

е) Разгарнуць масавую работу па аўладаньні агро-зоатэхнікай.

Дамам культуры, клюбам, бібліятэкам, чырвоным куткам правесьці шэраг гутарак, чытак літаратуры, газэт, дакладаў, лекцый па пытаньнях: аб мерапрыемствах узьняцьця ўраджайнасьці, вывучэньня сельска-гаспадарчых машын, вывучэньня асноў агразоатэхнікі.

Арганізаваць разам з калгассаюзамі пры дамох культуры, пры ШКМ курсы—сэмінары для калгаснага актыву, для брыгадзіраў.

Пры дамох культуры, клюбах, чырвоных кутках арганізаваць агразоатэхнічныя гурткі для рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў, скарыстаць для работы ў іх аграномаў, настаўнікаў, студэнтаў сельска-гаспадарчых навучальных устаноў.

Неабходна набыць спэцыяльную тэхнічную літаратуру для курсаў, гурткоў, чырвоных куткоў, выпісаць спэцыяльныя газэты, часопісы. Арганізаваць прасоўваньне спэцыяльнай літаратуры праз кнігарні, кніжныя полкі, бібліятэкі, кнігаЄноства, індывідуальны продаж.

## VI. Па-бальшавіцку правядзем культэстафэту імя XV-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі

Новыя ўмовы, новыя задачы сацыялістычнага будаўніцтва патрабуюць новых форм, мэтадаў і прыёмаў масавай культурнай палітасьветнай работы.

Патрэбна ўжыць такія формы і мэтады работы, праз якія магчыма было-б мабілізаваць і прыцягнуць шырокія масы рабочых калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкія школы на вырашэньне задач культурнай рэвалюцыі.

Такімі мэтадамі масавага руху за пралетарскую культуру зьяўляюцца—культпаход і вышэйшая яго форма культэстафэта, культштурмы, грамадзкі буксір і іншыя.

Гэтыя найбольш масавыя формы і мэтады мабілізацыі мас на разгорнутае наступленьне па ўсім фронце культурнага будаўніцтва разьлічаны на пэўныя ўдарныя вучасткі—па маршрутах (паход па ўсенавучу, лікбезу, кадрах, дашкольным выхаваньні, бібпаході інш. па пэўным пэрыядах, па этапах з сталаакрэсьленымі задачамі і заданьнямі дзейнічаньня.

Наркамасьветы, ЦК ЛКСМБ і ЦК саюзу працасьветы абвясьцілі культэстафэту імя XV-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі па наступных маршрутах:

1) за рэалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б аб школе;

2) за ажыцьцяўленьне ўсенавуча для малапісьменных і ліквідацыі рэштак няпісьменнасьці;

3) за дашкольнае выхаваньне;

4) за поўную ліквідацыю рэштак беспрытульнасьці і палепшаньне работы дзіцячых дамоў;

5) за перабудову масавой палітасьветнай работы;

6) за выкананьне пляну падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў.

Задача ўсіх культпалітасьветных працаўнікоў, аддзелаў нарасьветы заключаецца ў тым, каб мабілізаваць увагу, сілы і сродкі ўсіх арганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці на практычнае, найбольш масавае правядзеньне культэстафэты. Сканцэтраваць увагу на наступных мерапрыемствах палітасьветнай работы:

1) Правесьці масавую праверку рэалізацыі пастаноў ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб перабудове палітасьветнай работы і выкананьні дадзеных мерапрыемстваў палітасьвет. эстафэты.

2) Перанесьці масавую культпалітасьветную работу на прадпрыемствы, у цэх, брыгаду, саўгас, калгас, МТС на вытворчы вучастак. Арганізаваць да 15-й гадавіны Кастрычнікавай рэва-

люцыі на прадпрыемствах, ва ўсіх калгасах, саўгасах—чырвоныя куткі, а пры МТС—дамы культуры, забясьпечыўшы іх памяшканьнем, абсталяваньнем, набыўшы культінвэнтар: бібліятэкі, газэты, радыё і інш., вылучыць загадчыкаў.

3) Неадкладна вылучыць культарганізатараў у кожнай брыгадзе, на вучастку, у цэхах прадпрыемстваў, саўгасаў, МТС і калгасаў, а таксам культупаўнаважаных у вёсках на кожныя 15—20 двароў.

У дэкадны тэрмін укамплектаваць усе дамы культуры загадчыкамі. Прапусьціць усіх уноў вылучаных загадчыкаў ДК, чырвоных куткоў і культарганізатараў праз раённыя каротка-тэрміновыя курсы.

4) Прывесьці ў адпаведныя ўмовы ўсе культасьветныя ўстановы, зрабіць рамонты, абсталяваньне, набыцьцё культінвэнтару, для чаго мабілізаваць і прыцягнуць сілы і сродкі гаспадарчых, калгасных і грамадзкіх арганізацый.

5) Падрыхтаваць адчыненьне да XV гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ўсіх вызначаных па пляну дамоў культуры, для чаго падшукаць і прыстасаваць памяшканьне, правесьці абсталяваньне, набыць інвэнтар, падабраць загадчыкаў і прапусьціць праз курсы.

6) Абавязкова ўвесьці ва ўсіх клюбах, дамох культуры правілы ўнутранага распарадку працы і ўстанавіць адпаведныя колы абавязкаў загадчыка. Завесьці 3 месячныя пляны і штомесячныя каляндарныя расклады працы. Узьняць пэрсанальную адказнасьць за працу, за становішча памяшканьня і культінвэнтару.

7) Устанавіць, як правіла, абавязковы мінімум мерапрыемстваў масавай культпалітасьветнай работы для кожнага клюбу, дому культуры, чырвонага кутка, напр: сыстэматычнае правядзеньне масавых сходаў, лекцый, гутарак, чытак, вечароў, арганізацыі гурткоў, работы з кнігай, выданьня насьценгазэты і г. д.

Неадкладна шырока папулярызаваць пастанову ЦК і СНК аб збожжанарыхтоўках, аб савецкімі калгасным гандлі і апошнюю пастанову ЦВК і СНК аб ахове дзяржаўнай маёмасьці і аб стварэньні ўстойлівага зямлякарыстаньня калгасаў, разгарнуць навакол іх масавую выхаваўчую работу.

8) Палепшыць матар'яльна-бытавыя ўмовы палітасьветным працаўнікоў, забясьпечыць кватэрамі, прымацаваньнем да сталовак, выдачай прадуктаў харчаваньня і г. д. Зьнішчыць празьмерную перагрузку і саўмясьцiцельствы.

9) Ператварыць раённыя дамы культуры ў цэнтры арганізацыйна-мэтадычнага кіраўніцтва масавай культпалітасьветнай работай. Забясьпечыць стварэньне культбаз з перасовачнымі формамі работы: кіно, радыё, бібліятэкі-перасоўкі, культфургон, агітбрыгады і ўзмацніць спэцыяльнымі інструктарамі-мэтадыстымі па масавай культпалітасьветнай рабоце.

Разгортваньне масавага руху, правядзеньне культэстафэты зьяўляецца адным з сродкаў сацыялістычных мэтадаў працы — сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, якія (спаборніцтва і ўдарніцтва) надзвычайна шырока разгарнуліся на прадпрыемствах і маюць за сабой багаты правераны вопыт.

Лепшы вопыт перадавых фабрык, заводаў, калгасаў, саўгасаў перанесьці на ўсе вучасткі культурнага будаўніцтва. Зрабіць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва асноўным штодзённым мэтадам працы ўсіх культурна-асьветных устаноў.

Разгарнуць усюды сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва паміж гарадамі, раёнамі, сельсаветамі, прадпрыемствамі, калгасамі, саўгасамі, культустановамі, культбрыгадамі на перабудову і лепшую пастаноўку масавай культпалітасьветай работы.

## VIII. Па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць

Культасьветныя ўстановы: клюбы, дамы культуры, бібліятэкі, чырвоныя куткі—як масавыя цэнтры прапаганды камунізму, выхаваньня шырокіх працоўных мас і мабілізацыі іх (працоўных мас) на выкананьне правадзімых партыяй і ўрадам задач і мерапрыемстваў, павінны зараз, як ніколі, рашуча змагацца за генэральную лінію партыі, за марксыцка ленінскую тэорыю і навуку.

Ліст т. Сталіна ў часопіс „Пролетарская революция“ мае вялізарнае палітычнае значэнъне ня толькі для гістарычна-тэарытычнага фронту, але і для штодзённай практычнай работы, для кожнага адданага працаўніка сацыялістычнага будаўніцтва.

Змаганьне за генэральную лінію партыі, правядзеньне марксыцка-ленінскага выхаваньня працоўных мас, правядзеньне рашучай і пасьлядоўнай барацьбы з правым і „левым“ апартунізмам, вылазкамі трацкісцкіх кантрабандыстых і з „гнілым лібэралізмам“, з усёй сілай патрабуе ад усіх працаўнікоў культурнага фронту, у прыватнасьці і ў асаблівасьці, ад працаўнікоў палітасьветных установ аўладаньня марксыцка-ленінскай тэорыяй і навукай.

Асабліва ў БССР, пры складаным нацыянальным пераплёце, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, патрабуецца ад усіх культасьветных установ і працаўнікоў нясупыннага змаганьня за правільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, за правядзеньне пасьлядоўнай і рашучай барацьбы з адхіленьнямі ў бок вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, узмацненьня барацьбы з контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам і шавінізмамі розных колераў.

Неабходна ўзмацніць інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне, неаслабнае правядзеньне беларусізацыі, далейшае разгортваньне і палепшаньне культурна-бытавога абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй (яўрэяў, латышоў, палякаў і інш.). Ажыцьцяўляючы ленінскі лёзунг партыі „Культура нацыянальная па форме і пралетарская па зьмесьце“.

Разам з гэтым неабходна арганізаваць сыстэматычную ўпартую работу кожнага працаўніка культурнага фронту над глыбокай прапрацоўкай і вывучэньнем марксызму-ленінізму—важнейшых дакумантаў, пастаноў партыйных зьездаў-канфэрэнцый, пленумаў і г. д. Таму, што тэорыя плюс рэвалюцыйная практыка „дае руху упэўненасьць, сілу арыентыроўкі і разуменьня ўнутранай сувязі акаляючых падзей“ (І. Сталін).

Павысіць палітычную пісьменнасьць працаўнікоў, змагацца за партыйнасьць навукі і ўсяго культурнага будаўніцтва.

Неабходна прасякнуць усю масавую культасьветную работу, усе формы клясавым, партыйным зьместам.

Адначасова неабходна павесьці рашучую барацьбу з праваапартуністычнай недаацэнкай з боку гаспадарчых, нізавых савецкіх і грамадзкіх арганізацый у тым ліку і органаў нарасьветы, таго вялізарнага палітычнага і гаспадарчага значэньня, той аграмаднай выхаваўчай і арганізуючай ролі працоўных мас, якую адыгрываюць і павінны яшчэ ў боль, шай меры адыгрываць масавыя культасьветныя ўстановы, клюбы, дамы культуры, бібліятэкі і інш. у сучасны пэрыяд будаўніцтва сацыялізму.

Неадкладна рэалізаваць пастановы ЦК КП(б)Б і СНК аб перабудове работы культасьветных установ на вёсцы у сацыялістычн. сэктары сельскай гаспадаркі.

Узмацніць кіраўніцтва савецкіх арганізацый, у першую чаргу органаў нарасьветы, культпалітасьветнымі ўстановамі.

Па-новаму арганізаваць, наладзіць кіраўніцтва зьверху да ізу. А гэта значыць—зразумець новыя абставіны, вывучыць канкрэтна новыя ўмовы разьвіцьця прамысловасьці (разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым, выцякаючыя адсюль складаныя і адказныя задачы культурнага будаўніцтва—курсыў мой Х. С.) і перабудаваць сваю работу адпаведна з запатрабаваньнямі новых абставін“.

„Для таго патрэбна лалей, каб нашы кіраўнікі не „наогул“, не з „паветры“, а канкрэтна, прадметна, каб яны падыходзілі да кожнага пытаньня ня з пункту гледжаньня агульнай „болтавни“, а сурова практычным чынам, каб яны не абмяжоўваліся папернай адпіскай або агульнымі разважаньнямі і лёзунгамі, а ўваходзілі ў тэхніку справы, унікалі ў дэталі справы, унікалі ў „дробязі“, таму, што з „дробязяй“ будуецца зараз вялікая справа“. (З прамовы І. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў).

Каменецкая і Зальцман

# Дашкольнае выхаваньне за 15 год

Гіганцкія дасягненьні ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, з якімі наша краіна падыходзіць да 15-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады—забясьпечылі вялікі зрух у справе дашкольнага выхаваньня.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі ў Беларусі меліся адзінкі прыватных дзіцячых садоў, якія былі даступны нязначнай частцы—буржуазным дзецям. Яны выхоўвалі іх адпаведна запатрабаваньням існуючага буржуазнага ладу.

Упяршыню ў гісторыі чалавецтва савецкая ўлада падыйшла да пастаноўкі пытаньняў дашкольнага ўсенавуча. Так, у галіне пашырэньня сеткі дашкольных установ мы маем наступныя дасягненьні па БССР.

| | 25/26 г. | 26/27 г. | 27/28 г. | 29/30 г. | 30/31 г. | 31/32 г. | 32/33 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Устаноў: | 52 | 71 | 90 | 494 | 1220 | 3356 | 9138 |
| Кіраўніц | 140 | 188 | 230 | | | | |
| Дзяцей. | 2221 | 3424 | 4311 | 17400 | 39837 | 111616 | 294619 |

Па пляну на 1933 год мы павінны ахапіць 50 проц. дзяцей дашкольнага ўзросту, да канца 2-й пяцігодкі—забясьпечыць усіх дзяцей дашкольнага ўзросту выхаваўчымі ўстановамі. Зараз у нашых установах выхоўваюцца 178 000 дзетвары, у параўнаньні з 60000 у мінулым годзе.

З такімі посьпехамі прышлі мы да 15-й гадавіны Кастрычніка ў галіне колькаснага павялічэньня сеткі дашкольных установ. Характэрнай лічбай параўнаньня зьяўляецца разгортваньне сеткі ва ўмовах сельска-гаспадарчага сэктару. У 1925/26 годзе мы мелі 4 установы, з 7 кіраўніцамі, абслугоўваючыя 120 дзяцей, тады як зараз маем 6.000 установ, якія абслугоўваюць 200.000 дзяцей. Ёсьць дасягненьні і з боку пастаноўкі работы ў гэтых установах. Так, рабочы дзень дашкольных установ, якія абслугоўваюць дзяцей работніц прадпрыёмстваў, працягваецца з 10 да 12 гадзін з тым, каб работніца, якая працуе 7-8 гадзін, мела магчыысьць, апрача сваей работы на вытворчасьці, прыняць удзел у грамадзкай рабоце і вучобе.

Усе дашкольныя ўстановы працуюць круглы год. У гэтым годзе частка установ выязджала з гораду ў дзіцячыя калёніі, дзе былі створаны адпаведныя умовы для аздараўленьня дзетвары. У буйнейшых прамысловых цэнтрах некаторыя дашкольныя ўстановы працуюць круглыя суткі з тым, каб работніца, працуючая на вячэрняй і начной зьмене на вытворчасьці, магла пакідаць дзяцей у дзіцячым садзе на час сваей работы. Значная частка дашкольных установ працуюць бесьперапынна, што дае магчымасьць бацьком быць вольнымі ў дні адпачынку

Выдаткі на ўтрыманьне дашкольных установ значна павялічваюцца з кожным годам. У 1931 годзе мы мелі на ўтрыманьне дашкольных установ 1.850.000 руб., а ў 1932 г.—4.446.000 р.

Да справы дашкольнага выхаваньня прыцягнута актыўнасьць, ініцыятыва і сродкі шырокіх працоўных мас.

Так, у 1932 годзе, апрача вышэй паказаных дзяржаўных сродкаў, мы маем 3,5 млн. руб. грамадзкіх сродкаў.

Дзякуючы правільнаму вырашэньню нацынаяльнай палітыкі, нашы дашкольныя ўстановы прыстасаваны да абслугоўваньня нацыянальнасьцяй. У нас ёсьць ўстановы на 5 моваx.

Пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, 1931 г., і апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25-га жніўня 1932 г. пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб дашкольным усенавучы ад 9 жніўня 1931 г.—з усёй рашучасьцю ставяць перад намі пытаньне аб падвышэньні якасьці работы дашкольных установ, бо праграма партыі ў галіне „выхаваньня

пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“ будзе тым больш пасьпяхова ажыцьцёўлена школай, чым мацней будзе закладзена аснова гэтага выхаваньня ў дашкольным узросьце і чым лепш мы выканаем задачу—прышчапіць дзецям акрэсленае, даступнае іх узросту кола „сапраўдных ведаў“.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне дашкольнага ўсенавучу, уцягненьне шырокіх колаў працоўнай грамадзкасьці ў справу пашырэньня сеткі дашкольных установ таксама будзе ў значнай ступені залежыць ад таго, наколькі дзіцячы сад стане сапраўдным месцам камуністычнага выхаваньня дзяцей, наколькі ён будзе здавальняць узросшыя культурныя патрэбнасьці шырокіх працоўных мас, наколькі сапраўды будзе выхоўваць „усебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва“.

Адсюль асноўнае—гэта падвышэньне якасьці работы дашкольных установ.

15 год будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне зьяўляецца пэрыядам упартай барацьбы за разгортваньне дашкольнага выхаваньня.

Краіна саветаў не атрымала ніякай спадчыны ад царскага ўраду ў гэтай справе. Зусім натуральна, што ў першыя гады пасьля Кастрычніка праца ішла па лініі разгортваньня сеткі дашкольных установ. У апошніх ня было яшчэ адзінай, правільна вырашанай лініі, ня было правільнага разуменьня задач камуністычнага выхаваньня, ня было і не магло быць яго пэўнай сыстэмы. Побач з сыстэмай Фрэбеля і Монтэсоры пераважнае месца займала так званае свабоднае выхаваньне, якое па сутнасьці зводзілася да свабоды ад якога-б там ні было выхаваньня.

У 1922 годзе 2-гі Ўсерасійскі зьезд па дашкольнаму выхаваньню намеціў задачы савецкага дашкольнага выхаваньня, ахарактарызаваўшы дашкольны ўзрост як „адзін з галоўных этапаў разьвіцьця будучых будаўнікоў і барацьбітоў камуністычнага грамадзтва“. Тут і быў пакладзены пачатак творчай рабоце па афармленьні асноўных прынцыпаў зьместу і мэтадаў работы савецкага дзіцячага саду.

Па БССР хваля перагляду зьместа работы дашкольных установ шырока разгарнулася з 1923—24 году.

У 1925—26 годзе склікаецца 3-ці Ўсерасійскі зьезд, 2-гі Ўсебеларускі дашкольны зьезд, якія афармілі галоўныя моманты пэдагагічнай работы. У выніку паступова паяўляюцца мэтадычныя лісты, зборнікі, служыўшыя асноўным кіраўніцтвам у рабоце дашкольных установ на працягу апошніх год і адыграўшыя вялікую ролю ў перабудове работы дашкольных установ адпаведна задачам кам. выхаваньня.

3-ая Усебеларуская канфэрэнцыя, якая адбылася ў мінулым годзе, дала даклады і акрэсьленыя ўстаноўкі адносна зьместу работы дзіцячага саду, выявіла і падкрэсьліла тыя памылкі і ўхілы, якія мелі месца ў нашай рабоце.

Аднак, асноўным момантам, унёсшым пэўную яснасьць і выразнасьць ў справу стварэньня дашкольнай пэдагогікі зьявілася верасьнеўская пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе. Яна рубам паставіла пытаньне аб стварэньні праграм дашкольнай ўстановы.

І вось на базе ранейшай работы за апошні час выданы цэлы шэраг мэтадычных дапаможнікаў па розных пытаньнях арганізацыі і зьместу работы ў дашкольных установах. Распрацаваны ў гэтым годзе—першы праэкт гадавых праграм і зьмест работы дзіцячага саду, па кварталах, зьяўляецца вынікам першага сур'ёзнага этапу ў галіне стварэньня дашкольнай пэдагогікі, у галіне афармленьня камуністычнай сыстэмы дашкольнага выхаваньня.

15 гадавіну Кастрычніка, на дашкольным фронце мы сустракаем выданьнем праекту праграм па ўсіх галінах дзейнасьці дашкольных установ, якія дапамогуць масаваму работніку правільна арганізаваць пэдагагічны працэс у дашкольнай установе.

Уступаючы ў 16 гадавіну пашырэньня сеткі дашкольнах установ, павінны разгарнуць яшчэ больш напружаную работу ў галіне палепшаньня зьместу іх працы, далейшай распрацоўкі марксыцка—ленінскай тэорыі дашкольнага выхаваньня.

# ЗА ТЭХНІКУ ПЭДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСУ

Г. Сагаловіч

## Да пытаньня аб рацыяналізацыі пэдпрацэсу на занятках па матэматыцы

**(У дапамогу маладому выкладчыку)**

У канцы мінулага навучальнага году Навукова-дасьледчы інстытут камуністычнага выхаваньня БССР зрабіў абсьледваньне шэрагу сямігадовых школ з мэтай высьвятленьня пералому у пастаноўцы школьнай работы, у сувязі з пастановай ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе.

Матар'ял па абсьледваньні вывучан, і праз некаторы час вынікі абсьледваньня будуць апублікаваны у друку.

Я меў магчымасьць пазнаёміцца з матар'ялам па абсьледваньні пастаноўкі матэматыкі ў 2-м канцэнтры сямігадовых школ. У нас, бязумоўна, ёсьць некаторы зрух у справе пастаноўкі матэматыкі ў школе ў бок яе паляпшэньня, але побач з гэтым ёсьць яшчэ цэлы шэраг недахопаў, якія павінны быць зьнішчаны.

Аб гэтых недахопах даволі падрабязна будзе сказана ў выніках па абсьледаваньню, я-ж жадаю ў гэтым невялікім артыкуле застанавіцца на пытаньні рацыяналізацыі пэдагагічнага працэсу пры выкладаньні матэматыкі ў школе.

### I.

Школа павінна вучыць ня толькі правільна рабіць ты ці іншыя матэматычныя вылічэньні, ня толькі своячасова і правільна карыстацца тымі ці іншымі матэматычнымі палажэньнямі, тэарэмамі і правіламі, але карыстацца імі сьвядома, рацыянальна, без асаблівай затраты лішняй энэргіі і часу. Ці можна мірыцца з тым, што вучні другога канцэнтру школы пры множаньні карыстаюцца марудньімі прыёмамі, якія відны з ніжэйпаказанага:

$$\begin{array}{r} 8 \\ \times\; 3000 \\ \hline 0 \\ 0 \\ +\quad 0 \\ 24 \\ \hline 24000 \end{array} \qquad\qquad \begin{array}{r} 42 \\ \times\; 404 \\ \hline 168 \\ +\quad 00 \\ 168 \\ \hline 16968 \end{array}$$

Другі канцэнтр сямігадовай школы павінен ня толькі фармальна закончыць арытмэтыку, але навучыць вучняў прыёмам скарочанага, хуткага вылічэньня, прыёмам больш рацыянальнага вылічэньня. Як відаць з абсьледаваньня, школа зусім не зварочвае ўвагі на вуснае вылічэньне, ня прывучае дзяцей кантраляваць свае вылічэньні, фэтышызуючы адказы, якія маюцца ў падручніках.

Вось прыклады:

1. Вучні не скарыстоўваюць асноўнай уласьцівасьці сумы і здабытку некалькіх лікаў пры складаньні і множаньні, карысьць чаго відаць з наступных прыкладаў:

$$\underline{138{,}84 + 32{,}94 + 112{,}16} = 151 + 32{,}94 = 183{,}94;$$

$$\underline{33^1/_3} \times 17 \times \underline{6} = 200 \times 17 = 3400.$$

2. Вучні не скарыстоўваюць прыёмы вуснага і хуткага лічэньня для кантролю сваей работы; напрыклад, калі вучань шукае 75% ад 480 і, калі ён бы зразумеў, што 75% ад ліку складае $^3/_4$ яго, дык ён мог бы свой рэзультат вельмі лёгка і самастойна праверыць, і гэта ў значнай ступені гарантавала-б яго ад памылковасьці ў сваёй рабоце. Тое-ж самае мы павінны сказаць і адносна 50%; 25%; 12,5% і г. д. Вучні павінны вучыцца ня толькі рабіць вылічэньні пісьмова, але самастойна іх правяраць, хацяб у вуснай форме.

3. Вучні выконваюць дзеяньні з дробамі фармальна, не ўдаваючыся ў сутнасьць тых апэрацый, якія яны робяць. Фармальнае выконваньне апэрацыі бяз глыбокага разуменьня сутнасьці таго, што робіцца, вядзе да памылковасьці, вядзе к забыўчывасьці, вядзе к рэцыдывам. Ці настаўнік не заўважвае, што тое, з чым вучні спраўляліся сёньня,

праз некаторы час імі забыта, а гэта можа здарыцца толькі таму, што тое ці іншае матэматычнае палажэньне было прыпаднесена вучням фармальна, бяз дастатковага аналізу сутнасьці пытаньня. Напрыклад, вучань множыць 480 на 1,5; калі-б вучань зразумеў-бы, што павялічыць лік у 1,5 разы азначае, што гэты лік павялічваецца на палову яго, дык вучань мог-бы сябе пакантраляваць і такім чынам выканаць вылічэньне правільна. Такіх прыкладаў можна падабраць шмат.

4. Варта застанавіцца яшчэ на адным прыкладзе: вучань павінен $120\frac{4}{5}$ падзяліць на 4,—ён па ўсіх правілах арытмэтыкі ператварае множыва ў няправільны дроб і дзеліць яго на 4; калі-б вучань зразумеў, што паменшыць $120\frac{4}{5}$ ў 4 разы азначае, што трэба паменшыць спачатку 120 у 4 разы, а потым $\frac{4}{5}$ у 4 разы, дык ён бы самастойна змог-бы праверыць сваю работу і папярэдзіць памылку.

5. Вучні не ў дастатковай меры карыстаюцца ў сваіх вылічэньнях дзесятковымі дробамі, а апошнія, бязумоўна, палягчаюць работу. Мы не зьяўляемся праціўнікамі звычайных дробаў у школе, яны павінны вывучацца; але ў сувязі з тым, што наша краіна карыстаецца мэтрычнай сыстэмаю мер, і ў сувязі з тым, што тэхнічныя і навуковыя вылічэньні робяцца ў дзесятковых дробах, мы павінны разьвіць у вучнях дастатковую увагі да дзесятковых дробаў.

Я больш не жадаю займацца пытаньнямі арытмэтыкі, бо мы аб гэтых пытаньнях досыць многа пісалі ў нашых мэтадычных лістох, гаварылі на нашых канфэрэнцыях, і наогул, трэба сказаць, гэтыя пытаньні досыць распрацаваны ў нашай мэтадычнай літаратуры; трэба толькі завастрыць увагу нашых работнікаў школы на гэтых пытаньнях.

Кідаецца ў вочы нерацыянальнае выкарыстоўваньне выкладчыкам часу, адведзенага на заняткі па матэматыцы. Чамусьці ў некаторых школах у час разьвязваньня задач дзеці пішуць на дошках поўнасьцю ўмовы задачы; гэта бязумоўна лішняе; нельга патрабаваць ад выкладчыка каб ён заняткі матэматыкі ператварыў бы ў заняткі па мове. Ад гэтага трэба адмовіцца; умовы задачы павінны быць запісаны скарочана, бяз тэксту; запісваюцца выключна лічбовыя дадзеныя; пытаньні ставяцца ў вуснай форме, а дзеці толькі выконваюць на дошцы і ў сшытках вылічэньні, плянуючы іх належным чынам. Справа другая, калі настаўнік дае дзецям на дом рашыць адну—дзьве аналёгічныя задачы; дома дзеці могуць адну з гэтых задач разьвязаць больш падрабязна з запісамі ўмовы задачы, пытаньняў і разьвязаньняў.

Калі пішам скарочана ўмовы задачы, дык мы прывыклі запісваць іх гарызантальна; але бываюць выпадкі, калі значна карысьней будзе запісваць умовы задачы вэртыкальна, як відаць з наступнага прыкладу:

Задача. Для школы набылі 48 падручнікаў геаграфіі па 1,5 руб., 34 падручнікі матэматыкі па 0,7 руб., 38 падручнікаў мовы па 1,2 руб., 74 падручнікі прыродазнаўства па 1,3 руб. Колькі каштуе ўся гэта пакупка?

Запіс умовы гэтай задачы ў радок гарызантальна ўнясе блытаніну, куды мэтазгодней разьмясьціць умовы задачы наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Геагр. . . . . | 48 экз. | 1,5 руб. |
| Матэм. . . . | 34 „ | 0,7 „ |
| Мова . . . . | 38 „ | 1,2 „ |
| Прырод. . . . | 74 „ | 1,3 „ |
| Усяго . . | | |

II

Зараз мы азнаёмім з некаторымі пытаньнямі аналёгічнага характару з курсу геамэтрыі і альгэбры.

Вялікае значэньне ў справе засваеньня дзяцьмі курсу школьнай геамэтрыі мае ўдалае яго плянаваньне. Ад удалага плянаваньня вывучаемага матар'ялу, ад удалай яго сыстэматызацыі залежыць і добраякаснае засваеньне. Настаўніцкія аб'яднаньні, займаючыся пытаньнямі мэтодыкі выкладаньня, павінны займацца імі больш грунтоўна.

Іншы раз тая ці іншая тэорэма, будучы ўключана ў курс ня там, дзе гэта патрэбна, уносіць цэлы шэраг цяжкасьцяй у работу. Я хачу маю думку ілюстраваць некаторымі прыкладамі:

1) няхай нам трэба пазнаёміць вучняў з тым, што пункт перасячэньня 2 мэдыян трыкутніка падзяляе кожную мэдыяну ў стасунку 2 : 1. Гэтая тэорэма, як вядома, мае значэньне і для мэханікі. Калі гэту тэорэму даць пасьля таго, як вучні пазнаёміліся з падобнасьцю фігур, дык куды прасьцей і лягчэй будзе і самы даказ гэтай тэорэмы.




З таго, што т-к $ABF$ падобен т-ку $FED$, вынікае, што:

$$\frac{BF}{FE}=\frac{AF}{FD}=\frac{AB}{ED}=\frac{2}{1}$$

2) калі мы вучым нашых вучняў вымерацъ упісаныя і апісаныя куты, дык звычайна мы раней за усё паказваем вучням, як трэба мерацъ упісаны кут: пры гэтым разглядаем 3 выпадкі: калі упісаны кут утвораны дыамэтрам і хордай;

калі ўтвораны двума хордамі, якія ляжаць па адзін бок ад цэнтру;

калі утвораны двума хордамі, якія ляжаць па абодвы бакі ад цэнтру, а толькі пасьля гэтага мы знаёмім вучняў з тым, як трэба мерацъ кут, які ўтвораны хордай і датычнай. Па маей думцы, куды карысьней было-б у першую чаргу паказаць, як трэба мерацъ кут, які утваран хордай і датычнай і пасьля гэтага перайсьці к мераньню ўпісанага кута. Гэта дасьць нам эканомію ў тым, што замест таго, каб разглядаць пасобку 3 выпадкі палажэньня ўпісанага кута, мы-б зьвялі доказ гэтай тэарэмы да ўпісанага кута наогул, што відаць з наступнага:




$$\angle AOC = \angle DAB$$

$$\angle AOC \text{ вым.} \smile \frac{AB}{2}$$

$$\text{знач. } \angle DAB \text{ вым.} \smile \frac{AB}{2}$$




$\angle DAC + \angle CAB + \angle BAE$ вым. $^1/_2$ акружыні;

$$\angle DAC \text{ вым.} \smile \frac{AC}{2}$$

$$\angle BAE \text{ вым.} \smile \frac{AB}{2}$$

$$\text{знач. } \angle BAC \text{ вым.} \smile \frac{BC}{2}$$

Такіх прыкладаў можна яшчэ падабраць; настаўнік з вялікім стажам сам ведае ня мала такіх прыкладаў; неабходна, каб гэтымі заняліся нашы школьныя работнікі на занятках па павышэньні сваёй мэтадычнай кваліфікацыі.

Вялікае значэньне пры выкладаньні геамэтрыі мае добраякасны рысунак і добраякаснае абазначэньне элемэнтаў фігуры. Рысунак павінен выконвацца па магчымасьці цыркулем, лінейкай; трэба памятаваць, што добры рысунак

у значнай ступені дапамагае вучню разабрацца ў пастаўленым пытаньні, добры рысунак палягчае разьвязваньне задачы, добры рысунак дапамагае доказу тэарэмы.

Я на некаторых прыкладах праілюструю маю думку:

1) хай настаўнік павінен навучыць дзяцей вылічваць бок апісанага трыкутніка ў залежнасьці ад радыюса акружыны з наступнага рысунку відаць, што ён дае магчымасьць лёгка даказаць вучням, што бок апісанага правільнага трыкутніка ў два разы больш, за бок упісанага трыкутніка і, такім чынам: $b_3 = 2R\sqrt{3}$;




2) няхай дзеці павінны вылічыць плошчу правільных упісаных у круг 8-мі кутніка і 12-ці кутніка. Бязумоўна, гэтыя задачы для вучняў сямігадовай школы даволі складаныя, калі іх разьвязваць звычайным шляхам: шукаць бок фігуры, апотэму фігуры і г. д. Калі мы рысункам дадзім наступны выгляд, дык зусім проста атрымаем плошчы гэтых фігур.




$$OB = R;$$
$$AB = a_8;$$
$$AC = \frac{R\sqrt{2}}{2}$$
$$S_8 = \frac{8 \cdot R \cdot R\sqrt{2}}{2 \cdot 2};$$




$$OB = R;$$
$$AB = a_{12};$$
$$AC = \frac{R}{2}$$
$$S_{12} = \frac{12 \cdot R \cdot R}{2 \cdot 2};$$

3) вылічыць бок апісанага правільнага шасьцікутніка звычайным шляхам вучням сямігадовай школы будзе труднавата. Калі-ж мы дакажам раней, што, падзяліўшы бакі правільнага трыкутніка на 3 роўныя часткі і злучыўшы пункты дзяленьня, як паказана на рысунку, атрымоўваем правільны 6-кутнік, дык зусім лёгка можам паказаць, што бок апісанага правільнага шасьцікутніка складае трэцюю частку боку правільнага ўпісанага трыкутніка, а таму:

$$b_6 = \frac{2R\sqrt{3}}{3};$$



Як мы ўжо казалі раней вялікае значэньне маюць правільныя абазначэньні на рысунку. Я хачу мае думкі падмацаваць некаторымі канкрэтнымі прыкладамі:

4) нам трэба даказаць тэарэму аб тым, што ў кожным апісаным 4-кутніку сумы процілеглых бакоў роўныя.

Звычайны доказ гэтай тэарэмы, які прыведзен у нашых падручніках, патрабуе некаторай штучнасьці у разьмеркаваньні матар'ялу. Калі-ж зрабіць абазначэньне, як паказана на прыведзеным рысунку, дык гэтая тэарэма дакажацца куды лягчэй.




З таго, што ў склад сумы кожнай пары бакоў уваходзяць адрэзкі $a$, $b$, $c$, $d$—вынікае роўнасьць сум.

5) Няхай нам трэба разьвязаць такую задачу:

Задача. У акружыну ўпісан трыкутнік, куты яго падзелены бісэктрысамі папалам; пункты сустрэчы бісэктрыс гэтага трыкутніка з акружынай злучаюцца; даказаць, што ў атрыманым трыкутніку гэтыя бісэктрысы зьяўляюцца высотамі.

Гэтая задача, бязумоўна, складаная, але калі-ж мы зробім рацыянальнае абазначэньне, дык гэтая задача вырашыцца вельмі проста, як відаць з наступнага:




Трэба даказаць, што

$A_1D_1 \perp C_1B_1$

Доказ.

$2a+2b+2c=360^\circ$

$a+b+c=180^\circ$;

$\angle A_1D_1C_1$ вым. $\dfrac{a+b+c}{2}$

$\angle A_1D_1C_1 = 90^\circ$

Мы вельмі раім настаўніку мэтрычную частку плянімэтрыі распрацаваць такім чынам, каб абазначэньні лінейных разьмераў фігуры рабіць пры дапамозе аднэй маленькай літары. Гэта палегчыць працу і дасьць магчымасьць больш правільна і рацыянальна скарыстоўваць веды вучняў з галіны альгэбры пры разьвязваньні пытаньняў геамэтрыі. Пачынаючы з тэарэмы „аб пэрпэндыкуляры апушчаным з вяршыні простакутнага трыкутніка на гіпатэнузу“, і далей варта перайсьці на скарочаныя запісы лінейных разьмераў фігур. Гэта дасьць магчымасьць, як мы ўжо казалі раней, правільна скарыстоўваць веды дзяцей з альгэбры.

Вялікую ролю пры вывучэньні геамэтрыі мае накапліваньне ў час заняткаў новых геамэтрычных фактаў, яны бязумоўна дапамогуць на далейшае вывучэньне геамэтрыі, асабліва пры разьвязваньні задач. Напрыклад,

тэарэма аб тым, што катэт простакутнага трыкутніка, які ляжыць проці кута 30°. складае палову гіпатэнузы,

тэарэма аб тым, што мэдыяна ў прастакутным трыкутніку, якая злучае вяршыню простага кута з сярэдзінай гіпатэнузы, роўна палове гіпатэнузы,

што ў раўнабочнай трапэцыі з пэрпэндыкулярнымі дыяганалям, вышыня роўна сярэдняй лініі яго, і цэлы шэраг іншых тэарэм, якія звычайна ня ўключаюцца ў афіцыйную праграму, а ўключаюцца ў нашы зборнікі задач і практыкаваньняў, павінны вывучацца ў школах з тым, каб гэтыя, накопленыя вучнямі, геамэтрычныя факты дапамагалі ім у далейшай іх працы.

Я хачу тут застанавіцца на аднэй задачы, вырашэньне якой залежыць ад веданьня геамэтрычных фактаў, аб якіх я казаў вышэй.

Задача. Трапэцыя падзелена двума дыяганалямі на 4 трыкутнікі; плошчы 2 падобных трыкутнікаў з гэтых 4 раўны 36 і 25 кв. м. Вылічыць плошчу ўсёй трапэцыі.

Разьвязваньне гэтай задачы ўпіраецца ў тое, што нам невядомы плошчы астатніх 2 трыкутнікаў трапэцыі. Калі-ж мы дакажам тэарэму аб тым, што, папершае, астатнія 2 трыкутнікі роўнавялікі, а па-другое, што плошча кожнага

з гэтых трыкутнікаў ёсьць сярэдняя прапарцыянальная паміж плошчамі астатніх двух трыкутнікаў, дык задача разьвязваецца вельмі лёгка.



$\Delta S_1$ падоб. $\Delta S_2$; $\Delta S_3$ раўнавялік $\Delta S_4$;

З таго, што

$$\frac{S_1}{S_2}=\frac{q}{p};\ \frac{S_3}{S_2}=\frac{m}{n};\ \frac{q}{p}=\frac{m}{n},$$

маем:

$$\frac{S_1}{S_3}=\frac{S_3}{S_2};\ S_3=\sqrt{S_1 S_2},$$

а таму плошча трапэцыі:

$$S=36+25+2\sqrt{36\cdot 25}=121.$$

Абсьледаваньне паказала, што вучні не ў дастатковай меры скарыстоўваюць свае веды з альгэбры пры выращэньні задач геамэтрыі. Настаўнік павінен сачыць за тым, каб у апошніх групах сямігадовай школы задача па геамэтрыі па магчымасьці разьвязвалася-б у агульным выглядзе пры дапамозе альгэбры, зрабіўшы ўсе неабходныя і магчымыя ператварэньні альгэбраічных выразаў з тым, каб атрымаць рэзультат, прыведзены к зусім простаму выгляду. У канчатковы рэзультат вучні ўстаўляюць дадзеныя з умовы задачы, робяць неабходныя дзеяньні і, такім чынам, даводзяць разьвязаньне задачы да эфэктыўнага канца.

**Задача.**

Вылічыць плошчу круга, даўжыня акружыны якой роўна 628 *см*.

Звычайна вучні разьвязваюць гэткую задачу наступным чынам:

1) $628:3{,}14=200$;

2) $200:2=100$;

3) $3{,}14\cdot 100^2=31400=3{,}14\ м^2$.

Зараз пабачым, якую карысьць нам дае ўжываньне альгэбры пры разьвязваньні гэтай задачы, наколькі апошняе значна скарачае нашы вылічэньні.

$$R=\frac{C}{2\pi};\ S=\frac{\pi\cdot C^2}{4\cdot\pi^2}=\frac{C^2}{4\pi}.$$

**Задача.**

Майстра павінен быў вытачыць дыск радыюсам у 90 *см*, але ён недатачыў яго на 1 *см*. Такім чынам плошча дыску павялічылася. Наколькі павялічылася плошча дыску?

Нашы вучні звычайна гэткую задачу разьвязалі-б наступным чынам:

1) $3{,}14\cdot 91^2=26002{,}34$;

2) $3{,}14\cdot 90^2=25434$;

3) $26002{,}34-25434=568{,}34\ см^2$.

Пабачым-жа, якую карысьць нам дае ўжываньне альгэбры пры разьвязваньні гэтай задачы.

$$S=\pi 91^2-\pi\cdot 90^2=\pi(91+90)$$
$$(91-90)=3{,}14\cdot 181=568{,}34\ см^2.$$

Такіх прыкладаў можна падабраць многа, з такімі выпадкамі выкладчык сустракаецца вельмі часта, і мы раім настаўніку падумаць аб тым, каб тыя веды дзяцей, якія яны атрымоўваюць на занятках па альгэбры шырока скарыстоўваліся-б на занятках па геамэтрыі. Тагды вучні яшчэ больш зразумеюць значэньне і ролю альгэбры.

С. Равін.

# Становішча матэматыкі ў ФЗС і ШКМ[1])

**(Вынікі абсьледваньня школ НДІ Кам. Вых.)**

## 1. Мэта данай работы.

Матэматыка зьяўляецца аднэй з важнейшых асноў навукі. Ліквідацыя карэннага недахопу па гэтым прадмету мае асобае значэньне.

Нам важна было ўстанавіць, як вучні навучыліся сьвядома карыстацца лікамі мерай пры вырашэньні задач. З другога боку, нам вельмі важна ўстанавіць, паколькі вучні ўладаюць тэхнікай лічэньня і мераньня або зьвязваюць іх з жыцьцёвымі зьявішчамі. Нарэшце, якое прадстаўленьне маюць старэйшыя вучні нашай ФЗС і ШКМ аб ліках—цэлых, дробах—большых і меншых.

Выходзячы з гэтых асаблівасьцяй данага прадмету, праграма на-мэтадычны сэктар НДІ Камвыхаваньня пастанавіў абсьледваць матэматыку, ня толькі па некаторых частках курсу (як было зроблена па іншых прадметах), але па ўсяму курсу, прычым мы бралі таксама арытмэтыку, хаця ў старэйшым канцэнтры арытмэтыка толькі часткова праходзіцца ў 5-й групе, а ў 6 і 7 групах зусім не праходзіцца.

Мэта нашага абсьледваньня матэматыкі наступная:

1. Выяўленьне аб'ёму фактычных ведаў вучняў старэйшых груп ФЗС і ШКМ.

2. Выяўленьне ступені сьвядомага ўспрыманьня лікаў і лічбовых дзеяў і ўвязка іх з жыцьцёвымі зьявішчамі.

3. Выявіць правільныя мэтады і прыёмы работы па матэматыцы, завастрыўшы ўвагу на дэфэктах у гэтых адносінах.

4. Шляхам выяўленьня ўсіх недахопаў і прарываў, якія мы маем у практыцы нашых школ—завастрыць увагу шырокіх мас настаўніцтва на тыя слабыя мейсцы, на якія мы павінны ў далейшым прыналегчы, каб іх зжыць і такім чынам, дапамагчы настаўніцтву ў ліквідацыі карэннага недахопу па матэматыцы.

## 2. Праграма і мэтад абсьледваньня.

Абсьледваньне становішча ведаў па матэматыцы ў старэйшым канцэнтры ФЗС і ШКМ праводзілася шляхам пісьмовых работ і вуснага лічэньня. Абсьледваньнем ахоплена 15 пятых груп 8-мі школ, 12 шостых груп 6-ці школ і пяць сёмых груп 5-ці школ. Колькасьць вучняў ахопленых абсьледваньнем была розная. Максымальная колькасьць вучняў пятых груп 415.

Па шостых групах максымальная колькасьць вучняў, ахопленых абсьледваньнем гэта 255. Амаль што па ўсіх пытаньнях маем адказы прыблізна ад 200—250 вучняў. Па некаторых маецца значнае паменшаньне колькасьці адказаў: 181, 144, 138 і 123.

Па сёмых групах ахоплена абсьледваньнем 111 вучняў. Аднак па некаторых запытаньнях, мы атрымалі адказы толькі ад 80, 50 і нават 29 вучняў.

**Праграма абсьледваньня была наступная:**

У пятай групе:

па арытмэтыцы—па ўсіх галоўных разьдзелах:

а) па дзесятковых дробах 3 прыклады:

$324{,}48 + 114{,}57 - 110{,}09 =$

$5{,}24 \times 300{,}6 =$

$11{,}4 : 0{,}95 =$

б) па простых дробах тры прыклады:

$8^7/_9 + 4^1/_8 - 5^5/_{12} =$

$8^4/_5 \times 8^1/_2 =$

$9^3/_4 : 3^1/_4 =$

в) па %% вылічэньнях тры прыклады:
знайсьці 8,5% ад 3500;
знайсьці лік, калі 10% яго складае 66,5;
колькі працантаў складаюць 35 ад 140;

[1]) Артыкул напісаны пры садзейнічаньні тав. Сагалавіча (аўтар).

г) па вуснаму лічэньню 7 прыкладаў:

100 руб. — 1 кап.

420 памножыць на $1^1/_2$,

$1,5 \times 1,2$,

25% да 440

120 павялічыць на 25%

колькі проц. складае 9 ад 200

колькі проц. складае 4 ад 50,

д) і 5 тэкставых задач на ўжываньне ўсіх дзеяньняў.

1. Школа набыла 340 падручнікаў па 1,4 руб. кожны; 0,3 усіх кніжак зданы ў пераплёт па 0,5 руб. за кожны. Колькі грошай каштуюць усе кніжкі разам з пераплётамі?

2. Калгас павінен заплаціць с.-падатку 460 руб. у 3 тэрміны: у першы тэрмін 25 проц., у 2-гі 50 проц. Колькі рублёў ён павінен заплаціць у 3 тэрмін?

3. Абутковая фабрыка выпусьціла звыш пляну 35000 пар абутку, што дае перавыкананьне свайго гадавога пляну на 7 проц. Колькі пар абутку павінна выпусьціць фабрыка па пляну за год?

4. Па пляну накладныя выдаткі фабрыкі складаюць 36400 руб., але фабрыка змагла панізіць выдаткі да 27200 руб. На колькі проц. фабрыка панізіла свае накладныя выдаткі?

5. Адна брыгада можа выканаць работу ў 3 дні, другая брыгада выканае тую-ж самую работу у 2 дні; у колькі дзён выканаюць гэтую работу, калі абедзьве брыгады будуць працаваць разам?

**Па геамэтрыі.**

1. Даны сум. куты. Адзін больш за другі ў 3 разы. Колькі градусаў мае кожны з сумежных кутоў?

2. Даны сумежныя куты. Адзін кут больш за другі на 20°5. Колькі ° мае кожны з сумежных кутоў?

3. База роўнаплечнага трыкутніка = 740 *мм*, бок на 20,5 *мм* большы за базу; вылічыць пэрымэтр.

4) Дан простакутны трыкутнік: адзін востры кут больш за другі у 2 разы, чаму раўняецца кожны востры кут?

5. Дол мае форму простакутніку, даўжыня 14,5 *м*; шырыня ў 2 разы менш. Знайсьці плошчу.

6. Знайсьці плошчу трыкутніка, у якім аснова $12^3/_4$ *мм*, а вышыня ў $1^1/_2$ разы менш?

7. Плян калгасу нарысован на паперы, маштаб 1 : 100.00. На карце адлегласьць ад калгасу да раённага цэнтру 4 *см*; колькі будзе сапраўдная адлегласьць ад калгасу да раённага цэнтру?

У 6-х групах:

Па арытмэтыцы дадзены 4 задачы

1. Калгас засеяў 360 *га* пшаніцы і атрымаў ураджаю ў сярэднім 1,7 *тн* з кожнага *га*; у будучым годзе калгас пашырыў плошчу пасеву на 12,5 проц., а ўраджайнасьць з кожнага га павялічылася на 10 проц.; колькі тон пшаніцы атрымаў калгас у будучым годзе?

2. Фабрыка выканала свой квартальны плян на 750.000 руб., што складае 30 проц. усяго гадавога пляну; колькі рублёў складае ўвесь гадавы плян ф-кі?

3. Фабрыка меркавала мець 1150 раб., а прадукцыя кожнага рабочага—800 руб. Фактычна фабрыка мела 1400 рабочых, а кожны з іх выпусьціў прадукцыю на 900 руб. На колькі проц. фабрыка перавыканала плян?

4. 200 месц у доме адпачынку разьмеркаваны паміж 3-ма прафсаюзамі, прапарцыянальна колькасьці членаў: 700, 800 і 1000. Колькі месц у доме адпачынку атрымаў кожны саюз?

**Па альгэбры.**

а) 10 прыкладаў і задачка.

1) $4\ (a^2+4ab+b^2)+3\ (a^2-4ab+b^2)-7\ (a^2+4ab-b^2)=$ (раскрыць дужкі і скласьці).

2) $(a^2b+ab^2+ab)\cdot(4a^2b-3ab^2)=$(памножыць).

3) $(X+Y)^2+4\ (3X^2-2,5\ Y^2)=$(раскрыць дужкі і скласьці.)

4) $\frac{X^4-Y^4}{X^3-XY^2}=$ (скараціць).

5) $\frac{a^2-2ab+b^2}{a^2-b^2}=$ (скараціць).

6) $\frac{1}{a}+\frac{1}{b}-\frac{1}{c}=$ (складаньне дробаў).

7) $\frac{1}{ab}+\frac{1}{bc}-\frac{1}{ac}$ " "

8) $\frac{a^2}{a^2-b^2}-\frac{a}{a-b}$ " "

9) $3(9x-2)-5(2x-9)=0$ (разьвязваньне раўнаньня).

10) $x-\frac{3x-7}{8}=\frac{5x-1}{6}$

б) Задача па складаньні раўнаньня:

Саўгас загатовіў 112,5 *тн* саломы на 150 галоў жывёлы—коняй і кароў. Норма—0,8 *тн* для каровы і 0,65 *тн* для каня. Колькі кароў і колькі коняй у саўгасе?

**Па геамэтрыі**

1. На полі шырынёй 320 *м* і даўжынёй 440 праложаны 2 дарогі. Адна паралельна даўжыні, другая—шырыні. Шырыня кожнай 2,5 *м*; колькі будзе плошча кожнай з гэтых дарог?

2. Аркуш жалеза мае 120 *см* × 60 *см*. З яго выразаны 2 колы, радыюс кожнага 30 *см*. Колькі жалеза засталося пасьля выразкі?

3. Вучастак мае форму трыкутніку. Накрэсьляны даны вучастак на пляне маштабам 1 : 2500. На пляне аснова вучастку мае 12 *см*, вышыня 8 *см*. Колькі будзе фактычна плошча вучастку?

б) 2 запытаньні:

1. Што можна сказаць пра два трыкутнікі, у якіх ўсе бакі роўныя?

2. Што можна сказаць пра два трыкутнікі, у якіх усе куты роўныя?

У сёмых групах

Па арытмэтыцы 3 задачы.

1) Калектыў пабінен быў даць падпіску на пазыку на суму 24.500 руб., фактычна плян падпіскі выканан на 109 проц. На якую суму перавыканаў калектыў плян падпіскі?

2) Жыльлёвая плошча аднаго рабочага ў Ленінградзе складае 5,6 *кв. м*, што раўняецца 140 проц. даваеннай плошчы. Чаму раўнялася даваенная жыльлёвая плошча на аднаго рабочага?

3) 3 брыгады ўступілі ў сацспаборніцтва:

1 брыгада мела заданьне на 850 р., выканала на 900 р.

2 брыгада мела заданьне на 1200 р., выканала 1350 руб.

3 брыгада мела заданьне на 620 р. выканала 850 р.

Якая брыгада ідзе ўперадзе?

**Па альгэбры**:

а) Разьвязваньне 2 раўнаньняў з 2-ма невядомымі

1) $5x+3y=13$
$7x-4y=10$

2) $X-\frac{30-y}{5}=\frac{y}{3}-2$
$3x-\frac{2y-3}{9}=X-\frac{y}{5}$

б) Укладаньне раўнаньня з 2-ма невядомымі. З дзьвюх дзялянак трэба вывезьці 2706 куб. м. дроў. Усяго заплочана 1184 руб. 25 кап. За куб. м. з бліжэйшай дзялянкі уплочана 35 кап. а з далёкай—52 кап. Колькі куб. м. вывезены з кожнай дзялянкі?

в) Разьвязваньне квадратных раўнаньняў:

1) $(X+{}^{1}/_{5})(X-{}^{1}/_{5})={}^{8}/_{25}$

2) $(X+2)^2-(2x-1)^2=0$

**Па гэамэтрыі**—5 задачак.

1) Знайсьці плошчу квадрату, калі яго дыяганаль раўняецца 10 *см*.

2) Знайсьці плошчу правільнага ўпісанага 6 кутніку, калі радыюс яго акружыны раўняецца 10 *см*.

3) Мрамарная пліта мае форму прызмы разьмерам 100 *см* × 40 *см* × 25 *см*; знайсьці вагу прызмы, калі ўдзельная вага мрамару—2,8.

4) Колькі бляхі патрэбна на 1000 вёдзер, калі кожнае вядро мае форму цыліндру, з радыюсам асновы у 20 *см* і вышынёй 30 *см*.

5) Паверхня кулі — 1256 *кв. см*; колькі будзе яе аб'ём?

---

Час на рашэньне ўсіх задач па кожнай групе ня быў абмежаваны. Вучні разьвязвалі задачы таксама, як на нармальнай лекцыі, хаця ведалі, што гэта ёсьць праверка ведаў. У кожнай групе праверка па ўсіх разьдзелах матэматыкі заняла прыблізна 4-5 гадзін.

Задачкі на вуснае лічэньне вучні разьвязвалі вусна і пісалі толькі адказы ў сшытках.

Трэба аднак сказаць зараз-жа, што вуснае лічэньне не заўсёды было сапраўды вусным. Вучні часта карысталіся запісамі (на кавалку паперы, на стале і г. д.); такім чынам, дасьледваньне па вусным лічэньні ня поўнае.

### 3. Агульныя вынікі абсьледваньня

Ніжэй падаем табліцу вынікаў па ўсіх групах і па ўсіх разьдзелах:

| V група | Колькасьць абсьл. вучняў | Проц. пасьпяховасьці |
|---|---|---|
| **Арытмэтыка** | | |
| 1. Дзесятковыя дробы | 367 | 69,9 |
| 2. Простыя дробы | 368 | 52,4 |
| 3. Вылічэньне проц. | 382 | 35,5 |
| 4. Вуснае лічэньне | 331 | 50,4 |
| 5. Разьвязван не задач | 342 | 40,7 |
| **Геамэтрыя** | | |
| 1. Сумежныя куты | 362 | 37,6 |
| 2. Пэрымэтр | 361 | 52,4 |
| 3. Куты простакутнага трыкутніку | 363 | 60,0 |
| 4. Плошчы простакутніку і трыкутніку | 208 | 47,5 |
| 5. Карыстаньне маштабам | 174 | 60,0 |

Аб чым гаворыць гэтая табліца? Кідаецца ў вочы наступнае. Процант пасьпяховасьці па арытмэтыцы вельмі слабы; нават прыклады па дзесятковых дробах значны проц. вучняў не разьвязаў. Вельмі слаба стаіць справа з вылічэньнем проц.; $^{2}/_{3}$ вучняў з гэтай задачай ня справіліся; таксама дрэнна разьвязваюць нашы вучні задачы. Пазьней даем якасны аналіз дзіцячых работ, тут пакуль што скажам, што сярэдні проц. яшчэ не дае належнага малюнку. Калі возьмем разьвязваньне паасобных прыкладаў, маем такія паказчыкі: задачку—35 ад 140, колькі гэта проц.—разьвязалі толькі 79 вучняў з 316, г. зн. 25 проц. Прыклад 10 проц. ліку—66,5 колькі ўвесь лік—разьвязалі 146 вучняў з 415, г. зн. 35,2 проц. Больш лёгкі прыклад—знайсьці 8,5 проц. ад 3500—разьвязалі 238 вучняў з 417, г.зн. 57,1 проц. Такім чынам больш цяжкія прыклады даюць яшчэ ніжэйшыя паказчыкі. Нават у дзесятковых дробах маем такі паказчык: прыклад $5,24 \times 300,6$ разьвязала 250 вучняў з 367, г. зн. 68,1 проц. Значная колькасьць вучняў не змаглі разьвязаць такіх прасьцейшых прыкладаў.

Па гэамэтрыі справа стаіць крыху лепш.

Горш абстаіць справа з сумежнымі кутамі. Як пазьней пабачым, тут прарыў ідзе не па лініі чыста гэамэтрычнай, але слабыя веды па арытмэтыцы перашкодзілі правільнаму разьвязваньню геамэтрычных задач.

Цікава, што вылічэньне па маштабу (4 см. на паперы, колькі фактычная адлегласьць; маштаб 1 : 100.000) цяжка даецца вучням 5-х груп, а значная частка (71 на 174, г. зн. 40 проц.) зусім не змагла разьвязаць яе.

| VI група | Колькі вучн. ахопл. абсьл. | Проц. пасьпяховасьці |
|---|---|---|
| **Арытмэтыка** | | |
| 1. Вылічэньне проц. | 242 | 49,4 |
| 2. Прапорцыі | 144 | 52,1 |
| 3. Разьвязваньне задачы | 235 | 10,4 |
| **Альгэбра** | | |
| 1. Дзеяньне з многачленамі | 228 | 21,0 |
| 2. Скарачэньне дробаў і ужываньне формул скароч. множаньня | 223 | 27,9 |
| 3. Дзеяньне з альгэбраічнымі дробамі | 212 | 49,1 |
| 4. Разьвязваньне гатовых раўнаньняў | 123 | 47,2 |
| 5. Складаньне раўнаньня | 77 | 28,4 |
| **Геамэтрыя** | | |
| 1. Плошчы фігур | 182 | 79,6 |
| 2. Карыстаньне маштабам | 181 | 36.0 |
| 3. Уласьцівсьці роўных трыкутнікаў | 138 | 89,9 |
| 4. Уласьцівасьць падобных трыкутнікаў | 138 | 49,6 |

Шостыя групы паказваюць большы прарыў па арытмэтыцы, асабліва па вылічэньні проц. і разьвязваньні задач.

Таксама з альгэбрай справа абстаіць дрэнна. У той час, калі разьвязваньне гатовага раўнаньня яшчэ дае 47,2 проц. правільных адказаў, то складаньне раўнаньня зьяўляецца справай вельмі цяжкай для вучняў. Ня ўсе групы нават

прыступілі да данага пытаньня. Часта настаўнік выкідвае гэтае пытаньне. Ён загадзя ведае, што вучні не разьвяжуць яго. Такім чынам узяліся за гэткую задачу толькі 3 групы (67 вучняў), і то разьвязала толькі 19, вучняў г.зн. 28,4 проц. (гэта—19 вучняў 6-й групы „а“ 8-й Барысаўскай ФЗС, дзе на 28 вучняў 17 поўнасьцю разьвязала задачу, а 4 часткова)[1]. Настаўнікі, як відаць, больш работалі з вучнямі па разьдзелах: дробы і разьвязваньне раўнаньняў. Менш займаліся ўкладаньнем раўнаньняў. Слаба засвоена ўжываньне формул скарочанага множаньня ў дзеяньнях з многачленамі і правілы знакаў пры раскрыцьці дужак.

Геамэтрыя, як па шостых, так і па пятых групах дае лепшыя паказчыкі. Даволі цяжкую гэамэтрычную задачу № 2 (з аркуша жалеза 120×60 *см.* выразаны два кругі радыюсам па 30 *см*, колькі жалеза засталося пасьля выразкі), значны процант вучняў разьвязаў, прычым большая частка нарысавала як сьлед чарцёж і работала пасьлядоўна і сьвядома карыстаючыся геамэтрычнымі формулкамі. Але ўсё-ж такі і шостыя групы не змаглі правільна вылічваць па маштабу. Тут маем усяго 65 правільных рашэньняў на 181 вучня, г. зн. 36,0 проц.

| 7-ыя групы | Колькі вучняў ахопл. дасьл. | Проц. пасьпяховасьці |
|---|---|---|
| **Арытмэтыка** | | |
| 1. Вылічэньне проц. . . . | 91 | 86,4 |
| 2. Разьвязваньне задач . | 94 | 59,6 |
| **Альгэбра** | | |
| 1. Разьвязваньне гатовых раўнаньняў . . . . | 101 | 60,4 |
| 2. Складаньне раўнаньняў | 107 | 54,2 |
| 3. Разьвязваньне квадратовых раўнаньняў . | 107 | 36,0 |
| **Геамэтрыя** | | |
| 1. Плошчы фігур з скарыстаньнем тэарэмы Піфагора . . . . . | 108 | 62,0 |
| 2. Аб‘ём цел . . . . . . | 65 | 67,3 |
| 3. Паверхня і аб‘ём кулі | 29 | 81,0 |

[1] Наогул, восьмая Барысаўская ФЗС дала найлепшыя вынікі па матэматыцы; яна сярод абсьледаваных 9 школ займае першае месца па данаму прадмету.

Сёмыя групы даюць палепшаньне ў арытмэтыцы ў параўнаньні з пятымі і шостымі. Так мы атрымоўваем наступную таблічку:

**Проц. пасьпяховасьці па вылічэньню процантаў**

| | |
|---|---|
| V гр. . . . . . . . | 35,5% |
| VI „ . . . . . . . | 49,4% |
| VII „ . . . . . . . | 86,4% |

Апрача таго, што сёмыя групы ў гэтым годзе працавалі больш энэргічна, чым пятыя і шостыя—апрача гэтага, прыходзілася вучням часта сустракацца з процантамі—як па розных дысцыплінах, такі ў штодзённым жыцьці. Такім чынам сёмыя групы праявілі больш сьвядомасьці ў рабоце над гэтым разьдзелам арытмэтыкі, хаця спэцыяльна ў 7-ай гр. яны не праходзілі гэтага прадмету. Усё-ж такі і 7-ыя групы праявілі вялікі прарыў па разьвязваньні задач. Тут маем ця больш 59,6 проц. правільных адказаў. Значная частка не змагла разьвязаць даволі простыя задачы.

Па альгэбры рашэньне раўнаньняў з 2-ма невядомымі ідзе лепш, чым складаньне такіх раўнаньняў. Найгорш абстаіць справа з квадратовымі раўнаньнямі.

Па геамэтрыі 7-мым групам мы далі даволі сур‘ёзныя заданьні, з якімі ня ўсе вучні справіліся. Тэарэмай Піфагора карыстаюцца больш-менш правільна 62,0 проц. усіх дасьледаваных вучняў. Па паасобных школах мы бачым большыя прарывы; так па 25-й Менскай ФЗС задачку: знайсьці плошчу квадрату, калі дыяганаль раўняецца 10 *см.*—з 32 вучняў ніводзін вучань не разьвязаў.

Таксама з аб‘ёмам прызмы і цыліндру справа ў 7-ых групах стаіць лепш, але-ж па некаторых школах гэтыя задачы разьвязалі толькі 12 проц.

Задачы з паверхняй і аб‘ёмам кулі настаўнікі многіх школ не давалі вучням, таму, што вучні ня добра аўладалі імі ў часе клясных заняткаў. Толькі 2 школы—(Барысаўская 8-ая ФЗС і Койданаўская польская ШКМ) узяліся за разьвязваньне гэтых задачак, пры чым Барысаўская дала—91,3 проц. правільных адказаў, а Койданаўская 41,7 проц.

Такім чынам, мы канстатуем на падставе дадзеных вышэй табліц, што па матэматыцы, асабліва па арытмэтыцы і альгэбры ў 5-х і 6-ых групах маецце вялікі прарыў, ня гледзячы на ўзмоцненую работу з вучнямі па гэтым прадмету. На сёняшні дзень яшчэ не ўдалося ліквідаваць карэнны недахоп па матэматыцы ў школах. Прыдзецца напружана працаваць у надыходзячым навучальным годзе, каб паставіць як належыць веды нашых вучняў па гэтай важнейшай аснове навук.

#### 4. Аб'ем і якасьць ведаў па арытмэтыцы ў V групах

Колькасныя паказчыкі, якія прадстаўлены ў папярэдніх табліцах, яшчэ не даюць належнага малюнку таго, што вучні ведаюць па матэматыцы: як яны разьвязваюць прыклады і задачы, як яны ауладаюць тэхнікай дзеяньняў над living рознымі лічбамі, як яны ўмеюць вырашаць жыцьцёвыя задачы ў штодзённай практыцы. Усё гэта нам высьветліць якасны аналіз вучнёўскіх работ. Ён дасьць нам магчымасьць выявіць галоўныя недахопы, як па аб'ёму ведаў вучняў і мэтадах работы настаўнікаў, так і палітэхнічныя моманты, якія мы маем у даным прадмеце.

Мы, таму, пераходзім да галоўнай часткі нашага артыкулу—да разгляду таго, што сабою прадстаўляюць вучнёўскія работы.

Апрацавана ўсяго 8754 вучнёўск. задачы па арытмэтыцы, 3369 работ па геамэтрыі і 2602 работы па альгэбры, усяго 14545 дзіцячых кантрольных задач. Гэта нам дало вялізарнейшы матар'ял для аналізу, да якога мы і прыступаем.

Трэба заўважыць, што прыклады задач, якія мы прыводзім пазьней, зьяўляюцца ня выключнымі здарэньнямі таго альбо іншага вучня. Такія выключныя прыклады, як бы яны ня былі цікавымі, мы ня прыводзім, таму, што яны ня тыповыя для масы вучняў. Мы карыстаемся такімі работамі—памылковымі альбо правільнымі,—якія зьяўляюцца масавым зьявішчам, на якія трэба і можна будзе мабілізаваць думку настаўнікаў і вучняў, каб іх ізжыць альбо распаўсюджваць, калі гэта ўзорная работа.

а) Пачнем з аналізу дзеяньняў дзесятковых дробаў. Прыклад

$$5{,}24 \times 300{,}6$$

значная колькасьць вучняў разьвязала наступным чынам:

2) 5,24 × 300,6 = 160,344

```
1) 5,24
  300,6
  -----
   3144
  1572
  ------
 160,344
```

Што тут цікавага? Вучань ня мае дастатковых ведаў множаньня лікаў. Множнік не пастаўлен як належыць пад множывым. Потым, з прычыны нулёў, на якія ня трэба множыць, вучань заблытаўся і няправільна падпісаў адзін прыватны здабытак (1572) пад другім (3144); калі-б адсунуў на адно месца налева лічбу 1572, адказ быў-бы правільны.

Няўпэўненасьць у множаньні лікаў характарызуе значную частку вучняў. Слабыя веды атрыманы яшчэ ў ранейшых гадох навучаньня, але яны не ліквідуюцца ў 5-ых групах: настаўнік часта заняты прапрацоўкай далейшай праграмы і не зварочвае ўвагі на гэтыя недахопы, якія, як пабачым, адбываюцца ўсюды да 7-й групы ўключна (і, паміж іншым, заўважваюцца сярод студэнтаў пэдтэхнікумаў).

Наступная група вучняў робіць такую грубую памылку




Тут маем поўную блытаніну: па-першае, вучні множаць 524 на 0 і атрымоўваюць 524, як быццам множылі на 1; вучань не задумваецца, што такое множыць на 0; ён мэханічна множыць не разьбіраючыся ў значэньні данай лічбы; гэта не адзіныя факты—блытаніна паміж 0 і 1 вельмі вялікая сярод вучняў. Трэба настаўніку зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэтае зьявішча і ліквідаваць яго хутчэй. Як пабачым, гэтая памылка сустракаецца нават у 7-й групе ў альгэбры, калі $\frac{a+b}{a+b}=0$ (замест 1).

У прыведзеным прыкладзе мы маем таксама паўтарэньне той самай памылкі, якая паказана намі ў рабоце № 1: расстаноўка прыватных здабыткаў няправільная; 524 стаіць занадта налева, а 1672 адным месцам больш направа. Такім чынам мы маем тут прыклад, калі адна памылка сустракаецца з шэрагам іншых памылак—вынікам чаго атрымліваюцца бяссэнсоўныя адказы.

Яшчэ група вучняў робіць іншага характару памылкі:

$$5{,}24 \times 300{,}6 = 157{,}5144\ ^{1)}$$

Тут множаньне зроблена зусім правільна, толькі колькасьць дзесятковых значкоў вучань лічыў ня з правага боку, але з левага: ён адлічыў 3 цыфры і паставіў коску не на належным месцы, гэтая памылка таксама зьяўляецца досыць распаўсюджанай, хаця і ня столькі, як першыя зазначаныя хібы.

¹) К — Уа — 2

Пераходзім да наступнага прыкладу:

11,4 : 0,95;

Мы атрымалі наступныя адказы:

1,2[2]), 0,12[3]), 0,1[4]), 0,211[5]), 102[6]) і г. д.

Якім чынам гэта атрымліваецца? Прыгледзімся да ходу разьвязваньня даных задач: вучань адкідвае коску толькі ў дзельніку, атрымлівае 11,4 : 095; ён дзеліць дроб на цэлую лічбу—адказ: 0,12; другія вучні адкідваюць коскі і ў дзялівым і ў дзельніку, але загадзя не выраўнялі колькасьці дзесятковых знакаў; атрымліваюць яны 11,4 : 0,95; адказ—1,2.




Гэты прыклад яскрава выкрывае некаторыя тыповыя недахопы ў рабоце па матэматыцы.

1. Вучні няпэўна ведаюць, што рабіць трэба з нулямі пры дзяленьні: альбо ставяць адным нулём больш, чым гэтага патрабуе задача, альбо абмяжоўваюцца простым закрэсьліваньнем коскі і на гэтым супакойваюцца; няма цьвёрдасьці ў ведах гэтых правіл.

2. У самым працэсе дзяленьня сустракаюцца грубыя памылкі:




²) 3—Ус—2 ³) 3—Ус—3 ⁴) 3—Ус—26 ⁵) М—39—5а—3 ⁶) М—39—Ув—21.

Вучань дзяліў 114 на 95, атрымаў 1, падпісаў 95 пад 114, розьніца 19; тады вучань не прыпісаў 0, а падзяліў 19 на 95—адказ 0, потым ён дапісаў 0, дзяліў трэці раз на 95; вынік атрымаўся—102!

Трэба ведаць, што гэткія недарэчнасьці не зьяўляюцца выпадковымі: яны сустракаюцца ў розных школах і паказваюць той самы ход памылковага вырашэньня.

З аналізу прыведзеных прыкладаў, мы бачым галоўныя тыповыя недахопы, якія вучні робяць у заданьнях па дзесятковых дробах, на якія настаўніцтву трэба зьвярнуць увагу. Трэба добра памятаць, што 32—37 проц. усіх абсьледаваных вучняў 5-х груп зусім не разьвязалі гэтых простых прыкладаў, якія звычайна рашаюцца ў 3-й групе; аказваецца, што $^1/_3$ вучняў ня толькі не замацавала ў старэйшых групах папярэдніх ведаў, але часткова іх запамятала.

Другая-ж частка вучняў, якая разьвязала заданьні, рашыла таксама са слабай ўпеўненасьцю: гэта відаць з таго, як вучні часта рашалі няправільна, потым закрэсьлівалі напісанае і перапісвалі больш правільна.

У сваей рабоце настаўнік не павінен абмяжоўвацца толькі распрацоўкай новых разьдзелаў арытмэтыкі; ён заўсёды павінен замацаваць пройдзеныя правілы, прычым браць трэба прапрацаваныя правілы у ўсё новых палажэньнях, у новых лічбовых контэкстах; паўтарэньне аднаго і таго жа тыпу задач прыядаецца вучням і не дае належнага эфэкту.

б) У лічэньні з простымі дробамі бачым яшчэ больш недарэчнасьцяй; як відаць з табліцы, палова вучняў не рашыла прыкладаў па простых дробах. Дзе-ж прычыны? возьмем факты: вучань разьвязвае зусім правільна наступны прыклад:

$$\text{I.}\quad 8\frac{7}{9}+4\frac{1}{2}-5\frac{5}{18}=8$$

$$8\frac{7}{9}+4\frac{1}{2}=8\frac{14}{18}+4\frac{9}{18}=12\frac{23}{18}=13\frac{5}{18}\qquad 2.\ 13\frac{5}{18}-5\frac{5}{18}=8$$

Але вось значная колькасьць вучняў рашае той самы прыклад ужо іншым шляхам.

$$\text{I.}\quad 8-\frac{79}{9}+\frac{3}{2}=\frac{158-81}{18}=\frac{77}{18}$$

$$\text{II.}\quad \frac{47}{18}-5\frac{5}{12}=\frac{77}{18}-\frac{65}{12}=\frac{77-65}{218}\times\frac{17}{218}$$

Вучні мяшаны лік ператварылі ў няправільны дроб; яны тут пераблыталі з правілам множаньня або дзяленьня дробаў. Атрымалася нерацыянальная работа: вялікія лікі, з якімі вучань ня справіўся і нарабіў памылак.

Далей, замест таго, каб шукаць найменшы агульны назоўнік для 12 і 18 (36), вучань проста множыць 12 на 18 і атрымлівае агульны назоўнік занадта вялікім лікам. Ясна, што пры дзеяньні з большымі лікамі вучань больш робіць памылак.

Некарыснае ператварэньне мяшанага ліку ў няправільны дроб пры складаньні дробаў зьяўляецца вельмі распаўсюджаным зьявішчам; настаўніку не ўдалося ўнесьці чоткасьць у разуменьні вучнямі—калі рацыянальна ператвараць лік у няправільны дроб і калі яна толькі перашкаджае рабоце. Прывodзім адваротныя факты: вучань мно-

жыць $8^4/_5$ на $8^1/_2$. Ён тут не ператварае мяшаныя лікі ў няправільныя дробы, і множыць паасобку 8 на 8 і $^4/_5$ на $^1/_2$; да гэтага далучаецца яшчэ адна памылка, каб памножыць $^4/_5$ на $^1/_2$ ён іх прыводзіць чамусьці да агульнага назоўніка—і множыць $^8/_{10}$ на $^5/_{10}$; зразумела, што фактычна адказ будзе той самы ($^8/_{10}$ на $^5/_{10}$ дасьць той вынік, што $^4/_5 \times {}^1/_2$), але вучням прыходзіцца праводзіць дзеяньні і вялікімі лікамі, што наводзіць яго на памылкі.

Вось копія такога лічэньня

$$8\frac{4}{5} \times 8\frac{1}{2} = 64\frac{4}{10}$$

У данага вучня $^8/_{10} \times {}^5/_{10}$ дало правільны вынік $^4/_{10}$; але вось другі вучань унёс ужо новую памылку: замест $^4/_{10}$ напісаў $^{40}/_{10}$ і атрымаў адказ:

$$8^4/_5 \times 8^1/_2 = 64 + 4 = 68$$ [1]);

альбо іншы вучань піша:

$$8^4/_5 \times 8^1/_2 = 64^{20}/_5 \times {}^{20}/_{10} = 64^{20}/_{10}$$ [2]).

Апрача вышэйпамянёных тыповых памылак, мы сустракаемся часта з нядбайнасьцю вучняў пры рабоце; прыводзім такі прыклад:

$$8^4/_5 \times 8^1/_2 = {}^4/_{44} \times {}^1/_{17}$$ [3]).

Вучань бачыць 4 і 1 у лічніках: ён думае, што і ў няправільным дробу павінны гэтыя 4 і 1 застацца на версе—ён атрымлівае такім чынам адваротныя дробы.

Хаця такіх прыкладаў ёсьць нязначная колькасьць, але-ж падобная нядбайнасьць сустракаецца ў дзесятках мясцох пры розных дзеях. Асабліва ў матэматыцы трэба настаўніку змагацца з гэтым злом; тут кожная літара, кожны лік павінны мецьсвае месца, трэба даць вучням навык: не кідацца лічбамі і ставіць іх куды хочаш. Навык дысцыпліны і парадку ў матэматыцы, я-б казаў, ёсьць арганічная частка выкладаньня гэтага прадмету.

Толькі такой-жа нядбайнасьцю можна тлумачыць, што большасьць вучняў не разьвязала лёгкай задачкі, $9^3/_4 : 8^1/_4$. Яна аказалася не па сілах палове ўсіх дасьледаваных вучняў. Ёсьць 5-я групы, якія па гэтай задачы даюць наступныя вынікі: з 25 вучняў разьвязала толькі 5 (М—39—V—а), з 23-х вучняў разьвязала толькі 7 (М—25—5—в), з 29 вучняў разьвязала толькі 2 (М—7—5а).

У чым справа? Паглядзім прыклад:

$$9^3/_4 : 3^1/_4 = 3\frac{3:1}{4} = 3^3/_4$$ [4])

Вучні проста забываюць паставіць лік 4 з другога назоўніка. Раз 4 стаіць у $^3/_4$ яны лічаць непатрэбным паставіць яшчэ раз такую-ж самую цыфру. Зразумела, ёсьць яшчэ іншыя прычыны памылак, —але беспарадачнасьць у рабоце па данай задачы ў большасьці перашкаджала правільнаму яе вырашэньню.

Апошняя тыповая памылка, аб якой трэба гаварыць і якую яскрава выяўляе наша абсьледваньне—гэта няўменьне вучняў скараціць дроб. Характэрна, што ў аднэй з 5-ых груп толькі 2 вучні разьвязалі гэты злошчасны прыклад, і то напісалі адказ нескарочаным дробам:

$$\frac{39 \cdot 4}{4 \cdot 13} = \frac{156}{52}$$

Так яны і рашылі канчаткова. Не дагадаліся, што можна скараціць вынік: але-ж яны павінны былі скараціць яшчэ раней, у левай частцы раўнаньня, не дапусьціўшы да вялікіх лікаў (156 і 52). Вось правільнае рашэньне гэтай самай задачы.

$$c)\ 9\frac{3}{4} : 3\frac{1}{4} = \frac{39}{4} \times \frac{13}{4} = \frac{\overset{3}{39} \cdot 4}{4 \cdot \underset{1}{13}} = 3$$

Уменьне своечасова скараціць дробы зьяўляецца вельмі важнай „дробязьзю“, якой трэба вучня абавязкова навучыць. Гэта вялікая эканомія ў рабоце. А мы ведаем, што настаўнік яшчэ мала зьвяртае увагі на такую „дробязь“. Часта настаўнік вучыць дзяцей такім чынам, каб яны ў пачатку множылі ўсе лічнікі

---

[1]) М—7—Уа—24.
[2]) М—7—Ув—10
[3]) М—7—Уа—9.

[4]) М—7уа—13.

і назоўнікі, а потым толькі дзялілі лічнік на назоўнік, каб вылучыць цэлыя лікі з няправільных дробаў. Пры такім ходзе работы вучань прывучаецца не скарачваць сваячасова, а імкнецца хутчэй перамножыць лікі. Трэба змагацца з такімі прыёмамі работы—яны толькі перашкаджаюць рацыянальнай пастаноўцы прадмету па даным разьдзеле.

Прыводзім яшчэ некаторыя памылкі, якія па колькасьці менш сустракаюцца, але па зьмесьце маюць значэньне для ўразуменьня пэдагагічнага працэсу па матэматыцы. Некаторыя вучні разьвязалі прыклады такім чынам:

$$8\tfrac{7}{9} + 4\tfrac{1}{2} = \tfrac{79}{9} + \tfrac{9}{2} = \tfrac{81}{11} = 9\tfrac{4}{11}$$ [1]).

Вучань рашае зусім проста. Замест таго, каб шукаць агульнага назоўніка, ён іх склаў, таксама склаў лічнікі, не павялічваючы іх папярэдня. Да усяго гэтага ў яго 79+9 даюць 81 замест 88. Атрымалася поўная недарэчнасьць.

Альбо:

$$8\tfrac{4}{5} \times 8\tfrac{1}{2} = \tfrac{44}{10} \times \tfrac{17}{10} = 0$$ [2])

Чамусьці ў дадзенага вучня скараціліся ўсе лікі лічнікаў і назоўнікаў, але-ж характэрна, што ў яго атрымаўся ў выніку 0, а не 1; аб гэтым зьявішчы мы ўжо раней гаварылі.

Нарэшце прыводзім такі факт. У вучня атрымліваецца дроб $\tfrac{704}{10}$, вучань дзеліць лічнік на назоўнік і атрымлівае $704 \,|\, \underline{10}$ / **7,4** [3]).

Пры дзяленьні вучань ня прыняў пад увагу 0, які стаіць у сяродку ліку. Ён дзеліць 70 на 10, атрымлівае 7, потым зносіць 4, але ў частным не дапісвае 0. Такім чынам замест 70,4 ён мае 7,4.

Хаця, як мы казалі, такіх фактаў маем малую колькасьць, аднак яны вельмі цікавыя для настаўніка; ён павінен сачыць, каб ня было такіх памылак, таму, што яны могуць быць крыніцай вялікіх непаразуменьняў і могуць перашкаджаць правільнаму засваеньню ведаў вучнямі.

в) Па разьдзеле вылічэньня процантаў найлепш стаіць справа з першым тыпам задач (наш прыклад: знайсьці 8,5 проц. ад 3500)—разьвязалі гэты прыклад больш паловы вучняў. Другі тып задач (10 проц. ад ліку—66,5 проц.; знайсьці 100 проц.)—разьвязала толькі $\tfrac{1}{8}$ вучняў, а трэці тып (колькі процантаў складае 35 ад 140) разьвязала толькі $\tfrac{1}{4}$ усіх дасьледаваных вучняў.

Адносна процантаў трэба сказаць, што веды вучняў вельмі слабыя. Праналізуем наступныя прыклады. Група вучняў разьвязвае прыклад № 2 зусім правільна: яны пішуць—10 проц.—гэта 66,5 проц.—значыць 1 проц. у 10 раз менш, а 100 проц. у 100 раз больш. А ўсё-ж такі ў выніку маем наступнае рашэньне:

$$66{,}5 : 10 = 6{,}65$$ [4])

$$6{,}66 \times 100 = 66500$$

Адказ не 665, а 66500. Запамяталі паставіць коску дзе трэба.

Альбо $$\frac{66{,}5 \cdot 100}{10} = 66{,}5$$ [5])

Як бачым ход задачы правільны, але няўпэўненасьць у рабоце з дзесятковымі дробамі, а таксама характэрная нядбайнасьць, аб якой мы гаварылі, перашкодзілі вучням правільна лічыць.

Такіх прыкладаў маем дзесяткі. Яны ў тысячны раз павінны мабілізаваць настаўніцкую масу па барацьбу за чоткасьць у матэматыцы, за глыбокае засваеньне і ўмелае карыстаньне папярэднімі ведамі пры праходжаньні правіл вылічэньня процантаў.

Але апрача гэтых недарэчнасьцяй, галоўная небясьпека выражаецца ў няўмелым ауладаньні тэхнікай самаго вылічэньня процантаў. А проценты гэта вельмі важны разьдзел арытмэтыкі з якім мы сустракаемся штодзень, кожную гадзіну. Вучні выяўляюць няпоўнае ўразуменьне самой мэханікі рашэньня задач на $^0/_0{}^0/_0$; будзем памятаць, што з 316 дасьледаваных вучняў рашылі 3-ю задачку (колькі процантаў складаюць 35 ад 140) толькі 79; 237 не разьвязала.

---

[1]) М—39—У—2.
[2]) М—39—5б—6.
[3]) М—39 5б—11.

[4]) М—25—5а—6
[5]) М—25—5—д—24.

Вось як вучні разьвязваюць гэтую задачку:

$$140:35=4 \text{ проц.}$$[1]

Іншыя ідуць далей $140:35=4$; $4\times\times100=400$ проц.[2]

Большая частка вучняў ішла іншым шляхам

$$140:100=1,4$$

$$350 \,|\, \frac{1,4}{25\%}$$[3]

Або—парадкам прапорцыі:

$$140-35$$
$$100-x$$

$$x:35=100:140 \quad x=\frac{35\cdot100}{140}=25$$[4].

Але большасьць вучняў, якія ідуць гэтым шляхам, блытаюць, яны пішуць у большасьці прапорцыю няправільна:

$$35-100 \quad x=\frac{35\cdot140}{100}$$[5]
$$x-140$$

Аналіз 237 няправільных адказаў паказвае, што большасьць няправільнасьцяй крыецца ў такой фальшыва пабудаванай прапорцыі, больш палова ўсіх памылак па даным пытаньні тлумачыцца іменна няправільнай прапорцыяй.

Найлепшы шлях, як дасьледваньне паказвае, гэта шлях знаходжаньня 1 проц.

$$140:100=1,4$$
$$35:1,4=25\%.$$

Ён дае найбольшы процант правільных рашэньняў. Аднак рабяты і тут сустракаюцца з аднэй небясьпекай: яны часта ня ведаюць што зрабіць з лікам, складаючым 1 проц. (1,4). Замест таго, каб 35 дзяліць на 1,4 яны множаць:

$$35\times1,4=49$$[6].

Тут зноў мы сустракаемся з няпоўным усьведамленьнем, няўпэўненасьцю ў ўразуменьні арытмэтычных правіл. Мы бачым тут мэханістычны падыход да задачак; пытаньня—колькі раз гэтыя 1,4 (1 проц.) укладаюцца ў 35—ня існуе для вучняў.

Такім чынам практыка школ дае катэгарычны адказ, якім спосабам трэба разьвязваць трэці тып задач на проценты. Адначасова трэба сыстэматычна праводзіць работу з вучнямі, каб яны добра зразумелі гэты спосаб і аўладалі-б добра тэхнікай разьвязваньня гэтага тыпу задач; таксама абавязкова трэба прапрацаваць гэты тып задач і ў шостых і сёмых групах, аб чым будзем гаварыць пазьней.

Наступная тыповая памылка—гэта блытаніна паміж абсалютным лікам і працэнтным. Замест проц. часта пішуць проста лік, а замест ліку проц. Даволі значная група вучняў рашае дзьве задачы—1) (знайсьці 8,5 проц. ад 3500; 2) 10 проц. ліку складае 66,5, знайсьці поўны лік)—такім чынам:

$$\frac{3500\cdot8,5}{100}=297,5\%\text{[7]}; \quad \frac{66,5\cdot100}{10}=66,500\%\text{[7]}$$

І наадварот, задачку—колькі процантаў складаюць 35 ад 140—пішуць: абсалютныя лікі 4, 49 і г. д. забываючы, што тут павінен быць адзначаны процант.

Як відаць, настаўнік не заўсёды падкрэсьлівае чотка дзе проц. дзе абсалютны лік. Ён таксама не зьвяртае дастатковайувагі на памылкі вучняў такога парадку. Такога роду нядбайнасьць практыкуецца ў нашых школах. Настаўнік бывае задаволены, што вучань атрымаў правільны адказ у самым ліку і мала падкрэсьлівае перад вучнямі, што даны лік азначае. Гэтае зьявішча павінна быць выпраўлена, таму, што гэта часта прыводзіць да схалястычнай работы з лікам.

Каб закончыць аналіз работ па процантах, падкрэсьлім наступныя зьявішчы: розьніца паміж задачамі першых двух тыпаў незаўсёды ясна вучням. Ёсьць выпадкі, калі задачу—8,5 проц. ад 3500 разьвязвалі такім парадкам:

$$\frac{3500\cdot100}{8,5}=\frac{350000}{8,5}=4117\,\frac{55}{80,5}$$[8]

[1]) М—7—5б—3. [2]) з—5а—8. [3]) з—5а—7.
[4]) М—39—Уб—12. [5]) К—Уа—12,13. [6]) З—Уа—12.

[7]) М—33—Уа—12. [8]) М—25—Уг—18.

I наадварот: задачу 10 проц. ліку = = 66.5; колькі увесь лік—рашалі:

$$\frac{66{,}5 \times 10}{100} = \frac{66{,}5}{10} = 66{,}5^{1)}$$

Тут, апрача звыча......х арытмэтычных памылак, аб якіх мы досыць гаварылі, ёсьць карэнная тыповая памылка: ня ведаюць вучні, што ў першым выпадку 3500—100 проц., а таму лік дзеляць на 100, а 66,5 складае толькі 10 проц., а таму яе трэба дзяліць на 10.

Канчатковыя вынікі па данаму разьдзелу: чоткая і сьвядомая работа вучняў і добрае аўладаньне тэхнікай работы зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі засваеньня задач на проценты. Сыстэматычная работа на працягу ня толькі V-й групы, але і наступных груп дасьць магчымасьць канчаткова ліквідаваць тыя значныя прарывы, якія мы тут паказалі.

Вуснае лічэньне дало, як ужо паказана ў табліцы (стар. 8) 50 проц. пасьпяховасьці. Як быццам гэты процант параўнаўча здавальняючы. Але гэты процант ня зусім адбівае сапраўднае становішча па вусным лічэньні.

Па-першае, значная колькасьць вучняў ухітралася дзесьці пісаць. У сшытку напісан толькі адзін адказ, як і патрабавалася ад вучня. Але на другіх паперках так або інакш вылічвалі ў пісьмовай форме. Гэта адно пацьвердзіла, што ў вучня няма прызвычаенасьці да вуснага лічэньня; мы павінны дабіцца ў парадку рацыяналізацыі работы, каб вучні лічылі вусна, нават, калі дазваляецца рабіць у пісьмовай форме. Такія звычкі павінны быць дадзены нашым вучням. Выходзіць сьмешна, калі вучань V, таксама VI і VII груп дзеліць 140 на 100 з поўным узбраеньнем усіх правіл дзяленьня, як гэта робіць вучань другой групы, альбо вучань множыць 4 на 100 такім спосабам: 4 ²)

```
  100
   00
    4
  400
```

Па-другое, пры вусным лічэньні падказваньні вучнямі былі магчымы ў большай ступені чым у пісьмовых задачах— тут жа ня трэба паказаць ходу работы, а проста пісаць адказ.

Вось чаму фактычны процант пасьпяховасьці па вусным лічэньні будзе значна меншы; нам цяжка ўстанавіць дасканала які гэта будзе процант, але на падставе сабранага вопыту школ мы з упэўненасьцю робім вывад, што нашы вучні ня ўмеюць вусна лічыць, і што настаўнікі аддаюць гэтай справе ў штодзённых занятках мала ўвагі.

Прыклады на вуснае лічэньне былі дадзены двух тыпаў:

1. Лічэньні — паказваючыя агульную арыентыроўку ў ліках (100 р.—1 кап.; $420 \times {}^1/_2$; $1{,}5 \times 1{,}2$).

2. Лічэньне на проценты (колькі проц. складае 9 ад 200, 4 ад 50; знайсьці 25 процантаў ад 440; 120 павялічыць на 20 проц.).

Дасьледваньне так і выявіла два тыпы памылак. Па-першае, вучні паказваюць слабую арыентыроўку ў ліках, па-другое вучні слаба разумеюць, што такое 1 проц. і таму ўносяць блытаніну ў лічэньне; фактаў вялікая колькасьць. Ёсьць групы, якія рашалі прыклад— $420 \times 1^1/_2$ вось як:

| | | | |
|---|---|---|---|
| у аднэй гр. | з 20 вучняў | 1 | |
| у другой гр. | „ 25 | „ | 7 |
| у трэц'яй гр. | „ 25 | „ | 8 |
| у чацьв. гр. | „ 23 | „ | 3 і г. д. |

Або: Прыклад колькі процантаў складае 9 ад 200 і 4 ад 50 рашалі з 20 вучняў 2, з 33 вучняў 0.

Возьмем паасобныя доказы

¹) М 25—Уд—12.16. ²) 3—5а—8.

Ці падумаў вучань у гэты самы час, што 420 павялічана у $1^1/_2$ разы, будзе значна менш ад 5100? Лікі хаатычна ўкладваліся ў яго галаве: ня прызвычаіўся ён таксама кантраляваць вынік у параўнаньні з умовай.

Трэба падкрэсьліць, што ёсьць некаторыя школы, дзе вучні прызвычаіліся правяраць атрыманы адказ. Мы раім усім настаўнікам пасьледваць гэтаму добраму прыкладу і сыстэматычна яго праводзіць, асабліва пры вусным лічэньні. Тады вучні падумалі-б, што 5100 гэта занадта вялікі лік для 420 памножанага на $1^1/_2$.

Вось цэлы шэраг падобных адказаў:

$420 \times 1^1/_2 = 1260$ [1])
$420 \times 1^1/_2 = 4050$ [2])
$420 \times 1^1/_2 = 504$ [3])
$420 \times 1^1/_2 = 8400$ [4])
$420 \times 1^1/_2 = 1050$ [5])
$420 \times 1^1/_2 = 120$ [6])
$420 \times 1^1/_2 = 12600$ [7])

Калі мы адзначаем памылку ў пісьмовых работах, мы заўсёды знаходзім некаторую законамернасьць у самых памылках. Мы заўсёды можам тлумачыць прычыну памылак. Пры вусным-жа лічэньні цяжка знайсьці такую законамернасьць. аб чым сьведчыць паказаная вышэй маса самых match рознастайных адказаў. Проста ў галаве пераблыталіся ўсе лікі. Такі малюнак дае прыклад вуснага лічэньня: па прыкладу $1{,}5 \times 1{,}2$, адказы наступныя: 2,1, 1,4, 150, $1^1/_5$ [8]); 180, 21, 2,5 [9]), 1,08, 0,1, $^1/_{10}$, 12,7, 3,0 [10]) і г. д.

Пры разьвязваньні другога тыпу вусных задач (на $^0/_0{}^0/_0$) бачым такі-ж малюнак; тут яшчэ дабаўляецца факт слабых ведаў на процанты. Мы прысутнічалі ў групах, калі вучням прыходзілася разьвязваць вусна прыклад—25% ад 440. Ход лічэньня быў такі: 1 проц. ад 440 гэта . . . . 44; не — . . . —4,4; памножым 25; $25 \times 40 = 1000$, не— . . . 1600 . . . і г. д. так доўга думалі—і нарэшце напісалі адказ—1760 [11]).

Атрымаліся таксама адказы: 1904 [12]) 1010 [13]), а частка вучняў дала такі адказ:

$25_0/^0$ ад $440 = 100\ ^0/_0$ [14])

або $65\ ^0/_0$ [15])

Трэба аднак дадаць, што па гэтым тыпе вусных задач большая колькасьць вучняў рашыла правільна. Але усё такі знаходжаньне правільнага адказу шляхам пераводу 25 проц. на $^1/_4$ была найменш частым зьявішчам. Як відаць, мы мала распаўсюджваем у нашай школьнай практыцы больш кароткія, рацыянальныя прыёмы вуснага лічэньня.

Ня будзем застанаўлівацца на разборы іншых прыкладаў па вусным лічэньні: прыведзеных довадаў хопіць для выяўленьня сапраўднага становішча данай формы работы па матэматыцы. Вуснае лічэньне трэба праводзіць ня толькі ў малодшых групах, але і ў старэйшых. Вуснае лічэньне павінн прасякаць усе разьдзелы матэматыка пры дробах, пры процантах, пры праі: порцыях — усюды, дзе гэта магчыма- трэба карыстацца вусным лічэньнем, і дабіцца больш скарочанага шляху пры рашэньні задач. Не спэцыяльныя гадзіны па вусным лічэньні трэба праводзіць, але ім трэба карыстацца пры іншых формах работы.

Далей, трэба практыкаваць кантроль адказаў параўнаўча з лікамі ўмовы: вучні павінны зразумець, што $420 \times 1^1/_2$ можа даць сотні, а не тысячы, альбо што 25 проц. ад 440 можа даць лік меншы чым 440, таму што 25 проц. гэта менш чым 100 проц. Такім чынам, кантроль не дапусьціць такіх недарэчнасьцяй, як 25 проц. ад 440=1760; вучні павінны мець добрае прадстаўленьне аб ліках, іх вялічыні і зьмесьце, асабліва ў нашай палітэхнічнай школе. Вучні павінны навучыцца ня сьлепа паўтараць і мэханічна пісаць лікі, а іх разумець і канкрэтна ацэньваць.

---

1) Мх—У—1, 2) Мх—У—6, 3) Мх—5—14, 4) Мх—5—16, 5) М—25—Уд—14, М—7—Уб—14. 6) М—25—5д—9, 7) М—25—Уг—5. 8) М—25—5 д., 9) М—25—5а, 10) М—39—Уб.

11) М—25—Уд—2,10. М—25——5а—6. 12) М—25——5 г—11. 13) М—39—5а—18. 14) 3—5—в—20. 15) М—39—5а—5,7.

А гэтаму шмат дапамагае правільна пастаўленае вуснае лічэньне.

д) Апошні разьдзел нашага абсьледваньня гэта разьвязваньне тэкставых задач з канкрэтнымі ўмовамі. Былі дадзены 4 задачы, якія па свайму тыпу папулярны ў нашай школьнай практыцы.

Трэба сказаць, што ў рашэньні задач мы сустракаемся з большым прарывам у ведах вучняў. Праўда, 40 проц. абсьледаваных вучняў разьвязала задачы, але ім гэта далося з такой цяжкасьцю, што настаўнікам прыходзілася нават даваць некаторыя паясьненьні да ўмовы.

Прыгледзімся да фактаў. Возьмем задачу: куплена 340 падручнікаў па 1,4 руб. кожны; 0,3 ўсіх падручнікаў зданы ў пераплёт па 0,5 руб. кожны; колькі каштуюць усе падручнікі разам з пераплётамі?

Вучань разьвязвае:

1) 340 | 0,3 = 113   2) 340 × 1,4 = 516   3) 340 × 0,5 = 140   4) 516[1] + 140 = 656

Тут бачым, што вучань, апрача розных тэхнічных памылак, аб якіх зараз гаварыць ня будзем, выявіў незразуменьне самаго ходу задач: ён згубіў ніць рашэньня. Для яго няясны плян вырашэньня задач. Ён павінен быў падумаць—трэба памножыць 1,4 на 340, каб даведацца, колькі каштуюць усе кніжкі; потым павінен вылічыць колькі кніжак здадзена ў пераплёт і колькі каштуюць гэтыя пераплёты і нарэшце скласьці 2 атрыманыя сумы. Так ён павінен быў плянаваць да вырашэньня задачы. Фактычна ў яго выходзіць, што ўсе 340 кніжак зданы ў пераплёт (ён 340 множыць на 0,5). Такім чынам, паўстае пытаньне чаму ён зрабіў першыя дзеяньні(340 : 0,3); ён гэты лік зусім не выкарыстаў у далейшым ходзе рашэньня. Калі ён думаў гэтым дзеяньнем знайсьці колькі кніжак зданы ў пераплёт, ён павінен быў множыць на 0,5 ня лік 340, але 113. На падставе данага прыкладу мы бачым, што значная колькасьць вучняў не плянуе задач, не вырашае іх плянава і сьвядома.

Вось адзін з асноўных недахопаў, на які настаўніку прыдзецца зьвярнуць вялізарнейшую ўвагу. Вучань павінен навучыцца расстаўляць так пытаньні, каб кожнае наступнае пытаньне выцякала з папярэдняга, каб кожны дадзены ў умове лік сябе апраўдаў.

У нашай школьнай практыцы часта бывае наадварот: галоўная ўвага зварачваецца на тэхнічны бок рашэньня задачы, а плянаваньне стаіць на заднім месцы. Зразумела, што тэхнічны бок адыгрывае вялікую ролю, аб чым зараз будзем гаварыць. Але самае асноўнае ў задачы—гэта ўсьведамленьне ходу яе, сувязі паміж лікамі ў ўмове. Мы нават раілі выкінуць адну вялікую тэхнічную работу пры разглядваньні задач: гэта пісаньне поўнага тэксту ўмовы і поўнага тэксту запытаньняў. Лепш будзе ставіць запытаньні ў вуснай форме. Тады яны будуць больш усьвядомлены. Бывае, што сама тэхніка пісьма займае занадта ўвагі—і вучань забывае сутнасьць дзеяньняў, якія патрэбна зрабіць.

Наступныя галоўныя недахопы пры разьвязваньні задач—гэта няўменьне ператварыць ход задачы ў лічбовыя формы, напрыклад: вучань ведае, што трэба знайсьці колькі кніжак здадзена ў пераплёт—ён ведае, што ня ўсе кніжкі, а 0,3 ўсіх зданы ў пераплёт. Але вучань не разумее, як гэтую думку ператварыць ў лічбовыя дзеяньні, як зьвязаць лік 340 з лікам 0,3. Калі-б яму падсказалі, што трэба 340 памножыць на 0,3, ён магчыма і правільна рашыў бы. Але самаму спахвацiцца такім парадкам зьвязаць гэтыя лікі, ён у шмат выпадках ня здолее. Больш таго, вучням гаварылі, што яны павінны знайсьці па правілу знаходжаньня часьці ад цэлага і ўсё-ж такі знайсьці гэтую частку пры дапамозе множаньня яны не спахваціліся.

[1]) М—39—5а—1.

Вось чаму пры разьвязваньні задач мы сустракаемся з цэлым шэрагам такіх памылак. Каб знайсьці, колькі кніжак здадзена ў пераплёт, вучні рашалі наступным чынам:



Тут бачым, што ход думкі правільны: вучань плянаваў задачу як належыць, але пры афармленьні пляну ён замест $340 \times 0,3$ зрабіў $340 : 0,3$.

Іншыя вучні проста запамяталі аб ліку 340. яны прынялі 0,3 не як частку якога небудзь іншага ліку (340), але як абсалютны лік:

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 340 | 0,9 | 476 [1] |
| | 1,4 | 0,5 | + 0,15 |
| | 360 | 0,15 | 6,26 |
| | 340 | | |
| | 3760 | | |
| альбо | 340 | 0,3 | 476 [2] |
| | 1,4 | 0,5 | 1,5 |
| | 476 | 1,5 | 477,5 |

Вучні тут не падумалі, што ня можа быць 0,3 кніжкі, што гэта недарэчнасьць; яны пайшлі, так сказаць, па лініі найменшага супраціўленьня.

Нарэшце трэцяя група вучняў зьвязалі лічбы 340 і 0,3 паміж сабой зусім арыгінальна

| 1) | 2) | 3) | 4) |
|---|---|---|---|
| 340 | 340 | 317 | 476 [3] |
| 1,4 | — 003 | 0,5 | 168,5 |
| 476 | 337 | 168,5 | 644,5 к. |

Тут вучні ня множылі і ня дзялілі 340 на 0,3, а проста аднялі. І чамусьці 0,3 ператварылася ў іх у 3; і чамусьці 168,5 азначае 168 р. 5 кап. (не 50 кап.). Але ня гэта самае важнае. Важна, што ня ведаюць нашы вучні (значная частка іх) як зьмест матэматычнага лічэньня ператварыць у форму, якімі дзеяньнямі трэба знайсьці частку ад цэлага.

Да ўсяго гэтага далучаюцца памылкі ў тэхніцы працы над лікамі. Калі вучань мае перад сабой не задачку, але прыклад, ён галоўную ўвагу зварачвае на тэхніку. Ён не павінен думаць, як рабіць, але як выконваць паказаныя дзеяньні; зразумела тады робіць ён менш памылак. Але, калі яму прыходзіцца думаць аб зьмесьце задачы, ён у тэхніцы робіць яшчэ больш хібаў. Вось чаму мы бачым цэлы шэраг самых дзікіх і нясуразных адказаў. Падумаць можна, што ніякіх правіл і законаў арытмэтыкі для яго ня існуе:

$$340 : 0,3 = 113,3 \text{ [4]}$$
$$1,4 + 0,5 = 1,9$$
$$113,3 \times 1,9 = 194,28$$

[1]) М—25—5в—21. [2]) М—25—5 г—21 М—39—5а—6. [3]) М 25—5а—8.

[4]) М—25—5д—11.

альбо

| 340 | 0,3 | 477 р. 4 к.[1]) |
|---|---|---|
| 1,4 | 0,5 | 15 |
| 477,4 кап. | 15 | 492,4 |

альбо

| 340 \| 0,3 | 0,5 |
|---|---|
| 11,33 | 11,33 |
| | 56,650 руб. |

| 34000 | 328.67 | 460,138[2]) |
|---|---|---|
| 1133 | 1,40 | 56.650 |
| 3267 | 460,138 | 516,788 |

Гэтыя прыклады можна працягваць без канца, яны яшчэ раз паказваюць, што цяжкасьць пры разьвязваньні задач уносіць блытаніну ў прымяненьні правілаў арытмэтыкі, якія вучні без таго слаба ведаюць. Ауладаньне тэхнікай дзеяньня над лікамі зьяўляецца вельмі важнай справай, з якой наша школа яшчэ ня зусім справілася.

У заключэньне прыводзім прыклад правільнага рашэньня данай задачы.

1 340 × 1,4 = 476 руб
2 340 × 0,3 = 102 кніг
3 102 × 0,5 = 51 руб
4 476 + 51 = 527 руб

Тут бачым некаторыя недакладнасьці: замест 340 × 1,4 павінна было быць 1,4 × 340. Таксама замест 102 памножанае на 0,5 павінна было быць 0,5 × 102. Гэтая памылка тлумачыцца тым, што пры тэхніцы множаньня вучань піша:

$$\times\begin{array}{r}340\\1,4\end{array}\qquad\times\begin{array}{r}102\\0,5\end{array}$$

Але такіх добрых рашэньняў мы бачым даволі малы працант.

Пры аналізе наступных задач мы сустракаемся з тымі самымі прынцыповымі памылкамі. Мы пагэтаму далей будзем гаварыць толькі аб асаблівасьцях наступных задач. Іх спэцыфічнасьць заключаецца ў тым, што гэта задачы на %%. Прыклад—фабрыка выпусьціла звыш пляну 35.000 пар абутку, што складае перавыкананьне пляну на 7 проц.; колькі пар абутку складае ўвесь плян ф-кі.

У гэтай задачы вучні не заўсёды арыентаваліся, што пад поўным плянам мы разумеем 100 проц. і, што 35000—гэта 7 проц. Маем шмат выпадкаў, калі вучні прымалі 35000 за 100 проц. Яны рабілі задачку такім спосабам:

$$\frac{35.000 \times 7}{100} = 2450^{3})$$

Выходзіць, значыцца, што поўны плян фабрыкі (2450) менш ад тых 7 проц., на які плян перавыкананы.

Другая група вучняў прымала 35.000 за 107 проц. і разьвязала задачу.

$$\frac{35.00 \times 100}{107} = \frac{3.500.000}{107} = 3271\frac{30}{107}{}^{4})$$

Тое самае мы бачым у задачы: фабрыка зьнізіла свае накладныя выдаткі з 36.400 руб. да 27.300. На колькі працантаў ф-ка зьнізіла свае накладныя выдаткі. Тут вучні не заўсёды разумелі, што трэба прыняць за 100 проц.; ці 36.400, ці 27.300, а некаторая група вучняў рашыла гэтую задачку зусім арыгінальна.

| 36400 \| 100 | 27200 \| 100 | 3,25[5]) |
|---|---|---|
| 3,24 | 2,72 | 2,72 |
| | | 5,96 |

альбо

| 36400 | 9100 \| 100[6]) |
|---|---|
| −27300 | 91% |
| 9100 | |

Падводзячы вынікі аналізу ўсіх арытмэтычных работ па 5-х групах, трэба сказаць:

1. Самыя вузкія месцы ў аб'ёме ведаў—гэта разьвязваньне задач і вуснае лічэньне.

2. У ауладаньні тэхнікай работы з лікамі няма яшчэ належнага зруху. На гэты бок прыдзецца школам і кіру-

[1]) М—25—5в—5. [2]) Б—5а—26.

[3]) М—25—Ув—13. [4]) М—25, 5д—15. [5]) М—7—5а—8. [6]) М—39—5а—1.

ючым органам зьвярнуць вялікую ўвагу, каб з посьпехам ліквідаваць карэнны недахоп па данай дысцыпліне.

3. Адносна якасьці засваеньня ведаў трэба падкрэсьліць слабую сьвядомасьць пры выкананьні дзеяньняў над лікамі і мэханічны напрамак у рабоце. Унесьці сьвядомасьць у рабоце па арытмэтыцы ёсьць неадкладная праблема, якую наша палітэхнічная школа павінна зараз-жа вырашыць.

### 5. Аб'ём і якасьць ведаў па арытмэтыцы у 6-ых і 7-ых групах.

У шостых і сёмых групах арытмэтыку не праходзяць, (у пятых, як вядома, канчаюць курс). Але ўсё-ж такі мы абсьледвалі веды 6-х—7-х груп, каб высьветліць, становішча арытмэтычных ведаў і навыкаў, каб вывучыць пытаньне, ці ідуць вучні ўперад па аўладаньні гэтымі ведамі, ці яны яшчэ больш адстаюць.

Нам таксама важна ўстанавіць, з якімі арытмэтычнымі ведамі наша школа выпушчае вучняў у тэхнікумы і ФЗВ.

Ужо ў разьдзеле 3-м нашага артыкулу мы паказалі, што ў 7-й групе становішча з арытмэтыкай значна паляпшаецца; значыць, вучні там займаюцца разьвязваньнем арытмэтычных задач (у альгэбры, геамэтрыі, фізыцы, геаграфіі). Гэтую практыку трэба прызнаць зусім мэтазгоднай, яе трэба далей працягваць, асабліва тым школам, якія гэтага не рабілі ў здавальняючай ступені.

Прыступаючы да аналізу дэфэктаў і прарываў у ведах вучняў, мы зараз жа папярэджаем, што канчатковая ліквідацыя гэтых прарываў ёсьць неадкладная задача настаўнікаў. Ужо на падставе нашага папярэдняга аналізу ясна, што ў вучняў 5-і груп, якія перайшлі ў 6 я, маюцца вельмі слабыя веды, што гэтыя прарывы працягваюцца і ў шостых групах. Таму трэба непарыўна ўвязаць арытмэтычныя задачы з іншымі дысцыплінамі і зьвярнуць сваю ўвагу ня толькі на альгэбраічныя і геамэтрычныя правілы, але, не пакладаючы рук, сачыць за сталым практыкаваньнем вучняў над арытмэтычнымі вылічэньнямі, якія зьяўляюцца базай для засваеньня альгэбры і геамэтрыі; больш таго, трэба паставіць перад настаўнікамі іншых дысцыплін пытаньне аб культуры лікаў. Трэба дабіцца правільнага разьвязваньня задач ня толькі на лекцыях матэматыкі. Настаўнікі фізыкі, геаграфіі і інш. павінны сачыць за чоткім і правільным разьвязваньнем вучнямі задач, калі ў іх дысцыплінах сустракаюцца дзеяньні з лічбовымі матар'яламі. Усякія недахопы зараз-жа выпраўляць альбо самаму настаўніку, альбо ён павінен інфармаваць аб іх настаўніка матэматыкі. Такім чынам мы ў надыходзячым навучальным годзе канчаткова павінны ліквідаваць тыя недахопы ў ведах, якія засталіся ў спадчыну ад папярэдніх гадоў, калі не зьвярталася належная ўвага на засвойваньне вучнямі акрэсьленага аб'ёму ведаў.

Пераходзім да аналізу арытмэтычных работ.

Першая задача шостай групы патрабуе ад вучня пасьлядоўнай і сыстэматычнай работы; тут трэба знайсьці 12,5 проц. ад 360 га і так м чынам даведацца, на колькі га павялічана пасеўная плошча калгасу. Потым трэба знайсьці 10 проц. ад 1,7 тон, каб даведацца колькі тон атрымана ад аднаго га пры павялічанай ураджайнасьці (1,87). Нарэшце трэба памножыць 1,87 на 40› і атрымаць ураджай наступнага году. Даем прыклад дасканалай работы вучня.

2) Па колькі павялічылі ураджай у другім годзе 2. $\frac{1,2 \cdot 10}{1000} = 0,17$ т

3. $1,7 + 0,17 = 1,87$ т

3. Колькі ураджаю было сабрана ў другім годзе

$$\begin{array}{r} 405 \\ \times 1,87 \\ \hline 2835 \\ 3240 \\ 405 \\ \hline 757,35 \end{array}$$ тн.

Тут бачым добра разьвязаную задачу, расплянаваную на 3 этапы; ход рашэньня яе сьведчыць аб матэматычным разьвіцьці і мысьленьні вучня.

Але такіх вучняў мала. Большасьць ня здолела так пасьлядоўна кончыць задачу. Вось прыклад:

1) $\begin{array}{r} 360 \\ 1,7 \\ \hline 612 \end{array}$ 2) $\frac{360 \cdot 12,5}{100} = 37,5$

3) $\begin{array}{r} 360 \\ 37,5 \\ \hline 397,5 \end{array}$ 4) $\frac{612 \cdot 10}{10} = 61,2$ $\begin{array}{r} 612^{1)} \\ + 61,2 \\ \hline 673,2 \end{array}$

Лёгка бачыць, што тут увязваюцца толькі 1, 4, 5 дзеяньні: яны рашаюць ураджай папярэдняга году павялічаны на 10 проц. Навошта тады другое і трэцяе дзеяньне (павялічэньне плошчы на 12.5 проц.). Яны застаюцца неўвязанымі з апошнімі вылічэньнямі. Вучні не змаглі засвоіць усіх лікаў ўмовы і яны заставілі бязьдзейнай частку ўмовы. Апрача таго, пад ураджайнасьцю вучні зразумелі увесь ураджай з усіх гэктараў, а не, як трэба было, збор з кожнага гэктару (так і было растлумачана вучням пры чытаньні ўмовы) А таму яны павялічылі на 10 проц. не 1,7 тоны, але 612 тон (увесь ураджай). Мы пакуль што не гаворым аб тэхніцы знаходжаньня проц. $\frac{(360 \cdot 12,5}{100}$ павінна быць 45, а не 37,5). Мы падкрэсьліваем, што вучні яшчэ не ўладаюць уменьнем плянаваць задачу, ня ведаюць дзе і як трэба зьвязаць паміж сабой дадзеныя лікі ўмовы, як іх выкарыстаць. Калі задача больш менш складаная, вучні гінуць проста ў ліках. Удумаемся ў наступны прыклад па той самай задачы:

$360 \times 1,7 = 612$ $485 \times 2,7 = 829,5$ [2])
$360 + 12.5 = 485$ $829,5 - 612 = 761,3$
$1,7 + 10 = 2,7$ $12,5 + 10 = 225$

Тут правільныя думкі вучня (ён павялічвае ўраджайнасьць на 10 проц. павялічвае плошчу на 12,5 проц. і множыць павялічаную ўраджайнасьць на павялічаную плошчу) тонуць у моры памылак прынцыповых і тэхнічных. На што яму патрэбны дзеяньні $360 \times 1,7 = 612$; $829,6 - 612 = 768,3$ і $12,5 + 10 = 225$? Яны толькі перашкаджаюць правільнаму ходу думкі.

Самая-ж тэхніка работы ніжэй ўсялякай крытыкі: 360 + 12,5 (проц.), раўняецца 485. Апрача таго, вучань складвае лічбу з процантнай нормай— 360 + 12,5 проц., што бяссэнсоўна. Вучні яшчэ да ўсяго гэтага забываюць аб косцы і 12,5 прымаюць за 125. Тое самае робіцца з тэхнікай павялічэньня 1,7 на 10 проц. Ці гэта сьведчыць, што вучань зусім ня ўмее лічыць процантаў? Не, бо тыя самыя вучні правільна разьвязалі такія задачы з проц. у форме прыкладаў. Гэта сьведчыць выключна аб няўменьні аўладаць цяжкасьцямі

1) М—39—6—а—17 М—25—6б—28

2) М—39—6а—4

задачы. Яны пасуюць перад складанасьцю заданьня і пры гэтым забываюць тыя нямоцныя веды, якія набылі раней.

Наступныя задачы на процанты (квартальны плян фабрыкі—750.000 руб. выкананы на 30 проц.; колькі складае ўвесь плян) вучні рашалі лепш і больш правільным шляхам. Але-ж тут маем некаторыя тыповыя адхіленьні: некаторыя вучні не зразумелі, што поўны плян—гэта 100 проц.; яны рабілі так: $30 \times 4 = 120$; $750.000 \times 120 = 90.000.000$[1]) Яны рашылі, што, калі ў квартал фабрыка выканала плян на 30 проц., то ў год гэты плян выканан у 4 разы больш, г. зн. 120 проц.; тады яны ўмножылі 75.000 на 120. Не змаглі яны зразумець, што 750.000 руб. квартальнага пляну ня можа даць 90.000.000 руб. гадавога пляну. Кантроль лікаў, параўнаньне вынікаў з умовай адсутнічае—маем тое жа самае зьявішча што і ў гэтай групе, аб якой мы раней гаварылі. Вучні яшчэ не навучыліся зьвязваць лікі паміж сабой, як належыць.

Іншыя вучні таксама не дагадваюцца карыстацца лікам 100 проц.; яны разьвязваюць такім чынам

$$750000 : 30 = 250^{2)}$$

$$250 \times 12 = 3000000$$

Тут апрача тэхнічнай памылкі (250 000 замест 25 000), ёсьць блытаніна: 750.000 падзеленыя на 30 даюць суму 25.000, якая азначае ня месячную выработку, але 1 проц.; вучань аднак аб гэтым ня думае і множыць 25.000 не на 100, а на 12. Калі-б мы падсказвалі вучню, што пад гадавым плянам трэба разумець 100 проц., ён бы множыў магчыма на 100. Але-ж ва ўмове сказана: колькі рублёў складае ўвесь гадавы плян, вось гэта і прывяло да „непаразуменьня“ пры разьвязваньні даных задач,

Яшчэ групка вучняў атрымала адказ, што гадавы плян раўняецца 225.000 р.[3]): вучань не кантраляваў, што ў параўнаньні з квартальным плянам 750.000 р.—гадавы плян ня можа быць менш. Гэта сьведчыць аб карэнным недахопе ў арытмэтычным лічэньні—вучні ня думаюць аб зьмесьце лікаў, але мэханічна выводзяць лікі і пішуць без кантроля тое, што атрымалася пасьля множаньня альбо дзяленьня.

Нават у 7-х групах адчуваецца гэтая несьвядомасьць пры разьвязваньні задач.

Мы далі задачу з 3-ма брыгадамі: 1-я брыгада павінна была выпрацаваць на 850 руб., выканала на 980.

Другая брыгада замест 1200—1350.

Трэцяя—замест 620—850; якая брыгада ідзе ўперадзе?

Гэтая задача паказала цікавае зьявішча: вучні не зразумелі, што для параўнаньня брыгад трэба мець не абсалютныя лічбы, а процанты. І вось вучні прыняліся рашаць задачу зусім проста:

$$\begin{array}{r} 980 \\ -\,850 \\ \hline 180 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 1350 \\ -\,1200 \\ \hline 150 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 850 \\ -\,620 \\ \hline 230 \end{array}{}^{4)}$$

Толькі пасьля некаторага тлумачэньня з боку настаўніка, што трэба параўнаць пры дапамозе процантаў, вучні пайшлі правільным шляхам і разьвязалі амаль усе задачы. І тут застаецца ў моцы наша палажэньне, што вучні ня ўмеюць у дастатковай ступеніператварыць думку ў лічбовыя адносіны, афармляць у ліках некаторыя жыцьцёвыя зьявішчы. З пункту гледжаньня задач палітэхнічнай школы мы тут маем вялікі недахоп у рабоце па матэматыцы.

У заключэньне ўсяго аналізу трэба адзначыць адну вельмі важную „дробязь“—гэта: тэхніка пісьма лікаў. У гэтых адносінах маем большыя дасягненьні. У некаторых школах работа з гэтага боку пастаўлена ўзорна*). Але ў радзе школ мы маем вялікія прарывы ў гэтым напрамку: лікі, цыфры і знакі пішуцца без усялякага парадку.

На гэты бок трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Мы ведаем, што на Сталінградзкім трактарным заводзе барацьба за прамфінплян была зьвязана з барацьбой за акуратнасьць і ахайнасьць

[1]) М—25—6 г [2]) М—25—6г—15. [3]) М—25—6б—7

[4]) М—25—7а—30.

*) Асабліва добра з тэхнічнага боку пастаўлена работа ў Менскай 39-й і Барысаўскай 8-й ФЗС.

машын і плошчы ля іх. Тое самае павінна быць у школьнай практыцы. Барацьба за чыстату і парадак у сшытках—гэта барацьба за культуру пісьма, гэта барацьба за веды. Мы павінны нашых вучняў прывучыць да культурнай работы, асабліва гэта важна ў матэматыцы. Тут кожная цыфра павінна заняць сваё месца, знак раўнаньня пасьля дробаў павінен стаяць так, каб адна чортачка была крыху вышэй, а другая крыху ніжэй ад сярэдняй лініі дробу і г. д. Гэта ёсьць звычка, якая вытвараецца не адразу, а на працягу сыст матычнай работы з вучнямі.

### 6. Аб'ём ведаў па альгэбры ў 6-х і 7-х групах

З альгэбры ў 6-ых групах мы абсьледвалі 3 разьдзелы:

1. Дзеяньне з многачленамі.
2. Скарочаньне дробаў ў дзеяньні з дробамі.
3. Раўнаньні.

Па 7-ых групах мы абсьледвалі 2 разьдзелы:

1. Раўнаньні з двума невядомымі.
2. Раўнаньні квадратныя.

Сёмая група дала лепшыя паказчыкі, чым шостая.

Агульная характарыстыка ведаў па альгэбры: вучні маюць паняцьці аб усіх разьдзелах школьнага курсу альгэбры і пры некаторай дапамозе яны справяцца з сваёй задачай. Але замацаваньня ведаў яшчэ няма. Калі вучням прыходзіцца працаваць зусім самастойна, яны ня могуць яшчэ справіцца з усімі правіламі, ня маюць моцных навыкаў у рабоце Кожная труднасьць зьбівае іх лёгка з дарогі, і яны робяць самыя грубыя памылкі.

З усіх разьдзелаў найбольш замацаванымі зьяўляюцца задачы на разьвязваньне гатовых раўнаньняў (па 6 групах 50 проц. усіх дасьледваных вучняў разьвязала правільна; па 7-х простыя раўнаньні разьвязала 99 проц., квадратныя—49 проц.) Як відаць, тэхніку разьвязваньня раўнаньня вучні зразумелі і засвоілі. Горш абстаіць справа з задачамі на складаньне раўнаньняў. Тут сустракаемся з тым самым зьявішчам, што мы бачылі пры разьвязваньні задач па арытмэтыцы. Вучні яшчэ ня ўмеюць зьвязваць усе дадзеныя лічбы ўмовы ў раўнаньні. Шмат мэханічных элемэнтаў мы бачым у рабоце нашых школ па матэматыцы. Аб гэтым трэба падзадумацца: трэба зараз-жа паставіць работу так, каб вучні думалі ў часе разьвязваньня задач па альгэбры, каб яны жыва і канкрэтна прадстаўлялі кожны лік, кожны знак і іх месца ў агульным контэксьце.

Трэба адзначыць вялікія дасягненьні ў гэтых адносінах з боку Барысаўскай 8-й ФЗС, якая займае першае месца сярод усіх абсьледаваных школ па матэматыцы, асабліва па альгэбры. Тут мы адчуваем ў кожнай рабоце сьвядомы падыход у ўжываньні альгэбраічных знакаў, у перастаноўцы членаў і многачленаў, у перанясеньні членаў з адной паловы раўнаньня ў другую, у складаньні раўнаньня і г. д. Мы бачым, цьвёрдасьць засвоеных ведаў і ўпэўненасьць вучняў у рабоце.

Якія тыповыя недахопы і памылкі сустракаем у работах вучняў.

Прыступаем да аналізу паасобных гэтых недахопаў:

а) сьвядомае карыстаньне знакамі плюс і мінус зьяўляецца аднэй з асноў школьнай альгэбры. Яно патрабуе цьвёрдых навыкаў, спрацаванасьці. На жаль, настаўніцтва яшчэ мала ўвагі аддае гэтай справе. Яе праходзяць як адну з тэм, супакойваюцца на гэтым і прыступаюць да далейшай работы. Дасьледваньне жа паказвае, што большасьць задач правальваецца ў большасьці вучняў з прычыны блытаніны з знакамі.

$$(x+y)^2-4(3x^2-2{,}5y^2)=x^2+2xy+$$
$$+y^2+12x^2-18x^2)$$ [1]

альбо:

$$3\ (a^2-4\ ab+b^2)-7\,(a^2+2\ ab-b^2)=$$
$$=3\ a2-12\ ab+3\ b^2-7\ a^2+14\ ab-7\ b^2)$$ [2]

---

[1]) Н—25у 1в—14. [2]) М—7—6а—7.

У першым з вышэй прыведзеных прыкладаў вучань зусім ігнараваў знак мінус, а ў другім вучань зьмяніў у першым члене знак плюс на мінус, а ў другім і трэцім не зьмяніў знакаў. Такіх фактаў сотні; гэта—масавае зьявішча.

Вучань разьвязвае раўнаньне. Усё зроблена добра, амаль добры вынік: $9x—21=2x0—4$; але вось вучань пераносіць невядомыя ў адзін бок, а вядомыя лікі ў другі, і ставіць знакі няправільна; атрымоўвае—$9x—20x=4—21$ [1]). Вось гэтая блытаніна перашкодзіла атрыманьню правільнага адказу. Так атрымоўваецца ў большасьці вучняў. Малы процант пасьпяховасьці па раўнаньні раўнаньняў тлумачыцца амаль што выключна блытанінай знакаў.

Лепш абстаіць гэтая справа ў 7 групах, але і там паказаная памылка зьяўляецца досыць распаўсюджанай. Вучні 7 групы разьвязваюць раўнаньні:

$$3x-\frac{2y-8}{9}=x-\frac{x-y}{5}$$

$$135x-10y-40=45x-9x-9y \quad ^{2)}$$

альбо:

$$(x+2)^2-(2x-1)^2=0$$

$$4x+4+4x^2-8x-1=0 \quad ^{3)}$$

Найменш такіх памылак мы сустракалі ў Барысаўскай 8-ай ФЗС. Прыводзім прыклад:

$$5.\ (x+2)^2-(2x-1)^2=0;$$

$$x^2+4x+4-4x^2+4x-1=0;$$

$$-3x^2+8x+3=0;\ 3x^2-8x-3=0;$$

$$x=\frac{8\pm\sqrt{64+36}}{6}=\frac{8\pm\sqrt{100}}{6}=\frac{8\pm10}{6},$$

$$x_1=\frac{8+10}{6}=\frac{18}{6}=3;\ x_{11}=\frac{8-10}{6}=\frac{-2}{6}=-\frac{1}{3}.$$

Тут бачым узор упэўненых ведаў, добрай арыентыроўкі ў альгэбраічных знаках і формулках.

На практыкаваньне са знакамі прыдзецца настаўніку зьвярнуць вялікую ўвагу і сачыць за кожным дэфэктам, каб яго сваячасова выправіць. Трэба даць вучням самыя рознастайныя прыклады, паставіць вучня ў розныя лічбовыя палажэньні, каб ён навучыўся ўсюды перамагчы гэтыя цяжкасьці.

б) наступны тыповы недахоп гэта дзеяньні з альгэбраічнымі дробамі. Скарочаньне дробаў зроблена толькі на 28 проц. Амаль $^3/_4$ вучняў ня справіліся з гэтай задачай.

$$\frac{x^4-y^4}{x^3-xy^2}=1 \quad ^{4)}$$

альбо:

$$\frac{a^2-2ab+6^2}{a^2-b^2}=2ab \quad ^{5)}$$

Тая лёгкасьць, з якой вучні скарочваюць многачлены ў дробах, сьведчыць як мала арыентуюцца вучні ў сутнасьці альгэбраічных дзеяньняў, як многа мэханічнай работы і мала сьвядомасьці ў часе практыкаваньняў. Сутнасьць скарочаньня дробаў незразумела вучням. Ва ўсякім выпадку яны не зварочваюць увагі і не прыдаюць ніякай розьніцы паміж складнікамі і множнікамі. Тут трэба было правесьці параўнаньне з падобнымі момантамі ў арытмэтыцы, паказаць на прыкладзе што ў $\frac{4+5}{8+4}$ нельга скарачаць 4 з 4 таму, што лічнік

¹) К—6—6. ⁴) М—39—6 „б“—1.

²) М—7—7 „б“—6,3. ³) М—7—7 б—6,3. ⁵) М—7—6 „а“ 9, 18.

і назоўнік ня будуць паменшаны ў чатыры разы. Толькі ў $\frac{4 \cdot 5}{8 \cdot 4}$ можна будзе правесьці скарочаньне. У альгэбры даны факт павінен атрымаць форму закону; але папярэдня вучні павінны зразумець яго і ўмець ім усюды карыстацца. Арытмэтыка ў малодшых клясах дала вучням шмат практычнага матар'ялу па скарочваньні. Цяпер у шостай групе гэты матар'ял павінен быць падагульнены дзякуючы карыстаньню альгэбраічнымі сымбалямі. Тады вучні атрымаюць зброю для зразуменьня лічбовых суадносін, чаго яны ня мелі раней пры праходжаньні арытмэтычнага матар'ялу. На гэта трэба даць шмат часу: ня трэба сьпяшаць з праграмамі і імкнуцца, каб хутка і павярхоўна ўсе прайсьці. Мы сустрэліся ў аднэй школе з фактам, што вучні знаёміліся пры праходжаньні рацыянальных лікаў з мнімымі лікамі ($i$). Як відаць, на гэта быў прысьвячаны спэцыяльны час. Для нас важней, каб школы ў 6-х і 7-х групах далі больш грунтоўныя веды па дробах і раўнаньнях, чым вывучаць мнімыя лікі, якія ня могуць прапрацаваць у вышэйшай школе.

Трэба зазначыць адзін цікавы факт: вучні ахвотна скарачаюць дробы; яны шукаюць спосаб пазбавіцца вялікіх лікаў у квадратах, кубах, чацьвёртых ступенях. Яны імкнуцца ўсякімі мерамі спрасьціць лікі. Таму вучні лёгка трапляюць у памылкі, часта скарочваючы дробы, ці то патрэбна, альбо не. Вось група вучняў разьвязвае прыклад:

$$\frac{bc+ac+ab}{abc}=\frac{b^2\,c^2\,a^2}{abc}=bac\ ^{1)}$$

Тут маем вынік непрадуманага скарачэньня дробаў вучнямі. У сваім імкненьні скараціць яны проста не заўважылі, што не дапушчальна складнікі проста бяз ўсякіх зьменператвараць у множнікі

Альбо $\frac{1}{ab}+\frac{1}{cb}-\frac{1}{ac}=\frac{abc}{abc}$ [2]).

Трэба ўсялякімі мерамі паясьніць вучням розьніцу паміж гэтымі вялічынямі, каб яны цьвёрда засвоілі і не пушчаліся на розныя „авантуры“ пры скарачэньні.

У мэтах перасьцярогі настаўнік нават не павінен дапусьціць скарачаць такім чынам, як гэта паказана ў наступным прыкладзе:

$$\frac{(a-b)}{(a+b)}=\frac{a-b}{a+b}\ ^{3)}$$

Тут скарочаньне зроблена зусім правільна. Усё-ж такі нельга скарочваць $a$ з $a$, $b$ з $b$. Вучні павінны скараціць поўнасьцю: $(a-b)$ у лічніку з $(a-b)$ у назоўніку.

Ня трэба думаць, што гэта дробязі; гэта „дробязь“ прывучае вучняў да грубых памылак. Яны ня бачаць розьніцы паміж многачленам і аднachленам.

Той самы недахоп у ведах маецца пры знаходжаньні агульнага альгэбраічнага назоўніка. Лёгкасьць у пераходзе многачлена на адначлен проста абуральна:

$$\frac{a^2}{a^2-b^2}-\frac{a}{a-b}=\frac{a^3}{a^3-b^3}\ ^{4)}$$

Як бачым, вучань вельмі лёгкадумна рашае цяжкае заданьне.

Тое, што вучні робяць з назоўнікамі, яны пазьней паўтараюць з лічнікамі.

Маем здарэньне, калі вучні са спакойным сумленьнем складваюць лічнікі і супакойваюцца:

$$\frac{1}{a}+\frac{1}{ab}+\frac{1}{ac}=\frac{3}{ab^2\,c^2}\ ^{5)}$$

Усе гэтыя факты з яскравасьцю сьведчаць колькі небясьпекі крыецца ў гэтым разьдзеле альгэбры, колькі работы трэба аддаць данаму тыпу практыкаваньняў, каб вучні добра імі аўладалі. У заключэньне мы прыводзім узор дасканалай работы, якая гаворыць аб набытых ведах, аб сталасьці, вытрыманасьці ў рабоце.

$$\frac{x^4-y^4}{x^2-xy}=\frac{(x^2+y^2)(x^2-y^2)}{x^2-xy}=$$

$$\frac{(x^2+y^2)(x-y)(x+y)}{x(x-y)}=$$

$$\frac{(x^2+y^2)(x+y)}{x}\ ^{6)}$$

1) М— 25— 6а—4. 2) М—24—6а—4.

3) М—39—6а—11. 4) М—25—6а—7. 5) М—25—6в 16. 6) Б—8—6а—8.

Трэба раўняцца па такіх працах.

в) Трэці тыповы дэфэкт у ведах па альгэбры гэта няўпэўненае разуменьне значэньня каэфіцыента пры альгэбраічным выражэньні. У вучняў часта выражэньне, напрыклад, $3a^2$ азначае два паасобныя лікі—3 і $a^2$. Кожны з іх жыве, па іх думцы, зусім самастойна. У разуменьні вучняў гэтыя два лікі атрымоўваюцца мэханічна-злучанымі:

$$4a^2+3a^2-7a^2=a^2$$ [1].

Ход работы быў наступны:

$4+3-7-0$ — арытмэтычны лік выпадае, застаецца $a^2$. Вучань так і напісаў у адказе.

Пацьвердзім нашу думку яшчэ прыкладамі:

$$\begin{array}{r} 3a^3\ b^2+3a^2\ b^3-3a^2\ b^2 \\ +\ 4\ a^4b^2-4a^3\ b^3+4a^3\ b^2 \\ \hline 7a^7\ b^4-a+a \end{array}$$ [2].

Тут бачым наступнае: вучань складае паасобку $3+4=7$; $a^3+a^4=a^7$; $b^2+b^2=b^4$. $3-4=1$, $a^3-a^2=a$ і г. д.

Вучань не разумее, што каэфіцыент паказвае, колькі раз паўтараецца альгэбраічнае выражэньне складнікам. Вучань ня мае канкрэтнага прадстаўленьня, што такое $a^3\ b^2$ і што такое $3a^3\ b^2$: ці можна складваць $3a^3\ b^2$ і $4a^4\ b^2$. Ён не падумаў, што скласьці такія два выразы гэта ўсёроўна, што скласьці 3 сталы і 4 кіпы паперы, таму што яны зроблены з аднаго матар'ялу.

Тое самае маем у наступным прыкладзе. Вучні множаць $(a^2\ b+ab^2+ab)$ $(4a^2b-3ab^2)$. Вучні атрымоўваюць:

$$\begin{array}{r} -3a^3b^3-3a^2b^4-3a^2\ b^3 \\ 4a^4\ 6^2+4a^3\ b^3+4a^3 6^2 \\ \hline 4a^4\ b^2+1+ab^2-3a^2b^3 \end{array}$$ [3]

Ход задачы, як бачым, зроблены вельмі добра: настаўнік змог навучыць вучня сыстэматычна, пасьлядоўна множыць, нават падпісваць акуратна множнікі; гэта бясспрэчнае дасягненьне школы. Але пры канчатковым падліку вучань паказаў незразуменьне значэньня каэфіцыента. Ён так зразумеў: $4-3=1$; $a^3\ b^3-a^3\ b^3$ — зьнішчаюцца, а значыць замест $a^3\ b^3$ вучань напісаў проста 1, для вучня, як відаць, каэфіцыент мае самастойную ролю. Шмат мы маглі-б прывесьці такіх доказаў. Яны сьведчаць яшчэ і яшчэ раз, што ў мэтадах выкладаньня матэматыкі пануе мэханічнасьць у прапрацоўцы матар'ялаў. Настаўнік не завастрыў увагі вучня на характар каэфіцыента, на яго значэньні і гэтым самым не паглыбіў прадстаўленьне вучняў аб альгэбраічных выразах.

Нарэшце, чацьверты момант характарны пры засваеньні ведаў па альгэбры—гэта пасьлядоўнасьць, з якой складваюцца падобныя члены многачленаў, альбо з якой памнажаецца многачлен на многачлен.

Мы ўжо адзначылі і цяпер пацьвердзім, што ў гэтым напрамку маем добрыя вынікі, маем шэраг правільных вырашэньняў, калі вучні пасьлядоўна і сыстэматычна множылі член на член і ня зьбіваліся з правільнага шляху. Вышэй мы прыводзілі прыклад такой добрай работы.

І тут маем досыць значныя прарывы.

Першая тыповая памылка: вучань множыць каэфіцыент, які знаходзіцца перад многачленам у дужках, толькі на першы член многачлена і забывае множыць на апошнія члены.

$$4(a^2+4\ ab+b^2)+3(a^2-4ab+b^2)-7(a^2+2ab-b^2)=4a^2+4ab+b^2+3a^2-4ab+b^2-7a^2+2ab-b^2$$ [4].

Тут 4, 3 і 7 памножаны толькі на першыя члены многачлена, апошнія засталіся так як былі. Зусім лёгка расправіўся з цяжкасьцю пры множаньні наступны вучань:

$$(a^2b+ab+ab)\ (4a^2b-3ab^2)=4a^4b^2-3a^2b^2+ab$$ [5] *).

Што тут бачым? вучань множыць першы член першага многачлена на

---

1) 3—6—4—7. 2) М—39—6а—3. М—39—6в—8. 3) М—39—6в—6.

4) М—39—6в—13. 5) М—25—6в—5.

*) У гэтым разе і ў шмат іншых выпадках напісанае вучнямі не саўпадае з той ўмовай, якую мы далі, або настаўнік не заўважыў добра напісанага тэксту і памыляўся пры пісаньні на дошцы альбо вучні няправільна сьпісвалі з дошкі. Мы, зразумела, лічымся з гэтым і ацэньваем рашэньне згодна з той умовай, як яна напісана ў сшытку вучняў.

першы член другога многачлена, потым другі член першага многачлена на другі член другога многачлена, а трэці член першага многачлена ён заставіў бяз зьмен.

Даволі слаба стаіць справа са множаньнем па формулах: $(x+y^2)=x^2+y^2$[1]. Такога роду памылкі зьяўляюцца вельмі частымі і сустракаюцца ў вялікай колькасьці вучняў.

У 7-й групе сустракаюцца тыя самыя недахопы прынцыповага парадку, аб якіх мы гаварылі раней.

Агульныя вынікі нашага аналізу наступныя. Разьдзелы па праграме ўсе пройдзены, але ўся праца адзначаецца мэханічнасьцю. Вучань не атрымаў у дастатковай ступені канкрэтных прадстаўленьняў аб альгэбраічным выразе. Ён недастаткова разумее, што такое альгэбраічны выраз, што такое каэфіцыент, што такое альгэбраічны знак. Такім чынам асноўныя паняцьці з альгэбры не канкрэтна засвоены вучнямі. Таму мы бачым прарыў у ведах.

Задача на наступны навучальны год гэта барацьба з правым ухілам у школьнай практыцы—гэта барацьба з рэшткамі схалястыцызму і мэханічнасьцю ў выкладаньні матэматыкі ў школе.

У заключэньне гэтай часткі нашага артыкулу даем узор добрай работы аднаго з вучняў Барысаўскай 8-й ФЗС. Заўважыць трэба, што ў гэтай школе маем шмат такіх работ па матэматыцы, асабліва па альгэбры ў 6-х і ў 7-х групах.

Алгебра

1. $4(a^2+4ab+b^2)+3(a^2-4ab+b^2)-7(a^2+ab-b^2)=-3ab+14b^2$

2. $(a^2b+ab^2+ab)(4a^2b-3ab^2)=4a^4b^2-3a^3b^3+4a^3b^3-3a^2b^4+$
$+4a^3b^2-3a^2b^3$

3. $(x+y)^2+4(3x^2-5y^2)=13x^2+2xy-19y^2$

4. $\frac{x^4-y^4}{x^2-xy}=\frac{(x+y)\cdot(x^2+y^2)}{x}$

5. $\frac{a^2-2ab+b^2}{a^2-b^2}=\frac{a-b}{a+b}$

6. $\frac{1}{a}+\frac{1}{b}-\frac{1}{c}=\frac{bc+ac-ab}{abc}$

7. $\frac{1}{ab}+\frac{1}{bc}-\frac{1}{ac}=\frac{c+a-b}{abc}$

1) М-39—6в—13.

Працы 22/і 32.

8. $\frac{a^2}{a^2-b^2} - \frac{a}{a-b} = \frac{a^2 - a^2 - ab}{a^2-b^2} = \frac{-ab}{a^2-b^2}$

9. $3(9-2x)-5(2x-9)=0$

$27 - 6x - 15 \cdot 10x + 45 = 0$

$27 - 15 + 45 = 6x + 10x \qquad x = \frac{72}{16} = 4.5$

$72 = 16x$

10. $x - \frac{3x-7}{8} = \frac{5x-1}{6}. \qquad 48x - 18x - 42 = 40x - 8$

$42 + 8 = -48x + 18x + 40x$

$50 = 10x \qquad x = \frac{50}{10} = 5$

11. коняй $= x = 50$

хароў $: 150 - x = 150 - 50 = 100$

$0,8 \cdot 150 - x + 0.65 \cdot x = 112.5$

$120 - 0,8x + 0.65x = 112.5$

$120 - 112,5 = 0,8x - 0,65$

$7.5 = 0,15x$

$x = \frac{7,5}{0,15} = 50$

### 7. Аб'ём ведаў па геамэтрыі ў старэйшым канцэнтры ФЗС і ШКМ

Геамэтрыя цесна зьвязана з альгэбраічнымі і арытмэтычнымі вылічэньнямі. Арытмэтыка дапамагае вучням арыентавацца ў геамэтрычных формулах і ў прадстаўленьнях прастору. Далей геамэтрыя цесна зьвязана з практычнымі работамі. Мы пагэтаму ў нашых пытаньнях ставілі моманты тэарытычнага і практычнага парадку. Асабліва мы выяўлялі веды вучняў па карыстаньні маштабам, як пры лінейных вымерах (у 5-й групе), так і плоскастных (у 6-й і 7-й групах).

Па геамэтрыі выявілі лепшыя веды— Барысаўская 8-ая ФЗС, Заслаўская ШКМ і Койданаўская польская ШКМ. Менскія ФЗС адстаюць у параўнаньні з памянёнымі школамі. Асабліва гэтая розьніца выяўляецца ў шостых і сёмых групах.

Наступны момант — геамэтрычныя веды лепш засвоены чым альгэбраічныя. Гэта і зразумела: геамэтрыя выкладаецца больш актыўнымі мэтадамі: тут карыстаюцца красьленьнем, відавочнымі дапаможнікамі і часткова практычнымі работамі (напрыклад, вымяраньні на полі).

Фармалізм і мэханічнасьць работы таксама менш адчуваюцца ў геамэтрычных работах.

Якія веды выяўлены нашым дасьледваньнем? Вучні 5-й групы маюць больш-менш грунтоўныя паняцьці аб сумежных кутох, умеюць крэсьліць простакутны і раўнаплечны трыкутнік, ведаюць добра, як трэба знайсьці плошчу простакутніка і трыкутніка. Слабей вучні могуць абыходзіцца з маштабам і па маштабу вымяраць сапраўдныя адлегласьці. Усё-ж такі мы маем значныя прарывы ў ведах па геамэтрыі. Гэтыя прарывы двух відаў.

1. Прарывы ў сувязі са слабымі ведамі па арытмэтычных вылічэньнях.

2. Прарывы па лініі слабага засваеньня чыста геамэтрычных паняцьцяў.

Па першым пункце маем шмат цікавых фактаў, якія сьведчаць як слабыя арытмэтычныя веды перашкаджаюць правільнаму вырашэньню геамэтрычных задач.

Возьмем задачы аб сумежных кутох. Большасьць вучняў ведае, што такое сумежныя куты, умеюць іх нарысаваць і ведаюць, што сума іх раўняецца 180°.

І ўсё-ж такі задачу: 1 сумежны кут больш ад другога ў 3 разы—знайсьці кожны з сумежных кутоў—гэтую задачу вырашылі толькі 162 вучні з ліку 364 (44,5 проц.). а другую задачку: 1 сумежны кут больш другога на 20°, чаму раўняецца кожны з сумежных кутоў—вырашыла 111 вучняў з 361 (30,8 проц.). У чым справа? Аказалася, што вучні 5-й групы проста ня ведаюць, як вырашаць просьценькую арытмэтычную задачу. Знайсьці два лікі, калі адзін больш за другі ў некалькі разоў, альбо на некаторы лік.

Вучань разьвязвае такім чынам:

1) $180 : 3 = 60$ [1]) $\qquad 180 \,|\, \underline{2}$

$180 - 60 = 120 \qquad\quad 90$

$$\begin{array}{r} 90 \\ -\,20 \\ \hline 70 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 90 \\ +\,20 \\ \hline 110 \end{array}\ ^{2)}$$

Ня варта прыводзіць яшчэ падобныя прыклады. Трэба зазначыць, што такіх фактаў сотні, і што большасьць вучняў не рашыла задачкі іменна толькі з гэтай прычыны.

Возьмем наступную задачу: аснова простакутніка 14,5 *см*, вышыня ў 2 разы менш знайсьці плошчу. Вучні рашалі задачу прыкладна вось як:

$$14{,}5 : 2 = 72{,}5 \qquad \begin{array}{r} 72{,}5^{1)} \\ \times\ 14{,}5 \\ \hline 951{,}25 \end{array}$$

У некаторых вучнях атрымалася плошча—1052,25 замест 105,125 [2]), альбо 0,725 [3]), альбо 98 [4]) і г. д.

І такую просьценькую задачку рашыла толькі 187 вучняў з 337 (55 проц.).

Прыведзеныя некалькі прыкладаў з дастатковай яснасьцю пацьвярджаюць нашую думку, што слабыя веды па арытмэтыцы дрэнна адбіваюцца на рашэньні задач па геамэтрыі.

Пераходзім да другога віду памылак.

Частка вучняў, хоць невялікая, блытае пры сумежных кутох лік 180° з лікам 360°. Яны прымаюць суму сумежных кутоў за 360 і вырашаюць задачку з сумежнымі кутамі так:

$$360 : 3 = 120^{0}\ ^{5)}$$

$$180 \,|\, \underline{2} \qquad \begin{array}{r} 90^{6)} \\ \times\ 3 \\ \hline 270 \end{array}$$
$$\quad 90$$

Некаторыя вучні арыгінальна разумеюць сумежныя куты. Яны крэсьляць сумежныя куты такім чынам:

| 120° | 60° [7]) |
|---|---|

Хаця куты няроўныя, але па іх прадстаўленьні—раз сума кутоў раўняецца 180—гэта значыць два простых куты, то трэба іх рысаваць роўнымі—як два простых куты. Такое зьявішча паўтараецца ў розных школах незалежна адна ад другой і, значыць, мае невыпадковае значэньне, яно выяўляе некаторыя псыхалёгічныя моманты.

---

1) З—Ме—32. 2) З—5д—10.

1) З—5а—4. 2) М—25—5д—8, 3) М—25—5д—13,15 4) М—25—5д—17—21. 5) З—5с—35. 6) З—в—10. 7) З—5с—20.

У некаторай групы вучняў няма ўпэўненасьці ў ведах аб суме вострых кутоў простакутнага трыкутніка, што сума вострых кутоў раўняецца 90°, гэта, ведаюць, а ўсё-ж такі задачку— чаму раўняюцца вострыя куты простакутнага трыкутніка, калі адзін больш за другога ў 2 разы, вырашаюць так:

$$\begin{array}{r} -\,180 \\ 90 \\ \hline 90^\circ \end{array} \qquad 90 \;\underline{|\;2\;\;} \atop \;\;\;458 \qquad \begin{array}{r} \times\,45 \\ 2 \\ \hline 90^\circ \end{array}$$ [1]

Выходзіць, што і вострых кут 45, а другі 90°. Вучань не падумаў аб такой недарэчанасьці.

Паміж іншым мы хочам тут падкрэсьліць адзін факт тэхнічнага значэньня, які мае вартасьць у пэдагагічнай рабоце. Вучні Барысаўскай 8-ай ФЗС маюць сталую сыстэму ў найменьні геамэтрычных лікаў. Так яны ў пераважнай большасьці пішуць лікі, якія трэба ўмножыць альбо скласьці і г. д. без найменьняў, а вынік з найменьнем У вучняў іншых школ гэтай сыстэматычнасьці няма. Яны пішуць найменьне як папала і дзе папала, а, як мы ўжо бачылі, такі тэхнічны факт мае вялізарнае значэньне для арганізаванасьці работы па матэматыцы.

Прыводзім гэты прыклад з Барысаўскай 8-й ФЗС для перадачы іншым школам у якасьці вопыту.

Нарэшце, вялікія дэфэкты ў геамэтрычных ведах знаходзім пры рашэньні задач з маштабам. Задача вельмі лёгкая—на пляне адлегласьць ад калгасу да раённага цэнтру раўняецца 4 *см.* Маштаб 1 : 100.000, знайсьці сапраўдную адлегласьць. Гэтая задача слаба вырашалася вучнямі. Гэта тлумачыцца выключна тым, што мала займаліся ў 5-х групах задачкамі такога віду. Што паказвае рашэньне гэтых задачак цэлым шэрагам вучняў? Адказы вучняў у лепшым выпадку наступнага парадку: 4×100.000=400.000. Ніякага азначэньня, што гэтыя 400.000 прадстаўляюць: ці сантымэтры, альбо мэтры, альбо кілёмэтры. Пры разьвязваньні такой геамэтрычнай задачы патрабуецца ня толькі ўменьне множыць 4 на 100.000, але павінна быць канкрэтна адзначана: 400.000 сантымэтраў раўняецца 4.000 мэтраў, раўняецца 4 кілёмэтрам. А такое найменьне мы маем ня больш чым у 10 проц. усіх дасьледваных вучняў. Апошнія 90 проц.. альбо зусім ня рашылі, альбо абмежаваліся мэханічным запісваньнем адказаў: 400.000.

Некаторыя нават зусім не зразумелі што зрабіць:

100.000 : 4 = 25.000 1 сантымэтр 25.000 [2],

альбо $400.000 \mid \dfrac{100.000}{4}$ [3]

Іншыя напісалі 400.000 мэтраў і г. д. Усё гэта зноў сыгналізуе аб мэханічнасьці выкладаньня. Гэта сьведчыць, што мы недастаткова прымяняем тэарэтычныя веды з геамэтрыі на практыцы (пры вымерваньнях).

Такім чынам мы пералічылі галоўныя недахопы па геамэтрыі ў 5-х групах. Некаторыя нашы работнікі лічаць такія недахопы ня зусім важнымі; мы імкнуліся даказаць няправільнасьць такіх думак і завастрылі ўвагу на гэтых пытаньнях усяго настаўніцтва для хутчэйшай ліквідацыі падобных недахопаў у працы па матэматыцы.

Па шостай групе абсьледваньне выявіла досыць моцныя веды па вылічэньні плошчы фігур. Большая частка вучняў свабодна арыентуецца ў гэтых разьдзелах геамэтрыі. Яны ўмеюць карыстацца чарцяжом. Гэта бясспрэчнае дасягненьне.

Прыводзім прыклад добра вырашанай работы. Дана задача: з простакутніка жалеза 120 *см*×60 *см* выразаны два кругі радыусам кожны ў 30 *см.* Чаму раўняюцца абрэзкі? (гл. работу № 2).

Тут бачым сыстэматычнасьць, пасьлядоўнасьць, правільнае карыстаньне формулай, правільна пастаўлена найменьне лікаў. Трэба дабавіць, што дадзеную задачу разьвязала $^2/_3$ усіх дасьледваных вучняў.

Такія самыя дасягненьні, дзе таксама бачым чоткасьць і пасьлядоўнасьць і вытрыманасьць у рабоце ў наступнай

[1] Б—5а. [2] М—25—5а—5. [3] М—25—5а—20.

1. 60 × 120 = 7200 см

2. 30 × 30 = 900 см.

Q = П R²

Q = 900 × 3,14 = 2826 см.

Q₁ = 900 × 3,14 = 2,826 см.

2826 + 2826 = 5652 см.

7200 − 5652 = 1548 см.

задачы—вылічыць плошчу поля, якое мае форму трыкутніка, калі яго плян на паперы маштабам 1 : 2500 мае аснову 12 сантымэтраў, а вышыню 8 сантымэтраў (гл. работу 3).

Бачым, як 12 сантымэтраў і 8 сантымэтраў пасьлядоўна пераводзяцца па маштабу на сапраўдную вялічыню, пры чым гэта адлегласьць ператвараецца з сантымэтраў на мэтры, потым множыцца даўжыня на вышыню, падкрэсьліваюцца ў выніку квадратовыя мэтры, якія зараз-жа ператвараюцца ў гэктары. Выкананьне гэтай задачы, як бачым, зусім адпавядае запатрабаваньням матэматыкі ў палітэхнічнай школе.

Вось гэта добрыя ўзоры работы. У іх сьвятле яскрава відаць тыя недахопы, якія сустракаюцца ў шэрагу іншых работ. А недахопы наступныя: па задачы з плошчай кругу значная частка вуч-

3. 1) 12 × 2500 = 6000; 24; 300,00² мет

2) 8 × 2500 = 4000; 16; 200,00² мет.

3) 200 × 300 = 60.000 кв.м.; : 2 = 30.000 кв.м.

4) 30000 : 10.000 = 3 га

няў знаходзіла плошчу круга не па формуле $\pi R^2$, але па $2\pi R$.

1) 120 × 60 = 720
2) 30 + 30 = 60
3) 60 × 3,14 = 18,84
4) 18,84 × 18,84 = 37,68
5) 720 − 37,68 = 35,62.[1])

Другая групка вучняў зблытала ўсю гэтую задачку: хаця па ўмове ясна, што абодва кругі роўныя, усё-ж такі разьвязвалі такім чынам:

120 × 30 = 7260 [2])

60 × 30 = 1800

[1]) М—7—66—12.

[2]) М—7—66—4.

Так і пішуць словамі: плошча аднаго круга раўняецца 7260, а другога 1800.

У абодвых прыкладах мы ня бачым ніводнага найменьня пры ліках. Перад намі фігуруюць абстрактныя лікі бяз ніякага зьместу.

Задача з плошчай поля, якое мае форму трыкутніка, выявіла наступны цікавы дэфэкт у рабоце. Большая частка вучняў спачатку знаходзіла плошчу трыкутніка на пляне ($\frac{12 \times 8}{2} = 48$ кв. сантымэтраў), а потым пераводзіла маштабам на сапраўдную велічыню поля, але пры пераводзе плошчы па маштабу трэба множыць не на 2500, але на $2500^2$. Вучні гэтага не зразумелі і памножылі толькі на 2500 і яны атрымалі:

$$1)\ 6 \times 8 = 48$$

$$2)\ 2500 \times 48 = 120.000 \text{ кв. см} = 1200 \text{ кв. м}$$ [1])

Тут бачым двайную памылку: адну, аб якой мы толькі што гаварылі (множылі на 2500), а наступная такога зьместу: калі кв. сантымэтры ператвараюць у квадратныя мэтры, трэба ўжо дзяліць не на 100, але на 10.000. Вучні гэтага не зразумелі і напісалі 120.000 *кв. см* = 1200 *кв. м.*

У сувязі з гэтым трэба падкрэсьліць адно з слабых месц у геамэтрычных прадстаўленьнях вучняў—гэты квадратовыя і кубічныя меры. Маем ужо цікавы факт, што ў пэдагагічным тэхнікуме студэнты другога і трэцяга курсу ў часе пэдагагічнай практыкі ня ведалі колькі квадратовых мэтр. у гэктары і што колькасьць квадратовых сантымэтраў пры ператварэньні іх у квадратовыя мэтры трэба дзяліць не на 100, а на 10.000. Памянёны недахоп па геамэтрычных ведах трэба вырваць з каранём яшчэ ў малодшых клясах нашых ФЗС і ШКМ. Факт, што вялікая колькасьць вучняў робіць пры гэтым грубейшыя памылкі. Шляхам цэлага шэрагу практыкаваньняў настаўнік зможа лёгка запоўніць гэты прабел у ведах вучняў.

Ёсьць група вучняў, якая гэтую самую задачу з плошчаю трыкутнага поля рашыла ў асноўным правільна, але працавалі зусім нерацыянальна. Вось прыклад:

$$2500 \cdot 12 = 30.000 \text{ см}$$

$$2500 \cdot 8 = 20.000 \text{ „}$$

$$\frac{30.000 \cdot 20.000}{2} = 300.000.000 = 3.000.000 \text{ кв. м}$$ [2])

Калі ня прыняць пад увагу памылку пры ператварэньні квадратовых сантымэтраў у квадратовыя мэтры (ён таксама дзяліў на 100, а не на 10.000)—рашэньне задачы было зусім правільна. Але недахоп іншага парадку: так нерацыянальна працаваць немэтазгодна. Вучань ня можа канкрэтна зразумець астранамічных лікаў. Немагчыма яму апэраваць імі, яны для яго мёртвыя лікі трэба было 30.000 *см* зараз-жа ператварыцьу мэтры таксама і 20.000 *см*: тады вучань меў бы справу з лікамі 300 *м* і 200 *м*, што для яго зусім канкрэтна. Таксама лягчэй было-бы разьвязаць самую задачу.

Але значная частка вучняў ня мае такой звычкі. Яны не задумаліся над зьместам самых лікаў. Не падумалі яны, што ніхто на сьвеце ніколі ня будзе гаварыць, што плошча поля раўняецца 300.000.000 *кв. см.* Гэта сьведчыць аб адсутнасьці сьвядомасьці, аб мэханічнасьці ў рабоце, аб чым мы ўжо няраз гаварылі на працягу нашага артыкулу.

Максымум увагі гэтаму зьявішчу і рашучая барацьба з праявамі такой бяздушнай работы, якая яшчэ мае месца ў нашай школе!

У 7-х групах стан ведаў па геамэтрыі здавальняючы. Тут відаць вынікі ўзмоцненай работы па данаму прадмету. Найлепшыя вынікі па геамэтрыі дала 7-я група Заслаўскае ШКМ (амаль 100 проц. правільных адказаў). Добрыя вынікі даюць таксама Барысаўская 8-я ФЗС і Койданаўская польская ШКМ. Дрэнна абстаіць справа па геамэтрыі ў сёмай групе Менскай 25-й ФЗС (20 проц. правільных адказаў).

[1]) Б—8—6а—12.

[2]) К—6—7.

Нам важна ўстанавіць розныя шляхі разьвязваньня задач з вучнямі. Возьмем задачку—знайсьці плошчу квадрата, калі дыяганаль раўняецца 10 *см*.

Вось адказ:

$$10 \times 10 = 100;$$

$$\sqrt{100} = 10;\ 10 : 2 = 5 : 5 \times 5 = 25$$ [1])

Ясна няправільнае вырашэньне; навошта патрэбны першыя 2 дзеяньні? Можна-б проста пачаць з трэцяга ($10 : 2 = 5$) і канчаць задачу з такім-жа посьпехам.

Ёсьць група вучняў, якая абмяжоўваецца толькі формулай: $a^2 + a^2 = 10^2$. і канчае: „праходзілі ў мінулым годзе“ „ня ведаю“ [2]).

Значная колькасьць рабят рашыла зусім правільна наступным шляхам:

$$x^2 + x^2 = 10^2;\ 2x^2 = 10^2;\ x^2 = \frac{100}{2} = 50.$$

$$x = \sqrt{50} = 5\sqrt{2};\ x^2 = 5\sqrt{2} \times 5\sqrt{2} = 50$$ [3])

Так у большасьці рашалі задачку вучні Менскай 7-й ФЗС. Зразумела, задача вырашана правільна.

Вучні Заслаўскай ШКМ рашалі крыху інакш

$$a^2 = \frac{100}{2} = 50 \quad a = \sqrt{50} = 7$$ [4])

$$7^2 = 49.$$

Адносна двух апошніх спосабаў трэба сказаць: вырашана правільна, але з рацыяналізатарскага пункту гледжаньня павінны былі зрабіць больш кароткім шляхам: навошта ім трэба было вылічваць $\sqrt{50}$, калі вынік гэтага корня ўсёроўна потым, вазвышаюць у квадрат. Вучні не усьвядомілі, што $a^2$ (альбо $x^2$) $= 50$ ёсьць ужо плошча квадрата, таму што $a$—гэта даўжыня боку квадрату, а $a^2$ ёсьць, выражэньне плошчы квадрата. Вучні тут хадзілі вакольным шляхам, каб трапіць на тое самае месца.

Але знайшлася групка вучняў, якая ўцяміла даную справу:

$$2a^2 = 100 \quad a^2 = \frac{100}{2} = 50$$ [5]).

1) Б—8—7—13. 2) М—25—7а—18,21. 3) М—7—7—1. 4) З—7—1. 5) Б—8—7—2.

Плошча квадрата раўняецца 50 *кв. см.*

Тут мы бачым ужо вышэйшую форму работы па школьнай геамэтрыі, тут мае месца ауладаньне высокай тэхнікай работы.

Па аднэй задачы (вылічыць плошчу ўпісанага правільнага шасьцікутніка, калі радыус акружыны ў якой ён упісаны $= 10$ *см*) мы сустрэліся з адным цікавым фактам: вучні 25-й Менскай ФЗС не змаглі вырашыць задачу геамэтрычным спосабам і выкарысталі трыганамэтрычны шлях разьвязваньня задачы.

$$\int = \frac{a^2 \sin 60^2}{2}$$

$$\int = \frac{100 \cdot 0{,}87}{2} = 43{,}5;\ 43{,}5 \times 6 = 261\ м^2$$ [6]).

Вырашэньне зусім правільнае, але яно не замяняе ўменьня карыстацца геамэтрыяй (тэорэма Піфагора). Вучні выкарысталі веды, якія нядаўна прайшлі. Папярэднія геамэтрычныя веды не змаглі выкарыстаць. Настаўнік у такім выпадку павінен быць асьвядомлены аб становішчы ведаў па геамэтрыі і замацаваць папярэднія веды раней, чым ён прыступае да трыганамэтрыі: ведаць трыганамэтрыю без геамэтрычных ведаў, усё роўна, што будаваць дах, калі сьцены слабыя: дах разваліцца, трэба раней умацаваць сьцены.

* * *

Вялізарны матар‘ял па матэматыцы (і па іншых прадметах, які сабраў НДІ Камвыхаваньня) даў нам магчымасьць намаляваць карціну становішча ведаў па матэматыцы ў школе за 1931-32 навучальны год. Мы выкарысталі гэты матар‘ял, каб аналізаваць колькасныя і якасныя паказчыкі ведаў вучняў. Мы бачылі, што радам з дасягненьнямі мы яшчэ далёка не ліквідавалі карэннага недахопу па матэматычных дысцыплінах, важнейшай аснове навук. Далей, з пункту гледжаньня сувязі тэорыі з практыкай, мы бачым цэлы шэраг прарываў, сыгналізуючых аб элемэнтах схаластычнасьці ў выкладаньні матэматыкі. Барацьба з праявай правай небясьпекі ў нашай школьнай практыцы,

1) М—25—7а—8.

барацьба за ліквідацыю карэннага недахопу па данаму прадмету зьяўляецца баявой задачай работы школы ў надыходзячым навучальным годзе.

8. Заўвагі аб мэтадах і прыёмах работы па матэматыцы.

Мы не мяркуем пісаць аб мэтадах матэматыкі наогул. Хочам зрабіць рад заўваг аб мэтадах і прыёмах работы па матэматыцы на падставе таго матар'ялу, які мы апрацавалі. Мы ўжо не раз гаварылі, што слабыя веды вучняў у большасьці сваёй тлумачацца выключна слабай пастаноўкай работы ў школе. Гэтыя моманты мы хочам закрануць у нашым артыкуле.

а) Аб увязцы тэорыі з практыкай мы ўжо неаднаразова гаварылі пры аналізе самага матар'ялу. У нас распаўсюджана думка, што ў матэматыцы не павінна быць увязкі з практыкай, што трэба абмежавацца выключна ведамі законаў і правіл матэматыкі; іншыя бачаць сувязь з практыкай у тым, што прапрацоўваюць некаторую колькасьць задач са зьместам сацыялістычнага будаўніцтва. Усю-ж апошнюю работу праходзяць па „старынцы“.

Увесь папярэдні матар'ял, які мы прывялі, гаворыць аб тым, што, менавіта, з прычыны мэханічнасьці і схалястычнасьці ў мэтадах выкладаньня вучні не змаглі вырашаць задач і выявілі слабыя веды. Ці гэта задача на проценты, дзе вучні атрымоўваюць вынік— 25 проц. ад 440 = 1760, ці гэта бессэнсоўная работа з каэфіцыентамі у альгебраічных лічбах, ці гэта няправільнае ператтварэньне *кв. см.* у кв. мэтры,—усё гэта гаворыць аб тым, што вучні ня маюць канкрэтных уяўленьняў аб ліках, што яны ўспрымаюць лік мэханічна, што яны праводзяць мэханічна тыя альбо іншыя дзеяньні. З тэй самай прычыны вучні слаба ўмеюць вырашаць задачы самастойна, зьвязваць лікі адзін з другім. Пры больш-меншай складанасьці задачы вучні, як мы гэта ня раз бачылі, пасуюць перад цяжкасьцямі і хутка блытаюцца ў ходзе задач. Таксама ня ўмеюць яны выкарыстаць лікі, дадзеныя ў умове, ня могуць задумацца аб назначэньні кожнага з іх. Усё гэта гаворыць аб слабай пастаноўцы ўвязкі тэорыі з практыкай.

Мы разумеем сувязь тэорыі з практыкай у матэматыцы, як: 1) увязку матэматычных апэрацый з жыцьцёвымі суадносінамі, паколькі яны выражаюцца ў ліках;

2) канкрэтнае прадстаўленьне лікаў: кожны лік павінен адбіваць канкрэтную велічыню, альбо разьмер. Вучні павінны мець жывыя прадстаўленьні аб гэтых вялічынях і разьмерах. У сувязі з гэтым павінен заўсёды быць кантроль кожнага ліку, ці ён адпавядае ці не адпавядае тым жыцьцёвым суадносінам, якія ён павінен адбіваць.

Мы павінны даць вучню ўменьне ў лічбовых дзеяньнях бачыць адбіцьцё канкрэтных фактаў і наадварот—яны павінны навучыцца ўмець жыцьцёвыя суадносіны афармляць у ліках.

Нашае сацыялістычнае будаўніцтва і клясавая барацьба штодзень адбіваецца ў лічбовых выражэньнях: процант калектывізацыі, выкананьне, перавыкананьне і недавыкананьне пляну ёсьць адбітак нашага змаганьня за сацыялістычны лад. Матэматыка павінна ўзброіць вучняў уменьнем чытаць такія задачы і самастойна іх разьвязваць. Вучань павінен умець арыентавацца ў ліках, калі ён гаворыць аб 17.000 тон чыгуну, які мы штодзень выплаўляем у нашых домнах; вучань павінен зразумець, што гэта, з аднаго боку, вялікая колькасьць чыгуна, але ў параўнаньні з плянам (20 тыс. тон) на сёньняшні дзень—гэта толькі 85 проц. Вучань павінен умець заўсёды параўнаць лікі з некаторымі асноўнымі лікамі і, такім чынам, да кожнага з іх падыходзіць з некаторым крытэрыем. Прадстаўленьне ліку 17 тыс. тон будзе тады жывым, калі яно будзе параўнана з плянам здабычы чыгуну, з здабычай чыгуну ў Расіі да рэвалюцыі, здабычай чыгуну ў замежных краінах— у Нямеччыне, у Амэрыцы. Толькі такі лік будзе жывым, які яго будзе задавальняць, альбо хваляваць. Без такога параўнаньня даны лік будзе ўспрыняты мэханічна, ён нічога ня будзе гаварыць розуму вучня.

У альгэбры можна зусім мэханічна запамятаць правілы знакаў. Часта так і робіцца ў школьнай практыцы. Але даныя знакі павінны таксама быць зусім канкрэтнымі і жывымі, яны павінны адбіваць жыцьцёвыя зьявы. Ведамі аб альгэбраічных знаках павінны ўмець растлумачыць тыя альбо іншыя канкрэтныя факты жыцьця (зьмену ў тэмпэратуры, перавыкананьне і недавыкананьне плянаў і г. д.).

Яшчэ больш яскрава гэтае палажэньне адносіцца да зразуменьня геамэтрычных вялічынь. Можна мэханічна ведаць і запамятаць, што мэтр раўняецца 100 см., што квадратны мэтр раўняецца 10 тыс. кв. сантымэтраў і г. д. Аднак, усе гэтыя вялічыні павінны ўспрыймацца зусім канкрэтна. Вучань павінен умець прымяняць усе геамэтрычныя паняцьці і дзеяньнік канкрэтным фактам жыцьця. А дзеля гэтага вучні пав.нны мець канкрэтнае прадстаўленьне аб лінейных, квадратовых і кубічных мерах, канкрэтна зразумець, што такое гэктар, а што кубічны сантымэтр вады важыць 1 грам, а кубічны дэцымэтр вады—кілёграм. А ўсе гэтыя прадстаўленьні даюцца вучням не адразу: мы не павінны думаць, што можна за раз—два разы тлумачыць вучням, і яны ўсё гэта будуць ведаць. Трэба ўвесь час даваць іменна задачы, каб лікі сустракаліся ў розных палажэньнях, у розным кантэксьце; прадстаўленьне аб ліках і вялічынях засвайваецца не само па сабе, а толькі шляхам шматлікавых параўнаньняў іх адно з другім.

б) Для таго, каб дасягнуць гэтай мэты, мы павінны больш актывізаваць мэтад работы па матэматыцы.

Пры вырашэньні задач павінна заўсёды быць праведзена плянаваньне задачы—павінна быць высьветлена мэтавая ўстаноўка кожнага этапу пры разьвязваньні задачы, значэньне кожнага ліку ва ўмове, вучні павінны ўмець зьвязваць лікі ў неабходныя дзеяньні.

Ня толькі пісьмовая праца павінна суправаджаць разьвязваньне задачы, але і вусная арыентыроўка ў ходзе работы. Мы бачылі на цэлым шэрагу фактаў, як адсутнасьць такога плянаваньня прыводзіла да незразуменьня самой сутнасьці задачы, прыводзіла да нясуразнага правядзеньня дзеяньняў і да бессэнсоўных адказаў.

Зразумела, самыя задачы павінны мець зьмест жыцьцёвы. Апрача таго, задачы павінны быць падабраны так, каб былі розныя ўвязкі і палажэньні лікаў; вучні павінны практыкавацца на вырашэньні рознага тыпу задач.

Далей, калі настаўнік растлумачвае вучням новае правіла, лекцыя яго павінна быць жывой і ўцягнуць масу вучняў у абмеркаваньне прыкладаў. Настаўнік павінен карыстацца рознымі відавочнымі дапаможнікамі, аналёгіяй і іншымі прыёмамі, каб вучні добра зразумелі сутнасьць новага правіла. Напрыклад, пры тлумачэньні $(a+b)^2 = a^2+2ab+b^2$ настаўнік павінен карыстацца геамэтрычнымі чарцяжамі, дзе-б відны былі квадраты і прамавугольнікі (квадрат з бокам „$a$“, квадрат з бокам „$b$“, 2 прамавугольнікі з бакамі „$a$“ і „$b$“). Вучні тады-б лепей памяталі формулу і не забылі-б паставіць сярэдні член $2ab$—яны-б помнілі тыя прамавугольнікі з бакамі „$a$“ і „$b$“, якія яны бачылі ў чарцяжах. Таксама настаўнік можа карыстацца падстаноўкай арытмэтычных лікаў замест „$a$“ і „$b$“ і такім чынам, наглядна распрацаваць з вучнямі гэтую формулу. Пры мэханічнай жа распрацоўцы вучні лёгка забываюць аб сярэднім члене $2ab$, і таму мы маем столькі памылак пры разьвязваньні данай формулы, калі пішуць $(a+b)^2 = a^2+b^2$.

Пры кожным новым правіле, якое прыходзіцца распрацаваць у клясе, настаўнік павінен знайсьці такія мэтады і прыёмы, пры дапамозе якіх-бы нагляднай, канкрэтней і жывей вучні маглі яго засвоіць.

Прычыны слабай арыентыроўкі ў ліках мы бачым таксама ў дрэннай пастаноўцы вуснага лічэньня ў старэйшых групах; мы сустракаліся з такімі фактамі, што $4 \times 100$ рабілі такім чынам:

$$\begin{array}{r} \times\, 4 \\ 100 \\ \hline 0 \\ 0 \\ 4 \\ \hline 4 \end{array}$$

Трэба навучыць вучняў лічыць, дзе толькі можна, вусным шляхам; трэба пакончыць з такімі фактамі, што пры множаньні 8 на 25 робяць так, як гэта робіць вучань другой групы ў пачатку навучальнага году, альбо пры памножаньні 4,6 на 10 вучні паступаюць „по всем правилам искусства“ з дзесятковымі дробамі, як робіцца ў трэцяй групе. Вучні павінны навучыцца лічыць вусна і пісаць зараз-жа адказ.

Вуснае лічэньне ў старэйшых групах не павінна займаць спэцыяльных лекцый. Ува ўсіх занятках па матэматыцы трэба карыстацца гэтай формай работы.

в) Пры правядзеньні нашага абсьледваньня настаўнікі часта дзівіліся, як гэта вучні не разьвязалі такіх лёгкіх прыкладаў і задач. Настаўнікі, як відаць, яшчэ слаба ведаюць аб становішчы ведаў сваіх вучняў. Гэта сьведчыць аб якіх-та хібах у арганізацыі пэдагагічнага працэсу.Настаўнік у большасьці абапіраецца на дзіцячы актыў, які ведае лепш матэматыку, хутка разьвязвае задачу і дае настаўніку правільны адказ. Настаўнік на гэтым супакоіцца і працуе далей. Ён не зварачвае дастатковай увагі на тое, што большасьць вучняў не вырашае зусім самастойна задачы, але часткова альбо поўнасьцю сьпісвае ў тых, якія раней зрабілі. Атрымоўваецца ў клясе сапраўдная абязьлічка: вучні як быццам усе рашылі, напісалі як сьлед, а потым аказваецца, што яны слаба ведаюць. Асабліва гэтае зьявішча кідаецца ў вочы пры такім прыёме, калі адзін вучань разьвязвае задачы на дошцы, а ўсе астатнія рашаюць задачу у сябе ў сшытках. Фактычна выходзіць, што вучні самастойна не рашаюць задач, яны чакаюць пакуль вучань на дошцы разьвяжа з дапамогай настаўніка, а потым яны сьпісваюць у свае сшыткі. Атрымоўваецца таксама абязьлічка: некаторыя вучні сьпісалі і магчыма ўсё-ж такі зразумелі ход задачы, некаторыя ж-проста сьпісалі і нічога не зразумелі. Як бы ня было, а ўсё-ж такі большасьць вучняў самастойна не вырашала. Вучні нават не прыслухоўваюцца да заўваг і паправак з боку настаўніка. Гэтыя заўвагі добра слухае вучань, які стаіць пры дошцы—астатнія вучні цікавяцца больш тымі вынікамі, якія яны бачаць на дошцы.

Зразумела, што такі прыём работы павінен ужывацца вельмі асьцярожна. Ён добры пры тлумачэньні якога та новага правіла, каб прывучыць вучняў пісаць правільна у сшытках, прывучыць пісаць без памылак. Але пры практыкаваньнях (а такія заняткі займаюць вялікі процант кляснай работы па матэматыцы) трэба паменш карыстацца такімі прыёмамі. Трэба даваць задачы ўсёй клясе так, каб кожны вучань прымушаны быў сам рашаць іх.

Як мы бачылі, вучні часта пішуць няправільна ў сваіх сшытках, пішуць не арганізавана і дрэнна з тэхнічнага боку. Настаўнік, як відаць, слаба праглядае вучнёўскія сшыткі, слаба ведае, якія памылкі накапляюцца ў вучняў групы. Зразумела, пры такім дрэнным вучоце настаўнік ня можа сваячасова кіраваць працай вучня і сваячасова ліквідаваць тыя альбо іншыя недахопы., Пазьней толькі настаўнік спахваціцца колькі розных памылак нарабілі вучні за ўвесь час; але-ж тады цяжэй іх выправіць. Настаўнік павінен кожную задачу кантраляваць. Вучот павінен быць штодзённы, альбо шляхам пісьмовых работ, альбо з дапамогай караценькіх вусных запытаньняў. Пры кантролі, асабліва пісьмовых работ, трэба настаўніку вылавіць тыповыя памылкі, якія вучні групы робяць, і потым арганізаваным спосабам іх выпраўляць.

Нарэшце, трэба зьвярнуць увагу на самую тэхніку пісьма ў матэматыцы: цыфра, лік і знак павінны мець адпаведную велічыню і займаць адпаведнае месца. Мы ўжо гаварылі аб гэтым і прыводзілі характарныя адмоўныя і дадатныя прыклады; трэба падкрэсьліць, што частка настаўніцтва зьвяртае малую ўвагу на гэты бок работы, часта настаўнік сам піша на дошцы такім самым беспарадкам. З гэтым трэба весьці рашучую барацьбу, барацьбу за чыстыя сшыткі, за культурную работу.

г) Апошняе, што мы хочам закрануць—гэта моманты рацыяналізацыі ў матэматычных вылічэньнях. Мы па гэтаму

пункту прыводзілі ўжо цэлы шэраг прыкладаў.

Рацыяналізацыя ў пэдгагічным працэсе, гэта праблема, яшчэ мала распрацаваная Але-ж яна мае вялізарнейшае значэньне ў мэтодыцы выкладаньня, асабліва па матэматыцы. Трэба прывучыць вучняў шукаць заўсёды больш кароткіх шляхоў вырашэньня задач, каб з'эканоміць час у рабоце. Прыводзім некаторыя прыклады: вось як вучань множыць лік на лік

$$\begin{array}{r} 100 \\ \underline{35000} \\ 000 \\ 000 \\ 000 \\ 500 \\ 300\phantom{00} \\ \hline 3500000 \end{array}\ ^{1)} \qquad \text{або} \qquad \begin{array}{r} 0{,}3 \\ \underline{0{,}5} \\ 15 \\ \underline{0{,}3} \\ 045 \end{array}\ ^{2)}$$

Так лічыць у старэйшых групах не дапушчальна; гэта пустая трата часу і, апрача таго, прыводзіць да частых памылак.

Возьмем яшчэ прыклад—задачу на разьмеркаваньне двухсот месц у дом адпачынку прапарцыянальна лікам— 700, 800 і 1000; замест зрабіць скарочаным шляхам, як гэта зрабілі некаторыя вучні: 700 : 800 : 1000 = 7 : 8 : 10;7 + 8 + + 10 = 25.

$$\frac{200 \cdot 7}{25} = 56; \quad \frac{800 \cdot 8}{25} = 64; \quad \frac{200 \cdot 10}{25} = 80\ ^{3)}$$

Вучні ў большасьці разьвязваюць так:

$$\begin{array}{r} 700 \\ +\ 800 \\ 1000 \\ \hline 2500 \end{array} \qquad 200 \,|\, \underline{2500} \atop \phantom{200 |}\ 0{,}08 \qquad \times \begin{array}{r} 0{,}08 \\ 700 \\ \hline 0{,}56{,}00 \end{array}$$

$$\begin{array}{r} 0{,}08 \\ 800 \\ \hline 0{,}64{,}00 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 0{,}08 \\ 1000 \\ \hline 008000 \end{array}\ ^{4)}$$

Які гэта цяжкі шлях для вырашэньня задач; колькі памылак можа быць зроблена лёгка пры такім спосабе вырашэньня. Настаўнік, як відаць, мала задумаўся над рацыяналізатарскімі спосабамі пры рабоце з такім прыкладам. Зразумела, што ход задачы цяжкі для вучняў, і прыходзіцца працаваць з больш складанымі лікамі.

Нарэшце, возьмем ход разьвязваньня задачы: калгас павінен заплаціць 460 руб. падатку; з іх першым тэрмінам—25 проц., другім тэрмінам 50 проц.; колькі руб. калгас павінен заплаціць у трэці тэрмін?

Большасьць вучняў разьвязвае задачу такім парадкам:

1) $\frac{460 \cdot 25}{100} = 115$ 2) $\frac{460 \cdot 50}{100} = 230$

3) $\begin{array}{r} +\ 150 \\ 230 \\ \hline 380 \end{array}$ 4) $\begin{array}{r} -\ 460 \\ 345 \\ \hline 115 \end{array}$

А вось некаторыя вучні зрабілі так задачу:

1) $\begin{array}{r} +\ 25\% \\ 50\% \\ \hline 75\% \end{array}$ 2) $\begin{array}{r} -\ 100\% \\ 75\% \\ \hline 26\% \end{array}$ 3) $\frac{460 \cdot 25}{100} = 115$

Замест 4-х пытаньняў вучань разьвязаў дадзеную задачу толькі 3-ма. Апрача таго, работа ўвесь час ішла больш малымі і лёгкімі лікамі.

Настаўнік павінен прызадумацца над такімі фактамі. Ён заўсёды павінен шукаць шляхі рацыяналізацыі работы і навучыць вучняў такім карысным звычкам.

* * *

Як сказана раней, мы не паставілі сабе мэтай тут даваць курс мэтодыкі матэматыкі, а сабралі матар'ял па ведах вучняў. Гэтыя веды і ход вырашэньня задач з вучнямі сьведчаць аб мэтодах работы настаўніка. Гэты вопыт мы сабралі, апрацавалі, каб распаўсюджваць яго сярод мас настаўніцтва. Адначасова з гэтым мы заваструлі некаторыя пытаньні мэтодыкі матэматыкі, каб зьвярнуць увагу настаўніцтва на недахопы, якія маюцца ў гэтым напрамку—каб іх ускрыць і ліквідаваць.

Толькі пасьлядоўнае ўкараненьне актыўных мэтадаў, сыстэматычнае правядзеньне плянаваньня і вучоту работы, толькі правядзеньне сувязі паміж тэорыяй і практыкай—толькі гэта прывядзе да поўнай ліквідацыі недахопаў па ўсіх прадметах, а таксама па матэматыцы. Толькі гэтак мы паставім на правільныя рэйкі пабудову палітэхнічнай школы.

Гэтыя задачы мы павінны вырашыць у 1932-33 навучальным годзе.

1) М—25—5—а—14, 2) М—39—5—а—11. 3) Б—8—6а—1. 4) 3—6в—23.

М. Лазарэнка

# Асноўныя пытаньні перабудовы вучэбных плянаў с.-г. ВНУ і тэхнікумаў

Задачы, якія паставілі перад сабой рабочая кляса СССР і камуністычная партыя ў другой пяцігодцы, грандыёзныя і вялізарныя. Калі за першую пяцігодку СССР падняўся ў тэхнічна-эканамічных і культурных адносінах на магутную вышыню, калі на працягу апошніх год дасягнуты ў самых розных галінах народнай гаспадаркі, нябачаныя ў гісторыі посьпехі, то другая пяцігодка на базе ўжо дасягнутага дасьць у колькасных і якасных адносінах яшчэ больш магутныя посьпехі. Выключная дынамічнасьць, нячуваныя ў гісторыі тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва характарызуюць плян другой пяцігодкі. Стварэньне зусім новых умоў працы і быту, ліквідацыя клясаў у сувязі з стварэньнем бясклясавага грамадзтва азначае ўступленьне СССР у новую эпоху сацыялістычнага будаўніцтва, калі ўсе працоўныя ў краіне стануць сьвядомымі і актыўнымі будаўнікамі сацыялізму. У гэтых умовах роля «ўласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян» выключна адказная і важная. Пралетарскі спэцыяліст павінен быць добра падрыхтаваны да сваёй дзейнасьці, значна вышэй усякага буржуазнага спэцыяліста. Характарнай рысай у яго падрыхтоўцы павінна быць арыентоўка на бурны рост сацыялістычнага будаўніцтва, на ўсё прагрэсуючую тэхніку, якую твораць і асвойваюць шырачайшыя масы энтузыястаў сацыялістычнае працы.

Адным з галоўнейшых мэтадаў сацбудаўніцтва зьяўляецца плянаваньне работы. Мы ўжо прывыклі плянаваць нашу работу нават на самых малых яе частках. Аднак, якасьць нашых плянаў нярэдка церпіць ад шматлікіх недахопаў. Гэта ў значнай ступені адносіцца да плянаў вучэбнай работы, вучэбных плянаў нашых вузаў і тэхнікумаў. Вучэбны плян павінен зьявіцца адлюстраваньнем профілю; ён адзначае зьмест і паступовасьць навучаньня; па ім належыць судзіць, каго рыхтуе дадзеная навучальная ўстанова. Ад таго, наколькі рацыяльна складзены вучэбны плян, непасрэдна залежыць якасьць прадукцыі вуза, тэхнікума. Вучэбныя пляны с.-г. вузаў і тэхнікумаў зьяўляюцца сынтэтычнай схэмай адлюстраваньня ўсіх тых адзнак і якасьці рыхтуемага спэцыяліста, што існуюць у адпаведнай прафэсіі. Зразумела, што на асобах, складаючых вучэбныя пляны, ляжыць вялізарная адказнасьць за правільны выбар іх, прывядзеньне ў сыстэму асноўных ведаў, якія забясьпечваюць усе прафіляваныя адзнакі і якасьць спэцыяліста. Належны падбор дысцыплін, належнае іх злучэньне, паступовасьць вывучэньня, аб'ём гэтых дысцыплін, спэцыфічная іх накіраванасьць, якая азначае сутнасьць профілю—усё гэта будзе мець уплыў на якасьці рыхтуемага спэцыяліста.

У значнай частцы працаўнікоў с.-г. вузаў і тэхнікумаў ёсьць думка, што складаньне навучальнага пляну—справа ня цяжкая: належыць толькі пералічыць падыходзячыя дысцыпліны, паставіць гадзіны,—і плян гатовы. Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) (1929 г.), пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, XVII партканфэрэнцыя і пастанова ЦВК СССР аб прафтэхнічных навучальных установах надзвычайна яскрава адзначылі адставаньне ня толькі арганізацыйных форм вучэбнай работы прафтэхнічнай школы (у тым ліку с.-г. щколы), але і мэтадаў гэтай работы. Галінавы характар, вузкая спэцыялізацыя прафтэхнічных навучальных установ высунулі неабходнасьць яскрава фармуляваць сацыяльны заказ на спэцыяліста. Выходным пунктам вучэбнай работы зьявіўся профіль спэцыяліста—характарыстыка яго галоўнейшых грамадзка-палітычных вытворчых функцый

і пералік асноўных ведаў, неабходных для яго кваліфікацыі.

Зусім нядаўна зроблены першыя спробы ўзьняцьця вучэбных плянаў на навуковую вышыню. Гэта стала магчымым толькі тады, калі было пастаўлена пытаньне аб стварэньні профілю спэцыяліста. Да гэтага пляннаваньне вучэбнай работы рабілася па інтуіцыі. Укладальнік будаваў вучэбны плян, выходзячы з сваёй асабістай мэтодыкі, нярэдка зусім не абгрунтаванай агульна-прызнанымі навуковымі дадзенымі. Галоўнейшыя недахопы навучальных плянаў с.-г. ВНУ і тэхнікумаў у мінулым заключаліся ў наступным:

1. Недастатковая арыентоўка вучэбных плянаў на дынаміку разьвіцьця сучаснай навукі і тэхнікі, гэта значыць адставаньне іх ад запатрабаваньняў бурнага разгортваньня савецкай народнай гаспадаркі.

2. У вучэбных плянах часта ня вытрымлівалася правільная пасьлядоўнасьць прадметаў.

3. Недастатковая забясьпечанасьць палітычнай адукацыі спэцыялістых.

4. У вучэбных плянах некаторых с.-г. ВНУ і тэхнікумаў маецца шматпрадметнасьць, частка вучэбных дысцыплін штучна дробіцца на паасобныя вучэбныя прадметы.

5. Недастатковасьць часу адводзілася для агульна-тэарытычных, агульна-тэхнічных і спэцыяльных дысцыплін.

6. Часта вучэбныя пляны выпрацоўваліся без наяўнасьці адпаведнага профілю.

7. Некаторыя вучэбныя пляны сувязь з профілем мелі чыста фармальную: вучэбны плян ня выходзіў з галоўнейшых паказчыкаў профілю.

8. Неяскравая фармулёўка вучэбных дысцыплін. Былі выпадкі, калі дапаможныя для профілю дысцыпліны фармуляваліся так, як бы яны зьяўляліся галоўнымі спэцыяльнымі дысцыплінамі.

9. У значнай частцы навучальных плянаў с.-г. ВНУ адсутнічаў прынцып групоўкі вучэбных прадметаў, ня было пасьлядоўнасьці ў праходжаньні дысцыплін, наглядалася мэханічнае вызначэньне часу на вывучэньне дысцыплін; блытаніна ў так званым цыкляваньні і вызначэньні ўдзельнай вагі тэй ці іншай дысцыпліны.

10. Вялікім недахопам патрэбна лічыць парушэньне вучэбнага пляну с.-г. ВНУ і тэхнікумаў. Самы лепшы, дасканала прапрацаваны і разгорнуты вучэбна-вытворчы плян не гарантуе нармальнага ходу работы, калі студэнты будуць зьнімацца з вучобы без асаблівай неабходнасьці, пасылацца на вытворчыя кампаніі, бяз уліку іх спэцыяльнасьці і ступені падрыхтоўкі. У такім выпадку парушаецца ўсякі сэнс пляннаваньня, губляецца яго выхаваўчае і вытворчае значэньне.

Пастанова ЦВК СССР аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах яскрава ўскрывае ўсе недахопы вучэбных плянаў, праграм і мэтадаў выкладаньня і паказвае шляхі іх зьнішчэньня.

Перад намі пастаўлены задачы ўнясеньня актуальных паправак як у профілі спэцыялістых, так і ў адпаведныя ім вучэбныя пляны.

Складаючы вучэбныя пляны ў сярэдзіне 1932—33 г. навучальнага году, мы павінны памятаць, што прадукцыя нашых ВНУ і тэхнікумаў, падрыхтаваная па гэтых плянах, зьявіцца толькі ў сярэдзіне і нават у канцы другой пяцігодкі.

Спэцыяліст, скончыўшы курс навучальнай установы па гэтых плянах, пачне самастойна працаваць па сваёй кваліфікацыі тады, калі задачы, пастаўленыя XVII партканфэрэнцыяй, будуць ужо ў асноўным вырашаны. Гэта накладае асаблівую адказнасьць на ўсіх, хто працуе ў сучасны момант над складаньнем вучэбных плянаў. Спэцыялісты другой пяцігодкі павінен умець асвойваць хутка зьмены, якія ўтвараюцца ў сацыялістычнай народнай гаспадарцы, павінен умець творча і дасьледча працаваць у адпаведнай галіне навукі і тэхнікі, павінен яшчэ ў ВНУ набыць сталую тэарытычную аснову для сваёй працы. Гэта тэарытычная падрыхтоўка атрымоўваецца студэнтам вуза і тэхнікума як у сьценах навучальнай установы, так і ў час працы ў тым ці іншым прадпрыемстве. У савецкім вузе і тэхнікуме ня можа

быць тэарытычнага навучаньня, якое было-б адарвана ад практыкі, ня можа быць і вытворчага навучаньня, адарванага ад тэорыі.

Пастанова ЦВК СССР аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах адводзіць агульна-адукацыйным, агульна-тэхнічным і спэцыяльным дысцыплінам 80—85 проц. усяго бюджэту часу вучэбнага пляну ў ВНУ і ня менш 70 проц. у тэхнікумах бяз вытворчай практыкі. Вядучым дысцыплінам адводзіцца ў плянах значнае месца, згортваньне вузкіх, сродных профіляў у адзін больш агульны, дае магчымасьць больш яскрава фармуляваць у навучальным пляне вядучыя дысцыпліны. Прарыўнасьць вучэбнага году і забарона скарыстаньня студэнтаў без асаблівай неабходнасьці і згоды дырэктара на вытворчыя кампаніі палягчаюць задачу складаньня і рэалізацыі ўсяго рабочага вучэбнага пляну.

У сувязі з дадзенымі паказаньнямі і неабходнасьцю больш яскравай і плянавай работы, патрэбна застанавіцца на асноўных пытаньнях складаньня вучэбных плянаў с.-г. ВНУ і тэхнікумаў.

Вучэбны плян ёсьць лёгічны вынік профілю, канкрэтнае вырашэньне схэмы аўладаньня ведамі, якія забясьпечваюць усе профілюючыя функцыі. Адгэтуль сувязь профілю з вучэбным плянам—галоўнейшыя яго ўласьцівасьці. Добра складзены профіль—выходны матар'ял для вучэбнага пляну. Неабходна дасканала разабрацца з профілем, г. зн. дэталёва вывучыць асноўныя характарныя рысы дадзенай галіны с.-гаспадаркі на даным этапе, адзначыць спэцыфічнасьць тыпу спэцыяліста, канкрэтызаваць яго грамадзка-палітычныя і вытворчыя функцыі. Толькі дасканала вывучыўшы профіль, адлучыўшы ў ім агульнае ад прыватнага, прааналізаваўшы яго спэцыфіку, магчыма прыступіць да складаньня вучэбнага пляну. Выходным пунктам для складаньня вучэбнага пляну павінны быць два моманты: грамадзка-палітычныя і вытворчыя функцыі спэцыяліста. Перш за ўсё вырашаецца пытаньне аб забесьпячэньні ведаў і выхаваўчых навыкаў грамадзка-палітычнага парадку. Само сабой зразумела, што грамадзка-палітычныя дысцыпліны павінны зьявіцца асноўным фонам для ўсяго вучэбнага пляну і належным чынам праламляцца ва ўсіх спэцыяльных дысцыплінах.

Другім выходным момантам зьяўляюцца вытворчыя функцыі спэцыяліста. Тут таксама належыць дасканала прадумаць дысцыпліны, якія забясьпечваюць вытворчыя функцыі спэцыяліста. Неабходна пачаць з дысцыплін, непасрэдна адзначаючых галоўныя вытворчыя функцыі, напрыклад—разьвядзеньне сьвіней (для сьвінавода), канструкцыя с.-г. машын (для інжынэра-канструктара) і г. д. Сфармуляваўшы адну-дзьве дысцыпліны, якія вызначаюць асноўныя веды спэцыяліста для выкананьня вытворчых функцый, належыць вырашыць пытаньне аб другіх дысцыплінах, выцякаючых з вывучэньня першай вядучай дысцыпліны, і вызначыць іх удзельную вагу і аб'ём. Пералік гэтых дысцыплін вырашае пытаньне аб групе спэцыяльных прадметаў, якія ў большай ступені забясьпечваюць галоўныя вытворчыя функцыі профілю. Далей належыць разьвязаць пытаньне аб палітэхнічных дысцыплінах для ВНУ, куды ўвойдуць для розных спэцыяльнасьцяй розныя дысцыпліны—батаніка, зоалёгія, біалёгія, мэханіка і г. д.

У тэхнікумах вылучаецца яшчэ група агульна-адукацыйных дысцыплін, бо тэхнікумы павінны закончыць сярэднюю асьвету па агульна-адукацыйных дысцыплінах. Вялікае значэньне ў працы будучага спэцыяліста мае культасьветная работа. Як арганізатару вытворчай актыўнасьці працоўных мас, спэцыялісту другой пяцігодкі прыдзецца разьвязваць пытаньні выхаваўчага парадку, як у галіне палітыка-асьветнай, так і ў галіне сацыяльнага выхаваньня дзяцей і падлеткаў, навучаньне якіх шчыльна зьвязана з вытворчай працай на прадпрыемстве. У гэтых мэтах павінна быць дадзена адпаведная пэдагагічная падрыхтоўка студэнта с.-г. вузаў і тэхнікумаў. У навучальным пляне патрэбна вызначыць належнае месца гэтай дысцыпліне. Праграма ЎсеКП(б) патрабуе

працтэхнічнага выхаваньня ў сувязі з палітэхнічнымі ведамі. Патрэбна сказаць, што праблема палітэхнізацыі вузаў і тэхнікумаў не атрымала яшчэ яскравага і поўнага разьвязваньня. Вучэбныя пляны, праграмы і профілі другой пяцігодкі ня могуць не разьвязаць гэтай задачы. Правядзеньне няспыннай вытворчай практыкі, шырокі грамадзка-палітычны і фізыка-матэматычны цыклі даюць базу для разуменьня ўсяго працэсу падрыхтоўкі спэцыялістаў пад знакам палітэхнізацыі.

Вельмі вялікі інтарэс прадстаўляе праблема дазыроўкі часу для вучэбных прадметаў пляну. Дасканалае вывучэньне колькасьці адводзімых гадзін на тую ці іншую дысцыпліну паказвае, што вызначэньне гэтай колькасьці гадзін выходзіць з нявернай установкі— працягу навучаньня; такім чынам, тэрмін навучаньня адзначае аб'ём дысцыпліны. Устаноўка няправільная, бо тэрмін навучаньня азначаецца неабходным аб'-ёмам дысцыплін, а не наадварот. У выніку такога няправільнага падыходу, аб'ём прадметаў азначаецца звычайна мэханічна, шляхам прапарцыянальнай разьбіўкі ўсяго бюджэту часу паміж дысцыплінамі. Разьвязаньне праблемы дазыроўкі пры складаньні вучэбных пляну патрэбна шукаць у аналізе профілю, у яго грамадзка-палітычных і вытворчых функцыях, якія для тэй ці другой кваліфікацыі і зьяўляюцца нормай аб'-ёму вучэбнага прадмета.

Некаторыя вузы імкнуцца зусім зьнішчыць групаваньне дысцыплін у вучэбным пляне і даюць проста пасьлядоўны пералік іх, што не паляпшае, а ўскладняе працу па складаньні вучпляну. Групаваньне вучэбных прадметаў дае магчымасьць адзначыць удзельную вагу кожнай групы ў забесьпячэньні профілю і выцякаючую адгэтуль удзельную вагу кожнай дысцыпліны, як у сваёй групе, так і ва ўсім вучэбным пляне. Асноўным прынцыпам групаваньня навучальных дысцыплін зьяўляецца іх значымасьць і ўдзельная вага ў забесьпячэньні адпаведнага профілю.

З гэтага пункту гледжаньня, існуючае групаваньне дысцыплін на сацыяльна-эканамічныя, агульна-тэхнічныя і спэцыяльныя (а для тэхнікумаў яшчэ і агульна-адукацыйныя) зусім правільна мэтадалёгічна і зручна з мэтадычнага боку забясьпечвае магчымасьць выяўленьня ўдзельнай вагі розных дысцыплін пры аналізе профілю ў цэлым. Зразумела, што пералік дысцыплін у гэтых групах будзе розны ў залежнасьці ад спэцыяльнасьці і тыпу навучальнай установы. Гэта розназначнасьць дысцыплін ня можа ўнесьці ніякай блытаніны, калі разьбіўка дысцыплін па групах дастаткова глыбока прадумана і абгрунтавана.

У вучэбным пляне неабходна паказаць пасьлядоўнасьць ходу прапрацоўкі паасобных дысцыплін.

Звычайна першым крокам вучэбнага пляну зьяўляецца яго схэма альбо сетка гадзін. Многія навучальныя ўстановы гэтай сеткай і канчаюць плянаваньне вучэбнай работы. Зразумела, што сетка гадзін далёка не зьяўляецца вучэбным плянам, а толькі першая яго ступень. Вучэбны плян павінен даць поўны разгорнуты малюнак працы навучальнай установы на ўвесь год. Вучэбна-вытворчы плян абавязкова павінен ахапіць усе асноўныя элемэнты падрыхтоўкі спэцыяліста, а менавіта: работу ў ВНУ (тэхнікуме); работу на вытворчасьці ў парадку вучэбнай і няспыннай вытворчай практыкі; грамадзкую работу ў ВНУ (тэхнікуме) і па-за ВНУ (тэхнікумам); павінен намеціць асноўныя этапы няспыннай вытворчай практыкі, пасьлядоўнасьць праходжаньня паасобных дысцыплін; павінен устанавіць тэрмін навучаньня ў дадзенай ВНУ (тэхнікуме) у залежнасьці ад профілю спэцыялістага; вызначыць суадносіны паміж тэорыяй, няспыннай вытворчай і вучэбнай практыкай.

Разьдзел лябараторных заняткаў да гэтага часу быў асабліва ў загоне і не фіксаваўся ў вучэбных плянах. Аб'ём і тэрмін лябараторнай практыкі, а нярэдка і самое месца яе вырашалася насьпех. У мэтах больш шырокай і глыбокай навуковай падрыхтоўкі пастанова ЦВК СССР аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах дае

паказаньне на неабходнасьць вызначэньня лябараторных заняткаў, вучэбнай практыкі ў майстэрнях і ў дапаможных прадпрыемствах, пачынаючы з другога ці 3-га курсу ў залежнасьці ад тэрміну навучаньня. Адначасова з лябараторнымі работамі, што праводзяцца ў пэрыяд прапрацоўкі тэарытычнага курсу, у вучэбным пляне павінна быць паказана вучэбная практыка (тэхналёгічная). Вось гэткія агульныя наметкі пабудовы вучэбнага пляну с.-г. ВНУ і тэхнікумаў.

Добра пабудаваны вучэбны плян, асабліва разгорнуты рабочы плян, павінен улічваць усе мажлівасьці яго ажыцьцяўленьня, у адваротным выпадку ўся работа зьвядзецца да фармальнага выкананьня галоўнейшых разьдзелаў працы. Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на ажыцьцяўленьне няспыннай вытворчай практыкі, бо да гэтага часу гэтая частка вучэбнага пляну больш усяго была небясьпечнай у многіх с.-г. ВНУ і тэхнікумах. Забесьпячэньне навучальных устаноў сталымі месцамі вытворчай практыкі, кіруючым пэрсаналам, праграмамі—разьвязвае пытаньне выкананьня пляну н. в. практыкі.

Калегія НКА БССР пастановай ад 22/XI—32 г. зацьвердзіла абавязковы мінімум колькасьці вучэбных гадзін па агульна-адукацыйных ці грамадзка-палітычных дысцыплінах, вайсковым і фізычным выхаваньні.

### *А. ДЛЯ С.-Г. ТЭХНІКУМАЎ (ПРЫ 3-ГАДОВЫМ ТЭРМІНЕ НАВУЧАНЬНЯ)*

#### ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЦЫКЛЬ

| | гадзін |
|---|---|
| 1. Гісторыя | 120 |
| 2. Эканам. геаграфія | 60 |
| 3. Гістмат і ленінізм | 60 |
| 4. Гісторыя ЎсеКП(б) і КП(б)Б | 50 |
| 5. Палітэканомія і тэорыя сав. гаспадаркі | 120 |
| 6. Асновы марксысцка-ленінскай пэдагогікі | 30 |

#### *Б. АГУЛЬНА-АДУКАЦЫЙНЫЯ*

| | |
|---|---|
| 7. Родная мова і літаратура | 130 |
| 8. Расійская мова і літаратура | 100 |
| 9. Замежная мова і літаратура | 120 |
| 10. Матэматыка | 300 |
| 11. Фізыка з аснов. с.-г. мэтэрэалёгіі | 200 |
| 12. Хімія | 100—200 |
| 13. Біалёгія | 100 |
| 14. Вайсковая падрыхт. і фізвых | 235 |

Працяг вучэбнага году і тэрміны адпачынку вызначаны пастановай ЦВК СССР, апублікаванай у газэце «Праўда» ад 18-XI 1932 г.

Сказаўшы ў пачатку гэтага кароткага артыкулу аб галоўнейшых недахопах, існаваўшых у навучальных плянах да пастановы ЦВК СССР аб вышэйшай школе і тэхнікумах, лічу неабходным крануцца і тых крыніц, адкуль выцякалі гэтыя недахопы. Аднэй з іх зьяўляецца мой артыкул «Асноўныя прынцыпы пабудовы вучэбна-вытворчых плянаў у с.-г. ВНУ і тэхнікумах», напісаны мною ў студзені мес. 1932 г. і зьмешчаны ў часопісе «Камуністычнае выхаваньне», № 4-5, за бягучы год. У гэтым артыкуле я пісаў: «Няспынная вытворчая практыка павінна займаць 40-50 процантаў усяго тэарытычнага навучаньня ў ВНУ (тэхнікумах), а пачынацца з першага году навучаньня». Тут я адводзіў многа вучэбнага часу на няспынную вытворчую практыку, чым арыентаваў нав. установы пасылаць студэнтаў на вытворчую практыку без дастатковай тэарытычнай падрыхтоўкі. На стар. 37 «Агульна-тэхнічны цыкль у ВНУ на вышэйшую матэматыку вызначана—100-120 вуч. гадз., на фізыку з асновамі с.-г. мэтэрэалёгіі—120 гадз., асновы біалёгіі—30 гадз.; для тэхнікумаў на матэматыку—200 гадзін., фізыку з асновамі с.-г. мэтэрэалёгіі—120-140 гадз. Усё гэта паказвае, што я сваімі ўстаноўкамі вельмі мала часу адводзіў для агульна-тэхнічных і агульна-тэарытычных дысцыплін. Падобнага роду недахопы ўскрыты пастановай ЦВК СССР, яны павінны быць выпраўлены ў час перапрацоўкі вучэбных плянаў і праграм.

# АБМЕН ВОПЫТАМ ПРАЦЫ

**П. Панкевіч**

## Вынікі сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР на працягу 1931-32 навучальнага году

Дзякуючы таму, што ў нашых школах не заўсёды добра пастаўлены вучот вынікаў сацспаборніцтва, немажліва даць поўны малюнак ступені выкананьня сацумоў. Ёсьць школы, якія ў канцы навучальнага году ня ведалі, наколькі выкананы сацдагаворы, (напрыклад, 1-ая Мсьціслаўская ШКМ).

А між тым, важнейшай умовай разгортваньня сацспаборніцтва зьяўляецца сыстэматычная праверка выкананьня вучнямі ўзятых абавязкаў. Калі ўзяць толькі агульна—школьныя ўмовы, дык мы атрымаем наступныя вынікі па 18-ці школах на 1 мая 1932 году:

| НАЗВА ШКОЛЫ | Колькі пунктаў у сацумов | Перавык |  | Выканана |  | Ня поўнае выкананьне |  | Выконваец. |  | Нявыканан. |  | Колькі пунктаў выканана наогул | Які проц. выкананьня наогул. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  | Колькі пункт. | Проц. | Колькі пункт. | Проц. | Колькі пункт. | Проц. | Колькі пункт. | Проц. | Колькі пункт. | Проц. |  |  |
| 1. Зарубская ШКМ | 32 | — | — | 12 | — | 5 | — | 3 | — | 12 | 37,5 | 20 | 62,5 |
| 2. Сураская ФЗС | 15 | 1 | — | 4 | — | 4 | — | 2 | — | 4 | 26,7 | 11 | 73,3 |
| 3. В.-Зімніцаая ШКМ | 15 | 1 | — | — | — | 6 | — | 23 | — | 5 | 33,4 | 10 | 66,6 |
| 4. Пухавіцкая ШКМ | 25 | 1 | — | 7 | — | 11 | — | 1 | — | 5 | 20 | 20 | 80 |
| 5. Бялынкавіцкая ШКМ | 32 | — | — | 15 | — | — | — | 1 | — | 16 | 50 | 16 | 50 |
| 6. Шылавіцкая ШКМ | 29 | 2 | — | 21 | — | 5 | — | — | — | 1 | 3,5 | 28 | 96,5 |
| 7. Цароўская ШКМ | 25 | — | — | 3 | — | 8 | · | 7 | — | 7 | 28 | 18 | 72 |
| 8. Горацкая рас. ШКМ | 30 | 2 | — | 5 | — | 11 | — | 4 | — | 8 | 26,7 | 22 | 73,3 |
| 9. Грэцкая ШКМ | 23 | 1 | — | 5 | — | 12 | — | 5 | — | — | — | 23 | 100 |
| 10. Новасёлкаўская | 12 | 1 | — | 2 | — | 7 | — | — | — | 2 | 16,7 | 10 | 83,3 |
| 11. Даўгавіцкая ШКМ | 13 | — | — | 7 | — | — | — | — | — | 6 | 78,8 | 7 | 21,2 |
| 12. 2-я Мсьціслаўская | 33 | 2 | — | 24 | — | 3 | — | 2 | — | 2 | 6 | 31 | 94 |
| 13. Слуцкая 1-я ШКМ | 40 | 5 | — | 30 | — | 2 | — | — | — | 3 | 19 | 37 | 81 |
| 14. Пухавіцкая бел. ШКМ | 23 | 1 | — | 10 | — | 9 | — | 1 | — | 2 | 8,8 | 21 | 91,2 |
| 15. Каменская бел. | 34 | 3 | — | 18 | — | 4 | — | 1 | — | 8 | 23,6 | 26 | 76,4 |
| 16. Рэчыцкая бел. ФЗС | 14 | — | — | 4 | — | 8 | — | — | — | 2 | 14,3 | 12 | 85,7 |
| 17. Школа Камуны БВА | 29 | — | — | 6 | — | 3 | — | 17 | — | 3 | 10 | 26 | 90 |
| 18. Дрыбінская ШКМ | 29 | — | — | 9 | — | 1 | — | — | — | 19 | 65 | 10 | 35 |
| РАЗАМ: | 453 | 20 | 4,4 | 182 | 40,2 | 99 | 21,8 | 47 | 10,4 | 105 | 23,2 | 348 | 76,8 |

Адсюль відаць, што па 18 школах па дагаварах пастаўлена 453 пункты, а выканана на 1 мая—348 пунктаў, што складае 76,8 проц. Праўда, да канца навучальнага году заставалася яшчэ каля месяца. Таму школы мелі мажлівасьць крыху павялічыць процант выкананьня сацумоў. Аднак, трэба сказаць, што нават пры самых напружаных тэмпах усё-такі будзе недавыкананьне школамі ўзятых на сябе абавязкаў па сацспаборніцтве. Асабліва нізкія каэфіцыенты выкананьня мы назіраем у Даўгавіцкай ШКМ (21,2 проц.), у Бялынкавіцкай ШКМ (50 проц,), ў Дрыбінскай ШКМ (35 проц.), у В.-Зімніцкай

школе (66,6 проц.), у Зарубскай школе (62,5 проц.). Такім чынам, 5 школ даюць нездавальняючыя паказчыкі выкананьня сацумоў. Зразумела, пры такімі становішчы нельга спадзявацца на тое, што сацспаборніцтва сапраўды зробіцца фактарам камуністычнага выхаваньня. Па 9 школах каэфіцыент выкананьня хістаецца ў межах 80—100 проц., Трэба дамагацца таго, каб сацумовы выконваліся вучнямі на 100 проц. бо гэта мае вялізарнае выхаваўчае значэньне.

Калі мы кажам аб выкананьні сацумоў, то тут разумеем ня толькі .выкананьне плянаў ва ўласным сэнсе слова, але і перавыкананьне іх, няпоўнае выкананьне, і тое, што выконваецца і не даведзена да канца. Процант перавыкананьня некаторых пунктаў сацумоў параўнаўча невялікі. Мы маем перавыкананьне ў 11 школах па 20 пунктах, што складае толькі 4,4 проц. ад агульнага аб,ёму сацумоў па 18-ці школах. Значнае перавыкананьне назіраецца па Слуцкай 1-ай ШКМ, а таксама па Каменскай, Шылавіцкай, Горацкай расійскай і Мсьціслаўскай 2-ой ШКМ. Поўнае выкананьне ахоплівае 182 пункты сацумоў, альбо 40,2 проц. І тут уперадзе ідуць—Слуцкая 1-ая, Мсьціслаўская 2-ая і Шылавіцкая ШКМ. Няпоўнае выкананьне закранае 99 пунктаў, альбо 21,8 проц. У сацумовах сустракаюцца такія пункты, якія выконваюцца вучнямі, але-ж яшчэ ня выкананы да канца. Іх налічваецца 47, што складае 10,4 проц. Па лініі гэтых пунктаў асабліва вялікі каэфіцыент дае школа камуны БВА, а менавіта: 58,6 проц. А потым ідзе Цароўская ШКМ, на якую прыпадае 28 проц. Трэба адзначыць, што гэтая катэгорыя пунктаў зьяўляецца найбольш неакрэсьленай, бо нельга з упэўненасьцю сказаць, што паказаныя пункты будуць выкананы да канца, на 100 проц.

Дзеля таго, каб даць ясны аналіз зьместу сацумоў па 18 школах, прыводзім наступную табліцу:

| Ступень выканаьня сацумоў / Па якіх галінах школьнай працы? | Перавыканан. | Выкананьне | Няпоўнае выкананьне | Выконваецца | Ня выкан. Колькі пункт. | Ня выкан. Проц. | Разам Колькі пункт. | Разам Проц. | Проц. агульнага выкананьня па галінах школьнай працы. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Барацьба за веды | — | 46 | 25 | 16 | 18 | 16.1 | 105 | 123,2 | 83,9 |
| 2. Грамадзкая праца | 14 | 60 | 36 | 8 | 36 | 22,6 | 154 | 34 | 77,4 |
| 3. Дысцыпліна | — | 4 | 8 | 5 | 7 | 25 | 24 | 5,3 | 75 |
| 4. Матар'яльнае забясьпячэньне | 3 | 15 | 2 | — | 13 | 39,4 | 33 | 7,2 | 60,6 |
| 5. Пазашкольная і грамадзкая праца | 3 | 17 | 10 | 2 | 11 | 25,5 | 43 | 19,5 | 74,5 |
| 6. Палітэхнізацыя | — | 10 | 10 | — | 8 | 28,5 | 28 | 6,2 | 71,5 |
| 7. Антырэліг. і інтэрн. выхаван. | — | 9 | 3 | 4 | 1 | 6 | 17 | 3,7 | 94 |
| 8. Арганізацыйнае пытаньне | — | 11 | 4 | 9 | 8 | 25 | 32 | 7,2 | 75 |
| 9. Санмінімум | — | 3 | — | 3 | 31 | 14,3 | 37 | 1,5 | 85.7 |
| 10. Самакіраваньне | — | 5 | 1 | — | — | — | 6 | 1,3 | 100 |
| 11. Ваянізацыя | — | 2 | — | — | 2 | 50 | 4 | 0,9 | 50 |
|  | 20 | 182 | 99 | 47 | 105 | 23,2 | 453 | 100 | 76,8 |

Мы бачым, што найбольшую ўдзельную вагу маюць пункты па грамадзкай працы (34 проц.) і па барацьбе за агульна-адукацыйныя веды (23,2 проц.). Значны процант выкананьня прыпадае на пункты па антырэлігійным і інтэрнацыянальным выхаваньні (94 проц.), па самакіраваньні (100 процантаў), па санмінімуму (85,7 проц.) і па барацьбе за агульна-адукацыўныя веды (83,9 проц.). Перавыкананьне назіраецца па тых пунктах, якія адносяцца да грамадзкай працы, матар'яльнага забесьпячэньня і пазашкольнай працы. На жаль, няма фактаў перавыкананьня па пунктах барацьбы за веды. Наогул, гэтыя апошнія пункты яшчэ не знаходзяцца ў цэнтры ўвагі вучняў пры сацспаборніцтве.

Нельга прызнаць здавальняючым тое, што сацумовы ў галіне барацьбы за якасьць вучобы даюць каэфіцыент дасягненьняў толькі на 83,9 проц. Трэба паставіць задачу—ліквідаваць прарывы ў бліжэйшы час. Па пунктах матар'яль-

нага забесьпячэньня і ваянізацыі мы маем самыя нізкія паказчыкі—60,6 і 50 проц. Гэта часткова тлумачыцца тым, што пры заключэньні сацумоў прымаліся нерэальныя прапановы, напрыклад, наладзіць сталоўку пры школе, тады як для гэтага школа ня мела матар'яльных прадпасылак. У будучым трэба змагацца за рэальнасьць плянаў і сацумоў.

Ня гледзячы на тое, што нашы школы даюць недавыкананьне плянаў па вучобе, усё-такі трэба адзначыць, што сацспаборніцтва зрабіла вялікі пералом ў галіне барацьбы за агульна-адукацыйныя веды, садзейнічала палепшаньню якасьці вучобы, павялічыла школьную пасьпяховасьць, умацавала сьвядомую дысцыпліну сярод вучняў. Калі раней у школах было шмат адстаючых вучняў, дык зараз у працэсе сацспаборніцтва праводзілася на працягу году дадатковая напружаная праца з адстаючымі, і, дзякуючы гэтаму, акадэмічная непасьпяховасьць у значнай ступені ліквідавана. Навучальная праграма ў большасьці школ у асноўным выканана за мінулы год. Аднак, ёсьць па некаторых школах значныя прарывы, якія, зразумела,—ня зьвязаны з сацспаборніцтвам, правільней сказаць, якія ўзьніклі дзякуючы таму, што сацспаборніцтва ня было скарыстана для мабілізацыі вучняў на выкананьне школьных праграм.

Мсьціслаўская I ШКМ, Любанская і 8-ая Нова-Барысаўская выканалі навучальную праграму на 95 проц., Талочынская І-ая беларуская ШКМ—на 94 проц., Чачэрская—на 90 проц., XI Нова-Барысаўская—на 88,3 проц., Талочынская польская—на 85 проц., Гарадкоўская за першую палову—на 60 проц. і г. д. Чаму адстае асабліва Гарадкоўская ШКМ? У гэтай школе нездавальняюча пастаўлена сацспаборніцтва, у якім недастаткова ўдзельнічаюць піянэры і камсамольцы, сацумова ня выконваецца поўнасьцю, назіраюцца факты ілжэўдарніцтва, з 4 ударных брыгад старэйшага канцэнтру зьяўляецца сапраўды ўдарнай толькі адна; тут маецца 26 адстаючых вучняў і 13 дэзарганізатараў. Усё гэта, зразумела, адмоўна адбіваецца і на вучобе.

Выкананьне школьных праграм па паасобных дысцыплінах у некаторых школах мажліва прадставіць у наступным выглядзе:

| НАЗВА ШКОЛЫ | Грам. і гістор. | Бел. мова | Рас. мова | Геаграфія | Ма тэмат. | Фізыка | Прыродаз | Хэмія | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Н.-Барысаўская 8-я | 95 | 95 | 96 | 96,5 | 95 | 92 | 97 | 94 | 95 |
| 2. Талочынская 1-я | 70 | 100 | 100 | 92 | 95 | 86 | 100 | 100 | 94 |
| 3. Н.-Барыс. XI ФЗС | 93 | 97,5 | 93 | 85,7 | 73 | 95,3 | 92,5 | 78,7 | 88,3 |
| 4. Талочынск. польск. | 83 | 87 | — | 86 | 86 | 83 | 83 | 83 | 85 |
| АГУЛАМ: | 85 | 94,8 | 96,3 | 90 | 87,2 | 89,8 | 93 | 88,9 | 90,5 |

У паказаных 4-х школах найбольшы каэфіцыент выкананьня школьных праграм прыпадае на мовы, другое месца займае прыродазнаўства, потым ідзе геаграфія, фізыка, хэмія і матэматыка, а на апошнім месцы стаіць грамадазнаўства і гісторыя. Асабліва нізкія паказчыкі маюцца ў Талочынскай I ШКМ па грамадазнаўстве і гісторыі, а таксама ў Нова-Барысаўскай ФЗС — па матэматыцы і хэміі. Асноўная прычына недавыкананьня школьных праграм у большасьці школ—адсутнасьць настаўніка, альбо яго хвароба.

Дзеля таго, каб высьветліць ўзровень агульна-адукацыйных ведаў вучняў, Інстытут Камуністычнага выхаваньня выпусьціў спэцыяльную анкету з 5-ці пытаньняў па 12-ці школах.
Гэта анкета наступная:

1) Чым адрозьніваецца Кастрычнікавая рэвалюцыя ад Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году?

2) У якой частцы сьвету знаходзіцца Кітай?

3) Якую ролю адыгрывае хлёрафіл у расьлінах?

4) На якія хэмічныя элемэнты мажліва раскласьці ваду?

5) Пры якой тэмпэратуры замярзае вада на адкрытым паветры?

Усе пяць пытаньняў, пастаўленых у анкеце, зьяўляюцца даступнымі для вучняў 5-ай і нават часткова 4-ай клясы. Анкетаваньне ахапіла, галоўным чынам, вучняў другога канцэнтру. Па свайму характары пытаньні закранаюць гісторыю, геаграфію, прыродазнаўства, фізыку і хэмію. Першае пытаньне патрабуе ведаў аб сутнасьці Кастрычнікавай і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году. Гэта пытаньне мае настолькі вялікае выхаваўчае значэньне, што мы павінны дамагацца, каб пэўныя веды аб Кастрычнікавай рэвалюцыі былі нават у дзяцей першых груп малодшага канцэнтру. Дзеці Кастрычніка павінны ведаць пра Кастрычнік. Другое пытаньне мае дачыненьне да геаграфіі. Мы наўмысьля завастрылі ўвагу наконт Кітаю па тэй прычыне, што зараз аб гэтай краіне амаль кожны дзень пішуць у газэтах.

Рэвалюцыя у Кітаі, Япона-Кітайская вайна, падзеі на Ўсходня—Кітайскай чыгунцы і г. д.—усё гэта захапляе дзяцей. Яны павінны ведаць, што кітайская праблема ёсьць адна з праблем сусьветнай рэвалюцыі. Яны павінны ведаць, дзе знаходзіцца Кітай. Пытаньне аб хлёрафіле выкрывае сутнасьць важнейшых працэсаў росту і разьвіцьця расьлін. Яно займае віднае месца ў прыродазнаўстве і патрабуе комплекса элемэнтарных ведаў — хэмічных, фізычных і біалёгічных. Кожны вучань павінен прадстўляць сабе ролю хлёрафілу ў расьлінах. Таксама кожны вучань павінен ведаць і аб тым, на якія хэмічныя элемэнты раскладаецца вада. Паняцьце аб тлёне і вадародзе зьяўляецца даступным нават для дзяцей першага канцэнтру. Апошняе пытаньне—„пры якой тэмпэратуры замярзае вада“—мае дачыненьне да фізыкі і зьяўляецца надзвычай элемэнтарным, бо дзеці нават да школы могуць назіраць розныя працэсы з вадой пры розных тэмпэратурах—вада зімой, кіпяток і г. д. Наогул, усе пытаньні анкеты прадугледжаны школьнай праграмай. Анкетаваньне праводзілася ў сувязі з вывучэньнем сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў школе. Што-ж дало гэта анкетаваньне? Ацэнку адказаў вучняў у процантах па 12-ці школах мажліва прадставіць такім чынам:

| НАЗВА ШКОЛЫ | Назва груп | Усей групы | Піянэраў | Камсамол. | Тых вуч. якія ўступ. у сацспаб. | Ударнікаў | Піянэр ударнік | Камсамол. ударнікаў | Хлопцаў | Жанчын | Хлопцаў удар. | Жанчын удар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Круглянская ШКМ | 5—а | 58,5 | 54,6 | 85 | 60 | 71 | 66,6 | 100 | 72,9 | 40 | 85 | 53 |
| | 5—б | 70 | 70,5 | — | 80 | — | — | — | 69 | 60 | — | — |
| | 5—в | 58 | — | — | 60 | 40 | — | — | 55 | 56,6 | — | — |
| | 6 | 58,3 | 61,5 | — | 50 | - | — | — | 62,4 | 61,8 | — | — |
| | 7 | 87,8 | 80 | 90 | 84,1 | — | — | — | 98,8 | 69,3 | — | — |
| 2. Талочынская бел. | 5—а | 78,7 | 76,4 | — | 60 | 86,6 | 86,7 | — | 83,1 | 71,8 | — | — |
| | 5—б | 68,4 | 67,8 | — | 65,8 | 8С | 90 | — | 61,7 | 75,2 | 93 | 90 |
| | 5—в | 65,6 | 67,6 | — | 62,8 | 86,6 | 80 | — | 75 | 58.1 | 85 | 90 |
| | 5—г | 77 | 76,5 | — | 77,3 | 95 | 100 | — | 76,6 | 70,9 | 100 | 90 |
| | 6 | 62 | 63 | 73 | 64 | 70 | 60 | — | 67,4 | 55,5 | 75 | 60 |
| | 7—б | 74,6 | 80 | 64,4 | 78 | 89 | — | 80 | 75,4 | 73,3 | 90 | 88,5 |
| 3. Талочынская польск. | 5 | 51 | 59.5 | 75 | 51,2 | 52,8 | 60 | 80 | 50,5 | 51,8 | 53,3 | 52 |
| | 6 | 82,6 | 84,4 | 91,4 | 82,6 | 81,9 | 84,4 | 91,4 | 84,2 | 75 | 83,8 | 73 |
| | 7 | 80 | 80 | 80 | 80 | 80 | — | 80 | 80 | 80 | 80 | 8О |
| 4. Мсьціслаўск. 1-ая ШКМ | 5 | 78,8 | 76 | 86,3 | 78,8 | 82,2 | 82,6 | 80 | 80,4 | 75,3 | 91,6 | 63,3 |
| | 6 | 85,1 | 72,5 | 91 | 85,1 | 88,3 | 86,6 | 88,5 | 91,8 | 73,3 | 96 | 82,8 |
| | 7 | 85 | — | 84 | 85 | 87,7 | — | 86,6 | 85 | 85 | 92 | 85 |
| 5. Мсьціслаўская 2-ая ШКМ | 5—б | 61,7 | 60 | 80 | 61,4 | 63,5 | 62,2 | 80 | 65,7 | 59,3 | 66 | 62,8 |
| | 6—а | 77,6 | 78,5 | 75,4 | 77,6 | 78,5 | 78,5 | 77,5 | 70 | 72 | 76,6 | 80 |
| | 6—б | 65,9 | 65,9 | 62,5 | 65,9 | 60 | — | С0 | 66,6 | 58 | 80 | 40 |
| | 6—в | 78,6 | 80 | 81,8 | 78,6 | 90 | — | 90 | 78,3 | 80 | 90 | — |
| | 7—а | 69,4 | 70 | 70,7 | 69,4 | 76 | — | 73 | 73,3 | 67,6 | 80 | 60 |
| | 7—б | 73 3 | 80 | 73,3 | 73,3 | — | — | — | 77,7 | 80 | — | — |

| НАЗВА ШКОЛЫ | Назва груп | Усей груп | Піонэраў | Камсам. | Тых вуч. якія ўступ. ў сацспаб. | Ударнікаў | Піянэр ударнік | Камсамол ударнік | Хлапцоў | Жанчын | Хлапцоў ударн. | Жанчын ударн. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6. Мсьціслаўская 3-ая ШКМ | 5 | 58,6 | 64,6 | 20 | 581,6 | 80 | 80 | — | 70 | 45,4 | 80 | — |
| | 6 | 78 | 76,6 | 80 | 78 | 80 | 73 | 80 | 78 | 77,7 | 80 | 75 |
| | 7 | 97,8 | 100 | 100 | 97,8 | 97,2 | 100 | 100 | 97,1 | 100 | 96,9 | 100 |
| 7. Цяцерынская ШКМ | 5 | 84,5 | 85 | — | 84 | 92 | 96 | — | 85,9 | 75 | 92 | — |
| | 6 | 66,8 | 68 | 69,7 | 76,9 | 77 | — | 70 | 66,6 | 68 | 77 | — |
| | 7 | 70 | 60 | 68,5 | 70 | 68,5 | — | 70 | 68,4 | 80 | 68,5 | — |
| 8. Парыцкая ШКМ | 5—а | 74,2 | 71,2 | 40 | 73,3 | 80 | 80 | — | 72,1 | 72 | 80 | 80 |
| | 6—а | 75 | 70 | 72 | 73,6 | 80 | — | 80 | 78,1 | 72,3 | 80 | — |
| | 6—б | 85,8 | — | 100 | 85,8 | 87,5 | — | 100 | 84 | 88,8 | 83,6 | 96 |
| | 7—а | 72 | 53,3 | 80 | 72,2 | 72,2 | 53,3 | 80 | 83,3 | 80 | 82 | 80 |
| | 7—б | 84,4 | — | 85 | 85 | 93,3 | — | 86,6 | 84,6 | 84 | 100 | 80 |
| 9. Рэчыцкая бел. ФЗС | 5 - а | 75,9 | 87,1 | — | 75,9 | 85,2 | 84,5 | — | 87,2 | 72,5 | 83,5 | 47 |
| | 5—б | 70 | 71,8 | — | 70 | 73,3 | 73,3 | — | 70,4 | 73,8 | 80 | 68,8 |
| | 6—а | 71,1 | 70,6 | — | 76,8 | 68,8 | 66,6 | — | 77,3 | 63,3 | 82,5 | 64 |
| | 6—б | 74,4 | 74,5 | 73,3 | 74,4 | 74,5 | 70 | — | 72 | 75 | 91 | 78,4 |
| | 7 | 87,2 | 85 | 90 | 88,2 | 84,3 | 80 | 90 | 84,4 | 91 | 88 | 92,5 |
| 10. Чачэрская ШКМ | 5—а | 70 | 70 | 80 | 70 | 71,5 | 80 | 80 | 72,3 | 62,5 | 67,5 | 70 |
| | 5—в | 49,4 | 48,8 | — | 50 | 51 | 51,2 | — | 49,6 | 48,8 | 53,3 | 50 |
| | 5—с | 72,2 | 71,2 | — | 72,2 | 77,1 | 78,6 | — | 68,1 | 78,5 | 72,7 | 92 |
| | 6—а | 72,8 | 72,6 | 65,1 | 65,1 | 72,5 | 73,8 | — | 76,1 | 62,8 | 75 | 60 |
| | 6—в | 59,3 | 58,1 | — | 59,3 | 60,8 | 53,6 | 70 | 58,5 | 56,8 | 66,6 | 51,8 |
| | 6—с | 84,7 | 93,3 | 80 | 84,7 | 90,6 | 90 | 80 | 80 | 89,4 | 80 | 93,3 |
| | 7 | 86,3 | 90 | 80 | 86,3 | 86,6 | 83 | 80 | 82,8 | 80 | 82,8 | 80 |
| 11. ШКМ Камуны БВА | 5 | 93,1 | 93,7 | 95 | 93,7 | 97,7 | 97,5 | 100 | 95 | 96 | 100 | 96,6 |
| | 6 | 83,9 | 81,2 | 85 | 85,9 | 95,5 | 100 | 93.3 | 86,3 | 85 | 92,8 | 100 |
| | 7 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 12. Любанская ШКМ | 5—а | 98,1 | 97,5 | 100 | 98,1 | 96 | 100 | — | 99,1 | 96,3 | 95 | 100 |
| | 5—б | 97,7 | 100 | 100 | 100 | — | — | — | 98 | 96 | — | — |
| | 6—а | 83,5 | 81,6 | 90 | 83,5 | 74,2 | 70 | — | 81,8 | 83,3 | 71,2 | — |
| | 9—б | 93 | 96,3 | 100 | 93 | 97,1 | 97,5 | 100 | 94,6 | 88,5 | 100 | 80 |
| | 7 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | — | 100 | 100 | 100 | 100 | — |

Табліца паказвае, што каэфіцыент ведаў рэзка хістаецца па групах аднэй і тэй-жа клясы ня толькі розных школ, але нават у межах аднэй і тэй-жа школы. Напрыклад, у Круглянскай ШКМ, групы пятае клясы маюць гэткія паказчыкі—58,5 проц,. 70 і 78, у Чачэрскай ШКМ, групы шостае клясы маюць каэфіцыент—72,8 проц, 59,3 проц. і 84,7 проц. і г. д. Значнае хістаньне паказчыкаў назіраецца таксама ў адносінах паміж living рознымі клясамі; пры гэтым, тут няма пэўнай законамернасьці. У той час, як у адных выпадках каэфіцыент павялічваецца па меры пераходу ад малодшых груп да старэйшых, напрыклад, у Мсьціслаўскай 3-й яўрэйскай ШКМ—58,6 проц. 78 проц. і 97,8 проц. у другіх выпадках, наадварот,—каэфіцыенты памяншаюцца, альбо дае хістаньне ў бок пасьлядоўнага росту і зьніжэньня, напрыклад, у Цяцерынскай ШКМ—84,5 проц, 66,8 проц. і 70 проц. Аднак, калі ўзяць усе школы разам, дык мы атрымаем пасьлядоўнае павялічэньне каэфіцыентаў па меры пераходу ад 5 групы да 7, а менавіта: мы маем для пятых груп, якіх налічваецца 21, каэфіцыент у 71,9 проц., для шостых груп, якіх ёсьць 19, каэфіцыент у 75,3 проц. і, урэшце, для сёмых груп, якіх маецца 14, каэфіцыент у 89,8 проц. Тут у наяўнасьці выразны рост паказчыкаў у напрамку ад малодшых груп да старэйшых. І гэта зьяўляецца зусім натуральным, бо веды вучняў старэйшых клясаў павінны быць лепшыя, чым веды вучняў малодшых клясаў. Сярэдні каэфіцыент для ўсіх 54 груп 12 школ складае 79,8 проц.

Піянэры па ведах даюць законамерны рост каэфіцыента ў напрамку старэйшых груп, а менавіта: яны даюць для

пятых груп 73,4 проц. ведаў, для шостых груп—74,9 проц. і для сёмых—88,9 проц. Сярэдні каэфіцыент ведаў піянэраў па ўсіх школах складае 77,5 проц. Адсюль відаць, што піянэры адстаюць ад агульнага сярэдняга каэфіцыента на 2,3 проц. Гэта зьяўляецца зусім ненармальным, бо піянэры, як перадавыя рабяты, павінны быць узорным прыкладам для дзяцей і па вучобе. На практыцы-ж гэта не заўсёды назіраецца. Відавочна, перагрузка піянэраў грамадзкай працай плюс недастатковая іх увага барацьбе за веды на працягу мінулага году садзейнічалі таму, што яны пачалі адставаць ад сярэдняга ўзроўню вучэбнай падрыхтоўкі звычайных рабят. Зараз, зразумела, правільным ажыцьцяўленьнем пастановы Ц. К. партыі аб школе і аб піянэрскай арганізацыі паказаны недахоп можа быць зьнішчаны.

Камсамольцы таксама даюць пасьлядоўнае павялічэньне паказчыка ведаў па лініі малодшых груп да старэйшых: для 5-ае клясы мы маем каэфіцыент—76,1 проц. для 6-ае клясы—80,9% і для сёмае клясы 85,2 проц. Сярэдні каэфіцыент па ўсіх групах 12 школ—85,2 проц. Такім чынам, камсамольцы ідуць вышэй агульна-сярэдняга ўзроўню на 5, 4 проц.: яны маюць лепшыя веды, чым піянэры.

Трэба высьветліць, які каэфіцыент ведаў маюць вучні, уступіўшыя ў сацспаборніцтва? Гэта дазволіць нам зрабіць пэўны вывад наконт таго, наколькі сацспаборніцтва робіць уплыў на вучняў у напрамку павялічэньня і паглыбленьня агульна-адукацыйных ведаў. Калі параўнаць паказчыкі па групах, дык убачым, што ў 31 выпадку саўпадаюць групавыя каэфіцыенты ведаў з каэфіцыентамі ведаў вучняў, якія ўступілі ў сацспаборніцтва, у 13 выпадках гэтыя апошнія каэфіцыенты вышэй, чымся першыя, і ў 10 выпадках першыя каэфіцыенты вышэй, чымся гэтыя апошнія. Такім чынам, мы назіраем значную большасьць выпадкаў саўпадзеньня каэфіцыентаў і невялікую перавагу па колькасьці выпадкаў тых каэфіцыентаў, якія адзначаюць веды вучняў, уступіўшых у сацспаборніцтва, у параўнаньні з групавымі каэфіцыентамі. Па меры пераходу ад малодшых груп да старэйшых каэфіцыенты ведаў вучняў, уступіўшых у сацспаборніцтва, пасьлядоўна павялічваюцца: для 5-е клясы мы маем 76,1 проц., для шостай клясы—80 проц. і для сёмай клясы—89,9 проц. Параўнаўшы гэтыя каэфіцыенты з агульна-кляснымі паказчыкамі, мы атрымаем:

| Назва клясы | Агульна-клясныя паказчыкі | Паказчыкі ведаў вучняў, уступіўшых у сацспаборніц. | Розьніца |
|---|---|---|---|
| 5 . . . . . . . . | 71,9 | 76,1 | +4,2 |
| 6 . . . . . . . . | 75,3 | 80 | +4,7 |
| 7 . . . . . . . . | 89,8 | 89,9 | +0,1 |

Мы бачым, што па ўсіх клясах паказчыкі ведаў вучняў, уступіўшых у сацспаборніцтва, вышэй, чым агульна клясныя каэфіцыенты, прычым, асабліва вялікую розьніцу паміж каэфіцыентамі мы назіраем па шостай клясе (4,7 проц.) і зусім нязначную—па 7-ай клясе (0,1 проц.). Напэўна, гэта тлумачыцца тым, што па зьмесьце пытаньняў, пастаўленых у анкеце, сацспаборніцтва зрабіла больш вялікі ўплыў на вучняў 5 і 6 клясы, якія вывучалі гэтыя пытаньні, згодна праграмы, на працягу мінулага году, калі і пачало разгортвацца сацспаборніцтва, тады як вучні 7-клясы гэтыя пытаньні вывучалі даўно, калі сацспаборніцтва ня было распаўсюджана ў школе. Сярэдні каэфіцыент ведаў вучняў, уступіўшых у сацспаборніцтва, складае 81 проц., тады як агульны сярэдні каэфіцыент па ўсіх школах складае 79,8 проц.

Гэта значыць, у першым выпадку мы маем каэфіцыент большы на 1,2 проц. Такім чынам сацспаборніцтва, бязумоўна, садзейнічае павялічэньню агульна-адукацыйных ведаў вучняў. Можна з упэўненасьцю сказаць, што мы атрымалі-б яшчэ большы выхаваўчы эфэкт у выніку сацспаборніцтва, калі-б апошняе было пастаўлена ў школах на належную вышыню.

Узровень агульна-адукацыйных ведаў ударнікаў, як і астатніх вучняў, павялічваецца ў напрамку ад 5-ай клясы да 7-ай клясы, а менавіта: ударнікі 5-ай клясы

даюць каэфіцыент—75 проц. ведаў, ударнікікі 6-ай клясы—79,8 проц. і 7-ай клясы—86,2 проц.

Параўноўваючы гэтыя каэфіцыенты з агульна-клясными паказчыкамі, а таксама з каэфіцыентамі ведаў вучняў, уступіўшых у сацспаборніцтва, мы ўбачым наступнае:

| НАЗВА КЛЯСЫ | Агульна-клясныя паказчыкі | Паказчыкі ведаў вучняў, уступ. ў сацспаборніцтва | Каэфіцыенты ведаў вучняў-ударн. |
|---|---|---|---|
| 5 . . . . . . . . | 71,9 | 76,1 | 75 |
| 6 . . . . . . . . | 75,3 | 80 | 79,8 |
| 7 . . . . . . . . | 89,8 | 89,9 | 86,2 |

Каэфіцыэнт ведаў вучняў—ударнікаў па 5-ай і 6-ай клясе вышэй, чымся агульна-клясныя паказчыкі ведаў ў тых-жа самых групах. Але гэты каэфіцыент па 7-ай клясе зьяўляецца меншым, чым агульна клясны паказчык. Гэта значыць вучні-ударнікі 7-ай клясы па агульна-адукацыйных ведах у сувязі з пытаньнямі анкеты яшчэ не дасягнулі сярэдняга ўзроўню ведаў усіх вучняў той жа клясы. Калі вучні-ўдарнікі стаяць вышэй сярэдняга ўзроўню па 5-х і 6-х клясах, дык яны затое ўступаюць каэфіцыенту ведаў па сацспаборніцтве ва ўсіх клясах 12 школ. Сярэдні каэфіцыент ведаў ўдарнікаў складае 79,5 проц., гэта значыць, менш на 0,3 проц. у параўнаньні з агульна-сярэднім паказчыкам. Такое адстаўаньне ўдарнікаў ідзе асабліва па віне вучняў 7-ай клясы. Адсюль магчыма зрабіць вывад: ударніцтва у нашых школах на працягу 1931/32 навучальнага году яшчэ не зрабілася сапраўднай зброяй барацьбы за якасьць вучобы.

Напэўна, гэта тлумачыцца ў значнай ступені тым, што школы не вядуць належнай барацьбы з ілжэўдарніцтвам. Вельмі часта сутракаюцца выпадкі, калі вучні лічаць сябе ўдарнікамі, ня ўступіўшы ў сацспаборніцтва і не заключыўшы ніякіх умоў. Зразумела, што пры такім становішчы ўдарніцтва ня можа даць належнага выхаваўчага эфэкту. Дзеля таго, каб паказаць, у якіх менавіта школах вучні-ударнікі адстаюць ад сярэдняга ўзроўню ведаў, разгледзім наступную табліцу:

| НАЗВА ШКОЛЫ | Агульны каэфіцыент ведаў | Каэфіц. ведаў вучняў, уступ. у сацспаборн. | Каэфіцыент ведаў вучняў ударнікаў |
|---|---|---|---|
| 1. Круглянская ШКМ . . | 66,3 | 66,8 | 55.5 |
| 2. Талачынская бел. . . . | 71 | 69.9 | 84,5 |
| 3. Талачынская пол. . . . | 71,2 | 71,2 | 71,4 |
| 4. Мсьціслаўская 1-я . . . | 8[illegible],9 | 82,9 | 86 |
| 5. Мсьціслаўская 2-я . . . | 71 | 71 | 73,6 |
| 6. Мсьціслаўская 3-я . . . | 78,4 | 78,4 | 85,7 |
| 7. Цяцерынская . . . . | 73,3 | 76,9 | 79,2 |
| 8. Парыцкая . . . . . . . | 78,3 | 77,9 | 82,6 |
| 9. Рэчыцкая . . . . . . . | 63.7 | 77 | 77,2 |
| 10. Чачэрская . . . . . . | 70,6 | 69,5 | 73,9 |
| 11. ШКМ камуны БВА . . | 93 | 93 | 97,7 |
| 12. Любанская . . . . . . | 94,4 | 94,9 | 91,8 |
| Агулам . . . . | 79,8 | 81 | 79,5 |

Калі параўнаць каэфіцыенты па кожнай клясе паасобку, дык мы ўбачым, што вучні-ўдарнікі адстаюць ад сярэдняга школьнага каэфіцыенту толькі ў двух школах—Круглянскай і Любанскай і што вучні, уступіўшыя ў сацспаборніцтва, адстаюць ад таго-ж самага каэфіцыенту па трох школах—Талочынскай беларускай, Парыцкай і Чачэрскай. Адняк параўноўваючы каэфіцыенты кожнай школы з сярэднім каэфіцыентам усіх 12 школ, мы атрымаем зусім іншы малюнак.

Вучні-ударнікі адстаюць ад сярэдняга агульнага каэфіцыенту-79,8 проц. па наступных школах: Круглянскай, Талочынскай польскай, Мсьціслаўскай 2-ой ШКМ, Цяцерынскай, Рэчыцкай ФЗС і Чачэрскай, Такім чынам, 6 школ даюць каэфіцыент ніжэй сярэдняга. Значыцца, вучні-ўдарнікі гэтых школ яшчэ не дасягнулі сярэдняга ўзроўню ведаў. Тое-ж самае трэба сказаць і адносна тых вучняў, якія ўступілі ў сацспаборніцтва. Адставаньне гэтых вучняў ад сярэдняга каэфіцыенту назіраецца ў школах—Круглянскай, Талочынскай беларускай, Талочынскай польскай, Мсьціслаўскай 2-ой, Мсьціслаўскай 3-ай, Цяцерынскай, Парыцкай, Рэчыцкай і Чачэрскай. Толькі ў трох школах каэфіцыент ведаў па сацспаборніцтве вышэй сярэдняга узроўню. Усё гэта сьведчыць аб тым,

наколькі нашы школы яшчэ ня здолелі аўладаць сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, каб гэтыя мэтады сапраўды садзейнічалі паляпшэньню школьнай працы.

Які каэфіцыент даюць піянэры—ударнікі?

Піянэры-ударнікі 5-ай клясы маюць 81,1 проц. ведаў, 6-ай клясы—79,3 проц. і 7-ай клясы—84,8 проц. Тут няма заканамернага росту каэфіцыенту па меры пераходу ад малодшых ґруп да старэйшых. Піянэры-ударнікі 6-ай клясы даюць меншы каэфіцыент, чым іх таварышы па 5-ай клясе. У 7-ай клясе каэфіцыент зноў павялічваецца ў такой ступені, што пераважвае паказчык 5-ай клясы. Тады як піянэры-ударнікі 6-ай клясы адстаюць ад агульнага сярэдняга каэфіцыенту ведаў вучняў, піянэры-ўдарнікі 5-ай і 7-ай клясы стаяць вышэй гэтага каэфіцыенту.

Вучні-ударнікі 5-ай клясы даюць каэфіцыент—75 проц. ведаў, піянэры-ударнікі—81,1 проц., адпаведна мы маем па 6-ай клясе—79,8 проц. і 79,3 проц, па 7-ай клясе—86,2 проц. і 84,8. Адсюль відаць, што піянэры-ўдарнікі ідуць наперадзе сярод вучняў-ударнікаў, толькі па 5-ай клясе, а ў 6-ай і 7-ай клясах яны адстаюць. Сярод піянэраў, а тым больш піянэраў-ударнікаў не павінна быць адстаючых.

Камсамольцы-ўдарнікі маюць лепшыя веды, чым піянэры: па 5-ай клясе яны даюць 86,6 проц, па 6-ай клясе—83,1 проц. і па 7-ай—85,5 проц. Гэтыя каэфіцыенты вышэй агульнага сярэдняга паказчыка ведаў па ўсіх школах (79,8 проц) і вышэй паказчыкаў, якія даюць вучні-ўдарнікі па 5-ай і 6-ай клясах. Камсамольцы-ўдарнікі некалькі адстаюць ад вучняў-ударнікаў па 7-ай клясе (86,2 проц) і яшчэ больш адстаюць ад сярэдняга агульна-кляснага каэфіцыенту ведаў вучняў той-жа клясы (89,8 проц). Неабходна дамагацца таго, каб камсамольцы-ўдаркікі былі лепшымі вучнямі ў школе без выключэньня тых ці іншых груп і клясаў.

Калі параўнаць веды хлапцоў і дзяўчат, дык высьвятляецца, што хлопцы пры анкетаваньні атрымалі некалькі большы каэфіцыент, чым дзяўчаты.

Гэта відаць з наступнай табліцы:

| НАЗВА КЛЯСЫ | Хлапцы-ударнікі | Дзяўчаты ударніцы |
|---|---|---|
| 5 | 73,7 | 68,3 |
| 6 | 76,5 | 73 |
| 7 | 85 | 83,5 |
| Агулам: | 79,5 | 74 |

Аднак, дзяўчаты-ўдарніцы не заўсёды ўступаюць хлапцом-ударнікам: часамі нават яны ідуць наперадзе адсталых хлапцоў.

| НАЗВА КЛЯСЫ | Хлапцы | Дзяўчаты |
|---|---|---|
| 5 | 81 | 91,2 |
| 6 | 82.4 | 73,8 |
| 7 | 96.3 | 94 |
| Агулам: | 85,2 | 85 |

Дзяўчаты-ударніцы ў 5-ай клясе даюць большы каэфіцыент, чым хлапцы-ўдарнікі. Алеў 6-ай клясе яны значна адстаюць. У 7-ай клясе каэфіцыент па лініі дзяўчат-ударнікаў зноў павялічваецца, набліжаючыся да каэфіцыента хлапцоў-ударнікаў. Агульны сярэдні каэфіцыент ведаў па групе хлапцоў і дзяўчат амаль аднолькавы (85,2 і 85).

Па якіх пытаньнях анкеты вучні даюць лепшыя адказы? Разьбярэмся ў наступнай табліцы:

| Назва школ \ №. №. п/ч. | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| Круглянская ШКМ | 65,1 | 96 | 27,8 | 69,2 | 66,3 |
| Талачынская бел. | 70,9 | 87,2 | 46,4 | 87,2 | 59,6 |
| Талачынская пол. | 70,3 | 43,8 | 7,8 | 43,8 | 40,6 |
| Мсьціслаўская 1-я | 92,2 | 94,4 | 40 | 77,8 | 96,7 |
| Мсьціслаўская 2-я | 79,7 | 95 | 8,4 | 93,1 | 92,6 |
| Мсьціслаўская 3-я | 88,7 | 98,1 | 35,8 | 92,5 | 100 |
| Цяцерынская | 78,7 | 96,7 | 49,1 | 97,5 | 59 |
| Парыцкая | 79,7 | 98,4 | 57,8 | 93.8 | 61,1 |
| Рэчыцкая | 62,9 | 96.7 | 66,4 | 89 | 86,7 |
| Чачэрская | 59,6 | 93,6 | 17,4 | 89 | 96,8 |
| Школа камуны БВА | 93 6 | 100 | 73,1 | 96,2 | 97,2 |
| Любанская | 94.8 | 99 | 97 | 98,9 | 94,2 |
| Агулам: | 78 | 91,8 | 44,7 | 85,6 | 79,5 |

Самы вялікі каэфіцыент ведаў мы бачым, па пытаньні: „у якой частцы

сьвету знаходзіцца Кітай?“ Тут вучні далі 91,8 проц. Значна адстае Талачынская польская ШКМ, якая мае толькі 43,8 проц. Другое месца па вялічыні каэфіцыенту займае пытаньне: „На якія хэмічныя элемэнты мажліва раскласьці ваду?“ Па гэтым пытаньні вучні атрымалі 85,6 проц. І тут адстае зноў Талачынская польская школа, па якой адзначана 43,8 проц. На трэцім месцы стаіць пытаньне: „Пры якой тэмпэратуры замярзае вада на адкрытым паветры?“ На гэта пытаньне прыпадае 79,5 проц. Адставаньне назіраецца па школах: Талачынскай польскай (40,6 проц.), Цяцерынскай (59 проц.), Талачынскай беларускай (59,6 проц.), Парыцкая (64,1 процанта), Круглянская (66,3 проц.). У парадку пасьлядоўнасьці чацьвертае месца займае пытаньне: „Чым адрозьніваецца Кастрычнікавая рэвалюцыя ад Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году?“ Тут вучні даюць 78 проц. Адставаньне ёсьць па наступных школах; Чачэрскай (59,6 працантаў), Рэчыцкай (62,9 проц.), Круглянскай (65,1 проц.). Нізкія каэфіцыенты сустракаюцца ў Талочынскай беларускай і польскай школах (70,9 і 70,3 проц.).

Асабліва дрэнныя адказы далі вучні на пытаньні:

„Якую ролю адыгрывае хлёрафіл у расьлінах?“

Тут мы маем толькі 44,7 проц. Зусім нізкія паказчыкі сустракаюцца ў Талачынскай польскай школе (7,8 проц.), Мсьціслаўскай 2-й ШКМ (8,4 проц.) і Чачэрскай ШКМ (17,4 проц.). Якія памылкі робяць вучні пры адказах на запытаньне анкеты? Па першым пытаньні высьвятляецца, што некаторыя вучні не разумеюць клясавай сутнасьці Кастрычнікавай рэвалюцыі. У Талочынскай беларускай ШКМ мы атрымалі гэткія адказы:

„Кастрычнікавая рэвалюцыя адрозьніваецца ад Лютаўскай таму, што яна адбылася ў кастрычніку месяцы, а Лютаўская—ў лютым“. Гэткі адказ сустракаецца і па іншых школах. Адзін вучань піша: „Кастрычнікавая рэвалюцыя ў 1905 годзе, а Лютаўская—ў 1917 годзе“, альбо вучні пішуць проста такім чынам: „Кастрычнікавая рэвалюцыя нічым не адрозьніваецца ад Лютаўскай“. У некаторых выпадках розьніца паміж дзьвюма рэвалюцыямі зводзіцца вучнямі толькі да арганізацыйных момантаў. Напрыклад, у 7-ай групе Мсьціслаўскай 3-й ШКМ, мы маем адказ: „У Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году было шмат палітычных памылак з боку кіраўніцтва камуністычнай партыі“. Зразумела, што гэты адказ зьяўляецца зусім няправільным. У іншых школах разумеюць пытаньне такім чынам: „Лютаўская рэвалюцыя адбылася без дысцыпліны і без адзінага кіраўніцтва, калі было дапушчана шмат памылак, а Кастрычнікавая рэвалюцыя адбылася з адзіным кіраўніцтвам тав. Леніна, калі гэтыя памылкі былі зьнішчны“. Ёсьць і такія адказы. „Кастрычнікавая рэвалюцыя была большасьцю эканамічнай, ставіла эканамічныя пытаньні, а Лютаўская рэвалюцыя ставіла ў большасьці палітычныя пытаньні.“

Адсюль відаць, што некаторыя вучні не разумеюць клясавай сутнасьці Кастрычнікавай і Лютаўскай рэвалюцыі. Замест таго, каб адказаць проста і коратка, што Лютаўская рэвалюцыя ёсьць буржуазная, а Кастрычнікавая-сацыялістычная, вучні імкнуцца шукаць розьніцу паміж гэтымі рэвалюцыямі ў арганізацыйных пытаньнях. Вельмі часта вучні прадстаўляюць сабе Кастрычнікавую рэвалюцыю, як буржуазна-дэмакратычную. Гэта памылка асабліва небясьпечна, бо яна надта распаўсюджана па розных школах, і ёсьць падстава думаць, што ў распаўсюджаньні яе вінаваты самі настаўнікі-грамадаведы. Напрыклад, вучні зусім няправільна адказваюць: „У Кастрычніку ўлада перашла да сялян“, „Кастрычнікавая рэвалюцыя вызваліла сялян ад абшарнікаў, а лютаўская рэвалюцыя характэрна тым, што сяляне і рабочыя паўсталі супроць абшарнікаў“. У Любанскай ШКМ адна дзяўчынка з сям'і селяніна-аднаасобніка кажа: „У час Кастрычнікавай рэвалюцыі ўлада перайшла ў рукі працоўнага сялянства, а ў Лютаўскай толькі скінулі царскую ўладу, а ўзяў уладу часовы ўрад“. Тут вучаніца не разумее, што ў час Кастрычнікавай рэвалюцыі 1917 г. ўстаноўлена дыктатура пралетарыяту. У той жа Любанскай ШКМ мы знаходзім зусім кур'ёзныя

адказы, напрыклад, „Кастрычнікавая рэвалюцыя абараняла інтарэсы усіх працоўных мас, а Лютаўская змагалася за інтарэсы рабочых“. Адсюль, выходзіць, што Лютаўская рэвалюцыя была не буржуазнай, а пралетарскай. Адзін піянэр гэтай школы, як-бы падагульваючы усе памылкі вучняў, каротка фармулюе: „Кастрычнікавая рэвалюцыя—рабоча-сялянская“. Такім чынам у некаторых выпадках нават і піянэры разглядаюць Кастрычнікавую рэвалюцыю, як буржуазна - дэмакратычную. З такімі няправільнымі поглядамі трэба весьці рашучую барацьбу, бо яны маюць непасрэдную сувязь з права-апартуністычнымі і трацкісцкімі тэорыямі. Калі вучні яшчэ больш менш уяўляюць сабе сутнасьць Кастрычнікавай рэвалюцыі, дык у большасьці выпадкаў яны не разумеюць сутнасьці Лютаўскай рэвалюцыі і блытаюць яе з рэвалюцыямі 1905 г. і нават з рэвалюцыямі XIX стагодзьдзя у Заходня-Эўрапейскіх краінах. Шмат-якія вучні няправільна кажуць аб дробна-буржуазным характары Лютаўскай рэвалюцыі. Некаторыя вучні адзначаюць: „Кастрычнікавая рэвалюцыя адрозьніваецца ад Лютаўскай тым, што ў час Кастрычнікавай рэвалюцыі ўзялі ўладу рабочыя і сяляне ў свае рукі, а Лютаўская рэвалюцыя была задушана часовым урадам“. Чаму Лютаўская рэвалюцыя была задушана урадам, зусім незразумела, бо сама гэта рэвалюцыя мела буржуазны характар, і часовы ўрад быў прадуктам буржуазнай рэвалюцыі. Адзін вучань піша: „У Лютаўскую рэвалюцыю ўлада была ў руках царскага ураду“. Адкуль ён узяў гэтую недарэчнасьць—цяжка сказаць. Мы сустракаем і такі нясур'ёзны адказ: „Лютаўская рэвалюцыя была пробнай, у гэту рэвалюцыю працоўныя аўладалі зямлёй“. У якасьці прыкладу зьмешваньня Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году з рэвалюцыяй 1905 году пададзім наступную фармулёўку аднаго вучня 5-ай клясы Талачынскай беларускай ШКМ: „У Лютаўскую рэвалюцыю рабочыя ня ішлі, каб скінуць цара, а яны ішлі да цара прасіць хлеба, бо ў той год быў голад, і цар іх сустрэў кулямі, тады рабочыя узналі, што цар—іх люты вораг“. Такія адказы недапушчальны для вучняў 5-ай клясы. Вучань 6-ай клясы Рэчыцкай ФЗС імя Леніна піша: „Лютаўская рэвалюцыя была неарганізавана, рабочыя і сяляне былі неарганізаваны паміж сабой. Яны, калі забралі Парыж, то выпусьцілі ўсіх царскіх главароў, не забралі банк, не перарэзалі тэлефоны. А ў Кастрычнікавую рэвалюцыю рабочыя і сяляне былі арганізаваны“.

Тут Лютаўская рэвалюцыя 1917 году пераблытана з паўстаньнем Парыскіх камунараў 1871 году. Ніякіх апраўданьняў для такога блытанага адказу няма, бо запытаньне ў нашай анкеце пастаўлена выразна — чым адрозьніваецца Кастрычнікавая рэвалюцыя ад Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году? Відавочна, вучань яшчэ не ўцяміў сабе сутнасьць дзьвюх рэвалюцый 1917 году. Есьць выпадкі, калі вучні сьцьвярджаюць, што Чырвоная армія існавала ў час Лютаўскай рэвалюцыі, што „Кастрычнікавая рэвалюцыя—грамадзянская, а Лютаўская-імпэрыялістычная“, што ў кастрычніку уладу захапіла буржуазія, а ў час Лютаўскай рэвалюцыі—рабочыя і сяляне і г. д. Усё гэта сьведчыць аб тым, што нашы вучні ў шмат якіх выпадках ня ведаюць аб Кастрычнікавай рэвалюцыі. Але-ж дзеці Кастрычніка павінны ведаць пра Кастрычнік: яны павінны ведаць аб тым, якім чынам узьнік Савецкі Саюз, і ведаць дзеля таго, каб актыўна і сьвядома удзельнічаць у клясавай барацьбе пралетарыяту і сацыялістычным будаўніцтве ў нашай краіне.

Веды па грамадазнаўстве ў піянэраў і камсамольцаў павінны быць лепшыя, чым у астатніх вучняў. Ці так гэта бывае сапраўды? Каб адказаць на гэта пытаньне, пададзім даныя адносна ведаў піянэраў і камсамольцаў аб Кастрычнікавай рэвалюцыі.

| НАЗВА КЛЯСЫ | Веды вучняў | Веды піянэраў | Веды камсамол. |
|---|---|---|---|
| 5 . . . . . . . . . . | 63,8 | 65,6 | 84,3 |
| 6 . . . . . . . . . . | 78,2 | 79,3 | 90,6 |
| 7 . . . . . . . . . . | 93 | 97,2 | 87,3 |
| Агулам: . . . | 78 | 80,6 | 87,4 |

Мы бачым, што піянэры па ўсіх клясах даюць большы каэфіцыент ведаў,

чым астатнія вучні. Камсамольцы ідуць вышэй піянэраў і астатніх вучняў толькі па 5-ай і 6 ай клясе і ўступаюць тым і другім па 7-ай клясе, хаця агульны сярэдні каэфіцыент у іх вышэй, чым у іншых выпадках. Адставаньне камсамольцаў па такім пытаньні, як пытаньні аб Кастрычнікавай рэвалюцыі, абсалютна ніякімі акалічнасьцямі ня можа быць апраўдана. Трэба адзначыць, што і піянэры нязначна пераважваюць астатніх вучняў па ведах аб Кастрычнікавай рэвалюцыі, тады як яны павінны ісьці тут далёка наперадзе.

Што датычыцца другога пытаньня адносна таго, дзе знаходзіцца Кітай, мы назіраем самыя розныя і даволі нечаканыя памылкі ў адказах вучняў. Вось некалькі прыкладаў: „Кітай знаходзіцца ў Эўропе“, „Кітай знаходзіцца ў Азіяцкай частцы СССР“, Кітай знаходзіцца ва ўсім сьвеце“, Кітай знаходзіцца ў Аўстралійскай частцы“, Кітай знаходзіцца ў Афрыцы“ і г. д. Адзін вучань мудра адказаў: „Кітай знаходзіцца ў Кітайшчыне“.

Гэтыя адказы характарызуюць у дастатковай ступені нізкі ўзровень геаграфічных ведаў пэўнай часткі нашых вучняў.

Асабліва слабыя веды маюцца ў вучняў адносна ролі хлёрафілу ў расьлінах. Надта рэдка вучні адказваюць у такой форме: „Хлёрафіл афарбоўвае расьліны ў зялёны колер. Ён злучаецца з $CO^2$ і сьветам і раскладаецца на вуглякіслы газ і тлён. Тлён выходзіць з ліста, а вуглякіслы газ злучаецца з вадой і сольлю, атрымоўваюцца вугляроды“. Гэты адказ зьяўляецца больш - менш здавальняючым. Часьцей за ўсё сустракаюцца фармулёўкі агульнага парадку, накшталт: „Пры дапамозе хлёрафілу ліст на сонечным сьвятле будуе крупінкі крахмалу, які ідзе на пажыву расьліны і яшчэ ён расьліне надае зялёны колер“. Але шмат ёсьць няпоўных і няправільных адказаў, якія адзначаюць толькі які-небудзь адзін няістотны момант. Напрыклад, „Хлёрафіл дае афарбоўку лісту, без яго ён ня можа разьвівацца і засох-бы“; „Хлёрафіл робіць расьліну зялёнай, сьвежай“ і г. д. Тут паказваецца не галоўнае, а другараднае.

Такія агульныя адказы сьведчаць аб павярхоўным, няглыбокім характары ведаў вучняў па некаторых пытаньнях прыродазнаўства. Тое-ж самае пацьвярджаюць адказы і па астатніх пытаньнях анкеты. Вучні, напрыклад, няправільна пішуць: „Вада раскладваецца на тлён і вуглятлён“, альбо: „Вада раскладваецца на тры элементы—вадарод, кісларод і тлён. Вада замярзае пры 4°, пры 10°, пры 15° і г. д. Сказаць, што вада раскладваецца на вадарод, кісларод і тлён, значыць выявіць сваю няпісьменнасьць ня толькі па хэміі, але і ў галіне белар. мовы. Відавочна, вучні часамі ня ведаюць, што „кісларод“ і „тлён“ ёсьць адно і тое же паняцьце з той розьніцай, што ў першым выпадку мы маем расійскае слова, а ў другім—беларускае слова.

Зараз мы можам зрабіць вывад. Ня гледзячы на тое, што анкета мае самыя элемэнтарныя пытаньні, якія прадугледжаны праграмай школы, мы не атрымалі поўных стопроцантных правільных адказаў ні па аднэй клясе і ні па аднэй школе. Гэта значыць, што барацьба за веды на працягу 1931/32 навучальнага году, хаця і значна прасунулася наперад у параўнаньні з мінулымі гадамі, але яшчэ не ўзьнялася на гэткую вышыню, каб можна было з упэўненасьцю сказаць, што пастанова ЦК партыі аб школе выканана намі поўнасьцю і пасьпяхова. Трэба яшчэ шмат зрабіць, каб выканаць цалкам тыя задачы, якія пастаўлены партыяй і савецкім урадам перад палітэхнічнай школай. І ў барацьбе за выкананьне гэтых задач не малаважную ролю павінны сыграць сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод вучняў, калі толькі правільна, па - ленінску будуць ужывацца паказаныя мэтады ў практыцы нашых школ. Тут перш за ўсё неабходна адзначыць, што сацспаборніцтва і ўдарніцтва павінны разгортвацца ў школе пры ўмове захаваньня кіраўнічай ролі пэдагога ў галіне навучальна— выхаваўчага працэсу на аснове падпарадкаваньня вытворчай і грамадзкай працы вучняў навучальным і выхаваўчым задачам школы.

# КРЫТЫКА І БІБЛІАГРАФІЯ

П. Каляда, Н. Раецкі

## За ідэалёгічную вытрыманасьць падручнікаў

ЦК партыі ў сваёй пастанове аб сярэдняй і пачатковай школе, ад 5 верасьня 1931 года, запісаў, што «ў пэрыод сацыялізму, калі пралетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, выключна важнае значэньне набывае вытрыманае камуністычнае выхаваньне ў савецкай школе і ўзмацненьне барацьбы супроць усялякіх спроб прышчапіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі».

Барацьба за камуністычнае выхаваньне патрабуе ад усіх арганізацый сыстэматычнага, няўхільнага змаганьня супроць апартуністычных антыленінскіх скажэньняў палітыкі партыі ў галіне школьнай работы як справа так і «зьлева».

Гэтае змаганьне павінна ісьці ня толькі па лініі арганізацыі пэдагагічнага працэсу ў школе, але абавязкова ўключае змаганьне за чыстату партыйнай лініі ў самым зьмесьце пэдагагічнага працэсу: навучальных праграмах, падручніках і самым выкладаньні дысцыплін у школе.

Як-жа абстаіць справа з ідэалёгічнай і навуковай вытрыманасьцю нашых падручнікаў?

Возьмем падручнікі па фізыцы для V і VI году навучаньня, частка 1 і 2, Ш. Брохэс, выд БДВ за 1932 г., дапушчанае Дзяржаўным Вучоным Саветам НКА БССР у якасьці падручніка для ФЗС і ШКМ. Там на старонцы 34 першай часткі чытаем: «Сіла прыводзіць цела ў рух, спыняе або зьмяняе рух».

На ст. 62 другой часткі чытаем:

*«Сіла прыводзіць цела ў рух, спыняе рух цела, зьмяняе кірунак або скорасьць руху».*

Гэтыя сьцьвярджэньні аўтара знаходзяцца ў поўнай супярэчнасьці з тым, што кажа аб гэтым Энгельс.

У дыялектыцы прыроды Энгельс піша: «Калі які-небудзь рух (перанесены такім чынам, што ў выніку зьяўляецца мэханічны рух, то можна лічыць, што мэханічны рух проста перанесены, бо іншыя формы руху ператвораны ў мэханічны) пераносіцца з аднаго цела на другое, то, *паколькі гэты рух пераносіцца* актыўна, яго можна лічыць прычынай руху, *паколькі-ж ён перанесены*,—вынікам; у такім выпадку гэтая прычына, гэты актыўны рух зьяўляецца *сілай*, а пасыўны рух--*праяўленьнем сілы*. Згодна закону нязьнішчаемасьці руху адсюль само сабой вынікае, што сіла дакладна роўна свайму праяўленьню, таму што ў абоіх выпадках мы маем адзін і той-жа рух». (Энгельс «Дыялектыка прыроды», старонка 11 выд. 1931 г.).

«Прадстаўленьне аб сіле ўзьнікае само сабой у нас дзякуючы таму, што ў сваім уласным целе мы ўладаем сродкамі пераносіць рух. Сродкі гэтыя, могуць у вядомых межах быць прыведзены ў дзеяньне нашай воляй; у асаблівасьці гэта адносіцца да мускулаў рук, з дапамогай якіх мы ўтвараем мэханічнае перамяшчэньне руху ў іншых цел: носім, падымаем, кідаем, удараем і г. д., атрымоўваючы дзякуючы гэтаму адзначаны

карысны эфэкт. Здаецца, што рух тут паражаецца, а не пераносіцца, і гэта выклікае прадстаўленьне аб тым, што сіла наогул параджае рух. Толькі зараз ідэалёгічна даказана, што мускульная сіла таксама зьяўляецца толькі пераносам руху». (Энгельс—«Дыялектыка прыроды», стар. 14, выд. 1931 года).

Такім чынам сіла—гэта актыўны рух, перанесены з аднаго цела на другое. *Ні аб якой сіле, як прычыне руху ня можа быць і рэчы з пункту гледжаньня марксызму.* Няма руху без матэрыі, няма матэрыі бяз руху, матэрыя знаходзіцца ў бязупынным руху.

«Усе пералічаныя дзейнічаючыя ў прыродзе прычыны, якія да гэтага часу вялі якоесьці незразумелае і таемнае існаваньне ў выглядзе так званых сіл—мэханічная сіла, цяплыня, і злучэньне (сьвятло і лучыстая цяплыня), электрычнасьць, магнэтызм, хэмічная сіла злучаная і раскладзеная зьяўляюцца асобымі відамі, формамі існаваньня аднэй і тэй-жа энэргіі, гэта значыць руху» (Энгельс).

Толькі такім чынам тлумачачы, можна правільна даць вучням разуменьне рухаў.

Уяўленьне аб сіле, як прычыне руху, прыводзіць да вываду аб неабходнасьці «першага штуршка» для таго, каб прывесьці ў рух плянэтную сыстэму. Між тым, як матэрыя знаходзіцца ў бязупынным руху і ні аб якім «першым штуршку» як прыкладаньні сілы ня было неабходнасьці.

Не праведзена ў падручніку таксама барацьба з імкненьнем зьвесьці ўсякае змаганьне да мэханічнага перамяшчэньня, значыць, усе зьявы прыроды да мэханікі.

Аўтар таксама няправільна высьветліў, што такое энэргія, работа і магутнасьць. Наступнай памылкай зьяўляецца тое, што аўтар, няправільна разумеючы пытаньне палітэхнізацыі, стаіць на пункце «лявацкай» тэорыі падпарадкаваньня навучаньня вытворчай працы на прадпрыемствах, што ў праграмах па фізыцы 1931 г. знайшло свой адбітак у растварэньні фізыкі ў фізыка-тэхніцы.

Так, на старонцы 122, параграф 82, вылучана спэцыльная тэма пад назвай: «Разгляд некаторых мэталяапрацоўчых станкоў»:—такарны станок просты, такарны станок аўтаматычны, такарны станок з падрабязным пералічэньнем яго частак, стругальны станок, шэпінг, фрэзэрны, унівэрсальны фрэзэрны станок і сьвідравальны станок.

На старонцы 128, параграф 83 «станкі ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці»: станок (гатар), такарны станок, стругальны станок, фрэзэрны і сьвідравальны. Выходзіць, па «думцы аўтара», што трэба, каб фізыка займалася вывучэньнем станкоў па апрацоўцы мэталю і дрэва, тады калі гэта робіць машыназнаўства, тэхналёгія.

Вельмі рашуча вырашае пытаньне аўтар адносна мэтадаў выкладаньня фізыкі. Так у прадмове да другога выданьня на 3 старонцы аўтар піша: «Мэтад прапрацоўкі матар'ялу абавязкова павінен быць лябараторны».

Як бачыце, аўтар ігнаруе ўсе іншыя мэтады, для яго ня існуе ні лекцыі, ні жывой гутаркі, ні дэманстрацыі,—вучні самі павінны працаваць.

Для настаўніка-ж аўтар, мусіць, пакідае ролю пасыўнага назіральніка, наглядчыка за лябараторнымі заняткамі вучняў.

Разьмеры артыкулу не дазваляюць застанавіцца і на іншых памылках навукова-ідэалёгічнага і мэтадалёгічнага парадку, але і адзначаных досыць для таго, каб зрабіць вывад—п а д р у ч н і к  п а т р а б у е  р а ш у ч а й  п е р а а п р а ц о ў к і.

Мік. Цыганоў

# Зьнішчыць пражэкцёрства і „лявацкія“ загібы

*(Заўвагі на кніжку т. Шалаўрова „Мэтодыка фізыкі“ БДВ 1932 г.)*

Апошнія гады клясавай барацьбы на пэдагагічным фронце паказалі, што асьветніцкія масы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, здольны змагацца за ліквідацыю «карэннага недахопу» і павінны даць для тэхнікумаў і вузаў добраякасную прадукцыю. Стопроцантная мабілізацыя асьветніцкіх мас і пралетарскай грамадзкасьці на барацьбу за рэалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе і ЦК УсеКП(б) аб праграмах і школьным рэжыме, ад 25 жніўня 1932 г., узмацненьне барацьбы з правым апартунізмам і «левымі» загібамі—зарука перамогі.

У пастанове аб школе ад 5 верасьня 1931 году, ЦК УсеКП(б) падкрэсьліў наступнае: «Ужываючы ў савецкай школе розныя мэтады навучаньня, якія могуць садзейнічаць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, **неабходна разгарнуць рашучае змаганьне супроць лёгкадумнага мэтадычнага пражэкцёрства, насаджваньня ў масавым маштабе мэтадаў, загадзя на практыцы няправераных, што асабліва яскрава ў апошнія гады выкрылася ва ўжываньні так званага «мэтаду праектаў». Выцякаўшыя з антыленінскай тэорыі «адміраньня школы» спробы пакласьці ў аснову ўсёй школьнай работы так званы «мэтад праектаў», вялі фактычна да зруйнаваньня школы»**.

Ня гледзячы на тэта, у толькі што выданай мэтодыцы фізыкі мы знаходзім антыленінскую пастаноўку пытаньня аб школе. Аўтар т. Шалаўроў ігнаруе пастанову ЦК УсеКП(б) у пытаньні будаўніцтва палітэхнічнай школы, займае выразную «лявацкую» пазыцыю. Ён чытаў пастанову ЦК, бо піша наступнае: «Усякаму мэтадычнаму пражэкцёрству і «кустаршчыне» трэба згодна з пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, абвясьціць самую рашучую барацьбу» (стар. 64). Аднак, у практыку школ імкнецца працягнуць мэтад праектаў. А таму, разгортваючы барацьбу супроць «лявацкіх» загібаў і пражэкцёрства, мы павінны змагацца супроць аналёгічных зьяў у кнізе т. Шалаўрова.

Застановімся на яго грубых скажэньнях марксысцка-ленінскай пэдагогікі.

## I.

Досыць ясную ацэнку мэтад праектаў атрымаў у пастанове ЦК аб школе. Як выцякаючы з антыленінскай тэорыі «адміраньня школы», ён вядзе апошнюю да разбурэньня. Аднак, т. Шалаўроў раіць «мэтад праектаў» для ўжываньня ў масавай школе. Ён заяўляе наступнае: «Мэтад праектаў трэба ўводзіць у шырокім аб'ёме, калі школьны калектыў падрыхтаваўся (?), праводзіць трэба «сіламі самога школьнага калектыву» (стар. 64). Адчуўшы сваю памылку, т. Шалаўроў хоча папраўіцца, мусіць, бо кажа аб тым, што мэтад праектаў трэба праводзіць «па якіх-небудзь невялічкіх пытаньнях» (стар. 64).

Аўтару мэтодыкі мы павінны падкрэсьліць, што і на маленькіх вучастках усёроўна мэтад праектаў сутнасьці сваёй не зьмяняе. Прыхільнасьць-жа да яго прыводзіць да наступнай, няправільнай установкі: «Ня трэба даводзіць, што ва ўмовах Савецкай школы магчыма або лябараторная, або пра-

ектная сыстэма арганізацыі адукацыйнай работы, бо толькі гэтыя сыстэмы забясьпечваюць дасягненьне тых мэт, якія ставіць сваёй школе пралетарыят» (стар. 110) (разьб. мая—Мік. Ц.). Гэтая, яскравая антыпралетарская ўстаноўка даецца т. Шалаўровым у той час, калі шырокія колы пралетарскай грамадзкасьці ведаюць пастанову ЦК, у якой адзначана, што мы павінны ўжываць «розныя новыя мэтады навучаньня, якія могуць садзейнічаць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва» (паст. ад 5 верасьня 1931 г.), а ў пастанове ад 25 жніўня 1932 г. падкрэсьлена: «Ні адзін мэтад ня можа быць прызначаны асноўным і універсальным (маецца на ўвазе ў першую чаргу лябараторны мэтад,—Мік. Ц.) мэтадам вучобы».

Памылковасьць устаноўкі т. Шалаўрова відавочна. Аднак, ён не абмяжоўваецца гэтымі заўвагамі: на розных старонках кнігі закранае пытаньне аб мэтадзе праектаў, імкнецца працягнуць яго ў практыку работы. Па фізыцы,—піша т. Шалаўроў, «заданьні павінны прыняць форму праектаў» (стар. 110); для ўнядрэньня мэтаду праектаў неабходна актыўнасьць вучняў, што толькі пры ёй «можна поўнасьцю разгарнуць праектны мэтад работы» (стар. 110); патрабуе арганізацыі дасьледчай работы ў школе і лічыць, што праз яе можна хутка «падвесьці школу непасрэдна да арганізацыі навучальнай работы на базе праектаў» (стар. 256). Нават і краязнаўчая работа можа разгарнуцца, толькі на падставе мэтаду праектаў (стар. 107).

Выхвальваючы антыленінскі мэтад работы, т. Шалаўроў прыводзіць наступную вынятку з кніжкі Цюбэрта «Метод проектов»: «Мэтад праектаў—гэта апошняе зьвяно ў разьвіцьці пэдагагічных ідэй ад школы вучобы да свабоднай школы жыцьця, неабходнай прыналежнасьці індустрыяльнае дзяржавы» (стар. 109). Гэту, наскрозь «лявацкую» думку, аўтар лічыць правільнай і зусім не выкрывае варожую сутнасьць «свабоднай школы жыцьця». Ён пасьлядоўна праводзіць мэтад праектаў, і ў выніку гэтага даказвае, што пры правільнай пастаноўцы палітэхнізацыі неабходна вывучаць прадпрыемства—«з розных бакоў па заданьнях грамадзкіх арганізацый, школы і паасобных настаўнікаў» (ст. 58, раз. мая--Мік. Ц.). Гэта таксама адзін з момантаў работы школы па мэтаду праектаў, апошні знайшоў сабе месца, нават, і ў вытворчым пляне (гл. стар. 120, 121). Увесьці мэтад праектаў у работу школы—вось асноўная думка т. Шалаўрова.

II.

Грунтоўным недахопам мэтодыкі зьяўляецца ня толькі прыхільнасьць аўтара да мэтаду праектаў, але і някрытычныя адносіны да буржуазнай пэдагогікі. Някрытычнасьць выявілася, як бачылі вышэй, ва ўжываньні мэтаду праектаў і ў адносінах да Дзюі. Тав. Шалаўроў лічыць, што: «яго ідэі (Дзюі, Мік. Ц) у шмат якіх адносінах каштоўны і ў сучасны момант могуць быць з карысьцю ажыцьцёўлены ў нашай сав. школе» (стар. 11). Крытычны падыход да буржуазнага пэдагога—адсутнічае, у той час, як савецкая пэдагогіка лічыць, што Дзюі трымаецца асобнага філёзофскага погляду—праграматызму. Праграматызм—«філёзофія жыцьця пануючых клясаў у капіталістычным грамадзтве, гэта ёсьць філёзофія сучаснай абывательшчыны» (Панкевіч—«Гісторыя пэдагогікі, БДВ—1929 г., стар. 289), што «пэдагагічная сыстэма Дзюі прасякнута духам буржуазнага дэмакратызму ды індывідуалізму, таму, ня ўсё, што мы знаходзім у гэтай сыстэме можа быць перанесена на нашу глебу» (там-жа стар. 294, разьб. Мік. Ц.) і правільна падкрэсьлівае т. Мэдынскі, пасьля разгляду працоўнай школы Дзюі, што «такая трудавая школа—не наша школа». (Медынский—«История педагогики», т. II, стар. 347. Разьб.—Мэдынскага).

III.

Што такое палітэхнізацыя школы? Тав. Шалаўроў закранае гэта пытаньне, але дае на яго такі адказ: «Тэарытычнае і практычнае вывучэньне асноўных галін

сучаснай тэхнікі, а іменна тэхналёгіі матар'ялаў, агульнага машынабудаўніцтва, цёплатэхнікі, электратэхнікі і тэхнічнай хэміі» (стар. 57). Вось сутнасьць палітэхнізму.

Дадзеная ўстаноўка разыходзіцца з тым, што сказала партыя па гэтым пытаньні. Другая партнарада па нарасьвеце падкрэсьліла: «Соединение обучения с производительным трудом, ознакомление в теории и на практике с основными видами общественного производства, научное познание основных производственных процессов и выработка умения обращаться с основными инструментами современного труда—такова в основном сущность политехнизма» («2-е Всесоюзное парт. совещание по нар. образ». Стенографический отчет, стр. 294).

Пры параўнаньні фармулёвак сутнасьці палітэхнізму, відавочна, што тав. Шалаўроў нічога не гаворыць аб злучэньні навучаньня з вытворчай працай, навуковым пазнаньні асноўных вытворчых працэсаў і выпрацоўцы ўменьня ўладаць асноўнымі інструмантамі сучаснай працы.

На падставе няправільнага разуменьня палітэхнізму, аўтар мэтодыкі думае прыцягваць вучняў да ўдзелу ў вытворчасьці толькі як рабочую сілу (стар. 57) і памылкова вырашае пытаньне аб узаемаадносінах паміж палітэхнізацыяй і спэцыялізацыяй. Тав. Шалаўроў піша: «Пры ажыцьцяўленьні палітэхнізацыі школа падрыхтоўвае працаўнікоў розных кваліфікацый для ўсіх галін нашай гаспадаркі» (стар 58, разьб. мая—Мік. Ц.) Думка аб тым, што 7-гадовая школа павінна выпускаць асоб з рознай кваліфікацыяй, цалкам выцякае з устаноўкі—«школа цэх заводу». Пры падпарадкаваньні вытворчай працы вучэбным і выхаваўчым мэтам школы, мы дасягаем палітэхнічнай падрыхтоўкі падрастаючага пакаленьня, мы дапамагаем яму аўладаць любой складанай спэцыяльнасьцю.

Тав. Бубноў правільна вырашае закранутае пытаньне. Ён кажа наступнае: «Палітэхнізм спэцыялізацыі не адкідае. Мы дабіваемся падрыхтоўкі іменна такіх «рамесьнікаў» і спэцыялістаў, каб яны былі палітэхнічна падрыхтаваны. З другога боку, палітэхнічна падрыхтоўваючы падрастаючае пакаленьне, мы тым самым палягчаем ім магчымасьць аўладаньня любым «рамяством», любой найбольш складанай спэцыяльнасьцю. Такая пастаноўка пытаньня выцякае з таго, што палітэхнічны прынцып «не патрабуе навучаньня ўсяму, але патрабуе навучаньня асновам сучаснай індустрыі наогул» (Бубноў, «Школа на паваротце», Вучпэдсэктар БДВ, стар. 13—14).

Побач з няправільным тлумачэньнем узаемаадносін паміж палітэхнізацыяй і спэцыялізацыяй, т. Шалаўроў замест таго, каб праводзіць злучэньне навучаньня з вытворчай працай і падпарадкаваць грамадзкую і вытворчую працу навучальным і выхаваўчым задачам школы, прапануе: «Мы не павінны зьніжаць узровень тэарытычных ведаў, але вывучэньне тэорыі мы падпарадкоўваем практычным задачам і ў першую чаргу праблеме палітэхнізацыі» (стар. 57).

Разам з такім «лявацкім» загібам у мэтодыцы недастаткова ўдзелена ўвагі камуністычнаму выхаваньню; антырэлігійнае, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне—дрэнна адлюстраваны ў кніжцы, у прыватнасьці ў прыведзеным вытворчым пляне.

## IV.

Разгледзім цяпер пытаньне аб праграме і аб'ёме курсу фізыкі ў другім канцэнтры ШКМ і ФЗС.

Неабходна адзначыць, што т. Шалаўроў ставіць аб'ём курсу ў залежнасьць выключна ад колькасьці гадзін, адведзеных на прадмет (стар. 27 і 55) і лічыць, што: «праграма дае толькі прыкладны ўзор пляну навучальнай работы» (стар. 41). Гэта думка няправільная, але ён зноў зьвяртаецца да яе і піша: «Праграма гэта арыентыровачная намётка пляну навучальнай работы па даным прадмеце» (стар. 104); такім чынам, па думцы аўтара, праграма не зьяўляецца дзяржаўным мінімумам, які павінна выканаць кожная школа. Уста-

ноўка «толькі прыкладны ўзор» ня можа мабілізаваць настаўніка на 100 проц. выкананьне школьных праграм.

Пры вызначэньні аб'ёму і зьместу фізыкі т. Шалаўроў адзначае: «Аб'ём і зьмест курсу фізыкі адзначаецца наступнымі момантамі: а) агульнымі задачамі, якія стаяць перад савецкай школай; б) спэцыяльнай мэтавай устаноўкай школы данага тыпу; в) колькасьцю гадзін, якія адводзяцца для заняткаў вучняў па фізыцы; г) узростам і ступеньню падрыхтаванасьці» (стар. 56). Ня цяжка заўважыць, што пастанова ЦК УсеКП(б) у тэй частцы, дзе прапануецца НКА забясьпечыць: «дакладна акрэсьлены круг сыстэматычных ведаў»—адлюстраваньня не знайшла. Гэта знаходзіцца ў поўнай сутучнасьці з наступнай «лявацкай» заўвагай: «Агульная, адзіная для ўсіх школ праграма траціць свой сэнс», што школа павінна разьмяркоўваць «тэарытычны і практычны матар'ял у тым напрамку, які адпавядае задачам, высунутым вытворчасьцю і жыцьцём» (стар. 64—65, разьб. мая—Мік. Ц.).

Што гэта, як ня імкненьне працягнуць у школу шматпрадметнасьць і падпарадкаваньне вучэбнай і выхаваўчай працы—працэсу вытворчасьці, да якой прымацавана школа?!

Побач з гэтым т. Шалаўроў лае настаўнікаў за тое, што апошнія вывучаюць пэўнае кола пытаньняў у пэўным парадку (стар. 56) і нават больш, заяўляе: «Праграмы па фізыцы Наркамасьветы БССР наогул захавалі структуру звычайнага сыстэматычнага курсу, маскуючы прывычныя разьдзелы новымі назвамі... вытворчасьць не зьяўляецца тым стрыжнем, які арганізоўвае і накіроўвае навучальную работу» (стар. 61. Разьб. мая—Мік. Ц.).

Лёзунг т. Шалаўрова—супроць сыстэматычнага выкладаньня ў школах, за мэтад праектаў, за комплексную сыстэму, за тэматычную структуру праграм. Ён заняў пазыцыю тэматычнасьці ўсіх праграм, усіх прадметаў (стар. 62), таму і думае «прадставіць увесь навучальны матар'ял у выглядзе злучанасьці комплексных і спэцыфічна-фізычных тэм і тэм праектаў» (стар. 67) і запэўняе, што «у малодшых групах школы мы маем... чыста комплексныя праграмы (гэта гаворыцца пасьля перабудовы праграм на падставе пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе,—Мік. Ц), а ў другім канцэнтры сямігадовае школы (5, 6, 7 групы) некаторую камбінацыю прадметнага прынцыпу з комплексным... Гэтыя праграмы можна было-б аднесьці да тыпу прадметна-ўзгодненых, але па характары і зьмесьце тэм, якія зьяўляюцца жыцьцёвымі і важнымі з пункту погляду мэтавай устаноўкі самой школы, яны набліжаюцца да праграм комплексных» (стар. 46, разьбіўка мая—Мік. Ц.).

Да чаго-ж імкнецца аўтар мэтодыкі?

Да таго, каб школьныя прадметы ня мелі сваёй самастойнасьці. Да гэтага прыводзіць т. Шалаўрова стаўка на мэтад праектаў, што відаць з наступных слоў: «Паасобныя школьныя прадметы ня маюць сваёй самастойнасьці»—піcaў ён (стар. 47).

У мэтодыцы ставіцца пытаньне аб мэтадах выкладаньня фізыкі. Пасьля непатрэбнага разгляду клясыфікацый мэтадаў розных пэдагогаў (Пінкевіч, Шульгін, Усесьвяцкі), не даючы належнага адпору іх памылкам, т. Шалаўроў заяўляе: «Паняцьце «мэтад» у яго звычайным сэнсе адносіцца не да зьместу адукацыйнага працэсу, а толькі да яго формы» (стар. 183), гэтым самым адрывае мэтад выкладаньня ад зьместу прадмету і падкрэсьлівае, што мэтадаў наогул няма, «няма лябараторнага мэтаду», піша ён, «няма экскурсійнага мэтаду». Гэта гаворыцца ў час, калі ЦК УсеКП(б) у пастанове ад 25 жніўня адзначыў: «Ні адзін мэтад ня можа быць прызнаны ўнівэрсальным». Націск зроблен на мэтад.

Што-ж робіць т. Шалаўроў? Ён замяняе мэтад мэтодыкай працы (экскурсійнай і г. д.) і нарэшце зводзіць усё да таго, што прапануе разглядаць толькі «мэтодыку пасьлядоўных этапаў прапра-

цоўкі заданьня» (стар. 188). Сваю лінію супроцьстаўляе—лініі партыі. Ён выступае супроць пастановы ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г. і 25 жніўня 1932 г., калі падкрэсьлівае, што «клясна-лекцыйная сыстэма несумяшчальная з ідэяй працоўнай палітэхнічнай школы» (стар. 109), і што: «ва ўмовах савецкай школы магчыма або лябараторная, або праектная сыстэма арганізацыі работы» (стар. 110). Няправільнасьць прыведзенай устаноўкі відавочна. Мы маем разгорнутую праграму мэтадаў працы, яе даў Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі.

Апрача ўсіх пералічаных недахопаў, мэтодыка фізыкі Шалаўрова мае шэраг, на першы погляд дробных, якія непасрэдна да тэмы не адносяцца. Аўтар няправільна ставіць пытаньне аб нагрузцы вучняў (стар. 210-211), робіць памылкі па пытаньні вучоту працы (разьдзел 15-ты), блытае інструкцыю з заданьнем (стар. 140) і інш.

Усё гэта зьяўляецца вынікам «лявацкіх» установак т. Шалаўрова, якія разглядаліся вышэй.

На кніжцы адзначана, што яна дапушчана Навукова-Мэтадычным Камітэтам як дапаможнік для выкладчыкаў.

Разгледжаная «Мэтодыка фізыкі» быць дапаможнікам ня можа.

**Ад рэдакцыі:**

Рэдакцыя чакае ад Вучпэдсэктару ДВБ тэрміновага адказу, якім чынам і па чыёй віне надрукаваны ў 1932 годзе рэцэнзуемы падручнік, у якім прапагандуецца „мэтад праектаў“, падпарадкаваньне навучаньня вытворчай працы, што асуджана верасьнёўскай пастановай ЦК УсеКП(б) аб школе, 1931 г.

# ІНФАРМАЦЫЯ

## ПАСТАНОВА

## Калегіі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР і Арг. Камітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў.

### Аб 40-гадовым юбілеі літаратурнай дзейнасьці Максіма Горкага

### Ад 7/IX-1932 г.

25 верасьня 1932 г. спаўняецца 40-годзьдзе грамадзка-літаратурнай дзейнасьці найвялікшага пісьменьніка Савецкага саюзу—Максіма Горкага, зьвязаўшага сваё жыцьцё, змаганьне і творчую працу з лёсам гэраічнага пралетарыяту, з лёсам сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Імя Максіма Горкага, якое карыстаецца вялізарнай папулярнасьцю, як сярод мільённых мас працоўных Савецкага Саюзу, так і сярод працоўных усяго сьвету, цесным і непарыўным чынам зьвязана з уздымам грамадзка-палітычнага жыцьця ў 90-ыя гады мінулага стагодзьдзя, яно неадрыўна ад ўсяго далейшага росту і разьвіцьця рэвалюцыйнага руху у б. Расіі, меўшага сваім завяршэньнем пралетарскую рэвалюцыю і стварэньне пралетарскай дзяржавы на аднэй 6-й частцы зямлі.

На працягу ўсёй сваёй слаўнай дзейнасьці Максім Горкі заклікае працоўныя масы да адданай, вялікай барацьбы за сьветлую будучыню. Мастацкім словам сваім ён мужна змагаўся з былой „Акуроўскай Расіяй"—Расіяй нявольніцтва, прыгнёту і зьдзекаў, Расіяй самаздавольнага мяшчанства, зьвярынай дзікасьці, шэрага, беспрасьветнага існаваньня мільёнаў, Расіяй сацыяльнага і нацыянальнага ўціску для нацыянальных меншасьцяй. Уся творчасьць Максіма Горкага ў мінулым была незгасаючым пламенным пратэстам і гарачым заклікам да барацьбы супроць аджываўшага свой век дзікага расійскага царызму, прыдушваўшага ўсё жывое і свабодалюбівае ў былой „турме народаў", якой зьяўлялася імпэратарская Расія. Вялікая папулярнасьць Максіма Горкага была абумоўлена сацыяльнай накіраванасьцю яго творчасьці, якая ішла па той-жа лініі, па якой разьвіваліся грамадзкія настроі найшырэйшых пластоў насельніцтва, нездаволеных існаваўшым складам жыцьця.

Пачаўшы сваю літаратурную дзейнасьць ў 1892 годзе, надрукаваньнем першага апавяданьня „Макар Чудра", Максім Горкі даў нязьлічоны шэраг бліскучых мастацкіх твораў, узбагаціўшых скарбніцу ня толькі расійскай, але і сусьветнай літаратуры, твораў, кожны з якіх быў адточаны баявой стралой супроць мінулага бязладзьдзя, цемры, супроць былога царскага „мракобесия" і расійскага капіталізму. За апошнія гады сваёй літаратурнай работы Максім Горкі даў нам манумэнтальныя творы: раман „Дело Артамонавых" і трылёгію „Жизнь Клима Самгина", якія ахапляюць цэлыя паўстагодзьдзі грамадзка-палітычнага жыцьця нашай краіны, па мастацку атабражаюць гэта жыцьцё, даюць верны аналіз тым складаным сацыяльным зрухам і працэсам, якія адбываліся ў мінулай грамадзе, дапамагаюць нам вывучаць мінулае і будаваць новае, сьветлае, імя чаму—бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва.

Як пісьменьнік, як мастак Максім Горкі мае сусьветнае імя. Ён карыстаецца выключнай павагай сярод прыгнечаных, эксплёатуемых мас усяго сьвету, як пламенны барацьбіт за лепшую будучыню чалавецтва, як няпрымірымы вораг сусьветнага мяшчанства, пад якімі дзеньнямі яно ні хавалася-б, пад якімі маскамі яно не выступала-б. Нездарма з такой шалёнай, азьвярэлай нянавісьцю адносіцца сусьветная буржуазія да Максіма Горкага, мужнага барацьбіта за вялікую пралетарскую праўду.

Максім Горкі дарагі нам ня толькі як вялікі сусьветна-вядомы пісьменьнік. Ён зьяўляецца і выдатнейшым дзеячом у справе будаўніцтва нашай пралетарскай культуры. Мы ня знойдзем ніводнай больш-менш буйнай справы на фронце нашага культурнага будаўніцтва, якая ня была-б так ці іначай зьвязана з імем Горкага. Максім Горкі—ініцыятар стварэньня гісторыі грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык і заводаў. Максім Горкі наладжвае выданьне гісторыі маладога чалавека XIX стагодзьдзя. Максім Горкі прымае чынны ўдзел у кожным новым пачынаньні на фронце нашага культурнага будаўніцтва. Ён прымае блізкі ўдзел у разгортваньні рабселькораўскага руху, дапамагае наладжваньню творчай вучобы начынаючых пісьменьнікаў і г. д. Максім Горкі прымае блізкі ўдзел і на другіх франтох нашага будаўніцтва, ён непасрэдна цікавіцца і прымае актыўны ўдзел у кожным мерапрыемстве камуністычнай партыі і Савецкай улады, накіраваным на далейшы рост і росквіт краіны (канфэрэнцыі па барацьбе з засухай, выступленьне ў друку па дзяржаўных пазыках, па пытаньнях калектывізацыі і г. д. і г. д.)

Максім Горкі праводзіць вялікую работу па арганізацыі адзінага пралетарскага фронту супроць інтэрвэнцыянісцкага нападу на Савецкі саюз, нападу, які рыхтуе супроць пралетарскай дзяржавы сусьветная буржуазія. Разам з Ромэнам Ролянам і Анры Барбюсам ён прымае актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзеньні Амстэрдамскага антываеннага кангрэсу.

Вось чаму Максім Горкі карыстаецца такой выключнай павагай і пашанай сярод шматмільённых мас працоўнага насельніцтва Савецкага саюзу, у тым ліку і працоўных Савецкай Беларусі.

Народны Камісарыят асьветы і Арганізацыйны Камітэт саюзу савецкіх пісьменьнікаў Беларусі звярачваецца да пралетарскай грамадзкасьці краіны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні славутага юбілею вялікага пралетарскага пісьменьніка. Ніводны клюб рабочых, ніводная школа, бібліятэка, кіно, тэатр, літ. гурток і г. д. не павінны быць у баку ад вялікага юбілею, які зьяўляецца аднačасова юбілеем усей нашай пралетарскай культуры. Дні правядзеньня юбілею павінны быць шырока скарыстаны для далейшага ўмацаваньня і росту нашага Ленінскага нацыянальна культурнага будаўніцтва, пашырэньня культурнага добрабыту працоўных.

НКАсьветы і Арг. Камітэт ССП лічаць з свайго боку патрэбным правядзеньне наступных практычных мерапрыемстваў у сувязі з юбілеем:

1. Правядзеньне ў рабочых клюбах, школах, бібліятэках, дамох сац. культуры спэцыяльных літаратурных вечароў, арганізацыя выставак, прысьвячаных юбіляру.
2. Правядзеньне па гарадох і раённых цэнтрах агульна-гарадзкіх і раённых масавых літаратурных вечароў, наладжваньне такіх-жа вечароў на фабрыках, заводах, саўгасах, калгасах вёсках.
3. Пастаноўка ў тэатрах п'ес Максіма Горкага.
4. Дэманстраваньне у кіно фільм, напісаных па творах юбіляра.
5. Правядзеньне ў школах і навучальных установах спэцыяльных заняткаў аб творчасьці Максіма Горкага.
6. Шырокую папулярызацыю літаратурнай дзейнасьці Максіма Горкага ў нашай пэрыядычнай і непэрыядычнай прэсе (газэты, часопісы, брашуры).
7. Правядзеньне ў літ. гурткох цыклю заняткаў аб значэньні Горкага ў агульна-саюзнай і сусьветнай літаратуры, аб творчым мэтадзе юбіляра.
8. Наданьне імя Горкага найлепшым школам, клюбам і бібліятэкам.
9. Стварэньне штогоднай прэміі імя Максіма Горкага за найлепшыя літаратурна-мастацкія творы; устанаўленьне стыпэндыі ў ВНУ імя Максіма Горкага.
10. Арганізацыя пры Дзяржбібліятэцы цэнтральнай выстаўкі прысьвячанай юбіляру.
11. Пераклад асноўных твораў Максіма Горкага на беларускую мову...

Нам. Народны Камісар Асьветы Бялуга.

Арг. Камітэт ССП Лынькоў.

*Адказны рэдактар* У. І. Хомо

У „Камвыхаваньні“ № 7-8 за 32 г.

| Надрукавана: | Трэба чытаць: |
| --- | --- |
| Стар. 14, другі слуп., 3-ці абзац „Сярэдняя пасьпяховасьць вучняў школ БССР у 87,88 процантаў трэба прызнаць яўна здавальняючай“ | „Сярэднюю пасьпяховасьць вучняў школ БССР у 87,88 проц. трэба прызнаць яўна нездавальняючай“. |
| Стар. 15, першы слуп, 4-ы абзац „На падставе матар'ялаў Навукова-Дасьледчага Інстытуту „Кам. Выхаваньня“, добра ведаюць...“ | „На падставе матар'ялаў Навукова-Дасьледчага Інстытуту Кам. Выхаваньня, вучні гэтых школ добра ведаюць ..“ |